ГРОДЗЕНСКАЕ АБЛАСНОЕ АДДЗЯЛЕННЕ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ
«САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»

# НОВЫ ЗАМАК

ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ. ГРОДНА. MMXIII



УДК 821.161.3(059)
ББК 84(4Беи)
Н72

Літаратурны альманах Гарадзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў», № 2, 2013 г.



Н72 **Новы замак** : літаратурны альманах. Гродна. MMXIII. № 2 / укл. С. Астравец. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 256 с.
ISBN 978-985-7089-08-6.

У другім выпуску літаратурнага альманаха «Новы Замак» Гродзенскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» у раздзеле «Са спадчыны» публікуецца драматычная паэма Міколы Арочкі «Каранацыя Міндоўга» (пры жыцці аўтара друкаваўся толькі ўрывак). У «сучасных мемуарах» Мечыслава Курыловіча распавядаецца, між іншым, пра альбарутэнаў. У «замежным дзённіку» Сяргея Астраўца — уражанні ад Готланда, Мальёркі і Локрума — невялікага вострава ў Адрыятычным моры побач з Дуброўнікам. Віктар Сазонаў прадстаўляе нізку апавяданняў, якія дагэтуль выходзілі толькі ў польскім перакладзе асобнай кнігай. Змешчаны пераклад паэмы, што належыць пяру былога Папы Рымскага Яна Паўла ІІ. Друкуюцца ўспаміны пра гродзенскіх паэтаў: Юрыя Гуменюка і Эдуарда Мазько. У раздзеле «Хроніка» чытач знойдзе рэпартаж пра першы вулічны паэтычны слэм «Кахай па-гарадзенску!»

**УДК 821.161.3(059)**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7089-08-6**



# Зламаны герб Рэчы Паспалітай

1

Зламаны гербавы картуш Рэчы Паспалітай з Арлом і Пагоняй ляжаў у Гродне за плотам пад сцяной Старога замка. Цяпер ён стаіць справа ад дзвярэй Новага каралеўскага замка. Побач — шыльда на беларускай і польскай мовах.

Каменны герб аздабляў замак пасля яго пабудовы ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. Гэта герб-картуш, ён захаваўся не цалкам. У сярэдзіне XIX стагоддзя царскія ўлады перабудоўвалі каралеўскі гмах у вайсковы шпіталь, картуш скінулі. Сёлета ўлетку ў Гродна прыехаў з Варшавы Марэк Малюхнік з рэстаўратарам Радаславам Тушнё. Яны ачысцілі герб і пакрылі рэчывам, якое будзе захоўваць яго ад вільгаці.

Марэк Малюхнік працуе ў Міністэрстве культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы, кіруе аддзелам па справах польскай культурнай спадчыны за мяжой. Марэка добра памятаюць у Гродне, асабліва творчая інтэлігенцыя. Ён працаваў у Генеральным консульстве РП і правёў мноства цікавых культурных мерапрыемстваў. Ён кажа, што якраз тады ўбачыў занядбаны гербавы картуш, які яму паказаў краязнаўца Вітольд Івяноўскі. Захацелася штосьці змяніць, зрабіць яго экспанатам.

Новы дырэктар Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, які размяшчаецца ў двух замках, Юры Кітурка падбаў, каб гербавы картуш перавезлі і паклалі на ганку Новага замка. Марэк Малюхнік гаворыць, што з дырэктарам было дамоўлена паставіць герб і павесіць шыльду. Жыхар Гродна прадпрымальнік Фелікс Гавін забяспечыў для невялікага пастамента чорны граніт, дастаўлены з Карэліі, з Расіі.

Марэк Малюхнік зазначыў, што дзяржаўны герб Рэчы Паспалітай часоў караля Аўгуста III — частка супольнай культурнай спадчыны дзвюх краінаў і сведчыць аб нашай агульнай гісторыі.

2

Аўгуст III пабудаваў перш новы палац у Гродне і толькі пасля прыняўся за перабудову каралеўскага замка ў Варшаве. Новы замак над Нёманам будаваўся як яго наступная рэзідэнцыя ў ланцугу Дрэздэн–Варшава–Гродна. Горад меў быць трэцяй сталіцай палітычнага ўтварэння з трох частак: Саксоніі, Польшчы і Літвы, у якіх ён правіў.

Сёння ад гмаху аўтэнтычнымі захаваліся адно падмуркі, а навідавоку — толькі пашкоджаны герб Рэчы Паспалітай. Больш нічога каралеўскага мы не маем. Гэта наша каштоўнасць, якой амаль дзвесце восемдзесят гадоў.

Некалі будучы кароль быў пасланы бацькам, Аўгустам II, знаёміцца з культурным жыццём Парыжа, Рыма, Венецыі. Бацька davяраў яго густу, даручаючы купляць для сваіх збораў творы мастацтва, кнігі. Каб сёння Аўгуст III трапіў у Гродна, свой Новы замак, аздоблены вялікім гербам СССР, ён бы не пазнаў. Але хочацца спадзявацца: кнігазбор яго б мог парадаваць. І музейшчыкам не давялося б лішне чырванець: партрэт яго, караля і вялікага князя, у наяўнасці.

*Сяргей АСТРАВЕЦ*

■ *Радаслаў Тушнё і Марэк Малюхнік*





**Гербавы картуш Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў часоў Аўгуста III**

З франтона Новага замка, збудаванага ў 1737-1742 гадах па праектах каралеўскіх архітэктараў Карла Фрыдрыха Пёпельмана і Іахіма Данііла Яўха.

Дэманціраваны ў сярэдзіне XIX ст. падчас перабудовы замка на вайсковы шпіталь. Захаваны Станіславам Антоніем Солтанам, з 1858 г. знаходзіўся ў яго маёнтку ў Бераставіцы Мураванай. Пасля 1923 г. перавезены ў Гродна стваральнікам музея Юзафам Ядкоўскім.

Працы па кансервацыі праведзены ў 2013 г. дзякуючы падтрымцы спонсара і Міністэрства Культуры і Нацыянальнай Спадчыны Рэспублікі Польшча.

■ *Шыльда са звесткамі пра гербавы картуш*



# Паэзія

## Вольга Агапонава



Ці вартыя мы гэтай восені
з бурштынавым караванам лісця,
з паэтычным спатканнем кропель туману,
з аблокавай хваляй прачыстай,
калі рассякаем скрозь цені
восені?..

### Апошні Суд

…Судзіце суд, ці мы сумленна
Жыццё прайшлі…
*Я. Купала*

Цябе, зямля ў адзенні новым,
Хацеў бы к сэрцу прыгарнуць!
*Я. Колас*

Крыжам ляжаш перад Богам,
Каб цябе ён не забыўся.
*Я. Купала*

I

Нясуць крыжы на Божы суд
Усе стагоддзі.
Ідуць чыны, і просты люд,
І псеўдасуддзі.

Крывава разбурае час
Маўклівасць ночы,
І на плячах ляжыць адказ,
І стогнуць плечы.

Міжволі вецер закрычыць
Сярод бязмоўя.
З памкненнем ў сэрцах заступіць
Шляхі бяздум'я.

Шляхі… то Мекка, то Цюйфу, то Рым,
Шляхі Аўраама…
І *ён* ішоў у тлуме тым
Перад Вачыма.

II

*Ступае…*
У льняным адзенні,
Пад крыжам, у пакоры, у *басцвенні.*
І шэпча брацііі сваёй перад нябогам:
«Не спіце, людзі, мы ідзём
Да Бога!»
«Даруецца ці *мне* бяздзейснасць?» —
*Ён* моўчкі крыкнуў з су-маленнем
І ўбачыў ў плямах… *інакрыж,*
Які народы памянялі на прэстыж,
Пакінуць не змаглі і несці — адракліся…
А існасць?
*Сыходзіць…*
*Ён* ужо на сцежы да Суда.
Прад Богам. Выбірае — спамажэнне.
Прыняў на плечы — у вяках — цяжар
І попел іншаземны.
*Стаіць…*
Прад *ім* нябесны антымінс,
Анёлы — сведкі узвышэння —
Чытаюць у вачах *ягоных* ліст:
«Беларускаю рукою
Светлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Бацькаўшчыне мілай».

III

*Яго* пыталі на шляху да Бога
Яшчэ з калыскі:
Якой дарогай *вы* няслі свой крыж?
І *ён* адказваў:
«Візантыйскай».

IV

Нясуць крыжы на Божы суд
Усе стагоддзі.
Ідуць чыны, і просты люд,
І псеўдасуддзі.

Спадае мішура з вачэй
Людскога роду.
Пад крыжам… беларус стаіць
І бачыць прад сабою Бога!



**Н**арадзілася ў 1990 г. у Гродне. Пісаць вершы пачала з дванаццаці гадоў. Піша на рускай і беларускай мовах. З'яўляецца магістранткай філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Удзельніца гарадскога клуба паэтаў і бардаў «Надзея».



ДАНУТА БІЧЭЛЬ

## Аднойчы адчуць

Нарадзіцца… аднойчы —
адчуць, што ты беларус, —
як перажыць землятрус!
Як ударыць самога сябе
абухам па галаве…
Краіну Пан Бог табе выбраў —
а ты перайнач Яго выбар!
Можаш лёгка сябе падмануць —
аглоблі з канём павярнуць!
А куды?
Кавалі куюць…
Кожны можа цябе папхнуць!
Вядуць у свет бальшакі
па зямлі, што не сцёрлі вякі,
ні войны, ні землятрус…
У Расею ўцякай, беларус,
ва Ўкраіну або на Літву,
або ў Польшчы шукай хаўрус.
Круціся, жабруй, зарабляй,
крычы, сам сябе выхваляй,
даказвай, што ты не трус,
што ўцёк, бо не любіш прымус…

Але вернешся на свой пляц,
каб у норцы сваёй паміраць…

Беларус — прасмолены брус —
трымае хісткі сусвет,
чысты нябёс сувой…
Пакінь на раллі свой след —
беларусам, самім сабой!

Беларусы — эліта эліт!
Маем моц падняцца ў блакіт,
у проламку на мароз,
пераскочыць вогненны стос!

Размаўляй з людзьмі на чужой,
а грызі зямлю на сваёй,
і малітвы складай на ёй, —

музыку словаў тулі,
як жывых дзяцей, да грудзей,
цярпліва ў аблозе сядзі,
самотна ўздымай да хмар
адвечнай бітвы штандар…
Калі беларус — то пясняр!
Хто прайграў, а хто перамог —
калі трэба, вызначыць Бог.
Не паблытай зямных дарог,—
белым снегам крывавы след…
Нас не выратуе сусед…

## Невідочны

Апроч хваробы, дробнага многа
ў старасці, — ў гэтым яе прыгажосць…
Гляджу на месячык — бачу там Бога,
Ён — Невідочны, і ўсюды Ён ёсць.

Малая птушка золатам ззяе
з гравюркі, яна суцяшае мяне,
але ніколі не далятае
ў Гародню з Полацку нават у сне…

Ідзе сабе старая жабрачка,
за ёй бяжыць заспаны сабачка,
яны адно другога знайшлі,
і сумаваць ім няма калі.

У лютым не ўчуеш вясёлага грому,
а я яго ва ўспамінах лаўлю.
Коцік з начы не вярнуўся дадому,
ён грэе мяне, яго я люблю.

У сне гатую тату вячэру,
вячэраю слязінай адна…
Таго запрашаю, Якому веру,
з Якім размаўляю ноч давідна…

## Экспромт хворай галавы

Я цябе са словаў пабудавала —
на пясчаным полі —
з няволі, з болю,

на гонары, на асобе, на смецці,
у вясковай аздобе… на смерці…

Толькі смерць тут стабільна —
няўхільна,
ліхая, нямая, усіх прымае, яднае…
Смерць будучыні не займае…
Смерць злых і амбітных,
нямых, падкарытных,
багатых і спрытных,
і ціхіх, прыбітных, —
пад Божым крыжам яднае…

А Нехта ў цямрэчы мяне штурхае…
Дык не адна я — такая?..
Нехта тут Беларусь суцішае…
Любоў не мінае…

А вера — памірае, бы цела,
ці з думкай у свет паляцела?
Ці там душа Беларусь памятае?
Як мама ў сны — дамоў прылятае,
калі неба світае?

## Жыццё — як дзень

Святлее неба. Сонейка на ўсходзе.
Ў каго я запытаю:
— Мой народзе,
ці будзеш святкаваць сваё стагоддзе?

Пакуль памыю клетку, прыйдзе поўдзень…
Мой сын-нявольнік на працу пойдзе…
Пачнецца лаянка наверсе і на сподзе.

А Божа мне пярэчыць:
— Што ты, што ты!
Не клетка гэта — залатыя соты.
Пры Мне ты… І няма ў цябе самоты…

Мінае дзень… І сонейка над полем…
Жыццё згарае залатым вуголлем…
А ноччу горкіх прадчуванняў болей.

Не, не ўдалася новай песні спроба…
І галава, як п’яная амёба.

## Белыя, але чорныя

Цвярозыя, засмучоныя,
белыя, але чорныя,
чорныя — не афрыканцы,
вольныя, але ў пастцы…

Сядзяць пры доме на лаўцы,
блішчаць пярсцёнкі на пальцах,
а дом не лічыцца працай,
а ўсё пачынаецца ў гарцы…
усё канчаецца ў гарцы…
позна ламаць ламанцы,
позна спраўляць прытулянцы,
і забыліся развітацца…

Такія штоночы сняцца —
у Афрыку трэба збірацца…

## Дуб

Дуб вартаваць наваколле стаміўся.
Ў Нёман зваліўся, там утапіўся…
Некалі мроіў, што зрубяць на зруб…
Стомлены — морыцца ў Нёмане дуб.

Выцягнуў з Нёмана дуб чалавек,
выразьбіў крыж на скрыжалях дзвюх рэк.
Ў поўнач пад крыж збіраюцца душы.
Хто іх збірае — Высокі і Дужы?

Сейбіт зямлю засявае дажджом
пад невідочным ночы плашчом…
Гром пракаціўся па небе дугой
ды зачапіўся кульгавай нагой…

Некуды ведзьма ляціць на мятле,
нешта трапечацца на чапяле…
Ў поўнач дзяўчына ходзіць пад крыж.
Беднае сэрца, чаго ты дрыжыш?

## Вецер

Гэты вецер нервовы спяшаецца некуды,
сам ён не ведае— ірванецца куды…
Раку спаткае — ёй насуперак вее,
валяцца мэндлікі — уцякаюць ад ветру.

Крэйкі з дахаў злятаюць насуперак дрэву,
збан таксама прывык спаць насуперак ветру…
Але не сарваць аблачынку, як хустку,
не адчараваць з галоў пустых пустку…

Разгуляліся вы — пустыя галовы…
на бяздумныя гульні паразвеялі словы…

А сам ты, народзе, куды ты ў свет пойдзеш,—
святыя магілы пакінеш на вецер?
Няўжо не прачнецца асілак ніводзін?
Адтуль праз маўчанне мне слова скажэце!

Ніхто не прыдумае моцнае слова?
Ніхто не захоча пасеяць нанова?
Не збудзіць ніхто з-пад аблокаў віхуру?
З абломкаў аблокаў не склепіць скульптуру?

## Нехта

Мы тут не самі…
нехта цікуе за намі…
нехта грукоча па браме,
нехта скрыгоча зубамі…
нехта — раве, як цунамі…

Нехта пакінуў дзедава поле…
нехта спаліў зялёнае голле…
прысак пагас, датлела вуголле…
ціха зрабілася, пуста і гола…
сіл не хапае дайсці да касцёла…

Нехта ў мяшок свае косці збірае…
Змучаны — падае і памірае.
Злая хвароба ў гразь падкасіла…
Некага чыстая хмарка памыла…

Сам не даносіць лыжку да рота…
цела ад бруду з’ела кароста…

гора напіўся, але цвярозы,
спіць, нібы коцік каля бярозы…
У вырай сабраўся — спакойны і босы
ўслед за анёламі і за святымі…

Можна мне, Божа, застацца з такімі?
Можна застацца з гэтым народам,
з гэтым, які стаміўся пад плотам,
з гэтым — замучаным, ціхім, нядзольным?
Выбар мой, Божа, няхай будзе вольным…

## Начныя думкі

Нейкі час, нібы змрок, безвыходны…
і згушчаецца зноў…
У затлумленым сэрцы Гародні
грукае чорная кроў…

яшчэ глыбей, чым на дне…
яшчэ змрачней, чым раней…

ніхто не любіць мяне…
ніхто не любіць людзей,
людзі не любяць людзей…
і не любяць сваіх дзяцей…

Кожны самотны і сам —
гэтак тут, як і там…
за замучаным Нёманам…
і Нёман маўчыць нерухома…

Толькі сівер, зіма…
мост святога Францішка
прыдумала я сама —
як вясёлку са змроку ў змрок…

Нёман з Гародні не ўцёк,
замест хвалі — халодны лёд.
Налілі атруты на спод…
Маладыя ўцякаюць на захад,
саветы ўздыхаюць на ўсход…

Каб вытрываў ранак шчыры,
мала кніжнай сатыры…
На паводку іду паглядзець…
збіраюся, як на смерць…

## Начны экспромт

Божа мой, якая ж то згрызота?!
Мне якраз патрэбна адзінота
без суседзяў і без тэлефона —
у начным сутонні стадыёна…

Падыходзіць варыянт найгоршы:
уначы цягнік грукоча з Воршы
без кандуктараў і без білетаў
з дзікім танцам колавых штылетаў…

Размаўляе хворы шэры коцік
з той варонай, што маўчыць на плоце…
Гэты лёс без лесу паламаны —
і малы Валерка, вечна п'яны…

а святы іспанец наш Ксаверы
ў неба звонам адчыняе дзверы!
Каліноўскі вулкай не сціхае…
Ўсё на лёгкі смутак мой лягае…

Уздыхнуў здалёк анёлак божы —
сум начы глыбокі і прыгожы…
Каб ад слоў назойлівых адбіцца,
свечку запалю, пачну маліцца…



Божанька, дзякуй за гэткі змрок!
Коцік схаваўся, а Ты не ўцёк…
За гэткі сатканы з цемры сувой…
Дзякуй за Дух Святы Твой!

## 23 мая

Невідочна коціцца згары
залатая лічба 23…
Гэта быў няўдалы месяц май…
У садку шыпшыны наламай —
алергія, кашаль, сверб і боль…
у цёплых норках неба, як вуголь,
у зацішку думкамі скуголь,
кашляй ціха, не збудзі душы,

ў поўнай цемры свой экспромт пішы,—
рыфмаванкі хворай галавы
любяць дыктаваць свае правы…
не ўключай пагардлівы начнік,
бо ўкрадзе натхненне цень-двайнік…
Палюбі глыбокі сум начы…
дыхай і не думай ні аб чым.

## Страшылка

Усё перавярнулася нагбом…
Верныя канторы, як дурдом…
продак навачэсны і з хвастом…
ведзьма з языком, як з памялом…
грыфель і люцыфер — за сталом…
нехта ў дзежцы ноч мяшае з днём…
гэты нехта — ненажэрны звер…
бацька напіваецца насмерць…
гонарам звязаўшы галаву,
электрычкай едзе на Маскву…
покуль спіць сям’я, а ён адзін…

Гэтак Вітаўт некалі хадзіў —
пад зямлёю, слепа, нібы крот?
А вакол душы калючы дрот…

Ціха! Гэта быў начны экспромт,
песня-калыханка для сірот,
праспяваная наадварот…
Ў поўдзень стомлена анёлкі спяць,
ўсе — адзін, два, тры, чатыры, пяць…

## Норка

Умацаваць душу да адлёту —
трэба мець норку на адзіноту,
такое таемнае чыстае месца,
дзе слёзка да слёзкі зрэдку кладзецца…

Некалі мела барок маляваны,
цёплымі пчолкамі луг вышываны…
На панадворку — крывое палена
і мутнае возера, ўсім па калена…

Любіла схавацца ў адрынцы на сене,
сачыць, як сцяжынка хавалася ў кмене…
сунічкі збірала ў расе на палянцы…
як баба Франуся — ў рабой канаплянцы…

Цяпер мой пакой, нібы тая хусцінка…
Пра нешта спявае чароўная скрынка,
вось маю кампутар, і вершык набрала…
Дзяўчына, чаму табе гэтага мала?..

## Перад адлётам

Перад адлётам
не думай, што будзе потым,
ціха паплач сабе ўпотай…
і не пытайся — а хто там
цябе чакае за плотам?

Твой цень спяшаецца першым…
ты развітаешся з вершам…
І хутка прыбудзе цягнік…
Хто знік? Гэта цень, твой двайнік…

Светла там? цёмна, як сажа?
наперад ніхто не падкажа…
новае неба — як наша?
стомлена ў хмарцы прыляжаш…

## Сказ пра Маці Божую з вёскі Ражкоўкі

На разгалiністых рожках аленяў,
на дарожках жывых пакаленняў —
ад Белавежы зусім недалёка
хаваецца ў верасе вёска Ражкоўка…

А ў Белавежы — глушцы і фазаны!
Там у вайну мелі схоў партызаны…
А гітлерцы — іх бы не бачылі вочы —
з вайной прыпляліся да вёскі аднойчы…

Дзяцей і бабуляў маўкліваю лавай
паставілі ўсіх над глыбокай канавай…
З грудзей, што без сэрцаў, знялі аўтаматы
і цэляцца ў сэрцы малых птушанятаў…

А Белавежа заходзіцца гулам…
А Божая Маці малечаў пачула…

Ляцеў самалёт па нябесным прасторы —
заглохлі раптоўна чатыры маторы:
на чыстым паветры ў акно самалёта
загадвае Божая Маці пілоту:

—Наводчык-налётчык, стрымай сваіх катаў:
бо дзеці з бабулямі не вінаваты!

Як буслік сядае, так сеў самалёт
паміж аўтаматаў і сэрцаў сірот…
…Забойцы страляюць, Пан Бог носіць кулі…
так вёску лясную звяры абмінулі…

Аднойчы сходзілася ў пушчы залева…
Як дождж перастаў — там паўстала царкоўка…
У рамцы драўлянай з драўлянага дрэва
сваю Апякунку сустрэла Ражкоўка…

Алені трубілі, гудзелі чмялі —
спеў пушчы на музыку перавялі…
Там дзеці збіраюць суніцы ў збанкі,
збіраюць у кошыкі баравікі…

Там пушча маліцца не перастае,
Там Божая Маці… Вітайце Яе!
Шчаслівыя дзеці, таму што жывыя…
Маліся за нас, Прасвятая Марыя!



**Н**арадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне, скончыла Навагрудскую педвучэльню і гісторыка-філалагічны факультэт (беларускае аддзяленне) Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы ў 1962 г. Працавала ў школах Гародні, стварыла Музей Максіма Багдановіча. Пачатак творчасці — 1958 г. Выдала зборнікі вершаў «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басаном» (1983), «А на Палессі» (1990), «Снапок» (1999), «Іду сцяжынаю да Бога» (2013) і іншыя… Уганараваная Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы ў 1984 г. Вершы перакладаліся на польскую, расейскую, украінскую, балгарскую, індыйскую мовы. Жыве ў Гродне.



РЫЧАРД БЯЛЯЧЫЦ

## Існасць

Акуляры спешна цёмныя надзень,
Гавары, хлусі сабе аб нечым,
Бо ў мяхі аблокаў
Зашываюць дзень
Гарадскія ластаўкі падвечар.

Думкі светлыя дадому прынясу,
Кожная да рук тваіх прыляжа.
Хай блакітных елак меладычны сум
Цягнецца да існасці пейзажу.

## Зорка

Разгледзеў я яе ледзь-ледзь.
Над Котрай зоркі злева, справа.
Туды пры мне не даляцець.
Якая мне, урэшце, справа?

Навошта думкі на зямлі,
Навошта я,
Яна навошта?
Якая знойдзецца,
Калі
Між намі
Сонечная пошта?

Не даімчыць ужо сюды
Хвілін усплёсак даўні, яркі.
А ты гартаеш без бяды
Лісты паўночнае маланкі.

## Ластаўка

Думае ластаўка доўга,
Як збудаваць ёй гняздо.
Будзе парыпваць падлога
Раніцай маладой.

Потым з паветра і сталі
Кожную казку-вясну
Светам усім будавалі,
Песню спявалі адну.

Ціха, завоблачна-лёгка
Момант паспіш пры сцяне.
Быць мне крылатым,
Што зноўку
Светла паверыла мне.

## Сподак вечаровы

Настане міг у стынь такую —
Неспадзявана-мілагучна
Для нацюрморта забракуе
Адной антонаўкі пахучай.

Ты прыйдзеш,
Прынясеш тры словы.
І пах антонаўкі пры садзе
Спадзе на сподак вечаровы.
Мы на мяжы нябёс прысядзем.



*Б. Т.*

Дзень нараджэння жанчыны.
Больш не прадбачыцца свят.
Больш аніякай прычыны
Ў тым,
што цвіце далягляд.

Музыка светлай вяршыняй
Долю не ўцешыць чыю.
Больш аніякай прычыны
Ў тым,
што я сёння пяю.

## На свята

Калі мароз за сонейка жвавей,
Калі туманы туляцца да рэк,
У горадзе над Нёманам жыве
Заўжды вясёлы словам чалавек.

Тутэйшы, родам-племенем здаля,
Крывіцкім лёсам мечаны,
Як мы,
Другога чалавечка спакваля
Гадуе ён, знаёмячы з людзьмі,
З усходам,
Што прысніцца потым змог,
З краямі, дзе згусцілася трава.
Калі ж, калі
Дапытлівы Цімох
Спазнае,
Хто над ім калядаваў?



І што з табой у снезе бавіцца?
Струну дарожную крану —
У Васілішкі праз Сабакінцы,
На Гродна цераз Астрыну.

Дарогі дзідамі, асколкамі
Перагароджаны не раз,
Званамі вечнымі высокімі
Наканаваныя для нас.

Сам зберагу прад думкай смелаю
Сваю любоў,
Сваю зару.
Шляхі чыесьці затравелыя
Я ўсхвалявана паўтару.
Не больш…
У свеце затуманеным,
Дзе хуткай ластаўкай жывеш,
Дзе і паветра стыне тайнамі.
Не больш.
Аднак жа і не менш.



**Н**арадзіўся ў 1953 г. у вёсцы Стаўбуры Астравецкага раёна. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Настаўнічаў. Цяпер дырэктар Дудкоўскай базавай школы ў Шчучынскім раёне. Аўтар кніг паэзіі «Прасветлінка», «Міг выратавання», «Вочы малітвы», «Святлом і ценем», «Помню, што жыву», тапанімічнага аповеду «На радзіме Котры».



## Дні

Траплялі дні ў кругаварот.
Драбнела праведная пыха.
Раскручвалі калючы дрот,
Каб закруціць людзей у ліха.

Блішчэла слова найярчэй:
Вякоў нязломная маёмасць.
Раўчук абураны бурчэў:
Над ім таптаўся незнаёмец.

Направіў рэкі ў далеч час,
Дзе бераг меў сасны абрысы.
Жылі там наскія да нас,
Вучылі леты летапісцаў.

Адходзіў свет у іншы свет,
Дзе продкі ў схове прыдрамалі.
Як сторож — іхні запавет
Стаіць за нашымі дзвярамі.

## Гамер

Каб заслужыць зямны давер,
Застацца на вякі трывушчым,
Прысеў на прызбачцы Гамер:
Складае эпас. Семкі лушчыць.

Хоць памірай — а жыта сей!
На схіле лёс. Жарства на портках.
Змікіціў порсткі Адысей:
Вяртайся — нават! — у апорках.

А каб давесці свет на лад
(Ці дасца, жорсткі, пераробцы?),
Жадалі творцы «Іліяд»
І іншыя ў наступстве хлопцы.

Аднак наперадзе Гамер!
Казалі: геній невідушчы…

Дык ёсць і ў нас з прыжмурам звер —
Ён валадар не толькі пушчы.

У Белавежы на зары
Капыціць рутвіцу бізонціс.
А рэха гострыць пазуры
І прадзіраецца да сонца.

## Мазаіка

Не верыць злыдзень у дабро
І пагарджае злом празорца.
Калі абачлівы — у брод,
Тады рашучаму — па зорках.

Настольнай кнігаю статут
Назваў пяюн — і бач! — прашляпіў,
Бо ён жыве «цяпер і тут»,
А паспрабуйце — як Шаляпін.

Неверагодны ў часу лёс,
Бо сам дасведчаны і дока.
А піша, божухна, з калёс,
Што спеху — неабвержны доказ.

Яму ніхто не замінаў:
І жыць.
            І верыць.
                        І стамляцца…
Сябе ён «Кодакам» здымаў
І хроп на посцілцы з рэляцый.

Да мэты ў пене далятаў,
Дзе ставіў фішку, як афішку.
Калі імпэт даняў датла,
Дык аб паркет гваздаў кілішкам.

Навошта мкнуцца праз драты,
Дзе мытнік маецца героем.
У нас навалам дабраты,
І не хапае — за гарою.

О часе! Хросны бацька наш,
Калі грудзіну зноў зашкаліць:
Гайда з табою на кірмаш
З разбітымі табой гаршкамі.

## Ганцы

Не чулі гуду правадоў
Яшчэ й не снілася «мабіла».
Па сухазем'і, над вадой,
За весткай гналіся — губілі.

На раздарожжы век канаў:
Яго капытам раздавілі.
Мяняў упрэлага каня
Няўтомны коннік Радзівілаў.

Ляцеў наўзбоч маланкі хлыст.
Шалела ўпоцемках залева.
Ды патыхаў дарожны ліст
Парфумай вабнай каралевы.

«Патраснай» змовы пасланец
Адводзіў пальчык ад пярсцёнка,
Калі круцілі пад вянец
Нявесту, нібы верацёнца.

Прымаць ганцоў з усіх канцоў
Палац засвоіў прывілею.
І не вадзіцу піў з карцоў,
А трунак, што на склепе спее.

Не там, дзе ў водблісках паркет,
А там, дзе ў багры арабіны,
Хаваў за пазуху пакет
Дзяцюк з халодным карабінам.

Адвагі крэўны пабрацім:
Падобных апявалі руны.
Ён шлях жыццёвы скарациў —
Данёс аблозе паратунак.

У свеце чуткі нарасхват:
Не можа іх анёл стрыножыць.
Іх множаць хват і гарлахват,
І лёсам сплязаны астрожнік.

Вунь ашчаперыў гаманец
(Згубілі бляск даўнейшы боты).
Загразь у сеціве ганец
І прагне выбіцца з балота.

## Балада грушы

Жанчыны звычку не парушаць:
На лаве месціцца гурма.
— А ці была тут, дзеўкі, груша?
— Глядзіце: й заваду няма.

Яна ж цвіла ды ў гудзе-звоне!
Пускала песцікі пад мёд.
Сама знутры, найболей звонку
Была падобна на намёт.

На скрыжаванні неба й долі
Грымоты ў збруі бліскавіц
Прымала скрутна ў нашым доле
З аглобляў цесных калясніц.

З намерам выгукнуць: «Палундра!»,
Зашыцца з руляй за камель
Мясцовы час шукаў Бермуды,
А скочыў — бацюхны! — на мель.

А груша — ключніца маёнтка —
Паднесла прышлым спелы кош!
Ён меў у Шчорсах ці Мінойтах
Нічым не вызначаны кошт.

Падчас галоднай партызанкі
Яна глядзела смерці ў твар.
Зямлянкі, студжаныя зранку,
Глыталі грушавы адвар.

Калі праступджаным прадвеснем
З паркана поўз дзіравы лёд,
Надзею страціла ля весніц,
А пчолы страцілі — на мёд.

…Жанчыны звычку не парушаць:
На лаве месціцца гурма.
— А ці жыла тут, бабкі, груша?
— Няма…

## Возера ў зіме

Затоку разрэзаў трыснёг
На снезе на хрусткія лусты.
Дзе слалася хваля да ног,
Застыла лядовае люстра.

Пад ім і зваліла самоў,
Як бёрны, у сон непрабудны.
Не ведаць замкнёным зімой,
Што дзень набліжаецца судны.

Дзе бераг таемна абвіс,
У схове таілася выдра.
Маланкаю чорнаю — бліснь! —
І след свой хвастатая вытра.

Здзіраюць вуголле з калін
Вятры над прамерзлай палонкай.
Драпежныя восці калісь
Зламаў тут аб нераст паломнік.

Дзянніца адгэтуль звяла
Таго, хто не ўнікнуў трывогі.
Між гурбаў няўклюда віляў,
І след па-за ім клышаногі.

Не зборы замет і прыкмет —
Даводзяць харты языкамі:
Вось тут начаваў Пракавет,
А ранкам шапнуў: — Уцякайма…

## Паляванне

Бы паслугач, імчаў ганчак,
А гаспадар услед галёкаў.
І стрэл, як вырак, прагучаў —
І птушку вырвала з аблокаў.

Апала пер'е на трыснёг:
Ён пабялеў, нібы пялюшка.
І пачарнелі, хто як мог:
Стралок.
                І пёс.
                                Найболей птушка.

## Гул ледаходу

Разбойна паводзіцца год
Пад гул ледаходу.
Вунь крыгі-зламысніцы плот
Паперлі з гароду.

Шукаюць вандроўнікі брод
На рэках прыродных.
Заплечна грыміць ледаход
Пад дахам Гародні.

Сузор'я рыпіць калаўрот
Старога заводу.
Разявіў на беразе рот
Саўдзельнік паходу.

Рашыўся на пэндзаль мастак.
Настрой на акордзе.
Хвасцішчам заехаў шчупак
Сусвету па мордзе.

## Даўняе

Бяроза. Пад кропляй гладыш.
Паводка не ведае зморы.
Ці чуеш? Цярэбіцца мыш
Нявызначанага сузор'я.

Схіляе снягі сакавік
Даніну аддаць для даліны.
Грымотныя ў наскай крыві
Святло —
а паміж —
сакавіны.

## Матылёк над пшаніцай

Ляцеў шапаткі матылёк.
Шаптала пшаніца.
Ляцеў матылёк аддалёк
З пшаніцаю зліцца.

Вяселлю пашчасціла. Свет
Завоблачна мроіў.
Дзялілі шчаслівыя квет,
Дзялілі пароўну.

…Адгрукалі зоры аб дол,
А ў доле — калёсы.
Шырозна вачам навакол
Над зяблівам лёсу.

Аднак не рыхтуйся наверх —
Не гаю — а раю.
На слова мне, браце, павер:
Ліхога не раю.

Світае. З аблок матылёк
Спяшае і цешыць.
І вабіць — няўжоназнарок? —
Пшаніца пры сцежцы.

## Мятліца

Воблак небам сцелецца.
Цені ў доле — ніцма.
Збегла за аселіцу
Загадзя мятліца.

Змеркнецца навокала.
Спалатнеюць зоры.
Лёс, дзе сэрца войкнула,
На любошчы скоры.

Ранкам адкляпаная,
Гнеўна блісне коска.
Хто шыкуе паняю —
Пазірае скоса.

Шчасце з павароткаю:
Рэшта невядома.
Гэх! Жыццё кароткае
І ў гасцях, і дома.

Скрухі жменя змелецца:
Сам жадзён маліцца.
Шэпча ў свет мяцеліца.
Не! Усё ж мятліца!

## Рэтра



Павуцінне. Альбом.
Варта вочы прадзерці —
І адразу… аблом:
Наступае бяссмерце.

**Н**арадзіўся ў 1947 г. у вёсцы Горна Зэльвенскага раёна. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта працаваў на Гродзенскай студыі тэлебачання і ў абласной газеце «Гродзенская праўда». Сябра Саюза пісьменнікаў з 1971 г. Выдаў зборнікі паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Помню пра цябе», «Сын небасхілу», «Багра» і інш. Узначальвае абласную арганізацыю Саюза беларускіх пісьменнікаў.



МІКОЛА КАНАНОВІЧ

## Дыялектыка

Не скочыць.
Не дакахаць.
Не застацца
ні разу.
Толькі дыхаць
і працаваць
на развалінах часу.
Экзістэнцыя,
таць,
правіць
нашу паразу.

…За смугой далягляду
хіба смерць
усміхнецца
перад тым,
як адразу
назусім
спыніць
сэрца.



Гарцуюць на белым кані
Зладзеі ў законе…
*Юрка Голуб*

Зладзеі ў законе — улада,
Зладзеі ў законе — закон.
Тым часам ратуе спагада
Людзей між сабою здавён.
Супастат не міне пакарання,
Ката дагоніць праклён,
Чалавека ж ратуе спагада
І працы жыццёвае плён.

## З Сысом

Дух — гэта, людзі, Я…
*Анатоль Сыс*

З Сыса пакутна дух выходзіў
(Так бачылася мне),
Калі паэт са свету зводзіў
Гарэлкаю сябе.
Ты піў з Сысом?..
І я з ім піў
Даволі шмат разоў,
Ды я жыву,
І ты жывеш,
А Сыс даўно сышоў.
Са мной застаўся «Пан Лес»*
З аўтографам,
«Агмень»**…
Ну, вось, здаецца,
Сыс увесь,
Што ў мой багаж улез,
Калі я з Менску ад’язджаў,
Дзе потым Сыс памёр.
Мне Анатоль там наказаў,
Каб піць быў не жадзён.
Ды мера ў кожнага свая,
Як маці, смерць, жыццё,
А мара — беларуская —
Спаліла пачуццё.
Ды Сыс, як беларускі Дух,
Застаўся жыць у нас —
І хто гарэлку п’е за двух,
І ў тых, хто толькі квас.

*27–29.11.2012*



Снежань напоўніцу снежны,
Як гадоў, можа, трыццаць назад.
Сыплецца белы без межаў

---

* «Пан Лес» — другі зборнік вершаў А. Сыса.
** «Агмень» — першы зборнік вершаў А. Сыса.

Снег на заснежаны сад.
Светлая свежасць пачуццяў
Аздобіць Хрыстова Раство.
Між дзвюх хрысціянскіх куццяў —
Бэтлеемскае хараство.

*Снежань 2012*

## З Новым годам!

Год — хадок порсткі,
Не шкадуе свае косткі,
Не шануе час,
Не лагодзіць нас.

Учарашні, сённяшні,
На хаду год колішні,
Не дагнаць яго, не стрываць —
Год не спыніцца пачакаць.

Уцякае год ды за годам зноў
І губляецца ў чарадзе гадоў.
Ці шчаслівы быў, а ці не,
Назаўсёды год праміне.

Як сыдзе хадок — будзем пэўна знаць,
З чым сябе ізноў віншаваць.

## Першая лыжня

Мінуўся Новы год, Каляды.
Снег выпаў — не было яшчэ.
Мароз няпэўны, лёгкі, як з засады,
Знянацку твар пакуль не апячэ.

У хаце цёпла. І кацёл, і печку
Палілі сёння, у нядзельны дзень.
Кошка прыхавалася ў запечку —
Дачка ганяе нават яе цень.

Неяк па-дамашняму ўрачыста
Са снегам паказалася зіма,
А па зіме, па снезе белым, чыстым —
Дачка на лыжах першы раз сама!



Снег. Снег. Снег.
Хоць не глядзі ўверх,
Хоць не глядзі ўніз —
Снег над светам павіс.

## Яшчэ раз пра свабоду

Я сумую без цябе, сумую.
Дзён старонкі я ў гады тусую,
А ты клічаш ды не йдзеш сама,
Мне б узяць цябе — ды сіл няма.

Зімкай лютаю, гарачым летам
Ты да іншых крочыш белым светам,
А па сцежцы да мяне не йдзеш,
Не даеш завершыць гэты верш.

Воля вольная, мая свабода,
Ты прыйдзі ўжо да майго народа,
Ён стагоддзямі цябе хацеў,
А замест — то той, то гэты хлеў.

Я сумую без цябе, свабода,
Мне маркотна без майго народа,
Які ўзяць цябе ізноў не змог,
І над ім цяпер сам д'ябал — бог.

Я сумую без цябе, сумую,
Ў полі чыстым ветрам галасую,
Чорнай ноччу слухаю сусвет
Без цябе ўжо многа зім і лет.

На жыццё ты тонус задаеш
Хіба тым, што клічаш,
а не йдзеш.

## Не паразімаваў

Сёння Певень наш стары сканаў,
Крылы выпрастаў і дух аддаў.
Да Грамніц два тыдні не дажыў,
На марозе крылы ўзяў злажыў.

Па чалавечых мерках Певень — дзед.
Сем гадоў таптаў ён белы свет,
Што для чалавека — семдзесят,
Жоўтых, як адзенне куранят,

Доўгіх, быццам лютаўская ноч,
Што святло забрала ў Пеўня з воч.

…Сёння Певень наш стары сканаў,
І птушыны рай яго прыняў.



Старое новае, ці новае старое
Над светам бэрсае, пляце вузлы.
Тут пакаленне паднялося маладое,
Каб адарвацца ад сваёй зямлі.

Скручаны карэнняў родных ніці
І знітаваны ў збэрсаны клубок.
Перад ад'ездам у чужыя «сіці»
Парваць яго дзяцюк не кожны змог.

Душа багатая, як поле ўлетку,
Ў кішэнях модных вецер, пустата.
Хоць на чужых прасторах і палетках
Сабе на хлеб заробіць бедната —

Кагосьці з іх ізноў пакліча Край,
Кагось чужына ўлашчыць назаўсёды.
…А ты, Радзіма, будзь і выбачай,
Што ад цябе ўцякаюць патрыёты.

## Колер

Жыццярадасны колер вачэй —
Не ўяўляў, каб свяцілі ярчэй,
Каб глядзелі ў душу да дна.
Так магла толькі ты адна.

На сто першай маёй вярсце
Твой позірк цяплом цвіце,
Хоць не бачыў цябе сто год
І не ўбачу на сто ўпярод.

Жыццярадасны колер вачэй
Мне за сонца свеціць ярчэй,
А прыйдзе гадзіна «Ч» —
Хай навек апячэ!



Па дрэве думкай не разбегся —
Спыніўся дома.
Што ёсць дом? —
Старая хата, што пры лесе
Стаіць наводдаль за сялом,
Ці штосьці большае? —
Напэўна…

Так шмат адценняў суму, сэнсу,
Пачуццяў розных і чуцця
У дома, куды так няпэўна
І пэўна цягне ад жыцця.

Што чалавеку дом? —
Радзіма.
Калодзеж. Клямка. Агарод.
Куды б крывая ні вадзіла —
Вяртаецца пад родны плот.
Ды нават з простае дарогі
Дадому збочвае ўвесь час,
Каб выпрастаць ад стомы ногі
І быць сабою лішні раз.

Бо губімся не толькі ў свеце —
Наш край знайсці не можа нас.
Не ведаюць, бывае, дзеці,
Дзе бацька скончыў першы клас,
Скуль іх радзіна пачалася
І што Радзімай называць.

Таму такая ёсць патрэба —
Спыніцца дома. Там заўжды
Пазнае хтось пад родным небам
Ды нагадае, хто ёсць ты.

*24.02.2013*

## Паэты гарадзенскай школы

*Памяці Юры Гуменюка*

Каханая, як хораша згарэць
І ўжо зусім нікому не належаць!
Пялёсткамі зямлю ўсцілае смерць
І лічыць зоры на высокай вежы.
*Юрась Пацюпа*

Паэты гарадзенскай школы
Юрась Пацюпа, Юры Гумянюк,
Як на заказ той, балаголы,
Каб здзейсніць вершаваны трук…

Пра іх даўно я так не думаў,
Пакуль аднойчы Гумянюк
Палётам да зямное кулі
Жыцця свайго завершыў трук —

З дзявятага паверха выпаў,
Каб больш мароз не халадзіў,
Цяпло жыцця ў «Батлейцы» выпіў,
А час Гародняю схадзіў.

…Паэты гарадзенскай школы —
З іх двух застаўся жыць адзін,
Ды і таму для добрай долі
Сталіца не дае прычын.

На вуліцах ж старой Гародні,
Што каралеўскі знала шык,
Наводзіць лоск улада модны
На свой капыл пад гучны крык.

Яшчэ культура там не ўмерла,
З паэтамі не адышла зусім,
Як і хапае ў Юдаў срэбра,
Каб краем гандляваць сваім,

А двух паэтаў не хапае,
І школы іхняе няма.
…Як смерць халодная, сляпая
Ідзе Гародняю зіма.

*27.01.2013*

## Жанчыны геніяў

Ніводная генію не нарадзіла —
Ні Ўладзіслава, ні Валянціна,
Бо геній зашмат піў і паліў,
Таксама і ў іншым прычына.

Малады геніяльны кніжнік Максім
Заставаўся наогул да скону адзін,
У светлым краі ля сіняй бухты
Свой згадваў «Вянок» ён
з друкарні Кухты.

А ў наш ужо час, як дурны са ступай,
З Максімавым дзённікам розныя дупы
Носяцца, кажуць: «Глядзі, інтымны!» —
Хоць почырк зусім неразборлівы, дымны.

…Трох геніяў тут узгадаў я бяздзетных,
Што жылі і тварылі з душою раздзетай.
Ды камень не кіну я ў іхніх жанчын —
У іх быў дзіцёнак вялікі, адзін!

## Ледзяшы

Тут край замёрзлых сэрцаў…
*Сяргей Вераціла*

Цячэ і з неба, і з душы —
Гарэлка слёз не сушыць.
Пасля звісаюць ледзяшы,
Каб іх ламаць і трушчыць.
Звісаюць з даху да зямлі,
З душы вылазяць вонкі
Такія спраўныя камлі
З канцом, як у іголкі.

Дзяўчынка ў мамы просіць: «Дай!
Дастань лядзяш мне з даху!»
Сама ж хапаецца за край,
Не ведаючы страху,
Ірве, і глыба з вышыні
Ужо ляціць да долу,
І не паспець тады ані
Ахоўніку Анёлу,

Калі б не маці. Бо дачку
Другой рукою цягне
З-пад лёду, што крыху ўбаку
Пад ногі бомбай гахне.

Растопіцца заўжды лядзяш,
І будзе дзе сагрэцца,
Калі крок небяспечны наш
Вартуюць любых сэрцы
У краі, які быў і ёсць
Нам мілым да магілы,
Дзе гаспадар ты, а не госць,
Пад родным небасхілам.

## Бяроза

Галубы цалуюцца ў зацішку.
Дождж паціху сохне на зямлі.
Хлопец хісткі, сербануўшы лішку,
Штось струменем піша на камлі.
Шапаціць зялёная бяроза,
Асалоды ёй з таго няма,
А тут баба выпусціла козы,
Каб кару згрызалі задарма.
Толькі сонца свеціць так ласкава,
Вецярок лагодна сушыць так,
Што бяроза людзям даравала
І не біла козаў па зубах.



Хістаецца стол на няроўнай падлозе,
Стары халадзільнік штосьці крэхча сваё.
Усё як заўжды, толькі цікаць знямогся
Гадзіннік на кухні. Сышоў час яго.
А маці зноў просіць: «Змяні батарэйку!»
Змяніў. Штось патузаў. Здаецца, пайшоў.
Дай, Божа, маці гадоў яшчэ жменьку —
Хай час не спыняецца ў хаце бацькоў.



Чую крокі асцярожныя твае…
Хоць нячутна ты ступаеш да мяне,
І за вокнамі ўжо спіць глыбока ноч
Колеру тваіх сцямнелых воч.
Я чакаю жарсці вуснаў,
Чуйных рук,
Твайго сэрца ў маіх скронях
Часты стук…

Тая ноч сышла за шэрагі гадоў,
Толькі памяць паўтарае зноў і зноў
Крокі ўночы асцярожныя твае…
А ты ніяк не дойдзеш да мяне.






**Н**арадзіўся ў 1965 г. у вёсцы Вострава Слонімскага раёна. Пасля заканчэння філфака БДУ выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школе ў Слоніме. Працуе намеснікам рэдактара «Газеты Слонімскай». Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў. Адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў паэзіі «Квадра», «Анталогія маладога верша», «Верш на свабоду», «Галасы». Укладальнік і рэдактар зборніка «Паэтычная Слонімшчына» і двух выпускаў літаратурнага альманаха «Ад Я да Я» падлеткавага клуба «Святліца». Аўтар кнігі паэзіі «І доўжыцца ноч…».

СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

*ЧУЖОЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ НІКОЛІ НЕ БЫВАЕ…*

## Матчына песня

Матчына песня — пявучая, звонкая,
Быццам узор ручніка, пераплецена.
Рвецца ў душу, нібы нітачка тонкая,
Нас абдымае вясноваю квеценню.

І калыханка — санліва-журботная,
І на вяселлі — «Лявоніха» быстрая.
І на дажынках — стамлёная, потная,
І на Вялікдзень — спаўна урачыстая…

Розная ты, нібы нашы матулі,
Вельмі прыгожы напеў твой прыродны…
Ты нас да сэрца заўсёды прытуліш,
Каб не застацца навекі бязродным.

## Студня

Спатоліць, памые, сагрэе
Вясковая студня заўсёды.
Душа ад вады падабрэе,
Адмыецца цела ад поту…
Ды што там у горадзе краны —
Цячэ з іх вада не такая…
А студня загойвае раны, —
Яна, як малітва, святая.



Ляціць на дол барвовы, жоўты ліст,
Глядзіш: апошні з іх пакіне голле.
Дажджы, слата, няўмольны ветру свіст
На вуліцы, у садзе і на полі.
У нізкім небе хмараў чарада,
Штодня і зноў гатова заімжыцца…

У рэках — схаладнелая вада,
А ў полі на спачын лягла зямліца.



Хай дадому вяртаюцца гусі,
Я для іх рассцялю абрус.
Я малюся усёй Беларуссю,
Я малюся за Беларусь.
Над азёрамі і дубровай
Я гусей здалёк пазнаю…
І малюся на роднай мове,
І малюся за мову сваю.



Старыя гуслі…
Да іх тулюся —
Яны іграюць
Для Беларусі.
А балалайкі —
Я з іх дзіўлюся:
Яны чужыя
Для Беларусі.



Прыеду дадому
На родны падворак —
З яго бліжэй
Да ясных зорак.



Купалу забілі ў Маскве…
Ах, Божа ж ты, мой Божа!..
Купала ў сэрцы жыве,
Чужынцамі не пераможаны.



Грунвальд. Сцягі. Перамога…
Чарнобыль. Сляза. І… знямога…
Грунвальд. Дадому дарога…
Чарнобыль… З малітвай да Бога.



Белыя, белыя гусі
Лятаюць над Белай Руссю.
І чорнае, чорнае пер’е
Кідаюць на Беларусь нам.



«Туга і шчасце восені» —
Прачытаў у Алеся Жука.
Туга — што гэта восень ужо ніколі не вернецца.
Шчасце — што будзе яшчэ восень.



З Радзімай не развітваюцца,
З Радзімай сустракаюцца,
Вітаюцца…
За Радзіму — змагаюцца.



Нас чакае Купала,
Колас і Багдановіч…
Зачакаліся…
Трэба спяшацца
Да станцыі Беларусь.



Хачу дамоў,
Дзе вуліцы на Вялікдзень
Пахнуць пірагамі…
Дома — заўсёды свята.



Праз сто гадоў нас ніхто не будзе памятаць…
Але ж гэта будзе… праз сто гадоў.



Яська-гаспадар з-пад Вільні,
Яська-гаспадар з-пад Менску,
Яська-гаспадар з-пад Оршы…
Гаспадар?..



Жыве твой кліч, Касцюшка:
Нарадзіўся я ліцвінам!
І мы — ліцвіны,
А дзе ж Касцюшка?..



З 1863 года
Каса пад страхою —
Напамін пра дзядоў і прадзедаў.



Яшчэ не выйшлі з лясоў
Слуцкіх паўстанцаў
Сыны, унукі, праўнукі…



Мама — побач. Мама — жывая,
Вяжа шкарпэткі і рукавіцы маім сябрам,
Каб не замерзлі жыць.



Хачу быць снегам на двары Айчыны,
Каб штодзень яго таптаді беларусы,
Спяшаючыся да Гусоўскага, Скарыны і Купалы.



Максім Танк прасіў перад сном
Накрыць яго роднай песняй…
І мяне накрыйце,
І маіх сяброў,
І ўсю Беларусь накрыйце
Роднай нашай беларускай песняй.



Будзьце светлымі, як нашы рэкі,
Будзьце чыстымі, як нашы лясы,
Калі ласка, вельмі прашу,
Будзьце…






**Н**арадзіўся ў 1958 г. у вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыве ў Слоніме, працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра. Напісаў і выдаў больш за 25 кніг паэзіі, гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых артыкулаў.

МІХАСЬ ГУБЕРНАТАРАЎ

## Сын

На галіне самай роднай,
Што славянскаю завём,
Калыхалі цябе ў Гродна
Ноччу зоры, сонца днём.
Не на горыч, не на слёзы —
На «Лявоніхі» кругі
Твой «Вянок» плялі бярозы —
Запаветны, дарагі.
Каб зямля была прыветнай
На хлеб-соль, гул кірмаша,
Ад бярозы самай светлай
Матчына ў табе душа.
Каб расціў з бяссмерця словы
Так, як поле каласы,
Квет і белы, і ружовы
Сад паклаў на валасы.
Як вяртаўся з неба вырай
Лебядзіны на раку,
Луг прынёманскі быў лірай,
Што спявала хлапчуку.
Бачыў ты, як занямонкі
Рвалі ў жыце васількі.
Стан іх стройны, голас звонкі
Стане песняй праз вякі.
Як зямлю тваю, ўсю ў чарах,
Калі Нёманам ідзеш,
Смех вачэй блакітных, карых
Захаваў твой дзіўны верш.
Не дажыў да срэбнай скроні —
З мужнай песні, з дабраты
Кліч, палёт тваёй «Пагоні»
Неўміручы, як і ты.
Пакланіся, горад, сыну,
Што апеў маю зямлю.
Шчыра, светла, як краіну,
Песні волата люблю.
На любоў, надзею, веру,
Каб маглі усё стрываць,

Зорку ясную — Венеру
Будзе Нёман цалаваць.



Калі махну на ўсё рукою,
Калі зарана паміраць,
Каб жыць душа ў душу з табою,
Я еду лёс свой выбіраць.
Дык добры дзень, Бераставіца!
Тут многа сонца і вятроў.
Я буду цар, а ты царыца
Сярод лугоў, густых бароў.
Нябёсы — для мяне карона,
У кветках луг — зялёны трон.
Як варта, дуб стаіць зялёны —
Ніхто не возьме у палон.
Але ўзяла мяне вачыма
Пад сіні колер васілька
Бераставіцкая дзяўчына —
Збірала кветкі для вянка.
З таго палону мне не збегчы,
Яна ж не стане шкадаваць.
Я бачу вусны яе, плечы,
Ды не магу пацалаваць.
Маёй ты будзеш, маладая,
Як валасоў спадзе лянок,
Як ляжа зорка залатая
Апошняй кветкаю ў вянок.

## Лета

Збажына густая
ў золата адзета,
Каласы, як тыя
шчырыя браты,
Прывіталі сонца,
і цябе, і лета,
Калі беласнежнай зайшла
ў жыта ты.
Можа, ад таго я
сэрцам маладзею,

Нібы адчуваю
шчасце на руках —
Паплыло, як ветразь
нечае надзеі,
Прыгажуні плацце
ў сініх васільках.
Хай нас абыходзіць
краем раздарожжа,
Я прыйшоў у лета
родную любіць.
Хіба можна быць
табе такой прыгожай,
Бо цябе баюся
некалі згубіць.
Слодыч тваіх вуснаў
любы не забудзе,
Вочы ад нябеснай,
зорнай глыбіні.
Спёкаю дыхнулі
маладыя грудзі,
Зблізіліся сэрцы
ў светлай цішыні.
Як і нашы душы,
зіхацелі далі,
Самае святое
я табе аддам.
Звонкае вяселле
каласы спраўлялі
І крычалі «горка»
перапёлкі нам.
З голасам пяшчотным
і травы, і кветак,
З белымі садамі,
што ў душы цвілі,
Гэтак праляталі б
і вясна, і лета.
З ласкаю каханай —
з песняю зямлі.

## Вёска Лабна

Тут дзяўчаты спяваюць
слаўна,
Як і родныя каласы,
Падарыла ім вёска Лабна
Вельмі дзіўныя галасы.
Тут гамоняць
мовай славянскай
Як дубровы, так і гаі.
Тут дзяўчаты
з пяшчотнай ласкай,
Галасістыя салаўі.
А крыніцы з вадой гаючай
Лечаць цела, як і душу.
Васілёк пад вярбой пявучай
Упрыгожыў сабой шашу.
Ты руплівая, вёска Лабна,
Вырастаюць крылы з надзей.
Калі справы ідуць тут складна,
Сэрца цешыцца за людзей.
Тут вітаюцца ўсе прывабна,
Згоду можна заўжды знайсці
Праз вясёлае слова «ладна»,
Што патрэбна нам у жыцці.
Будзе хлебна ў нас і руладна,
Шмат вяселляў і нарадзін.
Працавітая вёска Лабна,
Я люблю цябе не адзін.
Сустракаюць гасцей
тут зграбна,
Наліваюць віно праз край.
На руках у дзяўчыны з Лабна
Беларускі наш каравай.



Міхась Губернатараў

**Н**арадзіўся ў 1946 г. у вёсцы Ангелаўка Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Настаўнічаў, выкладаў у ВНУ. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг «Праверка», «Пакланенне агню». Жыве ў Гродна.



# ПРОЗА

СТАС ІЛЬІН

## Аўтастоп

*Апавяданне*

Была нядзеля. Сярэдзіна ліпеня. На ферме, што знаходзілася на самай мяжы Англіі і Уэльса, нарэшце ўсё заціхла. Апусцелыя палі адпачывалі. Ніякага ранняга тлуму, гулу трактароў, пылу, лязгату металу і людской гаманы. Трэйлерныя вагоны таксама маўчалі, парыпваючы на лёгкім ветры, закалыхваючы студэнтаў, якія спалі ўнутры. Уздоўж вагонаў цягнуліся белыя цяплiцы, нібы коканы вялізных вусеняў выпаўзалі проста з зямлі. Дыхалі цяжка; плёнка, нацягнутая на металічныя каркасы, распухла ад ветру. Я ўсё яшчэ спаў, але праз сон чуў, як недзе зверху, зусім блізка, нешта шыпела, сквірчэла і патрэсквала. Раптам мае павекі ўздрыгнулі, як ад пстрычкі. Белы стаяў у адных трусах каля пліты і, пераступаючы з нагі на нагу на халоднай падлозе, смажыў яечню. Ён спінай адчуў, што я прачнуўся, не павярнуўшыся, даў каманду:

— Пад'ём, байцы! Уставайце, хлопцы, уставайце, маем нарэшце першы свабодны дзень, нельга згубіць ні хвіліны! Эх, вы, другакурснікі, а спіце, нібы абаранілі кандыдацкую. Прачынайцеся, крыху хапанём і ў дарогу!

Я закруціўся на канапе, расшпільваючы куплены за дзень да ад'езду з дому спальнік. За паўтара месяца з яго так і не выветрыўся фабрычны пах. Але тут ён здаваўся не такім брыдкім — хутчэй, наадварот, здаваўся хатнім, утульным. А вось канапа нашага вагона пахла потам, пракіслымі трускалкамі, гнілым лісцём і дарогай. На суседняй канапе ў сваім спальніку круціўся Міша. Ён нешта прамэкаў і зноў заціх. Я расшпіліў спальнік і, накрыўшыся ім, як коўдрай, зноў праваліўся ў трускалкавы сон, дзе бясконцыя шэрагі градак варушыліся, нібы рухомыя шарэнгі салдат з чырвонымі галовамі ў форме сэрцаў з зялёнымі чубамі, а мае мітуслівыя рукі адрывалі гэтыя галовы і шпурлялі ў празрысты пластыкавы кантэйнер. А недзе ў іншым вымярэнні Белы бегаў ды здзекліва крычаў:

— Прачніцеся вы ўжо! Праўду бабы кажуць: Ін Яз мужчын ператварае ў нас. Да пятага курса пачнеце морды пудрыць, бровы шчыпаць і люстэркі ў ранцах цягаць…

Тут з чэрава майго спальніка прабурчэла:

— Мы і так цягаем, без люстэрка нас на фанетыку не пускаюць…

— О, прыехалі! І з кім я жыву?! — і тут мы з Мішам ускочылі і пабеглі мыцца.

У адрозненне ад нас Белы вучыўся на фізфаку БДУ, высокі і худы, з нязменнай усмешкай на рабым твары і з прычоскай пад вожыка-альбіноса. У першы вечар знаёмства сказаў, што прыехаў у Англію на трускалкі не дзеля таго, каб тры месяцы душыцца тут прывезенымі з дому ролтанамі і тушонкай, надрывацца па пятнаццаць гадзін у суткі, каб як мага больш зарабіць, а проста весела правесці лета і каб пасля было што ўспамінаць. Сказаўшы гэта, адразу з выклікам паглядзеў на нас. Але без адказу было зразумела: перад ім сядзелі два круглыя разгільдзяі, кольчыкі ў бровах, чырвоныя кеды і надпісы на майках «СССР». У аднаго чорны падмаляваны чуб хаваў глыбока пасаджаныя вочы і казытаў шырокі зламаны нос, у другога барадалапата стырчаком ва ўсе бакі злучала галаву з цэслераўскай майкай «Beri Bosch I Ebosh!» Нас з Мішам засялілі ў вагон апошнімі, а Белы быў першы, каго мы ўбачылі, калі, змучаныя пасля трохдзённай дарогі, з грукатам ваіліся ў кухню — уваходны пакой. У зале насупраць вялікага вакна сядзеў Белы. Акно выходзіла на адзіную вуліцу, створаную з вагонаў, што стаялі па абодва бакі. Ён сядзеў, нібы перад тэлеэкранам, назіраў, як вярталіся з поля дзяўчаты, што прыехалі з Літвы, Польшчы, Эстоніі, Балгарыі, Украіны, Румыніі і Беларусі. Вярталіся групамі і па адной — размахваючы рукамі і смеючыся, стомленыя, ружовашчокія, з раскудлачанымі валасамі, у запыленых цёмна-зялёных дажджавіках. З'яўляліся ў кадры і тут жа знікалі…

— Пасля працы колькі хвілінаў сяджу і кайфую. Проста нейкі рытуал!.. Саня! — сказаў Белы і працягнуў руку.

Мы ўжо заканчвалі снедаць, як на кухню зайшоў Джэйсан. Ён уключыў ваду і пачаў марудна разграбаць посуд. Джэйсан быў родам з ЮАР, звонку падобны да амерыканскага *тынэйджара*, крыху старэйшы за нас. Гэта быў яго трэці месяц на ферме, за гэты час доўгія валасы ператварыліся ў дрэды, шырокія джынсы трымаліся амаль на каленях, кепка з казырком назад, пустыя стомленыя вочы. На ферме было мала людзей, з кім можна паразмаўляць па-ангельску. А мы з Мішам прыехалі сюды, задраўшы свае «лінгвістычныя» насы: маўляў, вы тут людцы са сваімі нізкімі патрэбамі, а мы вось такія ўсе самі ў сабе і тут знаходзімся, каб самадасканаліцца і сумаўляцца з карэннымі носьбітамі мовы. Таму лавілі беднага Джэйсана то на полі, то дома, то па дарозе ў горад і грузілі ўсялякімі ідыёцкімі пытаннямі, імкнучыся пры гэтым гаварыць абы пра што, каб як мага болей, запіхваючы ў размову завучаныя на лекцыях вытанчаныя англійскія выразы. Бедны Джэйсан хутка стаміўся ад банальных роспытаў і пачаў нас пазбягаць. А ўвогуле, мы ўсе яму зайздросцілі. Толькі ў яго з нашага вагона была «кіруючая» пасада. Супервайзер —ад гэтага слова веяла подыхам сапраўднага шчасця, зваблівага і недасягальнага, праца-мара, якую аплочвалі не здзельна, а па гадзінах, пра такое марылі ўсе і ў сне, і на яве. Толькі падумаць, вакол цябе людзі капаюцца на каленях у трускалках, ручаём льецца пот, рукі механічна лупяць сакавітыя гронкі, а ты марудна і задуменна ідзеш уздоўж градак і назіраеш, каб акурат-

на выбіралі, далікатна трымалі сцябліны, не хапаючыся пальцамі за ягады. Ты бярэш празрыстыя кантэйнеры на праверку, аглядаеш іх на сонцы, круціш у руках, вывучаеш. Шчабечуць птушкі, скачуць зайцы, а ты ідзеш сабе полем. І табе плоцяць толькі за гэта. Праўда, і тут ёсць свае нюансы. Калі ўсё адбываецца спехам, і ўвесь час рукі нечым занятыя, то час ляціць незаўважна, а калі туляешся цэлы дзень па полі, як непрыкаяны, з выглядам, што ты заняты нечым важным, а насамрэч нічога не робіш, то працоўны дзень цягнецца, як месяц. Ды Джэйсан хутка вырашыў гэтую праблему. У гарадку Рос-он-Уай, які ў дзесяці хвілінах хады ад фермы, ён знайшоў дылера, у якога купляў оптам забойны мясцовы гідрапон, а ўжо на ферме прадаваў яго па раздробным кошце іншым ахвотнікам «расслабіцца». Рабіў ён гэта толькі дзеля бясплатнага «допінгу» і ніякага істотнага прыбытку з такога прадпрымальніцтва не меў. Таму кожны ранак Джэйсан збіраў сабе ссабойку з бутэрбродаў, пячэнькаў і розных слодычаў, скручваў тоўстую «беламорыну» і ішоў на поле. У адным з біятуалетаў, што стаялі ўздоўж дарогі, ён прыкурваў і з характэрнай задуменнасцю на твары акунаўся ў сузіранне. Ён рабіўся нябачным, падыходзіў ззаду нячутна, мог гэтак ісці за табой гадзіну, ступаючы крок у крок, моўчкі, з захапленнем назіраць за кожным тваім рухам. Калі выбіраў кантэйнер на праверку, то даставаў з яго паасобку кожную ягадзіну, трымаючы за карэньчык, нібы гэта самы далікатны ў свеце прадмет, і доўга разглядаў кожны яе міліметр. Ён ніколі нікога не выганяў з поля, як гэта рабілі іншыя супервайзеры, ні з кім не сварыўся, а проста моўчкі, да забыцця, рабіў сваю працу.

Мы накінулі ранцы на плечы і выйшлі на вуліцу. Было душна, ногі вязлі ў гарачым пяску, палі расплаўляліся пад гарачым ліпеньскім сонцам. Хвалістыя коканы цяпліц сляпілі вочы белым святлом, а мы шыбавалі да апошняга вагона нашага пасёлка. Там нас чакалі Ярык, Павел і Тамаш. Яны былі родам са Шчэціна, дзе вучыліся ў сельскагаспадарчай акадэміі. Яны часта заходзілі ў наш вагон, шукаючы Джэйсана. Так мы і пазнаёміліся. Магчыма, таму, што нашыя краіны побач, да Беларусі ў іх было нават болей цікавасці, чым да краю Джэйсана. Разглядалі беларускія грошы, нашыя хатнія фоткі, а як убачылі на сцяне бел-чырвона-белы сцяг, то былі агаломшаныя, тыкалі ў сценку, крычалі:

— Нічога сабе, а мы і не ведалі, яго ж знізу адрэж — і атрымаецца наш! Браты!

Марыхуану яны называлі па-музычнаму рамантычна «джаз», а сябе адпаведна з гонарам іменавалі «джазменамі». Пасля ўжо ўся ферма называла нашу кампанію джаз-бандай, калі мы дрыпалі па дарозе да лясной палянкі з «водным саксафонам» у пакеце. З фермы было відаць, як у вячэрнім небе дымнымі спіралямі цягнуліся да пунсовага сонца нашыя мажорныя сола.

Ярык і Павел ужо сабраліся, сядзелі за драўляным сталом, дапівалі гарбату, а вагон хадзіў хадуном: тупанне, ляпсканне дзвярмі, нешта падала. Гэта ўсё яшчэ збіраўся Тамаш. Ярык дастаў фотаапарат, пачаў расстаўляць нас

удоўж стала, каб відно было і поле, і суседні вагон, і наша любімая лясная палянка.

Паставіў фотаапарат на пень каля вагона, уключыў таймер, сам стаў пасярод нас і заціх. У гэтую ж хвіліну Тамаш піхнуў нагою дзверы, яго ранец вылецеў на двор і трапіў проста ў пень. Фотаапарат паляцеў у кусты, пачуўся польскі мат. Ярык адразу ж скочыў у кусты па фотаапарат, выскачыў адтуль і падбег да нас. Мы моўчкі глядзелі на дысплей. Фатаграфія ўсё ж атрымалася. Я клепнуў, як заўсёды, Ярык застыў у скачку, Павел зашпільваў ранец, а Міша з Белым усміхаліся. Ярык гучна закрычаў:

— Вось ён! Пачатак нашага вар’яцкага падарожжа!

А ехалі мы ў сталіцу Уэльса горад Кардзіф. Чаму туды, ніхто толкам не ведаў. Так аднойчы ўвечары вырашылі. Адно ўсе ведалі напэўна — гэта быў самы вялікі горад у наваколлі, куды можна было заехаць і вярнуцца за адзін дзень. А болей ніхто нічога не ведаў. Першае, што прыйшло мне ў галаву, — гэта фільм «У адрыў», панк-група Oppressed і «там вельмі прыгожа». Мы ішлі пешкі ад фермы да скрыжавання саракавой і сорак дзявятай дарогі. Ужо даўно было вырашана, што на транспарт не трацім ні цэнта і едзем аўтастопам. Дагэтуль мы ўжо паспрабавалі паехаць аўтастопам у горад Вустэр на поўнач ад нашага Рос-он-Уая, ды паездка як пачалася, так і скончылася. Як толькі мы выперліся з размаляванымі табліцамі на пяцідзясятую магістраль, не паспелі прайсці кіламетр, як нас затрымаў паліцэйскі на матацыкле, праз пяць хвілін прыляцеў вэн з мігалкамі і дзве паліцэйскія машыны. Калі я ўбачыў белы вэн з чорнымі тоўстымі кратамі на вокнах, у мяне перасохла ў горле, ва ўсіх нервова задрыгалі кадыкі. На перамовы з паліцыяй, доўга не думаючы, мы выпхнулі Мішу. Я паляпаў яму па плячы, сказаў:

— Ваў, для студэнта міжнародных камунікацый гэта ж проста падарунак лёсу, а ты ўпіраешся. Давай, галоўнае, націскай на літасць!

Нягледзячы на змрочны выгляд, паліцэйскія былі ветлівымі і ўсё зразумелі. Падышлі да нас і папулярна растлумачылі: калі мы хочам ехаць аўтастопам, то можам галасаваць усюды, акрамя аўтамагістраляў, ці, у крайнім выпадку, стаяць на ўездзе на магістраль, а так вось ісці па краі дарогі ў шэсць палос, дзе ўсе імчаць па 100 кіламетраў у гадзіну, строга забаронена, за гэта трэба штрафаваць, але калі мы студэнты з іншай краіны, то нам зробяць выключэнне і завязуць назад на ферму, каб як хутчэй вызваліць ад нас дарогу. Студэнцкая кемлівасць спрацавала, што не можа скончыцца ўсё так добра, тут нейкая пастка. Лезці ў вэн з торбамі мы адмовіліся, убачыўшы ў пяцідзесяці метрах ад таго месца з’езд, сказалі, што збочым там і пешкі дойдзем да фермы. Яны не настойвалі. Пасля гэтага мы асмеліліся нават з імі сфатаграфавацца і пабеглі да з’езда.

Навучаныя горкім досведам, мы вырашылі лавіць машыну на саракавой дарозе, якая пасля ператвараецца ў чатырыста сорак дзявятую, і ехаць па ёй да ўезду на магістраль М4, якая вядзе проста ў Кардзіф. Ехалі па двое: Міша з Белым, я з Паўлам, Тамаш з Ярыкам. Мы з Паўлам выйшлі галасаваць першымі, астатнія схаваліся на невялікай паляне сярод рэдкіх дрэўцаў,

дзе, лежачы на ранцах, закрыўшы кепкамі вочы, спрабавалі даспаць. Ішоў бесклапотны 2004 год, калі сотавы тэлефон усё яшчэ быў мажорнай раскошай, не было ніякіх сацыяльных сетак, і ўсе хадзілі ў інтэрнэт-кафэ карыстацца Інтэрнэтам, і то толькі, каб праверыць пошту. Самымі папулярнымі дзівосамі таго часу быў лічбавы фотаапарат і плэер mp3. Таму ніякіх сродкаў сувязі паміж намі не было, і па нашым плане мы дамовіліся сустрэцца зноў ля ўезду на М4, адкуль групамі дабірацца да Кардзіфа, дзе трэба было не згубіцца, каб разам увайсці ў горад. Ужо тады, калі мы з Паўлам стаялі на ўзбочыне дарогі і махалі таблічкамі, гэты выраз «каля ўезду ў горад» падаўся мне недакладным. Усе здагадваліся, што Кардзіф — вялізны мегаполіс, уездаў у яго можа быць невядома колькі, але ніхто ўслых гэтага не прамовіў. Прасцей было — усё пакінуць як ёсць, а там ужо што будзе, тое і будзе, бо ніхто не ведаў ніякага канкрэтнага месца, дзе б мы маглі разам сабрацца ў тым Кардзіфе. Нас абдало дарожным пылам, у дзесяці метрах ад нас ужо стаяў вішнёвы вэн з надпісам «finished carpentry» ды міргаў нам аварыйкай. Я пабег дамаўляцца, а Павел цягнуў да вэна нашыя ранцы. За рулём сядзеў рыжы барадаты цесля ў кепцы, на каленях ляжала пачка тытуню «Golden Virginia», ён з захапленнем рабіў самакрутку. Я пачаў казаць завучаны тэкст, аднак ён адразу перапыніў: «Стоп, стоп, я нічорта не разумею», — выставіў у мой бок руку: маўляў, сціхні. Я пачакаў, пакуль ён дакурыць сваю цыгарэту. Аказваецца, ён заўважыў і нашую сонную чацвёрку ў кустах, выйшаў з машыны, адчыніў дзверы, сказаў:

— Давайце, залазьце ўсе, па дарозе разбярэмся.

Праз колькі хвілінаў мы ўсе трэсліся ў адсеку для начыння. Белы драмаў у апілках, седзячы на пыласосе, Тамаш з Ярыкам залезлі на падстаўку для электрапілы, а мы з Паўлам селі проста на падлогу. У плечы ўпіваліся стамескі і напільнікі са сцяны, цвікі валяліся ўсюды, пахла дрэвам, сталярскім клеем і масцікай. Самага гаваркога Мішу выбралі ў кабіну да кіроўцы і не памыліліся. Ён быў на ўзводзе. Сыпаў нейкімі гісторыямі пра Беларусь, датамі, выцягваў з ранца спецыяльна прывезеную для такіх выпадкаў драбязу з савецкага часу — піянерскія значкі, вымпелы, паштоўкі, старыя матрошкі. У выніку на лобе машыны ўжо вісеў грозны Ленін і з пагрозай глядзеў на спалоханага цеслю, а па пустым бардачку качаліся з боку ў бок матрошкі. Ехалі мы з ім нядоўга. Жыў цесля ў гарадку Манмаўт, гэта ўжо тэрыторыя Уэльса, праўда, у акцэнце яго мы не заўважылі нічога дзіўнага. Як распытаў Міша, ён быў англічанінам, а ў Манмаўт пераехаў да сваёй жонкі-валійкі.

З Манмаўта першымі выехалі Міша з Белым. Яны пастаялі некалькі хвілінаў, і каля іх затармазіў белы седан з вясёлай бабуляй за рулём.

Як толькі мы прыехалі ў Англію, нашым першым здзіўленнем былі бабулі-ліхачкі. Як толькі работнік фермы забраў нас на аўтавакзале ў Рос-он-Уаі, наш мікрааўтобус са свістам пачалі абганяць бліскучыя «лендроверы» з беднымі бабулямі. Здаецца, яны ледзь трымаюцца за руль. Але праносяцца міма на скрыжаваннях, выскокваюць насустрач з крутых узгоркаў, і ствараецца такое ўражанне, што машынамі тут кіруюць выключна вясёлыя і рас-

фуфыраныя бабулі. Біжутэрыя блішчыць у лобавым шкле, тоны касметыкі, трохпавярховыя прычоскі ўпіраюцца ў столь машыны, быццам яны едуць не ў супермаркет па прадукты, а на званую вячэру да самой Елізаветы Другой.

Праўда, нас з Паўлам падабрала не бабуля, а паўнаваты дзядзька. Ён увесь час неяк заклапочана глядзеў на дарогу і нават не глянуў у наш бок. На ўсе пытанні адказваў простымі фразамі: «так, жыву тут…», «не, там не быў…», «мне тут добра…», «не чуў…», «не ведаю…» Увесь час маўчаў, а ў сярэдзіне шляху нечакана сказаў:

— У нас ёсць горы, паглядзець хочаце?

Я чамусьці спалохаўся, пачаў нешта мармытаць: «Ды мы спяшаемся, нас там чакаюць», — падумаў дадаць, на ўсялякі выпадак, што нумары тваёй машыны ў іх таксама ёсць, але не сказаў. І дзядзька змоўк. Тады я парушыў маўчанне, спытаўшы: «І, тым больш, горы, мусіць, далёка?» — «Не, недалёка!» — і мяне кінула ўправа ад крутога павароту. Кіроўца моўчкі з'ехаў з чатырыста сорак дзявятай і павёз нас у невядомым напрамку. Праз хвілінаў пятнаццаць чарговага маўчання мы апынуліся ў нейкім нацыянальным парку і ехалі па горнай дарозе, якая віляла, нас абступілі горныя лугі з рассыпанымі па іх белымі авечкамі, а кучаравыя воблакі колцамі нанізваліся на горныя вяршыні. Мы ўтаропіліся ў вокны і моўчкі назіралі гэтыя дзівосныя пейзажы. Але праз колькі хвілінаў яны здаваліся ўжо аднастайнымі, пайшла грунтовая дарога, а мужык усё ехаў і спыняцца не збіраўся. Бакі яго звісалі з сядзення машыны і трэсліся пры кожным грудку і выбоіне, а майка цямнела ад поту. Ён чамусьці пакапаўся левай рукой у «бардачку», а я прыціснуўся да дзвярэй, баяўся, што ён зараз схопіць мяне сваёй потнай лапай. Праз нейкі час я заўважыў, што за апошнія дзесяць хвілінаў не праехала міма ніводнай машыны, нават авечкі некуды зніклі. Я павярнуў галаву, за кіроўцам сядзеў перапалоханы Павел і дрыжачай рукой трымаў лязо сцізорыка проста ля спінкі каля сядзення. А наш дзівакаваты экскурсавод усё ўзіраўся наперад, упіўшыся рукамі ў руль, перыядычна паўтараў:

— Прыгожа, горы… у нас прыгожыя горы…

У выніку мы выехалі з таго парку гэтак жа нечакана, як туды заехалі. Увесь астатні час кіроўца моўчкі пыхцеў, а нам заставалася па ўказальніках здагадвацца, што мы нарэшце едзем у бок М4. Калі мы выскачылі з машыны на скрыжаванні, мужчына нарэшце выціснуў з сябе: «Няма за што» — пасля нашага няўдалага: «Сэнк'ю веры мач!»

Толькі ад'ехала машына, Павел запаліў цыгарэту і, пусціўшы слуп дыму ў бок лесу, крыкнуў у пустэчу: «І што гэта такое было?» Я сплюнуў, прашыпеў «Збачэнец» і пачаў калупацца ў сваім барахле. Павел прызнаўся, што амаль усю паездку трымаў нож насупраць сядзення, колькі разоў рука нервова ўздрыгнула, у выніку ён распаласаваў яму ўсю абшыўку. Мы засмяяліся, хутка забылі пра дзівака, трэба было вырашаць, што рабіць далей. Было ясна: пакуль мы абліваліся потам і любаваліся валійскімі пейзажамі, на ўездзе нас ніхто не дачакаўся, і варта было хутчэй лавіць машыну і ехаць у Кардзіф. Але мы вырашылі крыху перадыхнуць. Я сеў на ранец спінай да дарогі, зве-

сіўшы ногі ў канаву ля збочыны. А Павел не мог стаяць на месцы, мітусіўся. Ён быў за мяне на год старэйшы, з паголенай галавой, з арліным носам і крыху спалоханым выразам твару. Родам з невялікага пасёлка, ад Шчэціна трыццаць кіламетраў. А вучыўся ў акадэміі на агранома. Як і ўся польская моладзь, захапляўся польскім хіп-хопам. Праўда, некалькі гадоў таму выпадкова знайшоў групу «The Doors», і ўвесь польскі рэп адразу адышоў на задні план. Пачаў слухаць іншыя рок-гурты таго часу, але нічога не чапляла яго так глыбока, як голас і эпатаж Морысана ды чаруючы сінтэзатар Манзарэка. У гарадской бібліятэцы, куды мы звычайна заходзілі пакарыстацца бясплатным Інтэрнэтам, ён знайшоў кнігу пра «The Doors» з рэдкімі здымкамі, вершамі Морысана і інтэрв'ю. Пасля ён трымаў яе пры сабе ўсюды, нават на поле браў і чытаў на адпачынках. Увогуле не збіраўся вяртаць яе ў бібліятэку. І тады, на ўездзе на М4, дастаў яе з торбы і, прысеўшы пад кучаравай сасной, моўчкі курыў і гартаў глянцавыя старонкі.

Нас падабраў хлопец гадоў дваццаці пяці на мініяцюрным «пежо». У машыне іграла нешта манатонна брытанскае, а стыль кіроўцы адпавядаў музыцы — трохдзённая шчаціна, растрапаныя валасы на вушах, майка з прынтам, вузкі пінжачок. Ехаў ён з таго самага Вустэра, да якога мы некалькі тыдняў назад так і не даехалі. У Кардзіфе яго чакалі сябры па каледжы. Мы расказалі яму пра нашага папярэдняга кіроўцу, ён пасмяяўся і сказаў: «Гэта праўда, Уэльс багаты на розных дзівакоў». Пасля задаваў нам стандартныя пытанні, і мы адказвалі стандартна. Таму я зусім не здзівіўся, калі пасля слова «Беларусь» ён спытаў: «Дзе гэта?» Хутчэй наадварот, я моцна здзівіўся б, каб не спытаў. Калі я пачаў пералічваць сумежныя з нашай краіны, ён крыху засаромеўся, пасля кожнай назвы вінавата паўтараў «окей». Пасля загаварылі пра Кардзіф, ён сказаў, што нам абавязкова трэба паглядзець Кардзіфскі замак, стадыён «Міленіум», пералічваў нейкія паркі, пешаходны раён Хейз, дзе шмат розных кавяранек і крамаў. Яшчэ рэкамендаваў рок-клуб «Богіс», куды ён збіраўся пайсці ўвечары з сябрамі. Клуб гэты знаходзіцца ў будынку былога гатычнага сабора, чым і прыцягвае да сябе металістаў і ўсіх змрочных тыпаў з усяго наваколля. Пры пад'ездзе ў Кардзіф ён пачаў хваляваца: аказалася, што ўпершыню едзе ў Кардзіф на машыне. Ад дарогі вылучаліся масты і шматузроўневыя з'езды, наперадзе віднеліся хмарачосы. Ды нам не да іх было: на вулках, якія мільгалі, мы спрабавалі ўбачыць каго-небудзь з нашай чацвёркі. Машына павярнула на мост і праз кіламетр вільнула да з'езду, што ўпіраўся ў святлафор, каля якога ў ценю вялізнага запыленага дуба брызам з Брыстольскага заліва развяваўся аранжава-чырвоны сцяг. Гэта былі майкі Мішы і Белага. Павел закрычаў «стоп-стоп, тармазі». Машына спынілася, абарваўшы аповед хлопца пра вучобу ў англійскім каледжы. Ён выйшаў адчыніць багажнік, а вясёлыя Міша і Белы ўжо беглі да нас. Развітваючыся з хлопцам, я спытаў: «А дарэчы, кім ты пасля гэтага каледжа працуеш?» Ён зноў крыху засаромеўся, пачаў правяраць кішэні, быццам нешта важнае згубіў, тут ззаду засігналілі, хлопец пабег да дзвярэй, скокнуў усярэдзіну, шкло апусцілася, машына рванула, пакідаючы за сабой словы: «Настаўнікам геаграфіі!»

Міша з Белым чакалі нас каля дзвюх гадзін. Мы сядзелі пад дубам, глыкалі па крузе з тэрмаса чай і разважалі пра дарогу. Бабуля, што везла іх на «седане», была сумнай і нецікавай, маўчала, а Міша з Белым спалі пад калыханку фартэпіяннай санаты. Затое пасля яны апынуліся ў мінівэне сталай валійскай пары. Тыя іх весялілі. Аказалася, нягледзячы на ўзрост, яны любілі джазавую музыку. Увесь час да Кардзіфа баба спявала валійскія прыпеўкі і круціла дзеду «музычныя» цыгарэты. А дзед смаліў тыя самакруткі, узбуджаўся кожнай зацяжкай, лупіў па вушах Белага і Мішы жартоўнымі прыгодамі са сваёй бурнай маладосці. А баба зрэдку гігікала і прадаўжала спяваць. Паміж сабой яны размаўлялі па-валійску. Міша сказаў, што мова гэтая смешная і падобная да нямецкай, толькі ў ёй яшчэ больш зычных у словах, у некаторых словах ён налічыў збег шасці зычных, таму здавалася, што размоўца вось-вось возьме і выплюне свой язык.

Чакаць Ярыка з Тамашам не было ўжо сэнсу. Тым больш, па нашых прагнозах, мы павінны былі ўжо захапляцца архітэктурай Кардзіфскага замка, а не сядзець пад запыленым дубам. Спыталі ў першага сустрэчнага, у які бок ісці да цэнтра горада, і накіраваліся туды бадзёрым крокам. Не мелі ні карты, ні даведніка, увогуле, нічога, што дапамагло б арыентавацца. Усё, што мы мелі, гэта назвы трох дарог да Рос-он-Уая, запісаныя на кавалку паперы. Ад гэтай адсутнасці якога-небудзь плана мной завалодала дзіўнае пачуццё. Я ўпершыню быў у чужой краіне вось так самастойна, калі сам усё вырашаеш. І гэткія ж былі Міша, Белы і Павел. Мы садзіліся ў машыны да незнаёмых з чужога нам свету вечназялёных газонаў, усмешак, празмернай ветлівасці, чырвонай цэглы і чаю з малаком. На ферме ніхто не ведаў пра наша падарожжа, мы ішлі па невядомым зусім горазе туды, куды нам паказвалі сустрэчныя людзі, усё вырашалася імгненна, і скончыцца гэта магло чым заўгодна. І гэтага «чым заўгодна» было бясконцасць варыянтаў. Я ішоў, у нейкі момант уявіў сабе гэтую невядомасць, што навісла нада мною, і нельга нічога павярнуць, па целе зноў прабегла дзіўная млосная хваля, і закружылася галава.

Доўга блукалі па жылых кварталах, дамы цягнуліся ўздоўж дарог адным суцэльным цагляным будынкам ад скрыжавання да скрыжавання. Мяняліся толькі колер фасадаў і ўваходныя дзверы. Нарэшце дабраліся да цэнтра. Пачалі з'яўляцца паркі з алеямі, што беглі ўдалеч, адміністратыўныя будынкі з адметнай ляпнінай, саборы, пляцы, фантаны. Там мы ўжо ні ў кога не пыталіся, галоўным нашым арыенцірам стала — «во, во, пагналі туды, там, па ходу, крута!» — і дзіўна, што гэткая навігацыя ні разу нас не падводзіла. Мы выйшлі на бераг ракі Таф, праз некалькі хвілінаў вялізнай лятаючай талеркай прызямліўся перад намі стадыён «Міленіум». Як нам і казалі, ён быў велічэзны. Рака агінала яго дугой, здавалася, што ён стаіць проста на рацэ. Убачыўшы побач забягалаўку фаст-фуда, вырашылі перакусіць на лаўках на набярэжнай проста перад стадыёнам. Мы сядзелі, трымаючы на каленях пластмасавыя белыя кантэйнеры, елі традыцыйны фіш-і-чыпс, чайкі абляпілі за намі парапет, пасля асмялелі, скакалі на дошкавую маставую ўсё бліжэй. Мы моўчкі назіралі за жыццём Кардзіфа. Нас здзіўляў не сам горад

з будынкамі, што рвуцца ў неба сотнямі дробных лавак, крамак, якія гандлявалі абы-чым, кавяранек проста на вуліцах, — здзіўлялі людзі. Яны былі абсалютна розныя, і ўсім было без розніцы, што навокал адбываецца. Перад намі прайшла мама гадоў пяцідзесяці з дочкамі-блізнятамі па баках. Дочкі былі мілыя, з белымі бантамі, у прыгожых блакітна-белых школьных формах, круцілі галовамі ва ўсе бакі, амаль павісшы на маміных руках, і спынялі яе каля кожнай крамы. А мама была ў спартыўных шортах і майцы, у кедах, усе рукі ў татуіроўках, вочы ў жоўтай аправе і ярка-ружовы іракез на галаве. І крочыла яна з выглядам, нібы толькі так, а не інакш, павінна выглядаць кожная паважаная маці дзвюх дачок. І ніхто з сустрэчных не азіраўся, не паказваў на яе пальцам, ніхто ўвогуле ні на секунду не затрымаў на ёй вочы. Толькі мы чацвёра застылі з кавалкамі рыбы каля рота, утаропіўшыся на яе. Пасля падышоў да нас бомж, які сядзеў недалёка, адразу спытаў, з якой мы краіны. Відаць, спачатку ён сумняваўся, а калі ўбачыў, як мы глядзелі на маму, што праходзіла міма, зразумеў: мы не мясцовыя. Сам ён аказаўся шатландцам, гаварыў з акцэнтам, яшчэ смяшней, чым валійцы. Папрасіў у нас дробязі, сказаў, што не хапае на «капці». Як высветлілі пасля, «капці» — гэта «*кап оф ці*», ці кубак чаю. Ён быў залішне ветлівы, гаварыў марудна, абдумваў кожную фразу і, нібы патомны арыстакрат, прыкрываў пры кашлі далоняй рот. Таму мы шчыра паверылі, што ён просіць у нас на кубак гарбаты, а не на пляшку. У Кардзіфе ён пяць гадоў. Як апынуўся на вуліцы, не казаў, а мы не пыталіся. Больш за ўсё яго цікавіла, што мы думаем пра фіш-і-чып, ці нам здаецца дзіўнай такая ежа, ці ўмеюць у нас гатаваць мяса ў фрыцюры, а калі гатуюць, то як. Пасля нашых няпэўных тлумачэнняў яго панесла:

— А вось мы, шатландцы, усё смажым у фрыцюры, мы проста самая фрыцюрна-фантастычная нацыя ў свеце. О, так! Мы можам укідаць у алей, які кіпіць, усё, што магчыма. Сур’ёзна! Мы шпурляем туды піцу, цыбулю, грыбы, нават гародніну можам смажыць у фрыцюры. Ды што гародніну! Ёсць у Шатландыі адно месца, дзе нават слодычы смажаць у фрыцюры. Ды бярэш батон і шпурляеш яго туды. Проста супер!

Кардзіфскі замак мы так і не знайшлі. Ціхая вузкая вулачка нас прывяла да ратушы, там мы папрасілі ўсмешлівага кітайца сфатаграфаваць нас на фоне ратушы і працягвалі шпацыр па шырокім цэнтральным праспекце. Неўзабаве апынуліся ў парку, што прымыкаў да праспекта. З зялёных газонаў выраслі мармуровыя скульптуры, шумелі фантаны. Здзіўляла, што людзей у парку было даволі шмат, але лаўкі былі пустыя, усе групамі сядзелі проста на траве, нехта ўвогуле спаў у ценю дрэваў. Паважаны банкаўскі работнік у касцюме і белай кашулі, як зорка, ляжаў на газоне з рукамі пад галавой і моўчкі сузіраў воблакі, што плылі ў небе. Школьніцы гулялі са шчанём, з піскам уцякалі ад яго, а побач маладая пара цалавалася, амаль займалася сексам ва ўсіх на вачах, і проста каля нас дзве бабулі няўмела гулялі ў бадмінтон, чуваць быў дзявочы смех, пахла марыхуанай, але ніхто ні на што не зважаў. Павел запытальна паглядзеў на нас і кажа:

— Калі тут усім усё роўна, то можа і мы памузіцыруем? Ну, глядзіце, калі гэта яшчэ выдасца такая магчымасць: проста ў нацыянальным парку, неда-

лёка ад ратушы, на відавоку натоўпу — там секс, тут бадмінтон, — а вы сядзіце, паглядаеце на гэта ўсё і марудна пацягваеце «Марыю Іванаўну», нікога не саромячыся?

— Пэўна, што ніколі, — з сумам у голасе прамовіў Белы, і мы пачалі ўладкоўвацца на мураве…

Быў вечар, калі мы пацягнуліся ўдоўж жылых дамоў да выезду з горада. Пра тое, што давядзецца дабірацца, невядома як, ніхто нават думаць не хацеў. Мы якраз праходзілі каля прыпынку, калі пад'ехаў аўтобус з надпісам на табло Манмаўт. Мы адразу забыліся пра ўсялякі аўтастоп і пабеглі да яго. Мы спадзяваліся наіўна, што аўтобус, які спыняецца праз кожныя пяць хвілінаў і кружляе па горадзе ўжо з гадзіну, усё ж давязе нас да горада Манмаўта. У выніку на адным прыпынку ўсе людзі выйшлі, а мы працягвалі сядзець, і аказалася, што мы ўжо ў аўтобусным дэпо. Здзіўлены кіроўца падышоў да нас і спытаў:

— Так, ну і хто вы і адкуль?

Мы пачалі тлумачыць пра ферму, пра тое, што мы з іншай краіны, і ўсё, чаго нам трэба, дык гэта дабрацца да Манмаўта. Ад здзіўлення ён зняў акуляры і пачаў іх нервова праціраць.

— Вы праўда думалі, што маглі на гэтым аўтобусе дабрацца да мяжы Уэльса? Вы што, увогуле звіхнуліся?

— Ды ў вас жа сапраўды на табло напісана — Манмаўт.

— Ці мала чаго ў мяне там напісана! Гэта гарадскі аўтобус, а Манмаўт — даволі папулярнае ў Брытаніі слова. Добра, чорт з ім, а як вы тут апынуліся?

— Аўтастопам! — сказаў Міша і паказаў нашы пакамечаныя таблічкі, што тырчэлі ў торбах.

— Ясна, тады зробім так. Заставайцеся тут і не ўздумайце нікуды ўцякаць. Калі трэба будзе, я сам вас паклічу!

Аўтобус зноў паехаў па сваім маршруце, праз паўгадзіны ён быў бітком набіты людзьмі, яны спатыкаліся аб нашыя ранцы, на некаторых нехта стаяў. Мы ехалі па цэнтры, горад зноў прачынаўся для начнога жыцця, п'яная моладзь тулялася па вуліцах, каля кожнага паба стаялі натоўпы. Каля аўтобуса прабягалі фанаты футболу, махалі шалікамі і лупілі ў дзверы. Раптам аўтобус спыніўся на скрыжаванні, гарэла зялёнае святло, ззаду сігналілі машыны, людзі ў аўтобусе пачалі абурацца, крычаць:

— Гэта што яшчэ такое?

Кіроўца выйшаў з кабіны, адчыніў пярэднія дзверы і загадаў нам выходзіць. Літаральна некалькі хвілінаў усё было нармальна, а тут раз — і ты зноў апынаешся ў самай ідыёцкай сітуацыі, праціскаешся пад абстрэлам злосных вачэй да выхаду, пацееш, чырванееш, бурчыш «соры, экск'юз мі, соры», ранец усюды чапляецца, людзі топчуцца па нагах, фыркаюць, варочаюць насамі, быццам у цябе ў руках не ранец, а мяшок з гноем, і аўтобус гэты здаецца бясконцым, а ты ўсё прабіраешся праз гэты людскі натоўп. Апошні раз я адчуваў сябе гэтаксама нязручна, калі ўзарваў у школе петарду, і ў сярэдзіне ўрока ўсе дзверы на паверсе выстралілі, раз'юшаныя на-

стаўнікі беглі да мяне з усіх бакоў, у выніку паўшколы акружыла мяне, а я калаціўся ад страху. Здавалася, усе застылі, толькі каб накінуцца на мяне і разарваць на часткі.

Кіроўца аўтобуса вывеў нас на бойкую пешаходную вуліцу, сказаў ісці па ёй да выезду з горада і галасаваць там каля аўтобуснага прыпынку. Сказаў, што большасць машын па той дарозе едуць у патрэбны нам бок. Мы крыкнулі «сэнк'ю» і пабеглі далей ад аўтобуса, з вокнаў якога глядзелі на нас злосныя пасажыры. Было амаль дзесяць гадзін вечара, а ранкам у шэсць мы павінны былі стаяць у поўнай баявой гатоўнасці перад сваім вагонам і ісці на поле. Мы беглі вуліцай, як раптам з піскам нас акружылі дзяўчаты ў пышных белых сукенках, упрыгожаных бліскучымі стужкамі. Адна з іх была ўся размалявана чорным маркерам, нешта гаварыла, крычала, аж задыхалася ад смеху і піхала ў рукі Беламу гэты чортаў маркер. Гэта была нейкая мясцовая традыцыя, але з якой нагоды, мы не зразумелі. Або дзень нараджэння, або выпускны. П'яныя феі так і кружылі вакол Белага, застыўшага з маркерам у руцэ, і дружна крычалі:

— Хэй, хэй, хэй! — Белы таксама пачаў сутаргава крычаць:

— Чаго ім ад мяне трэба? Што мне рабіць? Я ні чорта не разумею!

Мы спрабавалі выцягнуць яго з гэтага дзікага карагода. Міша крыкнуў:

— Проста напішы ёй усё, што заўгодна і дзе заўгодна, — і яны адстануць!

Белы вывеў на грудзях здзічэлай імянінніцы ці выпускніцы надпіс: «Belarus Minsk 2004», — дзяўчаты як выпарыліся, а мы пабеглі далей.

Пайшоў дождж, каля гадзіны мы стаялі на прыпынку, галасуючы па чарзе. Трое грэліся пад страхой, адзін стаяў каля дарогі і махаў шыльдачкай. Пачыналася паніка. Белы прапанаваў ехаць аўтобусам да горада Ньюпорт, адтуль цягніком ці аўтобусам да Рос-он-Уая. Але мы з Мішам уперліся, як бараны, і ўжо ўдваіх стаялі ля дарогі і актыўна махалі таблічкамі. Нарэшце машына затармазіла. Хлопец, што ў ёй сядзеў, сказаў, што едзе ў бок Ньюпорта, я пачаў прасіцца, каб забраў нас усіх, пачаў даставаць грошы, але ён замахаў рукамі і сказаў, што возьме толькі дваіх. Мы з Паўлам заскочылі ў машыну.

Хлопец быў сур'ёзна падпіты, часта шмыгаў носам, гаварыў хутка, torгаўся, калі яго машыну абганялі. Свой стан тлумачыў тым, што колькі хвілінаў таму заспеў сваю дзяўчыну ў бары з іншым кавалерам, які лапаў яе за грудзі на вачах у сяброў і самога нашага вадзілы. Ён там учыніў драку, паламаў некалькі крэслаў і збег. Куды цяпер ехаў, не казаў. Але праз нейкі час ён супакоіўся, пачаў распытваць пра Еўропу і чаму мы вырашылі наведаць менавіта Кардзіф. Пасля прыдумваў усялякія фантастычныя гісторыі пра тое, што актор Дэні Дайер, які іграў галоўную ролю Мофа ў фільме «У адрыў», аказваецца, яго лепшы сябра, і яны часта завісаюць з ім у пабах, дзе без праблемаў можна сустрэць і іншых акцёраў з гэтага фільма. Ён параіў нам паглядзець фільм «Горад-блізнюк», падзеі якога таксама адбываюцца ў Кардзіфе. Ён вёз нас па нейкіх лакальных дарогах, баяўся выязджаць на M4,

таму што ўночы там шмат паліцэйскіх патрулёў. Высадзіў недалёка ад Ньюпорта каля выезду на M4.

Нас падабрала сямейная пара сярэдняга ўзросту, вярталіся яны дамоў з вандроўкі, дзе адпачывалі з сябрамі тры дні ў намётах пры вогнішчах, плавалі на байдарках. Жанчына частавала нас чаем з тэрмаса і пячэннем, што засталося ад вандроўкі. Яна так нам спачувала, што пачала ўгаворваць мужа зрабіць добры крук і давезці нас проста да Рос-он-Уая. Але ў стомленых вачах мужа праплывалі мары пра гарачы душ, мяккую пасцель і моцны сон.

Усё вырашылася само сабой. Толькі мы выехалі на чатырыста сорак дзявятую, як святло фараў уперлася ў дзве фігуры, якія ледзь стаялі на нагах і махалі шыльдачкай на выцягнутых руках. Так, як і ранкам, Павел закрычаў: «Стоп, стоп, тармазі», — я ніяк не мог паверыць у гэты відзеж, але перад намі сапраўды стаялі Белы і Міша. Як ні дзіўна, гэтай сустрэчы найболей усцешыліся тыя, хто нас падвозіў. Муж, бо можна было, не сварачыся з жонкай, спакойна ехаць дамоў, а жонка пляскала ў далоні, назіраючы, як мы, нібы дзеці, скакалі ад шчасця каля машыны.

У Кардзіфе Міша з Белым напароліся на чарговага меламана, які спачатку ледзь не збіў іх, тармозячы каля прыпынку. Ён выглядаў, як амерыканскі гангстар з кліпаў па MTV, на чорнай спартыўнай машыне, абвешаны залатымі пярсцёнкамі і ланцугамі. Як толькі яны селі, ён пачаў расказваць, што ён не проста меламан, а яшчэ і «прадзюсіруе» даволі прыстойнымі партыямі і, у адрозненне ад нашага Джэйсана, зарабляе на гэтым вар'яцкія грошы. І нібы ў доказ сваіх словаў ён спыніўся на скрыжаванні, рвануў спрытным рухам руль, за якім у яго быў тайнік, дастаў адтуль пакет музыкальнага зелля і са словамі «забівай» кінуў яго на калені Мішу. Ён вазіў іх па цэнтры Ньюпорта, паказваў розныя легендарныя, з яго словаў, месцы. Паводзіў сябе вельмі дэманстратыўна, уключаў музыку на поўную, апускаў усе шыбы, рытмічна дрыгаў у такт музыкі стрыжанай галавой і дэманстратыўна круціў у роце скручаную Мішам папяросу. Самалюбаванне проста зашкальвала ў кожным яго руху, а мараль усіх яго дзеянняў была відавочнай з першых словаў:

— Я самы круты!

Мішу з Белым пачынаў раздражняць увесь гэты пафас, ды, нягледзячы на ўсё, гангстар давёз іх да чатырыста сорак дзявятай, хоць гэта было не па дарозе.

Машыны ўжо праязджалі рэдка, было за поўнач, цьмянае святло ліхтара асвячала невялікі адрэзак дарогі і знікала ў змроку якраз каля лесу. Мы падалі з ног ад стомы, нешта нядобрае адбывалася з гравітацыяй, сырая зямля адхону здавалася мяккай пярынай і магнітам прыцягвала ўніз. Вырашылі галасаваць па двух, змяняліся праз дваццаць хвілінаў: Міша з Белым махаюць таблічкамі — мы з Паўлам спім на схіле, і наадварот. Пасля ўжо ўсе чацвёра ляжалі ўдоўж дарогі, выцягнуўшы ў неба сціснутыя ў кулакі рукі з адтапыранымі вялікімі пальцамі. Я прачнуўся ад выцця рухавіка і асляпляльнага святла, Міша трос мяне за плечы, я рэзка ўскочыў, схапіў заплечнік і пабег за імі. Каля дарогі стаяла вялізная фура, і мы па чарзе ў ёй зніклі. Кіроўца

згадзіўся ўзяць нас усіх, і ехаў ён проста да Рос-он-Уая. У той момант пра такую ўдачу можна было толькі марыць. Міша сеў побач з кіроўцам, а мы ўсе заскочылі ў яго спальны адсек. За рулём быў сівы англійскі дзядок, здавалася, што ён каля месяца не бачыў людзей і ні з кім не размаўляў. У яго не хапала пары пярэдніх зубоў, гаварыў ён хутка, шапялявіў, таму я не разабраў ні слова. Шкада было Мішы, ён усімі намаганнямі стараўся не заплюшчваць вочы, ківаць і падтакваць дзядулю, але праз колькі хвілінаў ужо не ківаў, а кляваў носам, сон зацягваў у густую пастку. Грузавік пачынала трэсці, Міша нібы вынырваў аднекуль і зноў падтакваў дзеду. А той і не заўважаў, захоплены сваімі дарожнымі байкамі. Зрэдку мы па чарзе штурхалі Мішава сядзенне, каб ён не спаў. Але рабіць гэта было немагчыма, пасля халоднага ўзбочча ложак грузавіка здаваўся самым эрганамічным з усіх ложкаў, на якіх я спаў.

Ранкам я прачнуўся не ад шыпення яечні, а ад грукату ва ўваходныя дзверы. Увесь вагон троссе, нехта так лупіў у дзверы, што яны гатовы былі зляцець з петляў. Лупіла супервайзер Анна, чырвоная ад злосці. На вуліцы ўжо пятнаццаць хвілінаў уся ферма чакала толькі нас. Апранаючыся на хаду, мы куляй вылецелі з вагона, нас перад усімі зганьбілі, і мы пацягнуліся на поле ў хвасце нашай калоны. Адразу дамовіліся з Джэйсанам, які ўсё разумеў, што будзем працаваць на яго тэрыторыі. Першая палова дня прайшла, як у тумане, перад вачамі фрагментамі праплывалі валійскія пейзажы, дарога, небаскробы Кардзіфа і твары мінакоў. Я ледзь рухаўся ўдоўж градкі, усё здавалася сонным і вялым. Сонныя ягады ляніва звісалі з сонных кустоў, побач капаліся сонныя Міша і Белы, час нібы спыніўся, мы марылі толькі, каб дажыць да абеда. Нарэшце зазвінела доўгачаканая сірэна. Усе табуном выбягалі з поля, а нам было цяжка нават падняцца. Мы выцягнуліся проста ўдоўж градкаў пад палаючым сонцам і задрамалі. Тут кусты трускалак зашапацелі, заскочылі Тамаш з Ярыкам, пачалі нас тармасіць і амаль за рукі выцягнулі на паляну, дзе ўсе абедалі. Там нас чакаў Павел. Мы селі ў кола, Тамаш з Ярыкам частавалі нас сэндвічамі і, перабіваючы адзін другога, пачалі расказваць пра свой аўтастоп.

**П**рацуе шафёрам-дальнабойшчыкам у Злучаных Штатах. Нарадзіўся ў 1985 г. у Гродне, дзе скончыў сярэднюю школу. Вучыўся ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Піша прозу.





ВАЛЯНЦІН ДУБАТОЎКА

## Іосіф

*Апавяданне*

На пачатку васьмідзясятых я працаваў на пасадзе навуковага супрацоўніка ў гарадзенскім музеі. Усё як звычайна: экскурсіі, даследаванні, праца над экспазіцыяй. Карацей, звычайная руціна, як у любой тагачаснай савецкай установе. І тут мяне, праз тэлефон напалоханай да смерці дырэктаркі музея, выклікалі ў Міністэрства культуры. Пасля нядоўгага інструктажу ў аднаго з намеснікаў міністра мне было прадпісана на працягу двух летніх месяцаў праехаць па Гарадзенскай і Віцебскай абласцях, выяўляючы ў зачыненых касцёлах, цэрквах і сінагогах культавыя рэчы, што мелі гістарычна-культурную каштоўнасць.

Для выканання такога адказнага задання адміністрацыя музея вылучыла мне адзінае сваё аўто «Масквіч-412» ды яшчэ з шафёрам. У апошнюю пятніцу траўня як мае быць былі арганізаваныя провады, а з ранку ў панядзелак наш невялікі экіпаж рушыў у дарогу. Цягам некалькіх тыдняў мы праехалі Гарадзенскую і Віцебскую вобласці ўздоўж і ўпоперак. Сабралі шмат цікавых экспанатаў, якія ў кузаве нашага легкавіка былі завезеныя ў Гародню, дзе прайшлі больш глыбокае вывучэнне і склалі ў далейшым асноўную частку экспазіцыі нашага музея. Толькі Богу вядома, на што даводзілася ісці, шукаючы ў паўразбураных касцёлах і цэрквах абразы, вырабы рэлігійнага побыту і кнігі. І хоць у сённяшнім друку шмат хто абзывае нас ледзь не зладзеямі і ашуканцамі, менавіта дзякуючы тагачаснай працы музейшчыкаў удалося зберагчы, а потым і належна захаваць вялікую колькасць гістарычных каштоўнасцяў, шмат якіх было перададзена на пачатку дзевяностых назад, у тыя самыя, але ужо адноўленыя, касцёлы ды цэрквы.

Шмат чаго мне тады давялося пачуць і пабачыць на свае вочы. Гэта і выдатная архітэктура храмаў, і дарагія ў простым і пераносным сэнсе абразы ды рэчы, а яшчэ безліч гісторый і легенд, якія спрадвеку суправаджаюць старажытныя храмы Беларусі. Некаторыя показкі забыліся, але адну сапраўдную гісторыю я памятаю так, нібыта пачуў яе толькі сёння.

Праехаўшы на нашым музейным «каблуку» («Масквіч-412» з кузавам) не адну сотню кіламетраў па захадзе Беларусі, мы апынуліся ў Глыбоцкім раёне. Добра памалаціўшы азадкі па калдобінах і дарожных камянях, заехалі ў малую вёску, дзе акруглую заасфальтаваную плошчу ўпрыгожваў ахайны даволі высокі каменны касцёл, каля якога раслі стройныя, як дзяўчаты, пірамідальныя таполі. Я прапанаваў нашаму шафёру прыпыніцца пад узгаданымі дрэвамі і нарэшце адпачыць ды папалуднаваць. Шафёр задаў віраж і прыпыніўся ў цяньку. Пакуль кіроўца рыхтаваў палудзень, я пайшоў агледзець касцёл. Святыня была добра дагледжаная, пафарбаваная, парамантаваная. Дзівячыся на касцёл, я злавіў сябе на думцы: «У такім невялічкім населеным

пункце, дзе ўсяго некалькі хат, такі шыкоўны храм». Падышоў бліжэй. Усё выглядала выдатна: пафарбаваныя дзверы, шкляныя вокны, прыбраны дзяцінец. Убачыўшы нейкага сталага мужчыну, што абкошваў траву вакол храма, я накіраваўся да яго.

— Добры дзень!

— Добры дзень! — Павітаўшыся, чалавек адарваўся ад сваёй працы і абапёрся на цаўё касы.

— Я займаюся даследаваннямі храмаў на Глыбоччыне, але пра ваш касцёл ніколі нічога не чуў.

Стомлены касец паклаў касу, падышоў да таполі, дастаў з-пад скошанай травы бутэльку нейкай вадкасці і прапанаваў мне. Пітво было даволі халодным і смачным.

— Дзякуй.

— Вы не спяшайцеся мне яе аддаваць, — звярнуўся да мяне немалады чалавек. — Расповед будзе доўгім, і вы яшчэ не раз захочаце піць…

Касцёл тут не зачыняўся ніколі, хоць парафіян у яго ва ўсе часы было не дужа багата. Храм наведвалі акрамя мясцовых яшчэ і жыхары ваколіц. Вайна вёску, а з ёй і касцёл, амаль што не закранула. Напрыканцы вайны немцы разам са сваімі служкамі пакінулі вёску хутка, як толькі пачулі, што каля Глыбокага з'явіліся савецкія войскі. Якраз у гэты час мясцовы ксёндз недзе згінуў. Ці ён адышоў разам з немцамі, ці яго застрэлілі саветы, ніхто ў ваколіцах дакладна не ведаў. Пакінутым храмам стаў апекавацца вартаўнік — хлопец год дваццаці. Хударлявы, высокі, няўклюдны маладзён быў трошкі хворы на галаву. Кажуць, што да вайны яго неаднойчы спрабавалі лячыць, але нічога з таго не атрымалася, і, улічваючы яго абсалютную няшкоднасць, тубыльцы пакінулі яго пры вясковым касцёле. Так ён стаў вартаўніком і заадно служкам у ксяндза. А калі ў Іосіфа, а менавіта так звалі хлопца, памерла маці, то ксёндз прытуліў яго ў сябе. Іосіф жыў пры ім і застаўся жыць пры бажніцы, калі святара ўжо не стала.

Вайна скончылася, у вёсцы, як і па ўсёй Заходняй Беларусі, пачалі ўладкоўвацца калгасы. А Іосіф, як і раней, кожны ранак і кожны вечар адчыняў касцёл, запальваў свечкі і біў у звон. Аднавяскоўцы, перапалоханыя саветамі, у храм тады амаль не хадзілі. А Іосіф усё роўна штораніцы і ўвечары працягваў рабіць усё як след: запальваў свечкі і бомкаў, бомкаў у звон.

Людзі пакрысе, адзін за адным, пачалі ізноў вяртацца да храма. А па выходных касцёл сталі наведваць ужо не толькі мясцовыя, але і вернікі з наваколля. Дзейсны вясковы касцёл пачаў злаваць мясцовых кіраўнікоў. Нарэшце, неяк пад восень, улады вырашылі яго зачыніць.

Адной цёплай вераснёўскай раніцай сялян абудзіў звон вясковага касцёла. Звон быў не звычайны — ён біў бясконца, ні на хвіліну не змаўкаючы. З усяго наваколля збягаліся да свайго храма людзі. А тут ужо з самай раніцы віжавалі мясцовыя бязбожнікі і раённыя камсамольцы, выносячы з касцёла абразы і рознае касцельнае дабро. Запалоханы народ толькі ледзь чутна перашэптваўся. На прыступках, як шайтан з цыгарэткаю на губах, стаяў мяс-

цовы бальшавіцкі актывіст. Аддаючы загады камсамольцам, сабраным амаль з усяе Глыбоччыны, ён, не баючыся, вёў рабаванне храма. Але і яго, відаць, вельмі моцна турбаваў звон, які бясконца малаціў на вежы, склікаючы да храма ўсё больш і больш народу.

Нарэшце бальшавік не вытрымаў:

— Здыміце вы адтуль гэтага ненармальнага!

Камсамольцы як быццам толькі такога загаду і чакалі. Імгненна кінуліся на званіцу. І ўжо праз некалькі хвілінаў звон пачаў азывацца праз раз. А яшчэ праз хвіліну са званіцы разам з ударамі звона пачуўся крык і плач Іосіфа. Па натоўпе пакацілася хваля абурэння. Бальшавік задраў галаву і, перакрыкваючы гоман, крыкнуў тым, хто спрабаваў цягнуць уніз вартаўніка:

— Ды закрыйце вы гэтаму прыдурку рот!

Жанчыны, якія сабраліся каля храма, пачалі плакаць, мужчыны — услых чытаць малітву. Бальшавік плюнуў і сам накіраваўся на званіцу. Яшчэ хвіліна, і звон усё ж такі замоўк. Але плач Іосіфа пачаў гучаць над наваколлем яшчэ мацней, чым той самы касцельны звон…

І раптам людзі жахнуліся: са званіцы на касцельныя прыступкі, расправіўшы рукі, ляцеў Іосіф. Цела апусцілася на зямлю, як стомлены ад палёту голуб. Хвіліннае маўчанне, якое наступіла пасля смерці няшчаснага, перарваў крык вяскоўцаў. Пасля некалькіх хвілінаў людскога гневу каля касцёла не засталося ні вазоў з коньмі, ні камсамольцаў. І ўсё касцельнае дабро ізноў вярнулася на свае месцы. Нават бальшавік так перапалохаўся, што дома не начаваў некалькі дзён запар, а калі неўзабаве пасля ўзгаданых вышэй падзеяў згарэла яго хата, няўдалы камандзір і наогул з'ехаў з вёскі…

У тыя часы ў гарадах вялікіх і малых адзін за адным зачыняліся і бурыліся храмы, але гэты касцёл пасля тых падзей ніхто нават і не спрабаваў калі-небудзь зачыніць.

Калі касец скончыў свой аповед, я спытаў у яго, а дзе пахавалі Іосіфа. Ён крыху падумаў, а потым паціснуў плячыма і яшчэ праз хвіліну адказаў:

— Дзе яго пахавалі — не ведаю. Але ж помнік яму — вось. — Ён паказаў рукой у бок храма. Пасля ён папрасіў у нас прабачэння і зноў, намянціўшы касу, узяўся за працу.

Я абышоў храм, папалуднаваў пад таполяй і рушыў у дарогу. Шмат часу мінула, і толькі адно пытанне раз за разам паўстае ў маёй галаве: «Як шмат здольны зрабіць адзін чалавек, хаця б і коштам свайго жыцця»…






**Н**арадзіўся ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. З'яўляецца кіраўніком малога прадпрыемства «Вітаўт». Выдаў кнігу гістарычных нарысаў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў», кнігу прозы «Чорная Воля». Жыве ў Горадні.

АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

## Шчонаўскія абразкі

***У кожнай вёсцы, ды і ў кожнай сям'і, знойдзецца нямала гісторый, сумных і смешных, але заўсёды цікавых для людзей неабыякавых, што хочуць ведаць пра мінулае, пра тое, чым жылі людзі раней. Гэтыя гісторыі знікаюць, нібы пясок, што сыплецца з далоняў часу. Вось жа і аўтарцы гэтых абразкоў захацелася выхапіць хоць некалькі іскрыстых крупінак, каб не зніклі пад нагамі ў таго, хто ніколі не спыняецца, каб не спльла з вадою нашае маленькае рачулкі Зямчаткі ў нікуды жывая гісторыя мае роднае вёскі Шчонава, што ў Карэліцкім раёне.***

### «Я ж табе гэту дзеўку ў рыжуй сукенцы вывяду!»

Праца, цяжкая вясковая праца. Да знямогі. Асабліва летам. Палоць, жаць, лён рваць, касіць, сушыць, стагі класці… А яшчэ ж чорная, страшная — торф капаць. Я ўжо такое і не застала. Катаржная. Не іначай. Капалі той торф ля Дубровы, за чатыры кіламетры. З ног падалі. Гэтак стамляліся. Здавалася, дахаты б хутчэй, каб адпачыць, выспацца. Але вярталіся шчонаўскія дзяўчаты вечарам, неяк абмывалі з сябе бруд (лазняў ні ў кога не было). Вадзіца ажыўляла, здымала стому. І маладосць брала сваё. Збіраліся каля Пасэсаравага гумна і заводзілі песню. Любімаю была пра «дзевушку Тамару», «эту дзевушку в шэрэнькам плацье, эту дзеву Тамару-красу».

А песню пачуўшы, хлопцы падыходзілі. І дзе ўжо тут пра сон думаць? Кароткая летняя ночка мінала як адно імгненне…

А назаўтра ранкам цётка Ганна Пасэсарава, маючы нескончоныя клопаты па гаспадарцы, на кухні, мусіла па некалькі разоў бегчы да таго гумна, каб падняць дзяўчат на працу. Будзячы-недабудзячыся сваю Ніну і яе сябровак, якія і начаваць заставаліся ў тым гумне, быццам у дзявочым інтэрнаце, куды хлопцы ніколі не дапускаліся, злавалася, прыгаворваючы: «Я ж табе гэту дзеўку ў рыжуй сукенцы вывяду!»

А назаўтра паўтаралася тое ж…

### За першую палучку

Ніна Пасэсарава вельмі хацела вучыцца. Да навукі здольная была. Але не было як, бо вучылі старэйшую, Люню. Таму і працаваць мусіла з ранніх гадоў. Як усе дзяўчаты ў Шчонаве. А якая праца ў вёсцы? У калгасе. На лёне, які трэба было і палоць, і рваць, і падымаць, і трапаць. Верхняга адзення ў дзяўчыны не было ніякага, апроч куфайкі. З абутку — боты керзавыя. Як падумаю пра такія строі дзяўчыны на выданні, горка, балюча становіцца. Які ж гэта здзек з маладосці, з красы дзявочай. Як жа хацелася Ніне справіць плюшавік! І як бы пасавала ёй тая чорная бліскучая абнова. Была спраўная,

харошая, што па-шчонаўску — поўная. Валасы мела гэткія ж, чорныя, густыя, доўгія. Толькі б дачакацца першае палучкі!

Была ў іх радзіне далёкая сваячка Альжбетка. Адзінокая, незамужняя. За палякамі служыла ў пана ў Дорагаве. Была працавітай, ашчаднай. То іназбірала залатовак, адзення сабе ў апошнюю дарогу. А пасля 39-га году, калі паноў прагналі, жыла ў сям'і зводнае сястры Таццянкі, маці Уладка Пасэсаравага. Не аднойчы дапамаглі сям'і тыя яе залатоўкі. Калі Уладка ў гады вайны забіралі ў абоз па загадзе бурмістра з Навагрудка, выкупіла, хату будавалі — дапамагла. На старасці моцна і доўга хварэла, у бальніцы ляжала. Там і памерла. І па законах павінна была хаваць яе дзяржава, бо кроўных сваякоў ніякіх не мела. Але жонка Уладка Ганна Пасэсарава сказала: «Ня буду браць грэх на душу. Самі пахаваям». Прывезлі Альжбетку, каб у апошнюю дарогу сабраць. І тое яе адзенне дасталі. А ляжала яно ў куфры на гарышчы, які нікому адкрываць не дазвалялася. А як адкрылі, жахнуліся: усё з'едзена моллю, растраслося на пацяруху. Ды такое ж усё багатае, харошае было. Што ж рабіць? У хаце галеча, ні грошай, ні якога матэрыялу, каб сукенку пашыць…

І якраз тады атрымала іх дачка Ніна сваю першую палучку, за якую марыла справіць сабе плюшавік. Пашкадавала яна бедную Альжбетку. Купіла ў Райцаўскай краме ўсё патрэбнае, сабралі пакутніцу ў апошні шлях не горш як усе людзі…

Абноўку сабе Ніна ўсё ж справіла. Праз год. Ды ўжо і не плюшавік, а прыгожае паліто, якое доўга-доўга насіла. «Бог мяне пашкадаваў. Прэмію за лён далі», — згадвае яна сёння з мілай усмешкай. Ведае, што дабро заўсёды мусіць вярнуцца да чалавека.

**«Бог усё ведая!»**

Волька Барэйчыха — гарушчая ўдава. Яе Міхалко памёр у 1941 годзе. І таму ніяк не магла яна быць «законнаю» ўдавою, як большасць шчонаўскіх кабет таго часу, чые мужыкі не вярнуліся з вайны. А гэта азначала, што ніякое, нат самае мізэрнае дапамогі ад нашае «гуманнае» ўлады мець не магла, бо муж не за перамогу загінуў. Гаравала, не раз галадала з дзецьмі, працавала цяжка-цяжка. Як усе ўдовы. Доўга пасля вайны не магла ўзбіцца хоць на які абутак. Хадзіла ў халодны час у адным атопку ад Алёшавага (старэйшага сына) бота і абрэзаным, каб хоць роўнымі былі, гумовіку. А ўжо калі матэрыял які на сукенку купляла, то старалася спадцішка добра расцягнуць яго, каб спраўдзіць, ці моцны, ці не парвецца. Каб доўга насіўся — асноўны крытэр якасці.

Прыйшла яна аднойчы да суседкі, што праз балота жыла. Зусім гэта і не балота было, а роўны зялёны луг, паша для кароў, коней, авечак. Не было ў Шчонаве слова «луг» у вядомым значэнні. Толькі той, якім валасы мылі. А ў суседкі — поўныя ночвы апенек з варанчанскага лесу. І так захацелася Вольцы тых грыбоў! Але вядомы сюжэт з беларускае нашаніўскае класікі пра пяць лыжак заціркі не паўтарыўся. Хоць трагізмам, як у Змітрака Бядулі, ён

бы не набрыняў, бо, як казала пасля Волька ўнучцы, колькі ёй тых грыбоў трэба было б, ну са жменю якую, а ў іх жа цэлыя ночвы. І глядзела на ласунак зразумелым позіркам, і хваліла, і распытала, што будуць з імі рабіць, але суседка «не зразумела», што так абыходзіць беднай Барэйчысе. Але гонару гарушчая ўдава не страціла: не папрасіла. Ішла дахаты пакрыўджаная і абражаная «нездагадліваю» скупою кабетаю. «І такая крыўда мяне ўзяла, так мне кепско было, што, здэцца, свет нямілы. Адно ж бачу: на купіне сярод балота — апенькі. Далібог, не было іх, як туды ішла. Гэто Божанька мне іх паслаў (яшчэ адзін падкарэктаваны класічны сюжэт), бо бачыў, як мне грыбоў захацеласё. Бог усё ведая!»

Гэты аповед унучка чула неаднойчы. І заўсёды радавалася разам з бабуляю. І хоць была ўжо «акцябронкам», але верыла: «Бог усё ведая!»

**«Уставай, праклята!..»**

Не адна Волька Барэйчыха была ўдавою гарушчаю. Такою ж была і Марыля Світкава, удава Гіля Сідара. Багаццем, якога ніколі ім, бедным кабетам, не хапала, былі дровы. У Марылі яны ніколі не гарэлі. Нагаруецца, пакуль у печы распаліць. Мокрыя. А чым распальвала? Не было каму накалоць ёй сухенькіх смалячкоў, якімі звычайна ў гаспадарскіх шчонаўскіх печах дровы распальвалі. Паперы ж тады не было. А калі і распаліць, то патухнуць. Так і мэнчылася. Смяяліся з яе шчырае крыўды і няведання «законаў гарэння»: «У людзей поўная печ дроваў і ўсе гараць, а ў мяне два палены, ды і тыя гарэць не хочуць».

Прачнулася яна аднойчы ранкам (напярэдадні якраз радыё ў хаты шчанаўцоў правялі) і чуе, як з прыёмніка заспявалі: «Уставай, праклята, закляймёна!..» Што там далей спявалі, не так і цікава. Бо пачатак у самае сэрца трапіў. «Гэто ж якраз пра мяне. Гэто ж я і праклята, і закляймёна», — дзялілася пасля незвычайнаю навінаю са сваімі суседкамі. А пагаварыць вельмі любіла. У яе пrасторнай хаце знаходзілі сабе прытулак хутаранскія дзяўчаты. На вячоркі збіраліся. Марыля сыходзіла з дому да якое суседкі, то была ім вольная вольніца.

І загінула, гарушчая, ратуючы свой нажытак. Загарэлася яе хата. Ад коміна — так у Шчонаве казалі, калі пажар узнікаў з-за таго, што ў доўга не чышчаным коміне загаралася сажа. А на гары ж лён ляжаў. Кінулася яна ў агонь, каб ратаваць той лён. І яе ўжо адратаваць не змаглі. Абгарэла ўся. Такая страшная смерць.

А праз некалькі тыдняў пахавалі побач з маці і яе сына Валодзю. Гэтую гісторыю ўпершыню пачула ад свае дзядзінай, Марылінай дачкі Ніны, якая і мянушку маці атрымала — Світкава. На могілках, калі яна стаяла ля магілаў сваіх маці і брата. Брат дабіраўся на хаўтуры па маці з Баранавічаў, дзе мусіў зарабляць сабе на жыццё. Ніякі транспарт у тыя часы не хадзіў. На якойсьці падводзе даехаў, а пасля ішоў пехам. І меў з сабою нейкія грошы. Праходзіў паўз тых ямаў дуброўскіх, дзе торф капалі. Так і не дайшоў.

Шукалі яго. Знайшлі толькі праз два тыдні. У тых чорных ямах. Пакваліўся нехта на няшчасныя капейкі беднага хлопца. Забойцу не знайшлі. Ды ніхто асабліва і не шукаў…

Было гэта ці не адзінае ў Шчонаве забойства за ўсе пасляваенныя гады. Аж да навейшага часу…

**Гаіста**

Ганна Паўлючыха была кабетаю моцнаю, жылістаю, працавітаю. Удава па загубленым праз палітыку ў трыццатыя гады Паўлюку Гілю. Ён быў «граматным». Звязаўся з савецкім падполлем, за шчаслівае жыццё і вызваленне Заходняй Беларусі змагаўся. Неаднойчы катаваны ў пастарунках, неаднойчы сядзеў у турмах. Расказваў, як здзекаваліся. Мне малой, а ўжо гэта былі аповеды ад ягоных слухачоў, ніяк не быў зразумелы адзін з відаў таго катавання: прывязваюць чалавека да стула, каб не схіліўся, а на галаву вада зверху, з вышыні па кроплі капае. І так да страты прытомнасці.

Змардаваны, хворы вяртаўся Паўлюк з турмы. А пасля ізноў за палітыку браўся. Але не быў жалезным камуністам. Вырашыў аднойчы: досыць. Не за сябе, казаў, вырашыў, а за дзяцей. Хто маіх дзяцей гадаваць будзе?

Але «сябры»-падпольшчыкі гэтай «здрады» не даравалі. Перастрэлі ў лесе і так збілі, што ў хуткім часе памёр Паўлюк. «Печане адбілі», — такім было заключэнне шчонаўскіх «экспертаў».

Засталася Паўлючыха з трыма хлопцамі. Заўсёдныя нястачы, відаць, і зрабілі яе не проста ашчаднай, а сквапнай. Асабліва здзіўляў мяне доказ гэтае сквапнасці: запалкі яна на чатыры часткі раскалвала. Не на дзве, што было агульнапрынятым у бедных шчанаўцоў, а на ўсе чатыры. Гэта ўжо занадта! Во жадная! А мяне дзівіць іншае: якія ж гэта запалкі тады былі! Сёння пры ўсёй ахвоце, якая горш за няволю, ніякі запалак нават на дзве часткі не раскалеш. А калі раптам раскалоў бы які народны ўмелец, то запаліў бы наўрад ці…

І нядобразычлівай (мякка кажучы), сварліваю, нягоднаю Паўлючыха таксама была. За вочы яе называлі Гаістаю. Мая мама, шчонаўская настаўніца, ніяк не магла дайсці да этымалогіі гэтае мянушкі. І што ў ёй такое крыўднае? Тлумачылі: бо злая, гадкая, таму і Гаістая. Не, не прымала мама такую версію. Дапамагла гісторыя, крыніца з'яўлення гэтага «неалагізму». Даведалася, што так яе «граматны» Паўлюк называў. «Эгаістка, так ён казаў?» — здагадаўшыся, перапытала мама сваю свякроўку, Паўлючышыну залвіцу. «Ну і я ж так кажу: Гаістая». Так шчонаўцы на свой лад падкарэктавалі тое «граматнае» слова, якое ўсё жыццё суправаджала Ганну Паўлючыху.

**Пранікі**

Ну, не казалі ніколі ў маім Шчонаве *пернікі,* а толькі *пранікі.* То і пішу так, па-шчонаўску. (Гэта я да кніжных філолагаў, якія, моваю па-за аўдыторыямі асабліва і не карыстаючыся, любяць такія «памылкі» вывуджваць.)

Канец пяцідзясятых. Каб аддзячыць за пашытую кашулю партнісе Фані Лысішынай, брыгадзір Коля Барэйко мусіць завезці яе на кані ў Навагрудак па шафу. Няблізкі свет. Даехалі, купілі. Паўдня мінула. Есці захацелі. А грошай мелі лічаныя капейкі, бо ў калгасе за працадні працавалі. З сабою Фаня ўзяла малака ў бутэльцы, якую закаркавала газетаю. Нат і хлеба не было. Купілі яны на тыя капейкі пранікаў. Па два з паловай выйшла. З'елі. Як і не елі. «Каб хоць калі-небудзь гэтых пранікаў ды колькі хочаш наесціся!» — кажа брыгадзір Коля з такою тугою, не верачы асабліва, што час такі можа прыйсці.

**«Каця-пастушка»**

Гэта была ўлюбёная песня шчанаўцоў часу майго дзяцінства. Яе спявалі на кожнай вясёлай вясковай бяседзе: на вяселлях, хрэсьбінах. Спявалі па некалькі разоў. Мы, малыя шчонаўкі, бегаючы пад вокнамі, не маглі дачакацца, калі нарэшце гэтую песню зацягнуць.

Што вабіла ў ёй маленькіх дзяўчынак? Незвычайныя падзеі ў незвычайным асяроддзі, прыгожыя гарадскія строі («*цёмна-сіні касцюм*» і «*шаль галубая*»), трагічнае каханне, здрада, крывавая помста…

Сёння ігнараваны раней жанр — жорсткі гарадскі раманс пачынае даследавацца навукоўцамі. Неаднойчы даводзілася чытаць артыкулы на гэтую тэму. Аказваецца, сюжэт пра Кацю-пастушку, створаны ў гарадскім асяроддзі, быў вельмі папулярны ў многіх мясцовасцях Беларусі. Перабраўшыся ў вёску, знайшоўшы тут і таленавітых выканаўцаў, і ўдзячных слухачоў, займеў ён розныя варыянты.

Аднойчы на хрэсьбінах у Лысішыных, яшчэ ў старой хаце (хрысцілі Вову), нешта вельмі доўга не спявалі нашу любімую. Вось ужо і зацягнуць зараз. А тут выходзіць мама і пасылае мяне дахаты з нейкаю патрэбаю. У такіх выпадках сяброўкі не павінны былі пакінуць адну. Але ніхто не захацеў са мною бегчы, бо ўсе чакалі «Кацю-пастушку». Вось тады я ўпершыню зразумела, якое яно, жаночае сяброўства. Бегла лятом дахаты, назад. Здалёку пачула ўжо апошні куплет. Але якім было маё шчасце, калі песню ў хуткім часе заспявалі ізноў:

Па дзярэўне хадзіла за стадам авец
Дзерэвенская Каця-пастушка.
Панаравілся ей чэрнабровый Андрэй,
Чэрнабровый красівый Андрушка…

**«Я — маленькая дзевачка...»**

Гэтую жанчыну, а звалі яе Волька, ніхто за вочы не называў па імені. Толькі па мянушцы — Труска. Была яна адзінокаю. Ніколі не мела сям'і. Як да роднага ставілася да пляменніка Валодзі Сяннічка, сына свайго брата. Памятаю, як на Спаса (а гэта было наша парафіяльнае свята), калі амаль у кожнай хаце госці, яна праводзіла сваіх. І не адпускала. Казала, як паедзеце, то пад калёсы лягу. На конях тады ў госці ездзілі. Так хацела, каб яшчэ засталіся.

Ад адзіноты размаўляла сама з сабою. Перамаўляліся пра тое суседкі, крыху падсмейваючыся, крыху шкадуючы самотную кабету.

Вось жа, на навагоднім ранішніку, а гэта было свята для ўсёй вёскі, калі самы вялікі школьны пакой быў бітком набіты шчанаўцамі featured рознага веку, Дзед Мароз (не Святы Мікола), раздаўшы падарункі школьнікам і малым дзецям, прапаноўваў прачытаць верш каму са старэйшых. І за гэта таксама даваўся падарунак. Цукеркі і пячэнікі ў мяшэчках, сшытых са школьнае паперы ў лінеечку або ў клетачку, з намаляванаю навагодняю ёлкаю. Цукеркі тады былі — ого! — якім ласункам! І не адна бабуля хацела б той падарунак атрымаць. Каб пасля, зразумела, тым жа ўнукам і пааддаваць іх. Але неяк сорамна было. Перад усёй вёскаю ды на тыя цукеркі паквапіцца. Абгавораць жа! Яшчэ як!

А Труска выходзіла. І чытала вершык:

Я — маленькая дзевачка.
Я ў школу не хаджу.
Дайце мне падарачак,
Спасіба вам скажу.

Другі радок мог вар'іравацца: «*Я Леніна люблю*». Зусім не таму, што была ў нашай вёсцы нейкая асаблівая любоў (ці ўвогуле любоў) да малодшага класіка марксізму-ленінізму. А таму, што яны проста былі, гэтыя леніны, усюды, у такой колькасці мазолілі вочы з партрэтаў, кнігаў, кінафільмаў, што маленькія дзеці, якія толькі пачыналі гаварыць, ужо пазнавалі Леніна. А яна ж, гэтая Волька Труска, і сапраўды ў тую хвіліну была «*маленькай дзевачкай*».

Як зараз бачу: бярэ яна той «*падарачак*» спрацаванымі старэчымі рукамі, прыціскае да грудзей. Ідзе з нейкаю крыху сарамліваю, але ўсё ж шчасліваю ўсмешкаю кудысьці да самае сцяны. Ведаючы напэўна, што будзе за гэты вершык абгавораная да костачак.

**Зефір**

Крамы ў Шчонаве не было. З'явілася толькі напрыканцы 60-х. Спачатку ў хаце Федзі Валадзенькавага, прадавачкай была ягоная жонка Тоня, а пасля і асобны будынак пабудавалі, цагляны, недалёка ад рэчкі.

А было гэта яшчэ да сваёй крамы. Жанчыны невялікім гуртам пайшлі ў Райцу. Купілі хто што хацеў. Ідуць назад. Алена Лукошкава нясе ў руках чатыры зефірыны. Мае чатырох дачушак. Усім па адным прысмаку. Глядзіць

яна на той зефір і не вытрымлівае. З'ядае адну. І кажа: «У мяне ж чатыры дзеўкі. Як я тры зефірыны на чатыры падзялю? Трэба яшчэ адну з'есці». Але што тыя дзве з'етыя смакоцці? Хіба ж здаволішся? Яшчэ больш захацелася Алене зефіру. Узяла і яшчэ адну з'ела: «Нічога, адну прынясу, хопіць пакаштаваць». Нясе ў руках апошнюю, глядзіць на яе і супакойвае сваё мацярынскае пачуццё: «Што ім, чатыром, гэтая адна зефірына? Нават і не разломіш. Ніякі і не наядак». І з'ела апошнюю…

Але нічога, дачушкі на Алену ніколі не крыўдавалі. Вельмі любілі і шанавалі сваю матулю.

Было гэта на маіх вачох. Ішла з мамаю. Вечарам яна пераказвала тое бацьку. І са смуткам казала: «Няўжо не магла Алена купіць таго зефіру, каб і самой пакаштаваць, і дочкам данесці?» Мусіць жа, не магла, бо якія грошы ў калгасе плацілі. А іх яшчэ трэба было «на кніжку» класці. А пасля ўсе гэтыя «кніжкі», такою катаржнаю працаю сабраныя, і пагарэлі…

А краму ў Шчонаве ўжо зачынілі. Прыехаў бульдозер, выкапаў яму, зруйнаваў будынак, а друз закапаў. Як і не было. І ходзяць зараз апошнія шчонаўцы да аўталаўкі, якая прыязджае двойчы на тыдзень.

**Два і яшчэ адзін**

Валадзенько (адна з формаў імені Уладзімір, якіх у Шчонаве было багата: Валодзя, Уладак, Владак, Уладзік, Уладзё, Ладусь, Ладысь і пазнейшае Вова) быў гаспадаром ганаровым. Жыў на хутары асобна, на шляху між Шчонавам і іншымі хутарамі, што нібы вёска выглядалі. Сад меў багаты, дзе раслі незвычайна салодкія грушы-цукроўкі і вялікія бэры. Яблыкі ў Маскву вазіў прадаваць. Капейку выручаў неблагую. Недарэмна ж такую харошую хату свайму Федзьку ў Шчонаве выстраіў. А пры весніцах — вялікая гарабіна, якая радавала вока і ў часе вясновай квецені, і восенню, уся чырвоная ад гронкаў. Нейкая надта ж ураджайная была. Казалі, што тыя ягады гаспадар таксама збіраў і здаваў кудысьці.

Мелі падазрэнне шчонаўцы, што не выгаворвае ён гук *р*. Але ніяк тое спраўдзіць не ўдавалася. Бо заўсёды ўнікаў словаў з гэтым гукам. Мова ж наша багатая. Навошта казаць *дарога*, калі можна *шлях*, навошта *добры*, калі — *лагодны*, *роўны* — *гладкі* і г. д.

Вось вырашылі мужчыны Валадзенька ўсё ж падлавіць. У нейкіх калгасных рахунках была лічба тры. А ён пры якойсьці невысокай, але ўсё ж пасадзе знаходзіўся. То і пытае ў яго брыгадзір, каб тое *р* з ягоных вуснаў нарэшце пачуць: «Колькі… (не памятаю ўжо чаго) прывезлі?» А ў адказ Валадзенько разважліва, як і заўсёды, кажа: «Два і яшчэ адзін»…

**«Ізноў гэты Дуст балуецца...».**

Вельмі часта электрычнасць у Шчонаве, а правялі яе ў шасцідзясятыя гады, прападала. Тады гаспадыні даставалі газоўкі, якія не паспяшаліся выкідаць, калі запаліліся ў хатах «лямпачкі Ільіча». Бо запас бяды не чыніць. Часам святло вярталася праз дзень, праз два. А калі і ў той жа дзень. Такімі вечарамі вельмі цікава было назіраць, як прабягаюць па хаце дзівосныя светлыя промні-цені ад аўтамабільных фараў. Хоць зрэдку, але ўсё ж ездзілі па нашых вулках машыны. Грузавікі. А яшчэ цікава было запалкі паліць. Гэта калі мамы не было дома. Так, каб згарэлі цалкам. Трэба было пераняць згарэлы канец мокрымі пальцамі…

У суседнім Хвалаве жыў хлопец Валодзя Цярэшка. Мянушка ягоная — Дуст. Меў адносіны да тае электрычнасці. І прызнаўся аднойчы, што спецыяльна, каб пасваволіць, выключае святло. А мо каб уладу сваю паказаць: во што я магу! Такі сабе валадар святла ў шчонаўскіх ваколіцах. І з таго часу, калі знікала электрычнасць, у шчонаўскіх хатах чулася: «Ізноў гэты Дуст балуецца». Хоць, зразумела, далёка не заўсёды прычынаю былі ягоныя свавольствы.

**«Гэты калгас багаты»**

Абрэвіятуры, складанаскарочаныя словы, не заўсёды дарэчныя, пачалі актыўна ўваходзіць у жыццё шчанаўцоў. Мала хто, праўда, ведаў, як правільна іх расшыфраваць. То і прыдумвалі свае тлумачэнні. Такі своеасаблівы від народнай творчасці.

На кожным грузавіку побач з лічбамі былі яшчэ і літары: ГКБ або ГКА. Што яны азначалі, і сёння дакладна не ведаю. Вось жа, дадумаліся шчонаўскія дзяўчынкі, што ГКБ — «Гэты калгас багаты». Бо тое ГКБ было напісана на машыне Валодзі Пэкара. А ён жа багаты гаспадар. І калі з’яўлялася ў вёсцы машына з гэтымі літарамі, было ганарова той малой шчонаўцы, да чыйго двара яна прыходзіла.

А ГКА азначала «Гэты калгас адсталы». То і павагі такі аўтамабіль і ягоны кіроўца мець сярод дзявочага гурту не мог.

Багацце ў шчанаўцоў было ў пашане…

**Абаранак — качарга**

Тыя калгасныя грузавікі ўсе былі аднолькавыя. Адрознівалі іх толькі па нумарах. І таму шчонаўскім кабетам было вельмі цікава, як старая непісьменная Марыля Сцяпаніха пазнае аўтамабіль мужа свае ўнучкі Віталя Зайкі з Райцы. Толькі пад’едзе, шафёра яшчэ не відаць, а яна ўжо ведае, што гэта ягоная машына: «Галінін Віталь паехаў». І калі стаіць некалькі, таксама беспамылкова яе вылічыць.

Аднойчы ўсё ж дапыталі яе, раскрыла сакрэт бабуля. «У яго ж на боку два разы абаранак — качарга намаляваныя», — адказала старая і паказала нумар на борце: 07–07.

**«Бпела-румяна»**

Надзя Адамавічава з хутаранскага Кліна — дзяўчына на выданні. Вось і завіталі ў іх хату сваты з далёкае вёскі. Але папераздзе кожнай падзеі заўсёды ішла вестка. Покуль даехалі тыя жаданыя госці да іх хаты, перадалі нейкія дабрадзеі пра сватоў Ганне Юлькавай, каб пайшла, паведаміла.

А было тое на пачатку восені. Надта слівы ў тым годзе ўрадзілі. У хаце ўсё імі заслана: і на стале, і на лавах, і на падлозе ў куце, і на печы і ў печы сушацца. Як пачула старая пра сватоў, забегала, завохкала: як жа тых сватоў, так жаданых і такіх зараз нечаканых, прыняць, дзе іх пасадзіць-частаваць? Усё ж у слівах. «Бярыце дзяругу, зграбайце слівы і выносьце ў каморку. Халера іх ня возьме», — падказала цёця Ганна і пачала дапамагаць. Надзя ж не меншы клопат мела: як прыбрацца, каб паказаць сябе. Была дзяўчынай не надта выразнай. Але ў ход пайшлі «Сняжынка» (крэм такі для твару адбельваючы быў у тым часе ў шчонаўскіх модніцаў), шмінка чырвоная, якою і шчокі падмалявала, чорны аловак…

З светлай усмешкай неаднойчы гаварыла пасля старая Адамавічыха: «Гляджу я на сваю Надзю, а яна сядзіць харошая, бпела-румяна…» Менавіта так і выгаворвала той гук, між звонкім *б* і глухім *п*. Таксама з усмешкай, але ўжо зусім іншай, пераказвала тыя падзеі дасціпная Ганна Юлькава, дакладна капіруючы тое «бпела-румяна»…

А тыя залёты аказаліся ўдалымі. Напачатку прымак, пазней Іван Ракач паставіў новую хату. Сёння ж, калі не засталося на хутарах ні аднаго шчонаўца, маладыя з'ехалі ў розных напрамках, старыя выправіліся ў апошні прытулак на самай вялікай шчонаўскай гары, ён — адзіны і апошні сталы жыхар усіх трох хутаранскіх ваколіц: Бягельні, Коньдзеўкі і Кліна.

**Харошыя дзеўкі і харашухі**

Для азначэння вышэйшай якасці ў Шчонаве карысталіся словамі «харошы», «файны». Ніколі чамусьці не казалі «прыгожы». А што самае прыгожае ў кожнай ваколіцы? Зразумела ж, дзявочая краса. Слова «дзяўчына» таксама не ўжывалі. Толькі «дзеўка», а ў множным ліку яшчэ і «дзяўке» можна было пачуць.

Якія ж прыгожыя былі ў нас дзяўчаты! Высокія, станістыя, доўгавалосыя. Тварыкі як на карцінах. Але і між іх былі прыгажуні з прыгажуняў. З старэйшых вылучаліся Ніна і Люня Пасэсаравы, Ганна Юлькава, Надзя Петрукова, Анюта Валадзенькава, з маладзейшых — Галіна Абрамовічава, Люда і Рэня Адамовічавы. Мне ж найбольш падабаліся дзве хутаранскія красуні Маруся Тунікава і Анюта Міхасёва. Не ведала тады, хто і чые яны, бо мне незразумела было, навошта гэта ведаць. «Харошыя дзеўкі» — была самая дакладная інфармацыя. Яны былі суседкамі, напэўна, сябравалі.

Аднойчы прыйшлі да бацькі ў нейкай патрэбе. А яго дома не было. То наказалі: перадай, што мы прыходзілі. Так і перадала вечарам: «Да Вас прыходзілі харошыя дзеўкі». «Хто?» — перапытвае. Ніяк яму растлумачыць

не магла, хоць і апісвала старанна іх партрэты: адна чорная, другая белая, абедзве з доўгімі валасамі. І сама не разумела, як гэта ён не ведае, хто ў Шчонаве харошыя дзеўкі.

А яшчэ было рэдка ўжывальнае і крыху загадкавае для мяне слова «харашуха», якое мною ўспрымалася як уласная назва. Мама ім часам карысталася. Спытала ў яе, хто гэтая Харашуха. Патлумачыла, што гэта і ёсць прыгожая дзяўчына. І прыклады прывяла: «Раней харашухаю была наша суседка цёця Фаня Сцяпанава, цяпер Зіна Парасчына, а як вырасцеш, то ты будзеш»…

**Ціпуля**

Старэйшая дачка Алёшы Канцавога, якога ўсе клікалі Адосем, Ніна выйшла замуж у Малюшычы. Кіламетраў са тры ад Шчонава. Яе сястра Тамара пабыла ў Ніны з тыдзень і вярнулася адтуль гарадскою. Па-руску пачала гаварыць. Не ў Шчонаве ж усе гэтыя дні жыла!

Шчонаўскі зух, жартаўнік Коля Трахімаў, разумеючы, што ад Тамарынае мовы рускай і не пахне, вырашыў вывесці «гарадскую» на чыстую ваду. Наладзіў ёй іспыт пры ўсёй вясковай дзетвары:

— Тамара, а як будзе па-руску *цыбуля*?

— Ціпуля, — з гонарам адказала «руская» Тамара.

Смех быў ёй адзнакай.

У шведскім Visby ад эстонскай пісьменніцы Кадры пачула, што па-эстонску цыбуля гучыць *сібуль*, пры гэтым звонкае *б* заўважна аглушаецца. Не ведала Тамара Адосева, што адказала ўсё ж не па-беларуску, а ледзьве не па-эстонску.

**Кукольнікі**

Так называлі ў Шчонаве валачобнікаў.

Увесь той дзень — Вялікдзень — быў у вёсцы сапраўды святам з святаў. У кожнай хаце абавязковыя фарбаваныя (валачоныя) яйкі, смачныя-смачныя булкі і варанае мяса з самаробным хрэнам, белым або падфарбаваным бурачным сокам. «Хадзі, дам табе валачонае», — так кожная гаспадыня запрашала суседскіх дзяцей на пачастунак.

У маёй памяці Вялікдзень застаўся яшчэ зафарбаваным далікатным фіялкавым колерам, бо якраз тады расцвіталі ў недалёкіх Захомах гэтыя мілыя першыя кветкі. І шчонаўскія дзяўчынкі беглі ў лес, каб прынесці дахаты прыгожы букецік.

Да многіх прыязджалі госці, у чыёй-небудзь хаце ладзілі танцы.

А заключным акордам свята якраз і былі кукольнікі. Як я іх чакала! Уяўляліся нейкімі незвычайнымі казкавымі персанажамі, якія прыйдуць аднекуль з цемры пад наша вакно. І будзе адбывацца штосьці цудоўнае.

Але так ніколі не дачакалася. Бацька, які шчыра прыняў новую веру — камуністычную ідэю, мусіў выяўляць і ваяўнічы атэізм. І вясковыя кукольнікі баяліся спяваць ля брыгадзіравай хаты.

Думаю зараз: мо і добра, што не дачакалася. Бо не былі тыя спевы такімі цудоўнымі, якімі іх малявала маё дзіцячае ўяўленне…

**Шчонава — мая калыханка**

Чаму не калыска? Не толькі таму, што калысак тых процьма («Постмадэрнізм — калыска мая»), а таму, што самае светлае ў той калысцы якраз калыханка, якую хто толькі не спяваў мне: мама з самай вялікай любоўю; нянька Маня Прымачышына, спадзяюся, таксама не без пяшчоты; бабуля Маня, якая з’яўлялася ў нас са свайго далёкага ляснога Антанёва па важнай справе — спарадкаваць свежаніну і заўсёды варыла чырвоны густы журавінавы кісель; бабуля Волька, што прыходзіла з сваіх хутароў адведаць першую ўнучку; маміна сяброўка, суседка цёця Фаня Сцяпанава, якая заўсёды любіла мяне, і гэта не без шчырае ўзаемнасці; і мой старэйшы, ужо дарослы, трохгадовы брат Колік, сэрцайка якога разрывалася ад шкадавання, і ён адчайна прасіў-прыгаворваў: «Алачка-дзевачка, ні плач! Алачка-дзевачка, ні плач!», а пасля сам пачынаў плакаць ад бездапаможнасці і ўжо не проста калыхаў, а з усяе моцы шугаў лёгкую, нібы арэлі, калыску, каб аднойчы выкуліць тую Алачку-дзевачку з усімі яе немаўлячымі строямі.

Засынаць пад шчонаўскія шлягеры тае пары («Кацю-пастушку», «Ёлачку», «Біла мяне маці» і інш) і вечныя ў нашым Краі: «Люлі-люлі-люлі, пайшоў кот па дулі…» было такой асалодай, адмовіцца ад якое па сваёй волі не хацеў ніхто. Таму і змагалася паўтарагадовая Ала за сваё права засынаць пад спевы калыханкі, калі з’явіўся больш законны прэтэндэнт на калыску — брацік Валер. Карысталася з таго, што ён пастаяць за сябе не мог, і крычала: «Мяне, мяне!», што азначала: мяне пакласці ў калыску першай. Рады іншае, як толькі класці абодвух, не было, бо Ала паказвала характар, выхоўваючы цвёрдасць, ад якое ўсё жыццё імкнецца пазбавіцца.

Валера ўжо калыхала цёця Ганна, якая застанецца нашай няняй назаўсёды. Яе прывозілі з хутароў кожны будзённы дзень, бо дэкрэтны адпачынак быў вельмі мізэрным, а мама, настаўніца, павінна была ісці вучыць дзяцей. А часам цёця Ганна і сама прыходзіла, хоць заміж аднае нагі пратэз мела…

З’яўляецца неяк цёця Ганна да нас пасля нядзелькі, а мама ёй з страхам кажа: «Што ўчора было, Ганначка! Ала праснулася і стала Валерку на твар. Добра, што заплакаў і я пачула…» Але гэтую навіну цёця Ганна ўспрыняла зусім спакойна: «Была б бяда, каб Валер на Алін твар стаў. Колькі тае Алы!» А і праўда. Ала была тоненькая, як звіхлячок, лёгкая, як пярынка, а Валер, няўрокам кажучы, добра вагу набіраў, паесці любіў, гурманскія схільнасці з калыскі ў сабе выхоўваў. Еў, спаў, прыбываў. Толькі б суха было. Макрэчы не выносіў. Калі нарадзіўся ў мяне сыночак, цёця Ганна шчыра пажадала, каб быў ён у мяне такі ўдалы, як у яе Валерко калісьці: еў, спаў, прыбываў.

Вось жа стаць на Алін лялечны тварык ён ніяк не змог бы, каб і хацеў, бо доўга ножкі хадзіць не жадалі. Вельмі рана гаварыць пачаў. Б’е па нагах і кажа: «Крывулі, чаму ні ходзіця?» А ўжо калі пайшоў, то адразу і панёс усё, што ні давалі. Аднойчы бацька прынёс пуд цукру (хіба на працадні выдалі).

Даў Валеру, і той перанёс праз хату. І на біс гэты нумар юны асілак неаднойчы выконваў. Але прыйшла цёця Ганна, убачыла і катэгарычна забараніла: «Што гэто вы ўздумалі: дзіцяці гэдакі цяжар даваць!»

Сёння нямодна і, сцвярджаюць, не карысна калыхаць немаўлятак, якіх ужо і не спавіваюць. І калыханкі мала хто ім спявае. Няўжо нашы продкі менеи разумелі?..



**Н**арадзілася ў 1960 г. у вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыла беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, працавала ў вясковых школах. Закончыла аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН, у 1993 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Паэзія Дануты Бічэль-Загнетавай. Праблема лірычнага героя». Працуе дацэнтам на кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Асноўныя напрамкі навуковых даследаванняў: «Беларуская літаратура нашаніўскай пары», «Літаратура Гродзеншчыны», «Творчасць пісьменнікаў беларускага замежжа». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.



## ВІКТАР САЗОНАЎ

## Небяспечны дзень

«Лепш бы я пайшоў з ранку ў калгас на працу», — падумаў Пятро Місюкевіч, пасля таго як убачыў праз вакно сваю жонку, якая з заклапочаным, як у курыцы-квактухі, выглядам куляй ляцела дахаты. Пятро ў гэты момант гатовы быў пабажыцца, што яго другая палова, з якой ён ў сварках і ўзаемных прэтэнзіях, што называецца душа ў душу, пражыў дваццаць сем гадоў чатыры месяцы і дзве з паловай гадзіны, ускочыць у хату відавочна не з пяшчотнымі словамі кахання.

— Чаго рассеўся, лабідуда? — запішчала тая яшчэ з надворку, нават не бачачы, у якой позе зараз знаходзіцца цела бацькі яе дзяцей. — Усе людцы як людцы, даўно на працы, цягнуць набытае да хаткі, як мурашачкі, а табе яшчэ дзень не надышоў, — не супакойвалася яна, ужо ўскочыўшы ў хату.

— А сёння дзень цяжкі, — парыраваў яе нападкі Пятро. — Шаптуха, што каля Багданава жыве, казала, што сёння лепш з хаты не выходзіць. Небяспечна для здароўя і нават для жыцця.

— Хай бы яна гэта нашай свінні сказала, — жонка кінула такі гнеўны позірк на галоўнага ў сям'і, што той мала не самлеў. — Бо нашая свіння на гукі паднялася, зараза. Паламала ўсю загародку, хутка дзверы ў хляве высадзіць. Калі не знайсці ёй парсюка, то да вечара ўвесь хлеў разнясе.

— Ну то не бяда, — пачаў супакойваццa Пятро, уцяміўшы, што жончына злосць з-за свінні, а не з таго, што ён учора засядзеўся за пляшкай добрага першака ў мясцовай самагоншчыцы Аліны. — Свінні пару знайсці проста. Каго прывядзеш — той і добры. Што ні парсюк — то і муж. Гэта не для вас, баб, што каго ні падсунь, усякага зганьбіце. У Семярніках ёсць добры племянны кнур у Вярбіцкага. Зараз справу аформім.

Пятро пазычыў у суседа матацыкл з люлькай, разам з ім выцягнулі з хлява свінню, упхнулі яе ў люльку і моцна прывязалі. А каб не змясіла нагамі шлем, адзелі яго жывёліне на галаву.

Праз нейкі час Місюкевіч рушыў у дарогу. Свіння сядзела ціха. Не брыкалася. І нават шлем не спрабавала скінуць. Хіба з таго, што такі спосаб перамяшчэння яна ўспрыняла за факт, што і яе сталі лічыць чалавекам. А можа, проста ведала, куды яе вязуць. У самак на гэта своеасаблівы нюх і інтуіцыя, якія цалкам адсутнічаюць у іх тупагаловых самцоў.

Дарога была недалёкая, і ніякіх клопатаў не павінна было ўзнікнуць. Але першая ж машына, якая ехала насустрач, на вачах Місюкевіча зляцела ў роў. Пятро хацеў стаць і памагчы. Але калі другая машына звярнула ў бок і рэзнулася ў першую, вырашыў: хай самі разбіраюцца, калі ездзіць не ўмеюць, на роўным месцы разбіліся. Праз нейкі час з дарогі сігануў у кусты сустрэчны матацыкл. А пасля яшчэ дзве машыны адна за другой гахнуліся ў слуп і

дрэва. «Трэба ехаць асцярожна, — падумалася Місюкевічу. — Вельмі небяспечны выдаўся дзень».

У гэты дзень інспектар ДАІ Іван Пракопчык быў у такой разгубленасці, якой не было за трыццаць год яго міліцэйскай службы. Калі на месцы першай аварыі збянтэжаныя шафёры расказалі, што насустрач ім ехаў нейкі вар'ят на матацыкле і вёз у люльцы свінню ў шлеме, і з тае прычыны, заглядзеўшыся на гэтае дзіва, яны і з'ехалі з дарогі, той падумаў: «Чаго толькі людзі не прыдумаюць, каб атрымаць страхоўку і пазбегнуць адказнасці». Калі падрапаны, як пасля бойкі з дзеўкамі, матацыкліст сцвярджаў тое самае, міліцыянт западозрыў, што ў раёне з'явіўся новы гатунак самагону, які выклікае назаўтра ў розных людзей адзін і той жа глюкавы прывід. Ну а калі пабітыя ў сінія яблыкі два наступныя пацярпелыя настойвалі менавіта на гэтай версіі, капітан ДАІ насамрэч яўна ўбачыў перад сваімі вачамі заўтрашнія падзеі: як яго ганебна выганяюць з работы, калі на стол начальства ён пакладзе рапарт з апісаннем дарожна-транспартных аварый з удзелам свінні на матацыкле.

У такім задуменні ён рушыў на сваім матацыкле ў Ашмяны, з недаверам узіраючыся на люльку і разважаючы, як там можна размясціць свінню. А Пеця Місюкевіч ужо вяртаўся назад вельмі задаволены, што ўдалося ўсё, што планаваў, і вёз у люльцы таксама вельмі задаволеную свінню. Інспектар ДАІ краем вока заўважыў на дарозе нешта нязвыклае. Яго позірк міжволі ўпёрыўся ў свінню ў шлеме. Пракопчык аж падняўся ў поўны рост на ножках матацыкла і, размінаючыся з нязвыклым удзельнікам дарожна-транспартнага руху, развярнуў тулава на 180 градусаў. А праз хвіліну яго матацыкл так рэзнуўся ў слуп, што аж люлька ад яго адляцела і яшчэ метраў дзесяць кацілася ў поле, апярэджваючы міліцыянта, які, мацюкаючыся, рабіў тое ж самае.

— Адчыняй, старая, хлеў, хутка будуць парасяты, — заязджаючы ў падворак, з такім гонарам заявіў Пятро, нібыта ў тым факце была яго заслуга, а не кнура.

— Ідзі паеш, — адказала жонка, якая бліжэй да вечара заўсёды рабілася больш лагоднай. — Як дзень прайшоў?

— У мяне — дзякуй Богу. Але шаптуха мела рацыю. Вельмі было сёння небяспечна. Пакуль я ехаў, безліч аварыяў здарылася. Прама на маіх вачах. Нават наш інспектар разбіўся на матоцыку. Халера іх бяры, гэтых шаптух. Скуль яны ўсё ведаюць?

## Пакуты творчасці

Сымон заўсёды лічыў сябе чалавекам сціплым. Нават больш сціплым, чым свежанькі нябожчык з сям'і інтэлігентаў у сёмым калене. Мабыць, большасць людзей планеты з назвай «Зямля» таксама залічваюць сябе ў неверагодна кароткі спіс сціплых людзей, пры гэтым публічна сцвярджаючы, што яны валодаюць абедзвюма важнымі для чалавека якасцямі — вялікай сціп-

ласцю і яшчэ большым розумам. Але тое не пра Сымона. Гэны яшчэ ў школе, нават калі добра ведаў адказ на зададзенае пытанне, ніколі не падымаў руку, каб не дай Бог не палічылі яго выскачкам і нахабнікам. Яго сціпласць ні хвіліны не драмала і пры неабходнасці, у змаганні з кволымі праявамі нахабства ў свайго гаспадара, клікала на дапамогу сумленне, сорам і ўсе іншыя праявы душы, якія лічыла сваімі хаўруснікамі. Сымон быў перакананы, што гэтая якасць яго натуры, з задаткамі якой ён нарадзіўся на сваю бяду і якую пасьпяхова памножылі і ўмацавалі сярэдняя школа, прыгодніцкія кнігі, а асабліва бацькі, бо лічылі сціпласць гэткай жа абавязковай рысай чалавека, як дыплом пра вышэйшую адукацыю ці насоўка ў левай кішэні пінжака, у многім яму перашкаджае рэалізоўваць задумы і планы. І ўсё роўна мала калі адважваўся пахваліць сябе на людзях, нават калі гэта было неабходна для кар'еры. Але калі рэдактар яго першай кніжкі кінуў на стол перад носам Сымона дзясятак новенькіх экзэмпляраў, якія пахлі свежымі друкарскімі фарбамі і на вокладцы якіх стаялі Сымонавы імя і прозвішча, нос сам палез угору вышэй столі, а цёмныя сілы сталі бесперашкодна перапаўняць ужо безабароннае сэрца гордасцю за сябе любімага.

Сымон быў на сёмым небе ад шчасця. І яшчэ вышэй. Туды і ракеты не далятаюць. Нарэшце яму ёсць чым даказаць, у першую чаргу сабе самому, а яшчэ і іншым, што яго жыццё праходзіць не так ужо марна і бессэнсоўна, як можа падацца недасведчанаму воку. Непрыяцелі і зламыснікі цяперака заткнуцца, як труба пад вадой, а прыяцелі і добразычліўцы павар'яцеюць ад шчасця і гонару за свайго знаёмага. Асабліва хацелася пахваліцца перад роднымі і сябрамі, аж у носе круціла, як у сабакі пасля махоркі. Ён нават уяўляў, як радня цэлы тыдзень стараецца дазваніцца яму, каб павіншаваць, але тэлефонная лінія безнадзейна занятая з-за перагрузак. Гэтак шмат людзей будуць дамагацца размовы з ім. А сябры і знаёмыя з гарэлкай ды добрай закускай выстраяцца ў калону перад яго канторай, як жабракі за хлебам, каб набыць хоць адну кнігу на пяцёх з неўміручым аўтографам знаёмага аўтара, які вось-вось, неўзабаве, стане жывым класікам айчыннай прозы, ну і яшчэ каб выпіць з тым класікам кілішак добрага шатландскага віскара за яго творчыя поспехі.

Ну а сям'я! Гэтая тэма вартая асаблівай увагі. На этапе абдумвання моманту прэзентацыі кнігі перад сям'ёй сілы антысціплавага лагеру, якія яшчэ раней авалодалі сэрцам і розумам Сымона, акрамя ганарлівасці пасяліўшы туды яшчэ пыху і самаўзвялічванне, пачалі дабірацца і да душы. У Сымона ажно спіна выпрасталася нібы дзіда, а круглы жывот уцягнуўся ўсярэдзіну і аж прыліп да хрыбетніка ад уяўлення, якім урачыстым будзе з'яўленне вынікаў яго творчасці ў роднай хаце. Нарэшце яго жонка зразумее, што доўгімі вечарамі яе муж не займаецца, як яна думала дагэтуль, інтэнсіўным масавым паглынаннем піва ва ўсіх кнайпах, якія яму трапляюцца па дарозе з працы дахаты. Не губляе час на пустыя размовы з такімі ж піякамі, як сам. А рупліва і самаахвярна кладзе свае гадзіны і здароўе на ніву развіцця бессмяротнай беларускай літаратурнай творчасці, гэтак патрэбнай нашчадкам і асабліва

сучаснікам. Цяпер яна будзе ганарыцца сваім абраннікам і ніколі больш не асмеліцца спытацца: «Дзе ты, валацуга, зноў цягаўся да паўночы?» Бо зразумее, што яе муж кожную вольную ад зарабляння сродкаў хвілінку прысвячае яе вялікасці Творчасці, а не нейкім там прыземленым жывёльным жаданням выпіць усё піва роднага горада і прылеглых да яго тэрыторый.

У гэтым месцы роздуму Сымонава сумленне пачало нашэптваць, што не ўсё так ёсць, як яму хочацца паказаць. Асабліва з тым півам і сябрамі. Жонка, мабыць, мае трошкі рацыі. Перабольшвае, канечне, як і ўсе жанчыны, але ж не на пустым месцы. І нейкі мізэрны шанец быць пачутым і пастарацца перамагчы самаўзвялічванне сумленне мела. Але вокладка кніжкі! Вокладка, на якой стаяла імя і прозвішча Сымона! Такое кожнаму мазгі завярнуць можа. Лепш не размаўляць з сумленнем нейкі час. А то нагаворыць пра цябе яшчэ чаго, сон прапасці можа. Лепш памарыць, як прывітаюць пісьменніка дзеці.

А што дзеці? Дзеці яшчэ больш заганарацца бацькам, чым жонка мужам. Яны будуць хваліцца перад аднакласнікамі і цытаваць фразы з яго твора. Стануць яшчэ больш шанаваць і паважаць Сымона. Аўтарытэт бацькі ў іх вачах падымецца да недасягальнасці, і нават дарослыя, яны будуць звяртацца да яго з парадамі як да мудрага чалавека, які ведаў, што яму трэба было рабіць у жыцці. Яны, хаця б яны, ягоныя дзеці, паставяць для сябе імя бацькі побач з Купалам, Коласам, Караткевічам, Адамовічам, Быкавым…

З гэтымі салодкімі роздумамі і бачаннямі бліжэйшай і далейшай будучыні таксі прывезла самазадаволенага аўтара пад пад'езд яго дома. «Шкада, што зараз ноч, — падумаў Сымон. — Усе спяць. Нічога. Дзеля такой падзеі падымуцца».

Ён паважнай хадой увайшоў у хату і ільвіным рыкам разбудзіў сям'ю:

— Пад'ём! Хуценька ўсе да мяне. Важная навіна.

Сонныя дзеці і жонка незадаволена падпарадкаваліся загаду. Але па іх тварах было бачна, што, калі навіна будзе не такая ўжо важная, то з іх боку на вінаватага ў парушэнні сну не выключана атака з прымяненнем зубоў і кіпцюроў.

— Вось, калі ласка, мае кнігі, — з бліскучымі ад гонару вачамі прадэкламаваў Сымон, сунуўшы кожнаму з сонных слухачоў па экзэмпляру. — Прама зараз налягаць на чытанне неабавязкова. Не спяшайцеся. Лепей дачакацца раніцы. На свежыя мазгі будзе лепш чытацца.

Жонка пазяхнула, паглядзела на кнігу і паставіла яе на паліцу. Ля кута. Там, дзе звычайна стаяць кніжкі, якія або маюць кепскі выгляд, або якіх ніхто не збіраецца чытаць. Пасля салодка пацягнулася і, ні слова не сказаўшы, накіравалася ў спальню.

— Бацька, ты здурнеў, ці што? — вяла прабубнелі дзеці, таксама сунучыся да ложка. — Заўтра ў школу, а ты пабудзіў усіх сярод ночы. Ты ведаеш, якая цяжкая цяпер школьная праграма? Нам бы тое, што ў школе патрабуюць, здужаць. А кніжку гэтую нам у школе не задавалі. Няма калі нам на абы-што губляць час. Мы яшчэ па школьнай праграме «Людзі на балоце» не дачыталі.

## Бабулін шаптун

— Схадзіў бы ты, унучак, да шаптухі, — папрасіла Петруся бабка Ганна такім жаласлівым голасам, нібыта пасылала па папа, каб апошні раз расказаць тое, што ўсё жыццё хавала ад бацькоў, мужа, дзяцей. — Зусім мяне схапіла нейкая трасца, дыхнуць не магу. Хіба не дажыву да заўтра. Злётай ты, унучак, да той, што карову летась на ногі падняла. Карове памагла, то, можа, і мне лягчэй зробіць. З Гарэцкаўшчыны — тая хоць і бліжэй, але ж шмат бярэ, зараза. А толку з яе, як з казла малака. Вунь Грышчышыных цялят замаўляла пасля Пасхі, дык падохлі ўсе. А грошы ўсёдно ўзяла. Ты лепш да каменскай шаптухі на ровары з'ездзжай, хай вады якой загаворыць. Тая, байкі, шмат не бярэ і лечыць добра. На, вазьмі рубель. Хопіць ёй і гэтага.

— Добра, з'езджу, — лянiва адказаў Пятрусь. Хоць і не хацеў ехаць, але ж ведаў, што ўсё роўна прымусяць. А вечарам вернецца дахаты бацька ды дзяжкі ўсыпе за непаслушэнства, як не падпарадкуецца зараз. Узяў ён бабулін рубель і праз сілу, як баран на бойню, закруціў педалямі ў бок Каменкі.

— Я хутка прыеду, — тлумачыў ён невялічкім групкам дзяцей, што ішлі хто на возера купацца, хто за вёску пагуляць, спадзеючыся, што нехта адгукнецца і паедзе разам з ім. Не так сумна будзе ў дарозе. Але дзеці не звярталі на яго ўвагі і займаліся кожны сваім. Толькі Толік, трошкі старэйшы суседскі хлопец, як убачыў у руках Петруся рубель, так і падскочыў, нібы яму крапівы ў трусы насунулі.

— Стой, Пецька, ты куды? — кінуўся ён наперарэз старэнькаму ровару.

— Ай, — уздыхнуў той. — Бабуля ў Каменку паслала, да шаптухі. Хоча, каб тая вады якой замовіла. Кажа, што памірае.

— Ну дык пара ўжо ёй, — заінтрыгаваўся сітуацыяй Толік. — Колькі ж можна жыць. Гэтыя старыя дурнеюць з гадамі. Ёй ужо ўсёдно нічога не дапаможа. Толькі грошы змарнуе. Што, цэлы рубель дала шаптусе аддаць?!

— Ага.

— І што, ты, як той дурань, аддасі яго той чорнай цётцы за бутэльку вады?!

— А што рабіць?

— Слухай мяне, — Толік стаў азірацца па баках, нібыта амерыканскі шпіён з савецкага фільма, які спрабуе завербаваць начальніка КДБ СССР. — Чаго табе валачыся ў тую Каменку? Ты што, дурны? І грошы абы-каму аддаваць таксама няправільна. Лепш хадзем да аўталаўкі. Такія смачныя цукеркі прывезлі, каб ты ведаў! Купім на пяцьдзясят капеек. Хопіць шаптусе і паўрубля.

Пятрусь спачатку вагаўся, але вельмі хацелася цукерак. А яны такія смачныя былі, што праз паўгадзіны хлопцы купілі іх яшчэ раз, на тую палову рубля, якая засталася ад першага разу. А як з'елі, бедны хлопчык пачаў плакаць:

— Што я бабцы скажу? Бацька мяне заб'е!

— Не заб'е, спакойна, — аблізваючы ад цукерак вусны, пачаў суцяшаць яго Толік. — Ты ж не кажы, што да шаптухі не трапіў. Наадварот. Зараз нальём якой вады ў бутэльку, завязеш яе бабцы. Скажаш, шаптуха сказала

піць па тры глыткі перад узыходам і пасля заходу сонца. А таксама абмываць твар, рукі і тое мейсца, якое баліць. Шаптуны так заўсёды гавораць. Я сам чуў.

Так і зрабілі. Налілі ў бутэльку вады з крыніцы, уклалі туды некалькі вуглёў, насыпалі жменю вапны і кінулі нейкай травы. А праз некалькі гадзінаў Пятрусь завёз той цуда-лек бабцы.

— Каб табе, мой унучак, заўсёды сонейка свяціла, — пачуў Пятрусь назаўтра з ранку бабулін голас. — Каб ты здаровенькі быў! І шаптуха хай будзе здаровая. Як мне тая вада памагла, не расказаць.

І сапраўды, бабуся паднялася і лётала па хаце, як маладая каза. Учарашнюю немач як рукой зняло. Як карова языком злізала. І калі праз некалькі дзён, як скончылася тая вада, яна Петруся зноў паслала ў Каменку, то ўнучак ізноў завітаў у аўталаўку. А ваду бабцы прыгатаваў па ўжо знаёмаму рэцэпту.

З тае пары прайшло каля паўгода. Надумалася бабка сама аддзячыць шаптусе. Акурат нехта на кані ў Каменку ехаў. Зайшла ў хату да шаптухі і давай хваліць — мала фотакарткі шаптусіных сваякоў, што на сценах віселі, не паадварочваліся з сораму ад такой ліслівасці. А гаспадыня доўга старалася разабрацца, што да чаго, а пасля і кажа:

— Нічога я табе не замаўляла, і грошай тваіх у вочы не бачыла. Надурыў цябе ўнук.

Што было пасля! Лупіў бацька любімага сыночка як сідараву казу. Усё хацеў дапытацца, у каго той ваду замаўляў. Пятрусь доўга не прызнаваўся. Але ў канцы здаўся.

— Я сам замаўляў, — кажа. — Каб бабка не памерла, баяўся.

Пасля гэтых словаў бабка сапраўды ледзьве не астыла. А як выйшла з стану аслупянення, пляснула далонямі ды як зараве:

— Гэта ж у цябе сіла ёсць, каб лячыць, унучак. А твой бацька, злыдзень, ледзьве не забіў цябе. Ідзі да мяне, маё ты сонца.

Так Пятрусь стаў шаптуном. Яму нават спадабалася. Як вырас, паўсюдна яго запрашалі. У акрузе іншых шаптуноў тады ўжо не было. Пазводзіліся недзе. Таму ўсе звярталіся да яго. Ён на людзях, праўда, эксперыменты не ставіў. Ведаў, адкуль той дар у яго ўзяўся. Ад бацькавай дзяжкі. Таму не рызыкаваў людзей лячыць. Ну а дзе ў каго жывёла зляжа, то прыходзіў. Шаптаў нешта, сабе ў вусны ўсміхаючыся. Людзі казалі, што дапамагае. Асабліва калі пасля шаптання калгасны фельчар укол той жывёле зробіць. Можа, хто і сумняваўся ў здольнасцях цяпер ужо Пятра Іванавіча, але і той запрашаў яго. Якая розніца, аднаму фельчару прастаўляцца ці яшчэ і шаптуну. На ўсялякі выпадак клікалі. А пасля перасталі. З'явілася ў акрузе нейкая новая шаптуха. Надта ж добрая, казалі. Кінуліся ўсе да яе. Людзі гаварылі, што Пётр Іванавіч добры шаптун, але тая лепшая. Ну а ў Пятра Іванавіча ад той лекарскай кар'еры толькі мянушка на ўсё жыццё засталася — бабулін шаптун.

## Лебядзіная песня

Пасля таго як вясковыя дзеці закідалі возера наламаным хлебам і крыкамі «Вунь, глядзі, яны зноў выплылі!» перашкаджалі вудзіць рыбу, Генадзь Гур'ян яшчэ цярпеў белую пару лебедзяў, невядома адкуль прыляцеўшых на іх вадаём. Але калі дарослыя, асабліва тыя разадзетыя ў белыя кашулі франты, якія даўно ўжо пакінулі вёску, абзавяліся ў горадзе кватэрамі, машынамі і сем'ямі і прыязджалі да старых бацькоў выключна дзеля таго, каб вярнуцца ў свет шкла і бетону з пяццю мяшкамі бульбы, свінымі плячамі і грашамі, атрыманымі за бычка, якога так і не ўбачылі, пакуль той жыў, пачалі прывозіць сваіх гарадскіх жонак з доўгімі кіпцюрамі і наклеенымі вейкамі, каб з замілаваннем параўнаць іх светлае каханне з адносінамі экзатычных птушак, вопытны паляўнічы і рыбалоў зразумеў, што, пакуль на возеры будуць плаваць гэтыя пародыі на гусей, пра рыбалку можна забыцца.

Напачатку Генадзь паспрабаваў дамовіцца з людзьмі, наіўна мяркуючы, што тыя ёсць істотамі разумнейшымі за плаваючы па вадзе пух і хутчэй зразумеюць яго.

— Чаго вы лезеце да гэтага пачварства, — пачаў ён тлумачыць кожнаму, хто наведваўся на возера. — Гэта ж самае гадкае стварэнне на зямлі. І паскудзь якая, ой-ёй-ёй! Там дзе жывуць лебедзі, не водзіцца аніякая птушка. Бо гэтая погань яйкі іншых разбівае. Во ж дзе брыда.

— Але ж яны вельмі прыгожыя, — казалі людзі, не звяртаючы ўвагі на аргументы заядлага рыбака пра неэстэтычны выгляд доўгіх шыяў пражэрлівай азёрнай парачкі.

Дзеці таксама не збіраліся здавацца і, спаборнічаючы адзін з другім, у каго лебедзі больш возьмуць ежы з рук, працягвалі разганяць рыбу, нервуючы і ўводзячы ў шал старога Гур'яна. А тут яшчэ кіраўніцтва сельсавета вырашыла забараніць на гэтым возеры паляванне, нават як прыйдзе сезон. Каб лебедзяў не напалохаць. Маўляў, птушка рэдкая, чалавекам амаль вынішчаная. Трэба зараз спрыяць аднаўленню папуляцыі. А дырэктар мясцовай школы ўжо склаў план экскурсій на вадаём пад назвай «Жывы свет маёй Радзімы», мяркуючы на прыкладзе апекавання лебедзямі выхоўваць любоў да жывёл і птушак у дзяцей, якія ўвесь час дапамагаюць бацькам то парсюка калоць, то авечку рэзаць, то пеўня засячы. А як вяселле якое, то маладыя спачатку да лебедзяў з пячэннем ехалі і толькі пасля ўжо — да помніка салдатам-вызваліцелям.

Генадзь зразумеў, што яго манаполія на водныя рэсурсы сваёй мясцовасці скончылася. Зрасходаваўшы ўсе мірныя спробы разабрацца з тлустымі бочкамі сямейства птушыных, ён вырашыў дзейнічаць больш рашуча і радыкальна.

Як сцямнела, Гур'ян ціхенька зняў са сцяны стрэльбу і шмыгануў у бок вадаёма. Чакаць прыйшлося нядоўга. І як толькі з цемры выплылі дзве белыя мішэні, два кароткія стрэлы разрэзалі паветра ціхай вясковай ночы. Вопытны паляўнічы ўсё пралічыў. І ніхто нічога не даведаўся б, каб не прыроднае

захапленне Генадзя статыстыкай. Ужо хацеў збегчы дахаты, схаваць стрэльбу і прыкінуцца, што спіць, але сталі лезці ў галаву навязлівыя думкі кшталту: «А ці атрымаецца з двух лебедзяў адна падушка?», ці «А ці будзе есці мой сабака лебядзінае мяса?». Вылавіў ён птушак з вады і хацеў уцякаць, а тут участковы міліцыянт. На стрэлы прыляцеў — праверыць, хто закон парушае. Не сезон яшчэ на паляванне.

— Ты што, — кажа, — лебедзяў пастраляў?! Ах ты гад! Такое хараство знішчыў! А ці ведаеш ты, што яны ў Чырвоную кнігу Беларусі занесеныя? Іх забіваць нельга. За гэта судзіць будуць. Лепш бы ты жонку застрэліў, то менш далі б.

— Ды я знайшоў гэтых птушак падохлымі, — пачаў апраўдвацца паляўнічы і рыбалоў у адной асобе. — Гляджу, валяюцца на дарозе, як падзёртыя галёшы. Дай, думаю, вазьму дахаты. Праверу, ад чаго паздыхалі. Можа, эпідэмія якая. Шукаць прычыну бяды трэба. Шкода іх, такія прыгожыя стварэнні.

— А можа, у цябе і біялагічная лабараторыя ёсць для такіх праверак? — вылупіўшы вочы, як абкураная сава, ад пачутага нахабнага абману, зароў міліцыянт. — Пасаджу заразу! Надоўга сядзеш!

А тут на крык і старшыня сельсавету прынёсся, і дырэктар школы, і ляснічы з інспектарам аховы прыроды, і яшчэ паўвёскі ў прыдачу. Крычаць, лямантуюць, нібы канец свету надышоў. Пагражаюць Генадзю жудаснымі карамі, горшымі, чым страшны суд, ад чаго той ледзьве не памёр на тым месцы, на якім стаяў. І жонка яго, Гур'яніха, прыляцела з ліхтарыкам. Пасвяціла і давай плакаць воўчым голасам:

— А што ж ты, звяруган, робіш! Нашто нашых гусей пабіў?! Ці ж я цябе не кармлю, што ты свойскую птушку б'еш без пары? Ці звар'яцеў на старасці гадоў?

І тут толькі ўсе, і Генадзь таксама, убачылі, што ён трымае ў руках за шыі звычайных гусей. Прычым сваіх. Гур'ян імгненна апамятаўся, зарыентаваўся ў сітуацыі, рэзка, плячом, адпіхнуў аслупянелага, як зімовы сноп, участковага, плюнуў у бок мясцовага начальства і пачаў помсціць за свой нядаўні перапалох:

— Ах вы, брыдоты! Як вы маглі падумаць, што я такую прыгажосць пастраляю?! А за гэты канцэрт, што вы тут учынілі і перад людзьмі мяне знеслаўлялі, я вас па судах зацягаю. А гусей сваіх калі хачу, тады і страляю. Маю права. Я, можа, так у стралянiне практыкуюся. Паляўнічы сезон на дзікіх качак хутка абвесцяць. Вось я і трэніруюся, каб не прамазаць па качках і выпадкова лебедзя не параніць.

Ад такога нахабства ва ўчастковага афіцэра ўнутраных спраў сківіца адвісла ніжэй пупа. Ведае, што лжэ яму Гур'ян, а нічога зрабіць не можа. І астатнія начальнікі напалохаліся перспектыў зняславіцца перад усім раёнам у судах па нейкай лебядзінай справе. Толькі гэтага ім не хапала. А што скажа раённае начальства? Чаго добрага, яшчэ і з партыі папруць. Там не любяць скандалаў на падуладнай ім тэрыторыі. Давай яны супакойваць паляўнічага на ўласных гусей. А той разышоўся, як сучка на каня. Ніяк не хоча дараваць.

— Папомніце мяне, — крычыць. — Я вам такое зраблю — век памятаць будзеце!

І толькі недзе ля апоўначы супакоіўся. Як усе па хатах разышліся. А праз тыдзень вёска, уключаючы і мясцовае начальства, і ўчастковага міліцыянта, і ляснічага з інспектарам аховы прыроды, зноў пачула ўночы два кароткія рэзкія стрэлы. Але ніхто не пайшоў цікавіцца, што там. А на другі дзень усе ўбачылі, што прапалі лебедзі. Як ветрам здзьмула. Ніякага следу. Нібы і не было іх ніколі. Але абвінавачваць кагосьці ў іх знікненні ніхто не адважваўся. Лепш было верыць, што тыя самі зляцелі. Можа, людзі ім не спадабаліся, што занадта скандальныя. А праз нейкі час і ўвогуле пра тых птушак забыліся. Толькі недзе праз год Генадзь Гур'ян неяк паказаў невядома скуль набытыя веды пра экзатычны від птушак, сказаўшы за куфлем піва, што, каб зрабіць падушку, двух лебедзяў хіба што мала. Трэба, напэўна. яшчэ пух дзвюх гусей дабавіць.

## Чарадзейныя лекі

Ужо трэція суткі два маладзенькія студэнты медыцынскага інстытута, якіх прага набыць добрую прафесію і планавая савецкая сістэма адукацыі занеслі амаль за трыста кіламетраў ад іх любімай навучальнай установы, шукалі мясцовую шаптуху бабку Зоську. Непрадказальны лёс закінуў будучых медыкаў у балотную беларускую правінцыю не таму, што зноў над планетай навісла пагроза эпідэміі шаленства жывёл ці чалавечай воспы. А толькі для таго, каб дапамагчы калгаснаму сялянству сабраць з няўдзячных да калектыўнай гаспадаркі палёў ужо падмерзлую і непрыгодную для ўжытку, але яшчэ маючую мажлівасць падняць калгасныя паказальнікі бульбу. А шаптухай хлопцы зацікавіліся па прафесійных поглядах. Пасля размовы з гаспадаром, у якога жылі.

— Вось вы кажаце — лекары, — задуменна ўздыхнуў неяк дзед Васіль, накладаючы ім засоленых грыбоў. — Вам толькі ў рукі дайся, самага здаровага загубіце. І як у вас гэта атрымліваецца? Каб медыкаў увесь час адмыслова вучылі людзей зводзіць з белага свету, і то так не выйшла б, як вы ўмееце. Сам бачыў, як адзін здаровы чалавек зайшоў у шпіталь, каб хіба што каго са знаёмых адведаць. Дык яго вораг аж скакаў ад радасці. Казаў, жывым адтуль не выйдзе. Так і сталася. Вывалаклі, небараку, наперад нагамі. Адразу на магільнік. Ледзьве бацюшка паспеў кадзілам памахаць. Медык — гэта найгоршая работа. Лепш магільшчыкам працаваць. Больш чэсна.

— Ну што вы, дзеду, — сціпла запярэчылі будучыя дактары. — Проста вас ніколі здароўе не падводзіла, таму так кажаце. А як схопіць хвароба за жабры, то па-іншаму заспяваеце той матыўчык.

Сціплым юнакам не хацелася вельмі жорстка тыцкаць у вочы гаспадару старэнькай халупы яго невуцтвам. Тым больш, што вясковы барадаты старажыл добра да іх ставіўся. Карміў усім, што сам еў. Падліваў час ад часу запіць сухую вясковую ежу старога ўдаўца сіваватай моцнай вадкасці ўлас-

нага вырабу. І ніколі не прымушаў разувацца, нават у ложку. А у той дзень, у дзясятую гадавіну смерці былога вясковага фельчара, якога Васіль цярпець не мог ні пры яго жыцці, ні пасля смерці, нават грыбоў не пашкадаваў. Такі быў радасны.

— Мяне?! — дзед пусціў іранічную ўсмешку ў правы вус і падняў палец угору. — Зараз я вам раскажу. Было гэта тады, калі мая старая, дай Бог яе душы неба, яшчэ жыла. Добрая была жанчына. Да толькі занадта разумная. Як цвярозы поп з Крэўскага прыходу. Нават газеты часамі чытала. З таго розуму мала мяне на той свет не адправіла. А наш вечна п'яны фельчар, разам з іншымі белакрылымі прусакамі, якія зарабляюць на людскіх хваробах, толькі на гэта яе і намаўляў. Нейкая хвароба тады мне ў бок убілася. Слабець я стаў. Сох, як скошаная крапіва пры плоце. Ужо і хадзіць сілаў не было. Дык яны мяне ў шпіталь сілком зацягнулі. І давай здзекавацца, як кот з мышаняці. То — як яе па-вучонаму называюць? — ага, успомніў: мачу патрабаваць. А то яшчэ да большага сораму дайшлі. Кажуць, у пушку з-пад запалак, ну, ведаеце, каб па-цяжкому схадзіў. А я ў прыбіральні месяц ужо не быў. Не хацеў. А тут давай! Як я змагу, па загаду? Не ў войску ж. Ну дык тады давай яны кроў з мяне смактаць. То з пальца, то з жылаў. А замест крыві нейкую ваду залівалі па кроплях. І прасіў я іх, і маліў, і сваю старую таксама, каб лепш да шаптухі якой звазілі. Дык рагатаць сталі, як вар'ят у цырку. Перажыткі гэта, кажуць, забабоны. Самі цябе на ногі паставім, без вашых вясковых шарлатанаў.

— І што? — шчыра зацікавіліся ходам лячэння хлопцы.

— А тое! Праз нейкі час, як нацешыліся з маёй бяды, як бабыль з маладухі, адправілі дахаты паміраць. Нічым, гавораць, памагчы не зможам. Хіба што час прыйшоў. Старасць. А якая там старасць! Мне тады ўсяго трохі за семдзесят было. Хто ж у такі век у вырай збіраецца?

Дзед злосна сплюнуў на падлогу, зацягнуўся самакруткай і, супакоіўшыся, працягнуў аповед пра сваё цудадзейнае выздараўленне.

— Неяк пасля сёмухі прыходзіць мая старая ды кажа: хадзіла, маўляў, да шаптухі. Дала яна нейкай стравы. Трэба з'есці. Можа, дапаможа. Я тады есці зусім не мог. Кавалак папярок горла ставаў, як чорту просверга. Але, думаю, шаптуха ведае, што робіць. Не тое, што вашы калегі лекары. Сабраўся з сіламі ды і з'еў усю патэльню. А назаўтра нейкі вялізны гліст з мяне выйшаў. З тае пары хутка на папраўку пайшоў. Ужо і старую сваю пахаваў, хай зямля ёй будзе пухам, і фельчара, заразу. А сам усё жыву. І добра чуюся. Вось так, хлопчыкі. Лепш у нашай шаптухі павучыцеся людзей лячыць. Можа, не ўсіх са свету пазводзіце. Каго і пакінеце, для размнажэння чалавечага роду.

Цудадзейнае зелле мясцовай чарадзейкі так заінтрыгавала студэнтаў, што пакою сабе не знаходзілі. Яны зразу зразумелі, што ў дзеда завёўся гліст саліцёр. Але чым шаптуха яго вывела? Трэба ж было неяк рэцэпт таго вялікага леку адшукаць. Во будзе сенсацыя ў медыцыне! Юнакі ўжо бачылі будучы лек у аптэках, які назавуць іх імёнамі. А родны інстытут ганарыцца будзе медычнымі свяцiламі Андрэем ды Косцем, партрэты якіх будуць ві-

сець у кожным шпіталі побач з Фрэйдам, Бітнерам і Скліфасоўскім. Толькі большых памераў.

Ды вось бяда — ніхто з вяскоўцаў не ведаў, дзе тая шаптуха падзелася. Ужо месяц як прапала. Як праз зямлю правалілася. Апантаныя комплексам вялікасці хлопцы ўсе навакольныя вёскі абышлі, нават участковага распыталі. Ніхто не ведаў. І толькі ў гэты дзень выпадкова даведаліся, што яна ляжыць у мясцовым шпіталі. І амаль ужо не дыхае. Нехта нават пажартаваў, што месяц як зямлёй пахне. Сябры кінуліся туды, пакуль захавальніца медычнай тайны яшчэ зусім не астыла, і адразу пачалі пытаць пра цудадзейны лек. Маўляў, адкрый сакрэт, колькі людзей вылечыць можна будзе.

— Які там лек, — цяжка ўздыхнула бабуська. — Скажу вам, як яно было. Толькі Васілю не кажыце. А то ён такі! Раззлуецца, прыйдзе ды даб’е мяне. Не даруе, зараза. Прыйшла неяк да мяне яго жонка ды вые, як галодны воўк зімой. Кажа, стогне цяжка мой Васька. Высах у нітку. Даходзіць ужо. А смерць не бярэ. Дай якой атруты, гаворыць, каб не пакутаваў. Шкадавала яна яго. А я думаю, дай дапамагу людзям. Я заўсёды людзей любіла і як магла дапамагала. Набрала мухамораў, насмажыла і дала ёй. Кажу, як з’есць, то без болю на той свет адыдзе. А ён наеўся ды палепшаў. Толькі нейкі вялікі гліст здох. А Васіль хіба ўсіх пераажыве. Толькі вы, дзеткі, так нікога больш не лячыце. А то я яшчэ некалькім хворым тых мухамораў давала. Думала, калі Васілю дапамагло, то, можа, і іншых на ногі падыме. Але чамусьці больш нікому тое не дапамагала.

**Н**арадзіўся 18 кастрычніка 1963 г. у вёсцы Гальшаны. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, гісторык. Працаваў у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі. Удзельнічаў у клубе «Паходня», адзін з заснавальнікаў Таварыства братоў Каліноўскіх. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выдаў кнігі: «Занатоўкі кантрабандыста», «Notatki kontrabandzisty» ў перакладзе на польскую мову, «Bajdy sąsiedzkie» ў перакладзе на польскую мову, «Сандалі метрапалітыка, або Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі». На хвалях «Радыё Рацыі» некаторыя творы гучалі ў аўтарскім чытанні ў рубрыцы «Літаратура памежжа». Жыве ў Гродні.









МІКОЛА АРОЧКА (1930—2013)

## Каранацыя Міндоўга

*Драматычная паэма*

**Дзейныя асобы**

М і н д о ў г — вялікі князь і кароль Вялікае Літвы.

В о й ш а л к — сын Міндоўга.

М а р ы н к а — дачка Міндоўга.

М а р т а — жонка Міндоўга.

Д а ў м а н т — князь нальшанскі, швагер Міндоўга.

М і р т а — жонка Даўманта.

М я ж ы р а — брат Міндоўга.

Т р а н я т а — пляменнік Міндоўга, князь на Жмудзі.

Ш в а р н о — турава-пінскі князь.

Д а н і і л — галіцка-валынскі князь.

С ц і р л я н с к і — магістр Тэўтонскага ордэна.

К а л ь н е р — святар-місіянер ордэна.

М а р т ы н ч ы к — маленькі сын Мірты і Міндоўга.

К а ш т а л я н н а в а г р а д с к а г а з а м к а.

К н я з і, в я л ь м о ж ы, б а я р ы, л о ў ч ы я, з ё л а ч н і ц а-л е к а р к а і інш.

**Звяртанне да постаці**

Мяне палоніць, княжа, воблік ваш
(Хоць ён смугой прыкрыты
ідэальнасці),
Суровую таемнасць прыцягальнасці
Хавае шчыт і нават ваш палаш.
Маё звяртанне ўскаланула меч—
Аж пошчак разануў нутро
няшчадна.
Чаму рука ўздымала безаглядна
Яго — не толькі ў пекле грозных
сеч?
Для ўгрунтавання —
зверхнай самаўладнасці?

Адпрэчвалася кволасці сляза.
Кірунак вызначала моц ляза:
Прабіў тварэння час
Першадзяржаўнасці!
Не з роду вы Неронаў, Калігул.
У мэце злое з дабрынёй звілося,
Бо на шчыце адкуль тады ўзялося
Калоссе ў бліскавіцах стрэл —
адкуль?
Стыхія ярай моцы: хто дужэй?
Ці гэта вас вяло ў вялікакняства?
Што важыць болей: прага
уладарства
Ці гаспадарства—
з ношай найцяжэй?

У круталомны час нашэсцяў,
сцюж —
Як утрымацца замкам,
хатам курным?
Куды загледзеўся ваш позірк
хмурны —
У лёс зямель раздробленых і душ?
З празорыстым прадбачаннем дарог
Нам прычасціцца трэба вашым
духам!
З каранавання вашага падслухаць
Той сэнс, што ўзычыў
Бацькаўшчыне
Бог!

*Частка першая*
**Маленне на вялікую Літву**

1

Княскі замак у Навагрaдку. Л о ў ч ы я прыводзяць у замак М а р т у, абшарпаную, у парушэнні розуму. Выбягаюць насустрач М а р ы н к а і В о й ш а л к, падхопліваюць матулю.

М а р ы н к а

Матуля, ты знайшлася!.. З ног
Трывога наша збілася, гукала.
Мой покліч і асіп, і занямог,
Ды ты, відаць, далёка заблукала!

Л о ў ч ы

Ля вываратня ў пушчы мы знайшлі,
Ішлі па следу звера…
Раптам бачым…

В о й ш а л к

Ты, мама, грудзі застудзіла…
Лоб які гарачы!
Дзе зёлачніца-лекарка?.. Настоем
Няхай нутро прагрэецца…

Л е к а р к а прыносіць зёлкавыя настоі.

Яшчэ мы будзем, мама, жыць!
Але цяпер душу тваю лячыць
Найлепш — спакоем!..

М а р т а
(*спрабуе прыўстаць з пасцелі*)

Дзе Мендзя мой?
Я чула, ў Гарадзішчы
Ад крыжакоў ты зачыніўся
За замкавай сцяной…
А ў пройме вежы вецер свішча —
Так холадна, дрыготка, Божа мой!
Але з глушы лясной
Я мушу ў замак да цябе прабіцца!
Праз навісь ёлак ніцых,
Празігліцу…
Я ўспомніла: пад кутняю сцяной
Ёсць лаз стары…
Не раз ён за дварышча
Мяне выводзіў з Міртаю-сястрой!
Я і цябе — тудой!.. Чакай мяне…
Ды ўблыталіся ногі ў багуне…
Дурманіць пах…
Я ўся — у тлуме чадным,
А ноч, як чорны птах,
Крылом няшчадным
Па скронях маіх б’е і дзюбай тне…
Я ўстану, Мендзя,
Ты чакай мяне!..

(*Закашліваецца.*)

В о й ш а л к

Адной нам не хапала —
Дзве прыйшлі бяды…
Ганца сюды!

К а ш т а л я н

Ён нагатове…

В о й ш а л к
(*ганцу*)

Стралой — у Гарадзішча!
Там, каля мураў,

Ў крыжацкіх водсветах кастроў
Ты згледзіш камяніцу
з агароджай —
Там недзе лаз…
Згусцелы змрок паможа
Прабіцца сумнай вестцы
да Міндоўга…
Ды не затрымвайся там доўга!

(*Нечакана перадумвае.*)

Чакай… Туды я лепей сам…
Сягоння!
Трубіце збор наваградскіх дружын.
Я шлях знайду — паможа мне
сутонне!
Хто бацьку лепей выручыць,
як сын?

(*Ганцу.*)

А ты — да Даўманта!
У Жмудзь, на Нальшу.
Хай не зважаюць там на сварку
нашу…
Аблогу моц з'ядная прарве!
Вунь маці прыкаваная да ложа…
Жмудзь ганарлівая
Няхай паможа
Сястры сваёй наваградскай —
Літве!

2

Світанак. У замкавым двары — капытны цокат. З'яўляецца Міндоўг. Насустрач кідаецца яму на шыю Марынка. Схапіўшы яе ў абдымкі, Міндоўг ідзе да пасцелі Марты.

Марта
(*спрабуе прыўстаць з падушак*)

Мой Гаспадар… Мой Мендзя!
О, світанак,
У скроні мае тлумныя укінь
Хвіліну яснасці… Хоць на астанак!
Плыве з вышынь
Праз вокны небасінь…
Сыдзі, памрока!
Кліча нас расстанне,
А вусны мае шэпчуць спавяданне —
Адзінаму табе!
Як сэрцаў повязь,
Таемна я уклала ў гэту споведзь
Маё жаданне, прагу, запавет…
Я ведала: ты з'явішся… Ты дужы!
Ты вырвешся з крыжацкай пасткі
бед.
Ды я, як свечка, гаснучы ў замужжы,
Цябе з сабой не забяру ў той свет!
Цяпер я небу дзякаваць павінна:
Я ведаю, каму цябе пакіну…

Міндоўг

Ты будзеш жыць сама!
Не трэба падрахунку…
Ты, дзякаваць, ідзеш да папраўнку!

Марта

Прысядзь бліжэй…
Не будзе больш сустрэч…
Мяне вось-вось не стане ў цёмнай
пушчы.
Навек я заблуджуся…
Не пярэч!
Не знойдуць ні мысліўвыя,
Ні ты, трывушчы…
Усе мяне, як ношу, скінуць з плеч.
Ды і не трэба павяртаць такую —
Далей цяжар мой несці на спіне…
Мой звар'яцелы лёс за мной цікуе,
А я дрыготка кожны крок твой чую,
Як ты з дарог вяртаўся да мяне —
Самотны або весела-аблудны.
Шалеў ці прасвятляўся
неўспадзеў…
Я ведала: цябе гняце загубна
Прарочасць мэтаў высненых,
Надзей…

М і н д о ў г

Ты і сягоння, Марта, —
Мой прасвет!
Даруй, калі мяне штось
спакушала…

М а р т а

Я не пра «грэх»…

М і н д о ў г

Ты пра таемнасць нейкую казала…

М а р т а

Табе не зразумець мой запавет,
Ды ён свідруе болем галаву…
Парушаная, толькі ім жыву…
З'явіўся сам Архангел у мой сон
І мовіў мне запавяданне:
Калі ўжо да мяне падступіць скон,
Хай з вуснаў маіх сыдзе
на расстанне
Дрыготкі, шчыры шэпт, як стогн:
Пасля тых дзён, калі мяне не стане,
І да цябе заручын новы час
Пастукаецца ў сэрца,
Мілы Мендзя,
Дзеля мяне ты споўні мой наказ,
Дзеля маёй аблёгкі на тым свеце:
Каб новая абранніца твая
Была ва ўсім — як выкапана — я!
І тварам, і душой, і пекным станам,
З жаноцкаю пяшчотай і красой…
З такой, як кужаль, мяккаю касой…
І бровы — крылцы ластаўкі…
І лоб высокі…
Такія ж, з ямінкай павабнай,
шчокі…
Каб цеплынёй, спрыяннем,
Кожнай рыскай
Была, як я, жаданай, самай
блізкай…
Каб вашая ўзаемнасць нарадзіла
Тых, каго я не ўспела нарадзіць, —
Мартынку і магутнага Стадзіва —
Як памяць па дзядулі з Гарадзішч!
Ён запавет нам даў з-пад папялішч:
Каб род не вёўся наш з насення
злога,
А быў, як Войшалк, годны перад
Богам!

М і н д о ў г

Ты не трывожся…
Дорыць нам Прырода
Красу, і шматаблічнасць,
і пяшчотнасць!
І ў гэтым — насалода
І чароўнасць!
Але табе паспешна галавой
Ківае мая згода.
Наказ шчымлівы твой
Баюся скрыўдзіць я
Няўдзячнасцю глухой…
Ах, Марта!
Мне лепш застацца дзікім адзінцом,
Чым у наступніцы тваёй
Штодзень прыгадваць страту
Пачуццяў першых —
З вусцішным канцом…

М а р т а

Зычэнні ты прымаеш, нібы кару.
Ты не мяне ўжо бачыш, а ахвяру.
Наказ — дзівацтва немачы ліхой…
Ды ты яго адпрэчваць не спяшы —
Мой покліч пакалечанай душы…
Перад табой — апошні ўздых
кахання…
На адвітанне ледзь махну рукой…
Я ж споўніла сваё
Запавяданне!..

(*Рука Марты ўздрыгвае і пачынае халадзець у далонях Міндоўга.*)

3

У наваградскім замку — князі, вяльможы на ад'ездзе да сваіх уладанняў, удзелаў. Заходзяць па чарзе да Міндоўга на адвітанне дый залатвіць узаемныя інтарэсы. Войшалк тут — як правая рука вялікага князя-бацькі. Чуецца, як свой, і яго брат Мяжыра.

Міндоўг

На пару толькі дзён мяне забрала
Старое Гарадзішча у палон,
А колькі вакол бруду паўсплывала:
Намоваў, вестак цёмных —
як праклён!
У замчышчы, разнятым так шырока,
Якім даўно пяклуюся, жыву,
Пайшло ўжо колькі трэшчынаў
глыбокіх
Ў маленні на Вялікую Літву!
Расколіны, як зломы тых маланкаў,
Агнём дзяўбуць падмурак,
як наш лёс.
Не тая, можа, выбрана цамянка?
Не той да працы стаў каменячос?
Хоць лёг трывала наш падмурак
Дому,
Кладзецца мур…
Калі яшчэ той дах!
Калоць нам камяні, часаць
нястомна —
З падгонкай!
Каб ні шчыліны па швах!
Я чуў, што швы выдатна мацавалі
У пірамідах косці, кроў рабоў…

Войшалк

Няўжо мы апусціліся, апалі
Да змрочных фараонаўскіх часоў?
Ці ўсё, што на крыві, ўжо так
надзейна?

Міндоўг

Хоць ты, мой сыне,
Мовіш слушна, дзельна,
Але скажы мне, галубок,
А ці вярнуліся ў свой полк
Два Болевічы —
Два браты, князькі удзельных?

Войшалк

Адпалі ад палка…

Міндоўг

Як гэта — адпалі?
Не даспадобы служба?
Збеглі — два?

Войшалк

Як мечам секанулі, так сказалі:
«А мы вам тут —
Не Жмудзь і не Літва!»

Міндоўг

А хто?

Войшалк

«Мы — самі па сабе…»

Міндоўг

Ах, вось як!
Якая трэшчына, мой сыне Войшалк!
Калі так пойдзе, бачу —
Быць бядзе!
З такімі — колькі земляў адпадзе!..

Войшалк

Шкада мне Болевічаў…
Іх — на страту?
Князі якія — ў сечах ваяры!
Калі на іх мы — значыць,
брат на брата…
Недаравальна гэта нам, стары!..

(*Міндоўг разводзіць рукамі.*)

А з Даўмантам — дык што?
Той князь нальшанскі,
Мой швагер — да мяне ні на парог!

М я ж ы р а

Ён князь — на Жмудзь усю!
Круты ды важкі…
Яго так проста не вазьмеш за рог!

В о й ш а л к

Ганца паслаў я —
адказаў маўчаннем.
З тым Гарадзішчам —
лепей памарудзь!
Вялікі ты?
А ён — гэта нальшане.
Ён і пасад—пакліча Жмудзь!

М я ж ы р а

З'явіўся б Даўмант да цябе
з падмогай:
Яго ж не цешыць наступ крыжакоў,
Што, нібы шэршні,
тнуць з усіх бакоў…

М і н д о ў г
(*з'едліва*)

З'явіўся б, ды пасля…
Калі б з мяне самога
Лупілі б скуру каля тых муроў…
А не з'явіўся — значыць, слава Богу!
Мяне зусім не спудзіла аблога.
Як вятрыска —
Памчаўся покліч мой ва ўсе куткі:
Падмога — з Слоніма,
з-пад Ваўкавыска!..
Згаворлівымі сталі крыжакі.
Вунь малады сусед наш —
Князь Шварно,
Ён верхнікаў сваіх аж гнаў —
З-пад Пінска!
Ды дзе Шварно?..
Яго штосьці не відно…
Паклічце —
Перамовіць трэба зблізку…

Уваходзіць князь Ш в а р н о.

Ш в а р н о

Мне час — і у зваротны шлях
няблізкі,
А то паглуміць прыпяцкі наш край
Круты Даніла галіцка-валынскі,
Ганцом ужо наказваў мне:
Збірай,
Вязі, Шварно, з сваіх зямель
даніну…
Чакаць не любіць ён —
Наскочыць сам!

М і н д о ў г

А я даніну больш яму не дам!
Адвучваць час!..

Ш в а р н о

Ты ж нешта вёз Данілу!..

М і н д о ў г

Я не даніну вёз яму — дары!..

Ш в а р н о

Ці не ўсё роўна?..

М і н д о ў г

Мы без даніны — роўня!
Мы — Гаспадары…
Я ўжо яму — не леннік,
Як ты сёння…
Чаму ён не прыняў маіх дароў?
Я выйду з падначалення Валыні.
Наваградак ад полацкіх часоў
Быў пад яе рукой…
Залежнасць мы прыпынім!

Войшалк

Тады пральецца, ойча, наша кроў…

Міндоўг

Таму ж збіраю землі я да купы,
Каб хіжа не скублі з усіх бакоў!
Вунь крыжакам —
Як трэба нашы лупы!
А да тых лупаў —
скарб зямель, бароў…
Іх нават спакусіў той бляск дароў,
Што я Данілу вёз…
Рашылі пераняць!
Было б нам крута,
каб не Гарадзішча,
Ды вось, каб не Шварно!..
Лічыце — зяць!
Марынка, дзе ты?.. Бацька кліча!

Уваходзіць Марынка.

Вось дзе найбольшы скарб:
Мая Марынка!..
Вы гляньце: што за рукі, тварык,
стан!
Як выкапана маці — да крупінкі…
Ды павярніся ты, ды тварам стань!..
Ты не палохайся, красунька наша.
Падходзь сюды бліжэй,
раз бацька кажа.
Зірні!

(*Паказвае на князя Шварно.*)

Вось гэты князь, як меч калёны,
У самай моцы, ўзнятасці плячэй —
Твой Гаспадар ужо…
Твой нарачоны!..

Марынка

Ой так не можна, татка… Вунь яшчэ
Слядочкі цёплыя матулі…

Міндоўг

Зразумее…
Яна прабачыць…
Ты ў красе дзявочай,
Рабінкай вырасла… Як гронка, спее
Вунь чырвань на шчаках…
Ды вытры вочы!..
Ды не збяжы…
Наўцёк не кінься здуру!
Больш бацьку не пярэч —
Збірайся ў Тураў,
Княгіня Пінска —
тураўскага княства!..
Дзяржаўнасць век трываліцца
сваяцтвам!

(*З усмехам да князя Шварно.*)

А ты шануй узрост яе — вязі,
А то наскочаць іншыя князі!

Шварно з Марынкай выходзяць.

Мяжыра

Ты, брат, цамянку ведаеш —
сваяцтва!
Вялікакняства шырыш…

Міндоўг

Не табой…
Ты — брат мой…
Але ў нас не пахне брацтвам.
Ды ты не крыўдзься. Не спяшы.
Пастой.

Мяжыра

Мяне там зачакаўся сын Транята.
Наезды могуць быць…

Міндоўг

А я пра што?
Наезды, сечы… Толькі тым заняты.
Адкуль жа ўзяцца сіле, моцы той?

Памеркаваць нам, браце,
трэба дзельна,
Бо скарб які ў паграбленых?
Скудзельны!
А мы, брат, на дарозе той крутой,
Дзе нарастаюць з двух канцоў
грабежствы.
І Жмудзі тут з Вялікаю Літвой
Якраз і супыніць належыць бедствы!
І як не ўцяміць гэта твой Транята?
Ён верхаводзіць там, сярод жмудзін,
Гарачы, самаўпэўнены, зацяты —
Ці з бедаў хоча выскачыць адзін?
Ён не паткнуўся, бач, у Гарадзішча,
Як Даўмант…
Зрэшты, як і ты!
Як часта — не радзінны кут святы,
Не крэўнасць цешыць нас,
А папялішчы!

М я ж ы р а

Пра Гарадзішча я не ведаў…

М і н д о ў г

І тым лепей.
Транята зачыніў бы цябе ў склепе!
Не справа ў выручальным кроку
гэтым,
А важны знак адзінства
перад светам!..
Дарэчы, ці схіліў свайго Траняту
На роздум:
А з якога ўсё ж гнязда ты?
З якога мы з табою племя-роду?
Ці апавёў, што мы з гнязда
Рынгольда?
Што ў маладосці з полацкага Дому
Сышоў ён — кінуўся, бы ў строму,
На Захад, у Наваградак…
Не шкода!
Тут мы на свет пайшлі, мой браце!
Ды ты як ачужэў, калі пабраўся
З прыгожанькай жмудзінкай…
Нібы здрадзіў!
Забыўся і на крэўнасць,
на гняздоўе…
А ён жа, наш прадбачлівы
Рынгольд,
Як дрэва, тут закараніў свой род—
Як значыць шмат перасяленне тое!
Ён прадугледзеў нейкую бяду,
Наваградак узносіў адмыслова!
Стары адчуў вялікую хаду
Наступнасці — ў кірунку новым!

М я ж ы р а

Каму я здрадзіў?
Крэпасць наша ў сіле!
А ўсе кірункі — меч праз нашы
грудзі.
Застаўся ты ў Наваградку,
Я — ў Жмудзі.
Браты — мы землі гэтыя зраднілі!

М і н д о ў г

Ты Жмудзь, як жоначку, кахаеш—
Не бяда!
Яе больш спавядаеш — як надзею.
Прыняў багоў яе… Але шкада,
Што Жмудзь Літве ўчыняе
Супрацьдзею…

4

У Наваградскі замак з чорнага ходу ўбягае к а ш т а л я н. Выклікае М і н д о ў г а.

К а ш т а л я н

Вялікі князь, да замкавых муроў ідзе
Сюды, у двор, гурма узбуджаных
вяльможаў…
Спяшайцеся, гэта ж нейкі бунт!

М і н д о ў г
(*падыходзіць да вакна*)

Вяльможны бунт?
Што гэта за праява?

Апірышча маё — супроць мяне?
Крычыць у вочы мне мая няслава —
Зноў трэшчына у замкавай сцяне!..

Нервова ходзіць па зале. Набліжаецца да дзвярэй. Насустрач яму – В о й ш а л к. Прытрымлівае бацьку. Удвух яны выходзяць на балкон замка.

Г а л а с ы

— Мендаг, ты нас не абароніш…
— Ты стаў няварты вялікага княжання!
— Тайна знюхаўся з крыжакамі!..
— Хочаш адпасці ад Русі Галіцкай…
— Вытнеш нас і забярэш нашы замкі, скарбы…
— Два князі Болевічы — вунь у глыбокім рове, каля замка.. Ты бачыў?
— Сыдзі ў Літву!.. Пакінь свой пасад наваградскі маладому Войшалку!..

Міндоўг зноў мерыцца сысці да іх у двор замка. Войшалк апярэджвае – сыходзіць сам. Неўзабаве вяртаецца і прыводзіць з сабой са двара в я л ь м о ж-п р а д с т а ў н і к о ў. Бароды, разгарачаныя твары, калючыя вочы з-пад насупленых броваў.

В я л ь м о ж ы

— Вялікі княжа, нашчадак
Усяслава… Ты супакоіш нас тады, калі мудра разважыш нашы трывогі і дамаганні…
— Ты сам чуў, што патрабуе наша Гаспадарства!
— Кажы ўдумна, без круцельства…
Як на споведзі… Мы ўсё гатовы выслухаць!

М і н д о ў г

Скажыце,
Ці не з вашай гэта ласкі
Мяне ўзвялі ў вялікія князі?
На гэты вось пасад
Вялікакняскі —
Для задзіночання крывіцкае зямлі!
Я, з вашае парады, у саборы
Прыняў з падзякай праваслаўны Хрост,
Каб роўныя ў прасветах і у горы
Хадзілі мы пад Богам…
Наш Хрыстос,
Бог нашае Літвы, ты памажы
Ў мальбе маёй —
Стаць сапраўды Вялікай!
Каб на раздроб яе ніхто не клікаў
І не валок па частцы —
Да сваёй мяжы.
Вы ж не вялікасці ёй зычыце —
Раздробства!
Перад вачыма — толькі свой удзел.
Такі ўжо чалавек… Відаць, не проста
Адным жыць духам, целам —
Мноству цел!
Ды мэта нашай еднасці: карэннем
Разняцца ўшыр і ўглыб так урасці,
Каб нас усіх навалы, пабурэнні
Не вырвалі, не стрэшчылі ў жыцці!..
Я раздаваў вам шчодраю рукою
Нарэзы, ўдзелы — каб пазбыцца
звад:
Табе, Суліма, за ваярскі гарт —
Дубовую граду за Нёманам-ракою…
Табе, Гардзей, за годнае служэнне —
Тры камяніцы ў Бытані з зямлёй…
Табе, Жывец, азёрны кут з лясной
Гаёўкай — кут на падзіўленне!
Спрыяльнікам усім — мястэчкі, весі,
Майстэрні, смалакурні, борці
ў лесе…
А колькі запрасілі самых годных —
Ў намеснікі, у кашталяны да сябе!
Прыгожы Слонім, Ваўкавыск,
Гародня,
І Свіслач, і Драгічына, і Бельск —
Як абаронча выраслі яны
На землях і ліцвінаў, і яцвягаў!

Да іх прыйшлі абшараў тых сыны,
Не нішчачы, без вогнішчаў
і страхаў…
Усе, хто жыў тут, вырас, падрастаў,
Змяшаліся крывёй, адзінай мэтай.
Наваградак — іх цэнтрам, сэрцам
стаў
І будучнасці лёсам, запаветам!
Як абарончы бояр, збройна, ўладна
Стаў на шляху ён
Белай, Чорнай Русі…
У сечы лютай буду я няшчадны
Да ўсёй прыблуднасці…
Я не змагуся!

Вяльможы, не дужа перакананыя ўзнёслым прамаўленнем вялікага князя, паціху кіруюць да дзвярэй. Адзін з іх павяртаецца з пытаннем да Міндоўга.

В я л ь м о ж а

А з Войшалкам —
Ты як жа парашыў?
Яго ж пасад наваградскі чакае…

М і н д о ў г

Давер, вядома, бацьку па душы…
Няхай паправіць вамі маладая,
Удумная, з лагодай галава…
Мяне ж займае
Зноў мая Літва…

Вяльможы выходзяць, пагладжваючы бароды.

Не пагасіў, гляджу я, іх знявер'я.
Адзінства земляў — гэта ж і хамут.
Здаецца, маю ўзважаны намер я,
Ды важу я адно, другое — люд.
Вяльможаў замкі цешаць —
не Літва.
Вунь як страшыцца Жмудзь
вялікакняства!
Ёй маладая ці старая галава —
Тут важна, каб *свая* для валадарства!
Маё адзінаўладства ім —
У горле косць.
Ім захавацца прагнецца — як ёсць!
Каб самі па сабе.
Свая ўсё ж гаспадарка.
Каб раздымалася… І ў рост
Ішла трывала, каранаста, шпарка!
Цаніць іх волю трэба…
Але ж, сыне:
Навошта галава?
Каб толькі правіць целам?
Ці большага яна ўжо захацела?
Відушчасць трэба ёй!
Іначай з целам згіне.
Яна вунь на плячах — як на вяршыні:
Ёй трэба бачыць свет, усведамляць!
А каб шырокі свет наўкол агледзець,
Як часта зрок наш засцяць сухастоі!
Патрэбна ж лес, гадуючы,
прарэдзіць!
Замест душы, глядзіш, —
Дупло пустое…
Карэнне прахне — дрэва точыць
шашаль.
Вось так і ў пушчы,
І ў Гасподзе нашай…

В о й ш а л к

Не, на прарэджванне —
Душа мая не здатна…

М і н д о ў г

На гэта трэба дужая рука!

В о й ш а л к

Твая, мой ойча, дужая занадта!..

М і н д о ў г

Сеў на пасад — пільнуй свайго сука.
Калі не сам — другі падсеч ахвочы!..
Пасад прымай,
Ды май, як дзіды, вочы!
Не толькі моц даверу і любові,
Да іх яшчэ — і меч напагатове!

Любоў і меч.
Яны памогуць мэце!
А ў нас з табою мэта ўсё ж адна.
Даўно цябе трымае на прыкмеце
Мая — на пераемнасць! —
Сівізна.

В о й ш а л к

Ты ведаеш, што чыніш…Твая воля!
Мне ж даражэй —
Хрыстова павяленне…
У свеце столькі чыніцца нядолі,
Людской юдолі, горкае сваволі,
Што небу трэба і маё маленне…
Мяне нічуць не спакушае ўлада
З яе мірской уцехаю пустой
І слодыччу прыніжана-зямной…
А клічуць больш — любоў, спагада.
Рука Хрыста пакутнага вядзе
Мяне зусім у іншы бок…

М і н д о ў г
(*устрывожана*)

Куды?

В о й ш а л к

Да душаў ратавальнай пекнаты,
Дзе слова Боскае
Сыходзіць да людзей
І вучыць, як пазбыцца слепаты…
Хачу я ў манастыр…
Я выснію мару…

М і н д о ў г
(*зусім збянтэжана*)

У манастыр?!
Каму ты — гэтую ахвяру?
А, Божа!.. За якую гэта кару?
У манастыр… Які?

В о й ш а л к

У свой…
Ёсць мэта запаветная — сысці,
Наўцёкі кінуцца — ад гэтых дзікіх
Інтрыг, зладзействаў, сеч —
малых, вялікіх —
Ад бруду гэтага ў зямным жыцці!..

М і н д о ў г

Ачніся, сыне!
Сэнс шукаеш небны…
Удумны і разумны, ты патрэбны
Літве Вялікай!

В о й ш а л к

Ды мара мая — для душы святая!
Ужо гняздо яна сабе звівае…
Я месца падшукаў суцішнае —
Пры Нёмане — ў Лаўрышаве.
Не адмаўляй мяне,
Не адклікай мяне:
Вядзе туды —
Маё пакліканне…

М і н д о ў г
(*хапаецца, як за саломінку*)

А як пасад наваградскі?

В о й ш а л к

Прымаю…
Я з Божай помаччу яго ўтрымаю,
Пакуль над Нёманам святая
«Абіцель» тая
Вырастае…

Да Наваградка, да замка, пасля першага, толькі што адбітага шалёнага наступу падцягвае свежыя сілы галіцка-валынскі князь Данііл. Трываліць аблогу. В о й ш а л к па сходках уздымаецца на замкавую вежу, да байніцы, дзе абсталяваны цесны пакойчык — месца для назірання, агледзін.

В о й ш а л к
(*аглядаючы з вежы месца пабоішча*)

Шалёна задыхнуўся наступ першы:
Ля сцен тараны з зеўрамі пустымі,
Каменякіды — ў чорным смольным
дыме,
Гарою — коні, твары маладыя,
У друз — мячы і дзіды…
Ды не цешаць
Ахвярнасць і адвага ваяроў —
Наваградцаў — на сценах
закурэлых….
У целах, у вачніцах — стрэлы,
стрэлы…
Ад вышчарбленых ядрамі муроў
Яшчэ сцякае сукравіца, кроў
У чорны роў
З глыбокаю вадою…
Скрозь пахне чадам, гібеллю,
бядою…
Ты грозьбу сваю споўніў, Данііл:
Глядзі на свой наезд апусташальны!
Аблогу ладзіш шчыльна,
вынішчальна.
Тут колькі марна жыццяў злегла,
сіл!
Вакол прадмесця—гіблая пятля
Сціскаецца… Курацца папялішчы…
Выццё сабак…
Рыканне па дварышчах…
Пакутная славянская зямля!
Ці мала ты спазнала ужо страт?
Хто злобства разбудзіў, каб гэтак
перці
На брата брат… З Падляшша,
з-пад Бярэсця,
З Валыні—адусюль: на брата брат!..
Няўжо вам гэтак прагнецца даніны?
Суседняе пакорнасці жадны?
Няўжо іначай нельга — без вайны?
Я сам цяпер пайду да Данііла!

Войшалк ідзе да сходкаў, што з замкавай вежы вядуць уніз. Насустрач яму — задыханы М і н д о ў г.

М і н д о ў г

Мая трывога мчалася сюды —
Без перадыху з верхнікамі гнала,
Каб не змагла нас гэтая навала…
Хутчэй ганцоў — ва ўсе куты!
Як нашы абарончыя палкі?
Як мечнікі, стралкі — ці не замала?

В о й ш а л к

Гукнулі покліч мы — ва ўсе бакі…

М і н д о ў г

Змануў Данілу час яго нашэсця:
Ён добра ведаў, дзе мае сляды,
Што ў нас са Жмуддзю зноўку
нелады…
Ды і ў Літве пагрузну я, нарэшце!
А я паспеў князькоў тых
ператрэсці…
Я зваяваў Літву!
Тых летувісаў самых,
Што гэтак часта з намі — на нажах!
Ды прылучэнне земляў,
мне падданых,
Збянтэжыла Данілу — проста жах!
Да ўсёй Літвы Вялікай далучэнне —
То ж для Наваградка —
Узвелічэнне!
А ты, сусед, адкочвайся ў свой край!
Ды попел наш бяры —
замест даніны…

В о й ш а л к

А ўсё ж пайсці я мушу да Данілы…

Нечакана пры выхадзе з вежы з’яўляецца к а ш т а л я н.

Каштальян

Да вас мае нейкую справу крыжацкі святар-місіянер Кальнер — ён просіць тэрміновай перамовы.

Міндоўг

Вядзі сюды…
Хоць тут старая вежа
Яшчэ такіх не бачыла сустрэч…

Падыходзіць з Войшалкам да праёму ў вежы.

Затое мы — якую бачым рэч!
Зірні: вунь колькі валіць сілаў
свежых!
Да валынчан падбітых, галічан…
Ды хто ж там уліваецца ў іх стан?
Трапечуць — пазнаеш? — сцяжкі
жмудзінаў…

Войшалк

Там дзіды скрозь варушацца,
як шчэць…
Калчаны, лукі там — чые?..
Аж дзіўна!
Яцвягаў колькі ў шэрагах
жмудзінаў!..

Міндоўг

Што дзеецца..
Глядзі: зырчэе медзь…
Шчыты, на іх крыжы…
Крыжы і меч!
Вось гэта, сыне, зборня!..
Даніла пастараўся: ўсіх падгорне…

На сходнях чуюцца крокі місіянера.

(*Да Войшалка.*)

З місіянерам спраўлюся адзін.
А ты ўсё ж да Данілы падыдзі…

5

У пакойчык вежы ўваходзіць прыгнёны крыжацкі місіянер Кальнер.

Міндоўг

Святар… З якім намерам —
ці святым?
Місіянерства — з тымі вунь мячамі?
Што вас звяло у зборышчы адным?
Яцвягі і жмудзіны — з крыжакамі?!
Казулі дзікія — з ваўкамі?
Пагане і законнікі — ў вузле
крутым?

Місіянер Кальнер

Наёмнікаў не мэта адзіночыць,
А срэбра-золата…
Служы, дзе болей плоцяць!

Міндоўг

Вас толькі гэта клікнула ў дарогу?

Місіянер Кальнер

Я — ад свайго Закона,
І — ад Бога…
Вядзе мяне свяшчэнны знак
вызнання
Апостальскай царквы… І гэты знак
Сюды і вёў, як зорка, да яднання.
Надарыўся ж выпадак мне
выключны:
Вам паказаць — дзе вораг ваш!

Міндоўг

Аднак
Чаму з пагнамі ўступілі
ў злучнасць?

Місіянер Кальнер

Бо злучнасць там,
Дзе чыніцца спрыянне.

Іх душы вырваць час з паганскае
бярлогі.
Праз іх — ідзе ратунак і да вас!

М і н д о ў г

Як кажуць,
Стрэл адзін, а зайцаў — два!
Бянтэжыць вас усіх —
Як набіраюць сілы
Наваградак… Вялікая Літва!

М і с і я н е р К а л ь н е р

Аднак прыціснула рука Данілы
Тваю ўсю моц — да гэтых вось муроў!
Цяпер у вас — адзін праменьчык
выйсця.
Ён даражэй усіх тваіх дароў —
Даніла іх адхіліць, як калісь…

М і н д о ў г

Я ведаю…
Куды праменьчык той
Кіруе вас — няцяжка здагадацца!

М і с і я н е р К а л ь н е р

Не стаўце перашкоды — для святой
Нялёгкай нашай рыцарскае працы,
Асвечанай апостальскай царквой…
Вунь, бачыце, яцвягі і жмудзіны,
Як сашчаміліся — ў кулак адзіны!
Гукне труба — навала з крыкам
дзікім,
З балістамі, з агнём ды з конскім
гікам
Абрынецца на вашу галаву!
Не ўсіх ты іх пасек, ваюючы Літву.
А наш тут крок —
Інакшы, дабрачынны.
Ступаюць ціха ў іхні кут паганскі
Наш багалюбны крыж і меч.
Нясем мы ім ратунак з боскай ласкі,
З малітваю Хрыста…
Ты толькі не пярэч!

М і н д о ў г

Я зноў ступіў нібы на раздарожжа…
Які цяжкі падносіш выбар мне,
О Божа!

М і с і я н е р К а л ь н е р
(*устае з паклонам, звяртаецца на адыходзе да Міндоўга*)

Вялікі князь,
Цябе магістр Сціплянскі
У замак запрашае свой…
То калі ласка!..

6

У наваградскім прадмесці — часовае прыстанішча галіцка-валынскага князя Д а н і і л а. Ён дазваляе В о й ш а л к у зайсці ў дом — для кароткіх перамоваў.

Д а н і і л

Дарэмна час кароткіх перамоваў
Змануў мяне…
Ну хто ж прыйшоў сюды?
Бязвусы княжыч — Войшалк
малады…
А трэба ж розум сталы, адмысловы!
Ды, зрэшты, лепш, калі ўжо мовіць
строга:
Бо што за перамоўнік мне
з Міндоўга?
Ні сам ён мне не трэба, ні дары…
І так ён мне скулячкаю ўнутры!
Спіхнуў, відаць, на печ ты ўжо
старога?
Хоць ён і з печы, пэўна, абвяшчае,
Што ён на ўсю Літву — Вялікі князь!
Чаму ж яго вялікасць забывае,
Што ён васал мой, леннік?..
З печы злазь!
І я цябе, зламыснае насенне,
Яшчэ прымушу поўзаць на каленях!
І нанач разуваць мяне,

Мыць ногі!
Прымушу гэтаю пятлёй аблогі!…

В о й ш а л к

Не абражайце бацьку,
князь шаноўны,
Хіба даніну злосці і знявагі
Вы не ўзялі спустошаннем
шалёным?
Прарвалася ўжо колькі здзеку,
бруду,
Як тога смецця,
Калі рве запруду!
А вы ж — князі, і княствы вашы —
Роўня!
З глыбінь славянскіх —
Вы ў сваяцтве кроўным!
Ці мала вам крыві пралітай
братняй?
Вам з кубка аднаго адвагі ратнай
Піць разам, каб адбіць наезд бяды!..

Д а н і і л

Для павучанняў ты замалады.
Без іх я ў славе годна пражыву…
Ты падкажы лепш свайму Мендзю,
Каб ён не лез, як клін, у стан
суседзяў…
Яго ж паквапнасць падграбла Літву!
Ён зводзіць і падгортвае плямёны,
Не спавядае крэўнасць,
Хоць ім кроўны!
Бярэ іх подкупам, намовамі,
маной…

В о й ш а л к

З усіх бакоў хапае тут глумлення.
Таму мы мэтай звязаны адной
Перамаўлення!..

Д а н і і л

Перамаўлення — з кім?

В о й ш а л к

Са мной.
Я — Гаспадар наваградскага замку,
Наваградчыны ўсёй цяпер —
як ёсць!..

Д а н і і л

А бацька ў іншым зброіцца
напрамку?
Хоць і старая — абрастае косць
Паквапным мясам…

В о й ш а л к

Тут не да месца злосць…
Па горла ў бацькі спраў
Літвы дзяржаўнай!
І жар ягонай мэты не ачах.
Не лічыць сваю мэту ён паждадай…
Яму, як зорка, мэта меціць шлях!

Д а н і і л

Ды ведай ты,
Што зорка сваёй мэты
Ёсць і ў мяне… І, пэўна, нездарма
Яна вяла сюды, да сценаў гэтых…

В о й ш а л к

Ёсць зоркі розныя — крыві, ярма,
Захопаў, неспатольнай прагі
славы…
У зоркі сёння вашай —
Бляск крывавы…
Такога не натворыць і чума!
А выйсця з чадных вогнішчаў —
няма.
Я наглытаўся дыму, бед, навалаў,
Стагнанняў, галашэнняў і выцця —
Аж сцяўся ў жудасці душой
апалай…
Ах, Божа, як да годнага жыцця
З калецтва страху выйсці чалавеку?

Як прыпыніць над ім вар’яцтва
здзеку?
Таму мяне й вяла да вас надзея…

Д а н і і л

Ва мне ты хочаш бачыць дабрадзея?
Хай зорка маёй мэты згіне прахам?

В о й ш а л к

Пакуль што я кармлюся яе жахам…

Д а н і і л

Датуль, запомні, вашая сляза
Карміцца будзе з кончыка ляза —
Кровапусканнем,
Пакуль сваім глуздом
Не ўцяміце:
Наваградскі ваш Дом
З усімі землямі і з Нёманам-ракой
Павінны стаць, як і спакон,—
Пад нашай падначаленай рукой!
Іначай — спусташэнне, гібель,
скон…
А вы сваё… Як нейка насланнё!
Чым лепшы чалавек за груганнё,
Што кружыць хіжай хмарай
над спажывай?
Ці са сваёй гайнёй —
Той пёс паршывы?
Яны ўжо ўчулі пах здабычы
новай —
Прадбачаць скутак нашых
перамоваў…

Д а н і і л

Са скуткам не спяшы…
Яшчэ адна умова
Для прымірэння нашага… Няхай
Адмовяцца наваградскія землі
Ад той Літвы з Жамойцяю
паўскрай,
Што Мендзя твой запрагнуў
вельмі…
Няхай ён у Літву сваю сыдзе:
Размежаванне — раз і назаўсёды!
Тады мы без Літвы, што адпадзе,
З табой, відаць, наблізімся
да згоды…

В о й ш а л к

Ад перамоваў штось душы
трывожна:
Распад, разлад ды немач
раздарожжа…
Ды беды мне ў душу глядзяць
сурова!
Што зробіш—
Мушу я пайсці на вашы ўмовы…
Хай станецца па волі тваёй,
Божа!

Д а н і і л
(*на развітанне, з цікаўнасцю*)

А як твая ў Лаўрышаве будова?

В о й ш а л к

Расце з брусоў сасновых
адмыслова…

Д а н і і л

Я чуў: нібы сабор —
слуп пры слупе…
Для Хросту мо няверных?
Ці сабе?
Свая «абіцель» —
кут манастыровы…
Глядзі, каб там не знік
Наш скутак перамоваў!..

*Частка другая*

**Маленне на каралеўскую карону**

1

Воддаль ад навагр္адскага замку, пры дарозе, пад разгалістым дубам – альтанка Міндоўга, з узорыстым упрыгожаннем, тонкай разьбой. Міндоўг зазірае сюды для душэўнага супакаення, для роздуму. М і н д о ў г уваходзіць у сваю альтанку, прыкметна ўзбуджаны. Устае з лаўкі, ходзіць туды-назад. Бачна, тут ён доўга не забавіцца. Да яго ўжо вядуць белагрывага каня. Паказваецца і дружына верхнікаў. Міма праходзіць жанчына ў чорнай хусціне. Спаўзаючы з плячэй, хусціна на хвілю прыадсланяе твар загадкавай невядомкі… Міндоўг глядзіць – як аслупянелы…

М і н д о ў г

Вачам не веру… Марта?!
Быць не можа…
Нібы са жвіру ўстала… Гэта здань!
Ці Марта мая?.. Твар яе і стан…
Зірнула – і мне стала так
трывожна!..
На сцежцы знікла –
Між камлёў дубровы…
А я за зданню кінуцца гатовы!
Са мной ты не ўчыняй такога,
Марта,
Калі ты здань – тым больш
не варта.
Цяпер, перад дарогаю цяжкой,
Мне ўдумнасць трэба,
Строгасць, супакой…
Адно ўваччу мільгнула хісткім
ценем –
І на ўспамін пакінула трымценне
Сваіх святлістых зрэнак, як зарніц…
Ды ў засмучэнні твар, прыгнёны
ніц,
А ўсё ж прыгожы…
Роднасцю, пяшчотай
Дыхнула на мяне… І я употай
Туды, дзе знікла, ўсё гляджу
задумна…
Ах, Марта, ў свеце без цябе –
Так сумна!
Шкада, што здань!
Не верыцца мне проста…
Здаецца, раз я гэту бачыў постаць!
Ішла ў дуброву…
Я ж быў на кані.
Я пільна не разгледзеў рысы твару…
А сёння зноў…
Шкада, што не спыніў.
Яе няма… Я ж сніў яе і марыў –
Спаткаць такую, як казала Марта…
Баюся, што ад сённяшняга дня
Тут буду супыняць свайго каня –
З альтанкі выглядаць яе упарта…
Загадка: здань – не здань?..
Зычліваю рукой,
Здаецца, хтось махнуў…
Ды што са мной?
Ты ж сёння так патрэбна
для парады!
Ва мне ўнутры няма чамусьці
ладу…
Чужацкі замак кліча…
Трэба ж строга!
Дарога – не разгорнуты сувой.
Да мэты шлях – з гарыстасцю
крутой!
Адрыну ўсё!
Вядзі ж мяне, дарога –
З прадбачлівай кароннаю мальбой!
Гэй, белагрывы мой,
Дык рушым з Богам!

Ускоквае на каня – за ім капытны цокат верхнікаў.

2

Замак крыжакоў – на самым памежжы з прыбалцкімі землямі. За шырокім сталом, застаўленым пітвом і стравамі, на абгаварэнні спрэчных узаемадачыненняў – магістр Ордэ-

на Андрэй Сціrлянскі і вялікі князь Міндоўг.

Сцірлянскі

Я запрасіў, вялікі князь, цябе
Для справы пільнае:
Ля возера Дурбе
На нас напалі з прыазёрных
кушчаў —
На крыж Хрыстовы
Дзіды Жмудзі, Куршы.
Ды дзіўна мне:
Да той паганскай збродні
Загон і твой дадаўся з-пад Гародні!..
Як можна да паган на помач —
збройна?
Я вестцы той і верыў і не верыў:
Як вусны могуць абяцаць адно,
А меч — спускаць дамоўленасць
на дно?
Ты ж абяцаў майму місіянеру…
Дзе Кальнер?

Уваходзіць святар-місіянер, прыгінае адно калена — нібы прысягае.

Місіянер Кальнер

Дакляраваў князь Мендаг
на сустрэчы:
Ён Хросту нашаму —
Не запярэчыць…
Ён, праўда, гэта мовіў у знямозе,
Калі яго аблога, як пятля,
З Наваградкам душыла…

Сцірлянскі

Так… Твая зямля
Прасіла помачы… І я здаля
Паслаў мячы —
на кліч аб дапамозе…
Ты разумнейшы быў тады ў аблозе!
Ды розум з галавы не ўцёк дарэшты,
Калі ў мой замак
З просьбай зноў ідзеш ты…
Не абысціся, бачу, без мяне!
Вы ўсе да нас, калі бяда утне…

Міндоўг

Хрыстова вера!.. Я хіба супроць?
Я сам прыняў…
Абы з рукі прачыстай!
Не Хросту супраціўнік я —
насільству
Накідваць сваю веру, як аброць!
Літва — што азначае?.. Воля веры!
Літва — літанне веры па душы.
Хіба пагана, калі Богам — дрэвы?
Ці Сонца — Бог?..
Ці Зорныя Каўшы?
Абы ў іх спавядалася яднанне
Сапраўдных супраціўнікаў ілжы,
Грабежства, ліхадзейства…

Сцірлянскі

Не грашы…
Ідалапаклонства — каб ні звання,
Калі ты Богу нашаму, Хрысту
Даверыў сваё душаўратаванне…
Служы яго святому хараству!
Ды ты з паганствам не парваў,
гляджу…
Пакайся лепш…
Але каму кажу?
Не цвёрды ва Хрысце —
хто з сарацінаў!
Табе даўно пара ўжо спавядаць
Вызнанне богаўгоднае — лаціну!

Міндоўг

А што мне дасць яна?

Сцірлянскі

О, многа дасць!
Яшчэ ты нават не ўяўляеш, княжа,
Якая адчыняецца наступнасць
З тваім душапрыняццем нашай
веры!

Такой яшчэ няма на свеце меры,
Каб вымераць апостальскую
сутнасць
Вызнання,
Што цябе ўжо ахіне…
Глядзіш ты з недаверам на мяне?
Цябе трымае повязь з праваслаўем?

М і н д о ў г

А чым лаціна лепш?

С ц і р л я н с к і

Усім спрыяннем
Яна атуліць кожны твой жа крок!
Ад плевелаў ачысціць скарбы духу,
Адвее зерне спраў — ад пацярухі,
Абвострыць слых унутраны,
Прамые зрок,
Пакажа, дзе варожасць,
Дзе спрыянне,
Дзе брат духоўны твой…
І прарасце
Ад Хросту папы —
еднасць ва Хрысце!
Збіраеш землі ты, але яднання
Не можа быць —
Без багалюбнага вызнання,
Без крыжа — у душы і на шчыце!
Дзе меч не пройдзе —
Там пранікне крыж
З апостальскай мальбою
ва Хрысце…
Ды ты з неразуменнем зноў
глядзіш?

М і н д о ў г

Мяне крыху пужае ваш імпэт,
З якім вы рынуліся ў гэтае змаганне
З «нявернымі»…
Яшчэ не бачыў свет
Такой няшчаднасці заклання…
Кровапускання…

С ц і р л я н с к і

Ёсць д’яблам апаганеная кроў…
Твой крок —
Ці менш праз кроў пераступае?
Так, Ордэн наш мацуе і склікае
З усёй Еўропы рыцараў
І святароў…
Ідуць наезды на
Анты-Хрыста,
Схаваўся ён у нечысці няверных…
Прыстанішчам астатнім яго стаў
Кут ідалаў драўляных і каменных…
Ідзе выкарчаванне
Ідалапаклонства —
Дзеля ратунку духу ад убоства:
Ухвала разышлася на ўвесь свет!
Нядарам жа наш папа Інакент
Зраўняў паход на прусаў,
на жмудзінаў
З паходам велічным
На Палесціну!
Папрацавалі, чысцячы той Боскі
кут!
З’яднаныя Хрыстоваю малітвай,
За «гроб Гасподні» выйгралі мы
бітву,
Дык выйграем і тут!..
Ды найвялікшае, што дасць лаціна
Табе, збіральнік земляў, валадар, —
Непараўнальны ў бляску сваім
дзіўным
Найвышшы каралеўскі дар:
Ка-ро-ну!

Падыходзіць да Міндоўга — той прыўстае.

Яна цябе ўзвялічыць —
Станеш з намі роўным,
Па веры — нібы брат наш кроўны!
Карона —
Тое, што для дрэва крона:
Як малітоўна з небам размаўляе!
Зірнеш уверх — і шапка аж злятае…
Былыяператычкі, крыўды, зло —

Што ёй, кароне, ўздзетай на чало!
Я згледзеў у вачах тваіх іскрынкі,
Нібы з кароны ўспыхнулі пярлінкі!..

М і н д о ў г
(*разгублена*)

Пярлінкі?.. Так-так…
Я іх прыхапіў!

Кліча свайго скарбніка, дрыготка бярэ пярлінкі – уручае Сціплянскаму, затым – скарбонку з дарамі для магістра.

Пярлінкі перадай туды ў карону:
Яна — дзяржаўная,
Мая да скону.
Я на чале Літвы яе ўжо сніў…
Я ведаў, куды схіліцца размова,
Я з вопытам і сам яе хіліў
У бок, дзе трэба нам
Дзяржаўная абнова!
Таму — ці мог я сёння да магістра
З'явіцца без дарункаў адмысловых?

С ц і р л я н с к і

Карона… З яе воблікам вячыстым
Тут не зраўняюцца ніякія дары!

М і н д о ў г

А ўсё ж дары ты нашыя бяры…
Дарэчы, гэты дар я вёз Данілу,
І ты б яго, напэўна, пераняў,
Калі б не ногі вернага каня!..
Я дар ашчаджваў —
Ён даваў мне сілу,
Як талісман, удачу ў перамовах…

С ц і р л я н с к і
(*з цікаўнасцю азірае скарб, узважвае на руцэ з усмехам*)

Ах, скарб…
Ці ты чакаў са мной сустрэчы
новай?
Ты рук маіх, аднак, не абмінуў…
А ўсё ж ты, Мендаг, меў са скарбам
змову:
Ты выйграў перамовы!.. Рэч адну,
Дый не адну!
Навокал княствы ўсе пачулі навіну!
Карона —
Вось дзе скарб сапраўдны, княжа!
Ніхто яго на вагах не узважа,
Ён невымерны ў коштце і ў красе,
У велічы дзяржаўнай, у вазе!
Цябе ж нядарам важкасць тая
цешыць.
Ды розніцу ў вазе —
Сплаціць належыць!
Яе зраўняеш ты перахрышчэннем…
Ды — неадкладна!
Верніцкім сумленнем.
На дрэве веры нашай ты
прыняўся…
Дзе Кальнер?
У касцёл вядзі ты князя!
З літаннем песняспеўным
І паднебным,
З таемнасцю абраду і малебну
Князь прыме ў поўнай згодзе,
Без прынук —
З тваіх, пасрэднік неба, шчырых рук
Перахрышчэнне ў нашую лаціну!
А потым— і хрышчэнне свайго
краю…
Ды ведай:
Бог адступніцтва карае!..
Цяпер пранікніся высокасцю
маменту!
Я вышлю ліст свой папе Інакенту,
Ды хутка да яго і сам прыеду,
Каб ён сваім высокім высвянчэннем
Карону акрапіў…
І ўсе нашы хрышчэнні.

Святар Кальнер ужо кіруе Міндоўга да дзвярэй… Ды магістр спахопліваецца.

С ц і р л я н с к і

Ты бачыш, Мендаг, гэты ліст
паперы:
Яна чакае ад цябе яшчэ
Да нашай працы поўнага даверу!
І там, дзе ў жылах кроў паган цячэ,
Для крыжа адчыні шырока дзверы!
Руцэ, што крыж трымае,
Адпішы
Іх землі — для ратунку іх душы!
Ты ведаеш абшары іх — спачатку
Ты адпішы хоць частку іх,
Хоць частку!..

М і н д о ў г

Ды я ж не Гаспадар —
Над іх зямлёй, дабром…

С ц і р л я н с к і

Ты і не будзеш іх Гаспадаром!
Ты адпішы іх, быццам пад заклад…

М і н д о ў г

Як — пад заклад?

С ц і р л я н с к і

Табе ці не ўсё роўна?
Ты ж не спазнаеш аніякіх страт!

М і н д о ў г
(*штосьці прыкідваючы*)

Хіба — пасля…
Калі дазволіць мне карона!

(*З уздыхам*.)

Ці ты кароль,
А ці вялікі князь,
Як кажуць:
А ці можна тварам табе — ў гразь?

3

Тая ж узорыстая прыдарожная альтанка Міндоўга. Адпусціўшы верхнікаў сваёй аховы, М і н д о ў г хістка заходзіць у сваю альтанку. Бачна: ён на добрым падпітку. Ды не губляе развагі. Іранічна падпявае сам сабе.

М і н д о ў г

Туды паехаў князем—
Вярнуўся каралём!..
Дык сустракай мяне, зялёны дом!
Здаецца, не пад дрэвам я
ў альтанцы,
А ў шматкамлістым казачным
палацы:
Вядуць са мною перамовы птахі,
Вавёркі прыпыняюць пераскок…
А я бяру адзежыну пад пахі
І меч пагрозны адкідаю ўбок…
Ды хопіць блазнаваць…
Хай скразняком
У галаве прадзьмецца хмелю
тлумнасць.
Дзе правата мая?
Дзе неразумнасць?
Як разабрацца мне, зялёны дом?
Вярнуўся каралём?..
Чаму ж на знак спрыяння
Расце ва мне не ўдзячнасць —
Недавер?
А тым, хто па-сваяцку і цяпер
Мне ў сэрца меціць, —
Ах, мае пагане,
Заўсёды я нясу вам дараванне…

Нечакана хапаецца за меч, нібы ў прадчуванні чагось нядобрага, хістка выходзіць з альтанкі… І ў нейкай хмельна-буйнай нястрыманасці мечам пакідае залысіны на старадрэвінах. Спрэчку усчынаюць у н у т р а н ы я г а л а с ы.

1-ы г о л а с

Балюча вам, паганскія багі?
Мяне не так учора абкарылі.

Абсеклі мае мары, нібы крыллі.
Не ў сетку ўблыталі —
У ланцугі!

2-і голас

Дзівак, зраўняў карону з ланцугом.
Узмах — і можна ўсё яшчэ
адрынуць!
Ты сам хацеў… Узваж усё нутром.
Паспееш яшчэ ў роспачы загінуць…

1-ы голас

Ты хочаш навучыцца ў дубізне
Трывушчасці, яе доўгажыхарству?
Крыжасты лесаруб яе патне,
А разам з ёю —
І тваё ўладарства!

2-і голас

Карона ўсё ж на вопытным чале,
Яна супыніць згоны, тыя сплавы.
Чужацкаму і мечу і страле
Яна падставіць шчыт
*Першадзяржавы*!

З-за старадрэвін нечакана паказваецца жанчына ў чорнай хусціне – прывідная постаць Марты.

Прывід Марты

Ах, што з табою, Мендзя?
Што за немач
Цябе так хістка водзіць між камлёў?

Міндоўг

Ты зноў тут, Марта, як зарніца
з неба?
Над новым пасміхніся каралём!..

Прывід Марты

Ты ў каралі ўжо выйшаў?..
І з пахмелля
Цябе ўжо водзіць, бачу, тлум
вяселля…

Міндоўг

Мне б цешыцца цяпер…
Ды ў сэрцы млосць.
Мяне не ўцешнасць хмельна
водзіць —
Злосць.
І на сябе, і на ўвесь свет…
Але міласць
Загледзецца змушае ў дзіўны
прывід.
Хачу адпрэчыць мройны воблік,
выгляд,
Ды не магу…

Прывід Марты

Я тут часовы госць…
Я сёння з'еду ўжо… Сыду адсюль,
Каб не трывожыць больш адведкамі
нікога —
Цябе, сябе…
Ты не глядзі няўцямна-строга.
Наслухалася тут я
Песень дрэў, зязюль
І голасу зажуранага Марты,
Што, нібы рэха, блудзіць сярод
крон…

Міндоўг

Не разумею… Твой уздых, як стогн.
Мой розум яшчэ тлуміць
Хмель той кляты,
Што я прыгубіў лішак…
Пекла ці то свята?..
Не ўцямлю штосьці… Даруй,
Хто б ні была ты:
Здань — не здань…
Не адыходзь — у вочы мне паглянь!
І больш не ўчыніць здань
Са мною жарты…

Вось так — бліжэй, бліжэй…
Ды што я бачу?
У зрэнках быццам скачуць
Стрэмкі плачу…
Ты — Марта?

Прывід Марты

Я для цябе — і Марта, і не Марта…

Міндоўг

Ха!.. Ведаю, хто ты!
Я прачытаў у зрэнках
Разгадку у тваіх пякучых стрэмках:
Я толькі раз на дне такі адчай
Прыкмеціў, помню, у адной
дзяўчынкі,
Якая з безвыходнасцю ў вачах,
Сціраючы крыштальныя слязінкі,
Не аддавала мне сваёй сястрычкі…
Кусалася…
З учэпістых абдымкаў
Ледзь Марту вырвалі мае сваты!
Няўжо і сапраўды
Дзяўчынка тая — ты?!
Ах, Мірта, Мірта…
Прывід мой святы!

Мірта

Я знала: ад мяне маю Мартынку
Крадзеш ты з Гарадзішча
назаўжды!..

Міндоўг

А як інакш, дзівачка, ты хацела?

Мірта

Табе-то што…
Ды як я вар'яцела!
Двайняты ж мы — адна душа і цела!
Яшчэ, відаць, мы з матчынага
ўлоння
Раслі ў абдымках і трымцелі ўдзвюх,
Адна ў адну — як крылцы птаха,
як далоні,
Адна калыска наша — пушча, луг…
Тапілася я неяк — рыбакі
Прынеслі ў замак…
Мама плача: «Марта!»
І кліч знутры шапнуў мне трапяткі:
«Ачніся, Марта, ўстань!»
Твой покліч, мама,
Падняў мяне, хрышчоную вадой.
Так Мірта стала Мартаю таксама.
З часіны той
Я колькі была хрышчана бядой!..
А ўсё ж, каб распазнаць лацвей
сястрычку,
Мне мірту запляталі у касічку…
Дык вось каго ў мяне ты выкраў,
Мендзя,
На ўсе часы наперад, назаўжды —
Мартынку, найдарожшую
на свеце…
Я сохла, нібы лісце ў халады.
Не памагалі зёлкі,
Ні шаптухі-бабкі…
Адной было мне гэтак сцюжна,
зябка…
Ды раптам —
Выручальны ўздых здагадкі:
І з тваёй ласкі ў наша Гарадзішча
З'явіўся здатны Даўмант
на ігрышча —
Твой сябра… І надзея маёй маткі…

Міндоўг

Я знаю…
Сам тварыў той цуд заручын!

Мірта

Не ўсё ты, Мендзя, ведаеш, на жаль:
Пасля заручын —
Боль прыйшоў разлучын,
Пра іх яшчэ не знаў вясельны
баль…

М і н д о ў г

Ды помню:
Даўмант тупануў нагамі,
Каб заручыць цябе з паганскімі
багамі…
Прымусіў браць у капішчы заклён…
Ды каб тае бяды!.. З прадаўніх дзён
Ці не шануем тых багоў мы самі?..

М і р т а

Не разумееш ты… Ці ў тым разлад?

М і н д о ў г

Ах, вось пра што… Найгорш кабеце,
Калі пачнуць ваўчкі чапляцца звад:
Твой Даўмант меў другую
на прыкмеце!
Было — сплыло…
Нашто ўчыняць нам лямант?

М і р т а

Але ж пусціў ваўчкі разлучын
Даўмант!
Дзівуешся?
Ён вокам хіжаватым
Не згледзеў покліч запрашальны
Марты,
Сачыў таго, каго яна чакала
З паходаў, сечаў, — вось у чым
разлад!
Яна кахала — значыць, я кахала! —
Такі, відаць, закон усіх двайнят.
Мне Даўмант
Пераціў шляхі ў твой замак:
Сюды, ў Наваградак — ні на парог!
Ступіла варажнеча на парог
таксама…
А я пяшком сюды б — не чула б ног!
Я проста задыхалася ў журбе.
Я не магла без Марты… Без цябе…

М і н д о ў г

Мне адчынілася
Вялікая таемнасць,
Як пры зяханні зыркім бліскавіц,
Калі абрысы родныя імгненна
Аголяцца — і ў цемры кануць ніц.
Ды ўсё замкнецца, звяжацца
ў ланцуг,
І выплыве з таемнасці разгадка.
І я нібы ўзышоў на новы круг
Таго, што мне запавядала Марта…
Цяпер дакладна ведаю — каго
Мне Марта ўзычыла у час астатні,
Не ўсведамляла, можа, сэнс таго,
Што вусны мне
Шапталі ў прадчуванні…

М і р т а

Пакутны сэнс…
Прыпомні ў Гарадзішчы
Таполю-вежу — там, сярод двара:
Як разраслíся там з яе камлішча
Разгаліста ў нябёсы — ралы два!
На ралах тых нам зладзілі арэлі —
Яны шугалі, ўзносілі нас, грэлі,
Нас гушкаў смех і пострах
дураслівы,
Ды Марта раз сарвалася..
Жахліва!
Вярталася у памяць ледзь жывой,
Ды штосьці тлумна стала
з галавой…
Арэлі — адскрыпелі…
З раздвоіны той рала
Адно — марнела штосьці і ўсыхала,
Пайшло, атросшы лісце,
ў загубенне…
А іх жывіла, як сясцёр,
Адно ж карэнне!
Усохлую — ўзяла на зрэз піла…
Звалілася сястра раскрыжавана…
Я ж чую спеў яе —

З-пад попелу і тла…
І памяццю бянтэжуся: чаму?!

Міндоўг

Таемнасць лёсу…
Што ўзычана — каму,
Нябёсамі з вышынь наканавана…
Ды зазіраць нашто
Ў прадоністае дно?..
Адхілім лепш самоту… Я прашу:
Узваж і зразумей маю душу!
Цяпер я, дзякуй, ведаю адно:
Ты мне паслана лёсам…
Мо грашу,
Але цябе адсюль я ўжо —
Не адпушчу!

4

Наваградскі замак — у шуме, гамане. Шырокі двор застаўлены сталамі, бочкамі з напоямі. Каля парадных дзвярэй — вяльможы, князі, баяры. Падступае варухлівы натоўп месцічаў, звестуноў, скамарохаў. З шырокіх дзвярэй замка па квяцістай, усланай дарагімі дыванамі, адмысловымі саматканкамі дарозе, плыве на руках каталіцкага першасвятара, у атачэнні davераных высокіх асобаў, у пераліўным зіхаценні каштоўных каменняў і залатых крышталін *каралеўская карона*. Яе спаважна і ўрачыста надзяваюць на чало Міндоўга, які прыўстае са свайго раззалочанага пасаду і тройчы ва ўсе бакі схіляецца ў нізкім паклоне… Хвіліна ўтрапёнага зацішша. Святар па-латыні на высокай ноце вядзе малітоўны абрад каранацыі. Яго час ад часу заглушае перуновы гром соцень галасоў, воклічаў: «Хвала яснавялікаму і найвяльможнаму каралю Міндоўгу!», «Карона на чале яго акраплена вадой найсвянцонай апостальскай на векі вякоў!», «Няхай ніколі не згасаюць каля яго тыя свечкі, што запалены ад святога агню пры труне Гасподняй!», «Хвала і слава новаму Каралеўству Літвы Вялікай!» Гучаць нечаканыя воклічы: «Шырэй, шырэй!» — гэта расчышчаюць паблізу караля пляцоўку, на якую лёгка вылятае, нібы з неба спускаецца, хор падлеткаў — хлопчыкаў і дзяўчатак з крылцамі анёлаў. Людства замірае…

Хор

Карона каралеўская з нябёс
Сышла да нас на шчырае маленне.
Як добра, што у свеце летуцення
У нас карона ёсць!
Карона ёсць!
Карону, нібы замак наш,
не ўцяць —
Ні мечу, ні ліхому злонамеру.
Па небе родным ангелы ляцяць,
Каб шырыць на зямлі
Хрыстову веру!
Захопы і падкопы адпадуць,
Адкоцяцца тараны і балісты —
Спадуць у роў гісторыі, у муць…
Расчысціць нам карона
Шлях вячысты!
Не земляў і не княстваў
далучэнне —
Нам вырашыць карона зорны лёс.
Галоўнае у свеце — ўсведамленне:
У нас карона ёсць!
Карона ёсць!
Таму заўжды так прагнуць
незычліўцы
Яе пасекчы мечам, растаптаць…
Адродзіцца карона зараніцай —
Па небе родным ангелы ляцяць…
Ангелы ляцяць!

Галасы ў замкавым двары падхопліваюць заключныя радкі кожнага песеннага куплета. Шырока і вольна гучыць розгалас: «Па небе родным ангелы ляцяць!» Звон чараў і кухляў патанае ў шматгалосым гульбішчы. Заглушаецца стогн і слёзны плач збітых з ног, прыціснутых да сценаў і муроў месцічаў, што цягнуцца бясконцай гурмой да паквапных сталоў і напояў. Бочкі ўжо выкочваюцца за вароты замка. Усюды гучнаструнны звон пад рукамі вандроўных гусляроў і лютністаў… Скокі скамарохаў…

5

Пасля ўрачыстай часткі каранацыі застаюцца ў каронnай зале разам з Міндоўгам Мяжыра, Транята, Войшалк, Шварно.

Міндоўг

Мой шлях да каралеўскага пасаду,
О, колькі ад мяне ты вымагаў
Вяршыннай пільнасці і кругагляду,
Малення новым і старым багам!
Прыслухвання да казаняў
Хрыстовых,
Каб годна ўзняць Літву
Кароннаю абновай!..
Дый пакланення тым багам,
што ў моцы
У землях блізкіх і ў маёй крыві!
Душа мая — ці іх зрачыся можа
Дзеля вызнання
Хрысціянскае любві?..
Я ўсцешан, крэўнікі, на адвітанне:
Вы не паганьбілі маім
каранаваннем…
Карона спыніць нашы нелады!

Мяжыра

Падзякуем багам… Але сюды
Прывёў інакшы клопат нас,
на жаль…

Транята

Не гэты ўчынены табой спектакль!

Міндоўг

Мяне здзіўляе ваш гняўлівы закід…

Транята

Сядзець нязручна на галінах дзвюх:
Калі ты, вуй, раздвоіш собскі дух —
Раздвоіш і дзяржаву, яе знакі!
Карона не паможа задзіночыць
Усё, чаго ты прагнеш так здаўна.
Міражным бляскам замуціў ты
вочы…
Угледзься лепш:
Карона ці труна?

Войшалк

Не сей, братаніч, нейкае
страхоцце —
Да мэты памяркоўна лепш
падходзьце!

Міндоўг
Я думаў: ваша мэта — разуменне,
А разам — прымірэнне нашых
меж…
Ды вам абходзяць болей
пабурэнні…

Транята

Па горла нам хапала іх… Але ж
За тлумнасцю твайго каранавання
Хаваецца штосьці горшае —
Забранне
Адвечных нашых земляў,
Пушчаў і лугоў,
Ды з патаптаннем спадчынных
багоў!
Вунь, як грыбы, растуць умацаванні
Крыжацкія — ля возера Дурбе…
Аднойчы нам багі паслалі там
удачу!
Хіба не распавёў магістр табе,
Як мы місіянерам далі здачу?
Ды як плямёны нашыя ўзмагліся!
Мы толькі іх пагладзілі па пысе…
А трэба зноў,
Каб з іх там шэрсць курэла —
З-пад кожнага плашча місіянера!
Пяруне наш,
Пашлі свой гром абвальны,
Каб сеча наша стала вырашальнай!
Для вас там спее пекла, крыжакі…
Ды не стае нам, вуй,
Яшчэ тваёй рукі!

Міндоўг

Ля возера Дурбе?…
Але ж я даў зарок!
Дакор магістра раз мяне ўжо сёк!
Не за сябе мне страшна —
За карону:
Пакрыць адступніцтвам,
Нібы праклёнам…

Транята
Сваім зарокам мэтаў іх не цеш,
Ты крэўнасць падтрымай —
і рассячэш,
Як мечам, вузел,
Што завязан крута
Паміж табой і хіжым крыжаком.
Ты чуеш: ён грукоча у наш Дом!
Наспела сеча вырашальна, люта…
З кім згода твая?

Мяжыра

Браце, ўзваж з усіх бакоў —
Сваім сумленнем, праўдаю багоў!..
Руку сваю падай той грознай дзеі.
Вяла нас, помні, да цябе
Надзея!

*Мяжыра і Транята, адвітаўшыся, выходзяць.*

Міндоўг

Ты мужны ратабойца мой, Шварно,
Ваярскім досціпам
Скажы, будзь ласкаў:
Ці не загнаны з двух бакоў
Я ў пастку?

Шварно

Цябе не перайначу ўсё адно,
Ад мэты не адпудзіць цябе пострах.
Яна ўзнясла цябе, але на дно
Шпурнуць так можа — і не злічыш
костак!
Ды сам не ўвязвайся
З крыжацкай варажынай…
Да сечы падаспею
Я з дружынай!

6

*Да брамы наваградскага замка на запараным кані падскаквае князь Шварно. Насустрач выходзіць кашталян — разводзіць рукамі: гаспадара няма. Дарога затрымала караля. Кашталян і сам трывожна выглядае яго. І вось — чаканае тарахценне каралеўскай карэты. Шварно кідаецца да Міндоўга.*

Шварно

Ляцеў сюды я з весткамі наўскач,
Гукаў людзям і дрэвам:
— Перамога!
Ды сэрца захлыналася ў самога
Усё ж ад весткі чорнай:
Хоць ты плач!..

Міндоўг

Яе ў дарозе чуў ад звестуна,
Яна пераціяла шляхі маланкай…

Шварно

Мой меч крыху не падаспеў —
з сядла
Быў дзідай княжыч выбіты —
Раманка…
Гарачы, ў шале, як страла, калёны,
Упаў ён бездыханна ў жвір азёрны…
Знямеўшы, расступілася мая
дружына,
Як Даўмант на руках выносіў
сына…

Міндоўг

Шкада мне маткі…
Вы хоць не кажыце
Аб страце сына роднай яго Мірце!
Чаму я адпусціў яго адсюль?

Пры матцы ён прыгрэўся тут,
Прыжыўся…
А як ён з Войшалкам маім
здружыўся!
Ды пацягнула ў кут,
дзе нарадзіўся, —
На покліч тых бароў, багоў,
зязюль…
Цяпер мне хоць аглоблі павяртай
З дарогі у дарогу…
Трэба ж мне — туды
Паспець хутчэй на жэглішча бяды:
Жалоба зазірнула у той край!

Ш в а р н о

А Войшалк — на Лаўрышавым
маленні?

М і н д о ў г

Бяда прыцісне — ўздымецца
з каленяў!
Пакуль прыедзе — з Міртаю
пабудзь.
Яна яшчэ грудзямі корміць сына.
Яна пра сваё гора не павінна
Пакуль што анічога знаць і чуць…
Ды вось яна — з Мартынкам
на руках
Выходзіць, устрывожаная,
з брамы —
З-за сценаў замка быццам гоніць
яе жах.
Сынок у страху туліцца да мамы…

М і р т а

Што здарылася, Мендзя?.. І Шварно,
Вярнуўшыся, з табою заадно
Маўчыць…

М е н д а ў г

А ты куды — ў дуброву?..
Малайчына!
У засені дубоў пагушкай сына…

М і р т а

Мне ў замку стала горка, невыносна,
Дрыготка, млосна…
Мо з бяды якой?

М і н д о ў г

Табе патрэбен, Мірта, супакой,
Зацішны кут, смалісты водар
соснаў…
Ля Гарадзішча, помніш, пошум
хвой,
Які дзівосны бор — зусім
паўскрай…
Не бор, а рай!
Радзінны край — што лепей
для спачынку?
Дай, адвязу туды цябе з Мартынкам!
Да вас заеду хутка я з дарогі…

М і р т а

Я лепш — з табой…
Пабудзем мы ўтраіх.
Стрывожаны Мартынчык, бач,
прыціх…

М і н д о ў г

Ну што ты, Мірта!
Лепш глядзі малога.
Ды не маркоць душу.
Я ж ненадоўга…

М і р т а

Ці часта я прашуся?.. Нас вазьмі.
З мяне дрыготкасць тайную здымі…

М і н д о ў г

Ты бачыш: вецер закруціўся
з пылам.
Глядзі, Мартынчыка не застудзі!
Лепш затулі грудзьмі…
Дый гром за небасхілам!

Сыночак вось заплача —
супіць бровы…
Шварно, сягоння вам не да дубровы!
Вунь з пугай бліскавічнай у карэце
Пярун па хмарах цёмных грозна
едзе!..
Хавайцеся у замак…

Міндоўг ускоквае ў сваю карэту. Мірта ўслед тарахценню колаў гукае, махае рукой.

М і р т а

Куды ты, Мендзя?
Спыніся ды вярніся… Пачакай!
Не пакідай мяне ў трывозе,
ў страху…
Не ўзяў…
Кудысь памчаў за небакрай…
І знік, растаў
У пыльным віхры шляху…

*Частка трэцяя*
**Расправа**

1

Каралеўская карэта Міндоўга, аздобленая постаццю верхніка-пагоніча са шчытом і мечам у промнях стрэлаў і каласоў, падкочвае пад жвудзінскі замак Мяжыры і Траняты. Караля ніхто не сустракае. Міндоўг заўважае воддаль, пры старой свяшчэннай дуброве, дымныя пасмы, што сцелюцца нізам. Апошнія снапы полымя то ўспыхваюць, іскрыста ўзвіваюцца, то затухаюць… М і н д о ў г адыходзіць ад верхнікаў сваёй аховы і, трымаючы збоку, ля сэрца, знятую з галавы карону, накіроўваецца ціха ў бок жэглішча. Прыпыняецца — вусцішна азірае пранізаныя шызаватым дымам мясціны.

М і н д о ў г

Яны ўсе — там, на жэглішчы…
Пяруне,
Ты прагу не спатоліў тут яшчэ
Свяшчэнным спапяленнем?
Як пячэ
І слёзна разрывае ўсю душу мне
Саладкавата-горкі дым ахвяр!
Дым рук і сэрцаў, маладых,
адчайных,
Дым вуснаў і вачэй пяшчотадайных,
Дым пацалункаў развітальных,
Мар…
Дым, нібы пасмы пасівелых матак,
Паміж камлёў, кустоў плыве, цячэ…
Чапляецца за голле колькі стратаў!
Няўжо, Пяруне, прагнеш іх яшчэ?
Даруй, што ў забыцці я тут
хрышчуся —
Перад табой, Пяруне,
І табой, Ісусе…
Я не пазбег і сам крыві пралітай,
Крыві нявіннай,
З рук маіх не змытай…
У вас, багі, прашу я даравання…
Ды я ці раз, смуткуючы, прашу?
Іду на сечу — ў сэрцы жаль душу…
Ды сёння мне за ўсе кровапусканні
Жахлівы грэх апанаваў душу…
З Ісусам сёння — веры маёй повязь.
Ды і Пяруну ўзношу сваю споведзь!
Адзін другога вартыя багі!
Калі б вы не былі ўзаемаварты,
Ці ў гэтай сечы, лютай і упартай,
Людскія жыцці бездыханна
Так зляглі?
Тут — воінства паганскае,
Там — воінства Хрыстова…
Вунь на шчытах, плашчах —
Крыжы, крыжы…
Крыж зганьбавалі вы ў вызнанні
новым.
Ісусе, як ачысціць тваім словам
Высокай веры знак —
Нас навучы, скажы?

Ад жэглішча насустрач Міндоўгу ідуць князі М я ж ы р а, Д а ў м а н т, Т р а н я т а і іншыя. Міндоўг са знятай каронай у руцэ моўчкі схіляе пасівелую галаву — на знак агульнага

гора. У замку за памінальным сталом насцярожаную маўклівасць парушае М я ж ы р а.

М я ж ы р а

Прыехаў — ну і добра…
Мечам вострым
Вісяць над намі
Пер態тычкі, нелады…

Т р а н я т а

Не ператычкі — бездань злыбяды!
Прыйшло сюды
Крыжацкае забойства!..
Сячэ пад корань змова, а не звады.
Ідзе забойства краю — шляхам
здрады!

М я ж ы р а

Прыцішым раздражнёнасць…
На падмогу
Прыслаў жа Мендаг
Збройны чын дружын!
Каб не ўзмагліся мы ў кулак адзін,
Ці святкаваў бы край наш
перамогу?

Д а ў м а н т

За дапамогу дзякуй…
Але ў іншым рэч:
Калі б не змова — не было б і сеч!
Дакуль нам падстаўляць наездам
цемя?

Т р а н я т а

Таму пара: не крэменьчык
аб крэмень,
А словы, як з размаху —
Меч аб меч!

Д а ў м а н т

Транята хоць гарачы —
зрок арліны!
Таемныя ўсе бачыць ён пярліны:
Адкуль яны?
Дзе ўзяты для кароны?

М і н д о ў г

Карону ваша злосць хай не чапае.
Пярліны ў ёй — з празорыстых
глыбінь,
Куды, на жаль, не кожны зрок сягае,
Тым болей — падазрэннем
замутнёны…

Т р а н я т а

Ды пакінь
Ты лепей свае байкі маргаслепам.
З каронай ты павіс
Паміж зямлёй і небам.
Адрокшыся ад нас, твой здрадны
шлях
Хацеў здружыцца з крыжам
на плашчах.
Твой шлях бяздумна кінуўся
ў пагоню
За бляскам тым падманным
у кароне!
Ды толькі не заўважыў шлях
нягодны
Гару скалістых камянёў падводных,
Табе, відаць, прызначаных знарок
І для цябе таксама прыхаваных.
І прытупіўся ў твайго шляху зрок,
І ён ужо не бачыў патаптаных
Плямён сваяцкіх,
Да прадоння гнаных!
Ён не заўважыў скрутных тых віроў,
Дзе густа чырванела
Маладая кроў…

Д а ў м а н т

Як цяжка было несці на руках
Сваё мне гора з прыазёрных
кушчаў!
А хвалі наўздагон па жвірыстых
слядах

Каціліся, лізалі стогн пякучы…
Я тое перажыў, што ўжо не раз
Здаралася з маім прыбалцкім родам.
Сабраць нам трэба гора ўсё ў наказ,
Каб адхіліць нягоды назаўсёды!..
Згадаў цяпер я Конрада з Мазоўшы,
Ды хто яго навуку сёння можа
У свет паслаць, нібы сваю бяду?
Я з ёю на руках цяпер іду!
Хачу я горыч перадаць адну,
Каб ад яго віны —
Ішла ў тваю віну!
Ты, Мендаг, ведаеш яго спакусу:
Рукамі крыжакоў прыціснуць
прусаў.
Прыціснулі, ды так, што пад сябе
Падгрэблі іх зямлю… Але ці б'е
Бяда пагвалчаных —
Хоць трохі па табе?
Ці па табе ударыць стогн яцвягаў,
Аўкштайтаў, куршаў ды жмудзін?
Не ўдарыла, то ўдарыць!.. Паглядзі,
Як засланіўся сам ты іх адвагай!
Ты перад небам цяжка саграшыў,
Калі, як Конрад, зноў разварушыў
Сваёю змоваю
Крыжацкую іх прагу!

М я ж ы р а

І Полацк наш згуляў у тыя ж жарты:
Ён мечаносцаў
Так разнадзіста раз'ятрыў!
Ён думаў, што напады па Дзвіне
Рукамі іх панішчыць, ператне…
Ды пачалі іх мечы хіжа трушчыць
Саміх жа палачанаў:
Па Дзвіне да вусця!
Пайшлі па водах, землях —
як балячкі.
Не дапамог і меч славуты Вячкі!

М і н д о ў г

Я ж знаю гэта…
Ды ў мяне на мэце —
Не вынішчэнне вашае, паверце!
Ні вас, ні земляў вашых заграбанне,
Нібы на знак адзінства і яднання!..
Карона — вось дзе выснены мной
знак
Змагання за сябе — насупраць
бедства,
Што напірае з двух бакоў… Аднак
Хрыбет захопаў зломіць
Каралеўства!
Пажараў наглыталіся мы ўсмак.
Лёс нам адно вяшчуе: выжыць,
выжыць!
А жыць — калі?! Насупраць пашчаў
хіжых…
Вачамі ўзмерце шлях — у два бакі:
Ардынцы… Крыжакі…
А там — за імі
Гадуюцца з ашчэрам новыя клыкі!
А нам рукамі, жыламі сваімі,
І розумам, і хітрасцю
Са злом
Схапіцца трэба ў сечы —
І на злом
Пусціць усе крыжацкія намеры
Дзяльбы і перадзелу душ, зямель.
Ды Каралеўская Літва
Прыпыніць гэту дзель!
У Крыўскі Дом яна замкне ім
дзверы!
Вы ўцямілі цяпер, з якіх глыбіняў
Ідзе каронны бляск мах пярлінаў?

Т р а н я т а

На жэглішча сваіх няўцямных мэтаў
Гатовы ты, каронны уладар,
Пакідаць па адным нас, як ахвяр,
У вочы хціва хлусячы пры гэтым:
Твае высокагодныя намеры
Не хочуць вынішчэнняў нашых…

Але кроў,
Пралітая нявінна, ці паверыць?
Дым нашых хатаў і святых дуброў
Чаму табе вачэй не выядае?

М і н д о ў г

Я крыўды вашы ўсе прымаю,
Ды іншы жаль засеў у маім зроку:
Як хочацца адседзецца вам збоку —
Ад новых накірункаў і шляхоў,
У заглушы раздробленых куткоў,
Сярод князькоў, як завадзь,
неглыбокіх,
Сярод багоў паганскіх і бажкоў…
Ды помніце:
Без нашае кароны,
Без Каралеўскай Крывіі, Літвы
Ніколі не ўтрымаецеся вы!
Застанецеся жменяю плямёнаў,
Як вотруб'е з зярнят са збітых
жорнаў!..

Т р а н я т а

Нам не прароч!
А вось табе належыць
З каронай развітацца!..
Што ты ўскочыў, вуй?
За меч схапіўся… Злуй — не злуй…
Вядома, страта гэткая бянтэжыць!
Абныў і раптам выпусціў з рукі
Нялёгка так здабытую карону.
Але развітвацца прыйдзецца
усё роўна,
Бо трэба ж змыць з сябе свой грэх
цяжкі!
На гэты крок змушае лёс плямёнаў,
Што захлiснуты з тваёй помаччу
пятлёй!
Цябе клянуць яны пагвалчанай
зямлёй…

М і н д о ў г

Я, можа, варты вашага праклёну…
Але карону?
Што вы надумалі — карону
Сарваць акрутна?.. Ды яна жыве
Ужо сама сабою… Незалежна!
Непрыналежна ўладам іншым…
Грэшна
Аддаць яе на здзек і патаптанне…
Яна вам не даруе гэта насміханне!
Карона ўмее помсціцца, караць!
А калі трэба, лёсу памагчы
На ногі ўстаць!
Вы гэта ўспомніце, як гора прыпячэ.
Я не аддам яе, пакуль жывы яшчэ!..
Хай валасы мае сівыя рве
Спрычынены мной смутак…
Ды карона
Сваёй зямною моцай і паднебнай
Не так старому, можа, мне патрэбна,
Як тут — першадзяржаўнай
галаве —
Вялікай нашай Крывіі, Літве!

Т р а н я т а

Ды наша не адступіцца вымога:
Ты адрачэшся сам або прымусам
Ад гэтае кароны, як спакусы:
Магістру занясі — шпурні да ног!

М і н д о ў г

Лепш раскрыжуйце тут мяне
самога.
Карона — мая вера!.. Нібы Бог!
Руку не падымайце вы на Бога!

Т р а н я т а

Карона — Бог? Падумай,
што вярзеш?
Сам завязу —
Як ты не адвязеш!..

Міндоўг

Вазьмеш яе сілком?.. З мяне сарвеш?
З-пад меча гэтага?

Даўмант

Ты не спяшы, Транята.
У гэтай справе чубіцца не варта.
Разважыць трэба!..
Мендаг наш упарты…
Вядома, ён карону адвязе
Сціплянскаму — ва ўсёй яе красе:
Магістр хай сам пабачыць
адрачэнне
Тваё — ва ўсёй свядомасці рашэнне!
Ды перад гэтым, Мендаг, паднясем
Табе мы адмыслова запрашэнне.
Табе не кажам:
З княжання ты злазь!
Нам трэба сапраўды Вялікі князь!
Уладны, мудрадумны, з галавой,
У свеце знаны,
Ў справах абазнаны —
Свой!
На землях нашых сам ты выбірай
Сабе найлепшы замак — і наш край
Сваё табе даверыць верхавенства!
Гуртуй, яднай плямёны…
Ды абараняй
Ад хіжасці крыжацкай ліхажэрства!
Вяртайся да карэннае Літвы,
Да летувісаў тых, што з намі поруч,
Да крэўных песень, гутарак, убораў.
Адны ў нас на трывогі і на гора —
Правы!
Вяртайся да сваяцкіх берагоў,
Да зроду не чужых табе багоў,
Да іх малення, іх
свяшчэннадзейства…
На шчасце, ты ад іх не адступіўся,
Не зачыніўся ты ў Лаўрышаве,
як сын.
З наваградскім пасадам ён адзін
Там справіцца…
А ты бярыся, Мендаг, сам за розум
І даражы сваім і нашым лёсам!
Не аддавай наш край
перахрышчэнню,
А то захоп пад корань падсячэ!
І каб цяпер душы было лягчэй,
Карону адвязі ты ўсё ж хутчэй —
Для самаачышчэння!..

Міндоўг
(*устае, прыцiскае карону да грудзей*)

Не зразумелі нас з табой, карона…
Сляпым — не да вялікіх нашых мэт!
З табой мы ратаваліся б ад бед,
Тварылі б разам трохі лепшы свет,
Ды трапілі з табой пад біч загону!
І ўсё ж загналі нас з табой у пастку.
Адзіны ход пакінулі — ў бок скону!
Даруй, карона, калі ласка…

Міндоўг з каронай пад рукой прыгорблена ідзе да выхаду з замка. За ім з вокнаў сочаць Транята і Даўмант.

Даўмант

Ці адвязе?
Куды ж пайшоў, прыгнёны,
Наш валадар злашчаснае кароны?..

Транята

Ды дзе ён дзенецца?..
З каронай збоку
Падаўся ў лес…
За ім патрэбна вока!
Я прасачу…

Даўмант

Ды не кідайся там з наскоку…

2

Да жэглішча, паўскрай свяшчэннай дубровы, падыходзіць з каронай у руках Міндоўг. Ідзе да капішча. Паніклай галавой схіляецца

перад крамністай постаццю Перуна – ажно доўгая пасівелая барада касмылямі кранаецца яго ног, прыцярушаных попелам. Міндоўг кладзе перад Перуном сваю каралеўскую карону.

М і н д о ў г

Пяруне,
Ногі апаліў мне жар-пясок,
І ў попел галава уткнулася знямела.
Ступаў я часта, можа, не ў той бок,
І ў немачы дрыготка ныла цела.
І дух мой завісаў між двух агнёў:
Тваім, Пяруне, і тваім, мой Хрысце.
І я ў маленні не знаходзіў слоў,
І я ў шуканні не знаходзіў выйсця.
Дзе выйсце?
Я кладу да тваіх ног,
Пяруне, ў перлінах сваю карону.
Не ведаю і сам я, хто мой Бог?
І да каго схіляюся ў паклоне?
Кладу надзею на каронную Літву,
На Крывіі святую самабытнасць.
Калі не тым я жыў, не тым жыву,
Ты растапчы, як здань,
мою нязбытнасць.

Г о л а с П е р у н а

Ты падышоў да рысы той, дзе час
Дзве веры сутыкнуў няшчадна
і сурова:
Хрыстову веру –
з верай Перуновай.
Тых вераў у табе агонь не згас!
Ты трапіў неабачліва між намі,
Як жменя зерняў –
паміж камянямі…
Служыў ты верай мне,
Але звяла карона…

Г о л а с К а р о н ы

Ішлі мы на ратунак да плямёнаў,
Каб высвеціць для іх сапраўдны
шлях,
Каб вывесці з паганскага знямення,
Каб душы іх не гнёў дзікунны жах
Часаных ідалаў з калодаў
і каменняў!
А ёсць жа Бог *жывы*,
Сын Чалавечы!
У навучаннях, казаннях –
Сардэчны ён і вечны!

Г о л а с П е р у н а

Я ж – з крэмня,
Ды не мёртвы, безгалосы!
Я – сын таксама чалавечых рук,
Гарэння, духу ніў, калоссяў!
Ва мне тут спрасаваны кожны рух –
Быцця, людскога свету!..
Ганарыста,
Карона, не ўсміхайся зрэнкамі
пярлін:
Я цэлага сусвету, можа, сын!
Ты красані –
І сыпане з мяне іскрыстасць!

Г о л а с К а р о н ы

Ёсць іскры словаў, казанняў
Хрыстовых,
Жывога Духу іскры!

Г о л а с П е р у н а

Дух ці не жыве –
Вады жывой? Свяшчэннае дубровы?
Чаму прыспела так
Пасланнікам кароны
Забойча падступаць з лязом
калёным?..

М і н д о ў г

Мне *галасы* даводзяць праваты.
Ці гэта спрэчку я з сабой вяду?
Я разумею вас, язычнікі-пагане,
Ды чым вы адплацілі за спрыянне?
Не пашанотай, не сваім даверам,
А падазронасцю

І нейкім злым намерам!
А можа, гэта толькі верхаводы
Адпрэчваюць мяне —
Для шкоды і нязгоды?
Насуперак прыязнаму зычэнню!
Шкада, я не ўтрымаў
Кароннага свячэння
Ні над дзяржаўным, ні над сваім
чалом.
Пусці, Пяруне, беды іх на злом!
Прамый іх зрок, падвысь іх
разуменне!..
Мяне самога засціць неспакой.
Я ўжо знямог ад яраснасці
спрэчкаў…
Чаму на жэглішча пагнаны я бядой?
Ці то жальбой
Няўмольнасці спрадвечнай?..

Голас Кароны

Устань, кароль мой, з гэтае жальбы!
Ты чуеш — быццам нейкі гук
трубы?
Нас папярэджвае ўсявышні Збаўца!

Міндоўг

Так-так…
Я мушу сам яшчэ падняцца!
Карону я нікому не аддам!
Яна — мая надзея, шлях мой,
выйсце!..
А вас вятры змятуць,
Як леташняе лісце…

Рашуча бярэ карону з-пад ног Перуна — узДзявае сабе на галаву. З-за свяшчэнных дубовых камлёў да Міндоўга падкрадаюцца Даўмант і Транята. Цікуюць за каронай. Даўмант з размаху кідае меч у спіну караля. Карона, зяхаючы перлінамі, коціцца ў бок Вечнага Знічу. Рука Міндоўга непрытомна цягнецца да кароны — уздрыгвае і замірае… Транята падбівае карону нагой, рассякае мечам, топча, топча…

3

Да жэглішча набліжаецца з малым Мартынкам на руках Мірта — з самотна схіленай галавой, у чорнай хусціне. Яна нават не заўважае, як з ёй мінаюцца, ідучы ўскрайкам, Даўмант і Транята. Вусны Мірты толькі шэпчуць…

Мірта

Спазнілася…
Сюды я не паспела!
Ад мацеры сталі зжэгленае цела
Майго Раманкі…
Вось твае сляды…
Вазьму хоць жменьку жвірыстай
бяды…
Вось, родненькі, са мной, нарэшце,
ты…
На матчынай далоні, у слязе…
Цябе здзьмухае вецер пакрысе…
Куды ж ты адлятаеш, сыне?
З агню — каб жыць пякельна
ва ўспаміне!
У несхадзімай бездані бяды!..
Ты быў яшчэ занадта малады,
Занадта і нястрымны, і гарачы…
Чаму пакінула цябе тут
без прыгляду?
Чаму ў сям'і не вымаліла ладу?
Цябе я так гукала ў горкім плачы!
Чаму не даганіла я, не дапаўзла,
Каб супыніць цябе, мой каласок?
Ты ноччу збег з Наваградка,
сынок…
У Жмудзь сваю уцёк!..
Цябе я там пад сэрцам гадавала —
Чаму ж тады ля сэрца не ўтрымала?
Чаму не адвяла лятункі-мары
Ад небасхілаў тых, дзе па начах
Зяхалі нема сполахі пажараў —
Над краем і ў тваіх стрывожаных
вачах?
Чаму не прыглушыла прагу і адвагу
У сэрцайку, што чула кроў і дым?

І выспявала помста за знявагу
Ужо ў тваім памкненні маладым…
Хацелі там, дзе дымны жах
іскрыцца,
Тваёю маладосцю засланіцца!
Каб я з табой была,
Цябе я затрымала б!
Сляза мая Раманку ўратавала б!
Ужо слязе маёй тут не суняцца…
Але ўтапіцца дзе маёй віне?
Цяжкая кара Боская — на мне!

На матчыных руках зарумзаў разбуджаны горкімі ўсхліпамі малы Мартынчык.

Мартынчык мой, цябе я не аддам
Ні Знічу Вечнаму, ні крыжакам…
Не плач…
Цябе ля сэрца я ўтрымаю…
Ах, баю-баю…
Не бойся ўверсе голляў шапатлівых,
Ні птушачак пужлівых,
шчабятлівых…
Цябе я, птушанятка, залюляю…
Ах, баю-баю…
Чаму ты ўскрыкнуў?..
Скрып там ці шаптанне?
Цябе спужала, можа, кукаванне?
Зязюлька вунь — твае гадочкі
лічыць
І шчасцейка майму сыночку
зычыць…
Лагодны ветрык з небам
размаўляе…
Ах, баю-баю…

Мірта нечакана натыкаецца на скрываўленае цела Міндоўга. Няўцямна глядзіць. Дзіка ўскрыквае. Яе Мартынчык спуджана замірае на матчыных руках, туліцца да грудзей, як птушаня са страху ля купіны. Мірта ўжо не можа стрымаць сваё ўзрушэнне і галашэнне.

Цябе яны забілі, Мендзя мой!
Яшчэ ты цёплы — шчокі не астылі…
Мартынчык, бацьку нашага забілі!
Ах, Божа мой… Бяда зноў за бядой!..
Цякайма з гэтай страшнае
мясціны!..
Я не аддам тут вам
Другога сына!

Мірта ў дзікім спалоху, тулячы Мартынчыка, кідаецца з гэтага жахлівага месца — нібы шукае паратунку за камлямі свяшчэннай дубровы. З-за дубоў стоена назіраюць, толькі што вярнуўшыся назад, Даўмант і Траната. Даўмант раптам зрываецца наўздагон за Міртай. Выхоплівае з яе рук малога Мартынчыка — ускідвае яго на вастрыё меча…

**Эпілог**

Знайшла бяда ў Лаўрышаве цябе:
У келлі сваёй, Войшалк, не схавайся!
Пасад вялікакняскі ў барацьбе
Гартуй і са сваёй зямлёй —
трывалься!
Паклікаў бунт жмудзінаў,
дык суймі,
Развауж іх супраціў самазнішчальны.
Каронны бунт разумнасцю
прадзьмі.
Хоць выступ іх —
дзікунны кліч адчайны!
Страх Даўманта
Пагнаў на службу ў Пскоў.
Страх помсты меча
пёк, як джала, грудзі.
Кахаў?.. Чаму ж ты зрокся галасоў
Сваіх святых лясоў?
І Мірты?.. І самое Жмудзі?!
Ды мацеры ад тога — ці лягчэй?
Асірацелай Мірце спачувае келля.
Хусціна тая ж чорная з плячэй
На ёй трымціць,
як з жэглішча пякелле…
Трагедыя каронная яшчэ
Паўторыцца ці раз на гэтых землях!
Кагосьці дацінае і пячэ

Наш страх і кліч:
не поўзаць на каленях!
Ды прага наша перальецца ў кроў
Гарачую, як Вітаўтава дзейства.
Ды пераймуць і будуць секчы зноў
Карону нашу
сквапнасць і зладзейства!
Кароннай непадлегласці людзей
Свабодны свет не выцяў
і не зрушыў.
Хоць хціва падступае да дзяцей
Калечанне іх мовы,
веры, душаў.
Карона, не сумуй на адвітанне:
Яшчэ ты колькі постацяў абудзіш!
Каранаванне —
ў пары з крыжаваннем…
Апошнім — не кажу.
Апошняга не будзе!

*2003, вёска Вецявічы Слонімскага раёна*






Нарадзіўся ў вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. З 1966 г. быў навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута. Абараніў доктарскую дысертацыю. Выдаў дзясяткі кніг паэзіі, перакладаў, крытыка-літаратуразнаўчых прац. У апошнія 20 гадоў жыў у роднай вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Там памёр і пахаваны.

СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

## Кароль на час

Доктар філалагічных навук, выдатны беларускі паэт, літаратуразнавец і перакладчык Мікола Арочка (1930–2013) — мой зямляк. Нарадзіўся ён у вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна. Там і пражыў апошнія свае 23 гады. Там яго і правялі ў незваротны шлях на мясцовы пагост, правялі да сыноў, да вяскоўцаў.

Вярнуўшыся з Мінска ў родную вёску Вецявічы, Мікола Арочка задумаў і ўсе гэтыя гады выношваў свой чарговы, пасля «Крэва» і «Суднага дня Скарыны», эпічны твор, прысвечаны Міндоўгу (1195–1263) — заснавальніку і першаму вялікаму князю Вялікага княства Літоўскага. Наогул, паэтычны дар Міколы Арочкі, на мой погляд, заўсёды быў моцны найперш канкрэтнасцю паказу, ёмістасцю паэтычных дэталяў. У яго творах пераважна пануе эпічны спакой, а эмацыянальную рэакцыю чытачоў выклікае якраз спалучэнне з канкрэтнымі вобразамі, з’явамі, падзеямі гуманістычнага пафасу, як гэта, напрыклад, у ягоных баладах, драматычных творах, многіх вершах.

Сваю новую драматычную паэму Мікола Арочка назваў «Каранацыя Міндоўга». Пісаў яе ў Вецявічах і закончыў у 2003 г. Унук паэта Валерык Арочка набраў паэму на кампутары і сам сшыў некалькі асобнікаў паэмы. Адзін асобнік я неяк завёз у часопіс «Маладосць», дзе рэдактар выдання Раіса Баравікова абяцала надрукаваць усю паэму. Але надрукавалі ў вераснёўскім нумары за 2007 г. толькі ўрывак з яе. Калі я прыехаў у Мінск забраць Валерыкаў асобнік «Каранацыі Міндоўга», то кніжачкі нідзе не знайшлі. Але, дзякаваць Валерыку Арочку і жонцы Міколы Арочкі Марыі Іванаўне, знайшоўся яшчэ адзін асобнік паэмы.

Я памятаю, як пачынаў пісаць «Каранацыю Міндоўга» Мікола Арочка. Калі я бываў у яго ў Вецявічах, ён шмат мне пра Міндоўга распавядаў, разважаў, спрачаўся са мной. З яго слоў я даведаўся, што ў пачатку 1970-х гг. беларускага паэта дужа ўразіла драматычная паэма «Міндаўгас» літоўскага паэта і сябра Міколы Арочкі Юсцінаса Марцінкявічуса (1930–2011). Яна яго так уразіла і захапіла, што мой зямляк нават напісаў пра яе ва ўсесаюзным друку, бо быў проста захоплены велічнай постаццю галоўнага персанажа.

Юсцінас Марцінкявічус у знак падзякі за гэта даслаў Міколу Арочку свайго «Міндаўгаса», выдадзенага асобнай кніжкай, з зычлівым аўтографам. Мой зямляк быў шчаслівы такім падарункам. Ён нават сваім уражаннем падзяліўся з выдатным нашым літаратуразнаўцам Віктарам Каваленкам. «Дай пачытаць», — папрасіў пасля гутаркі Каваленка. Прайшло некалькі дзён, і Віктар вярнуў «Міндаўгаса» Міколу Арочку. Але паэт быў здзіўлены, калі Віктар Антонавіч аднёсся да твора літоўца стрымана-крытычна, без ніякай ухвалы. Маўляў, зашмат наўмысных адступленняў ад гістарызму, літоўскай падгонкі пад старую канцэпцыю заваёўніцкай місіі князёў Літвы. Аднак у такога

самабытнага мастака слова, як Юсцінас Марцінкявічус, было і бясспрэчнае права на сваё асабістае бачанне хады гістарычных падзей і шляхоў станаўлення нацыі.

Тым не менш, да канца свайго жыцця Мікола Арочка застаўся ўдзячны літоўскаму сябру ўжо за тое, што ён далучыў яго да шырока распачатага ім узнаўлення нашага агульна-адзінага гістарычнага Дома — Вялікай Літвы. Удзячны, што ён падбіў майго земляка на «звышзадачу» — стварыць свой паэмны эквівалент палітычнай і духоўнай драмы роднай зямлі («Крэва», «Судны дзень Скарыны») з нахілам да ўсё большага трагізму. І ўсе гэтыя гады ў Міколы Арочкі несціхана тачылася, як незагойная рана, балючая задума каранацыі — ідэі, што працягнулася ў наступнасць на многія стагоддзі. І вось атрымаўся ўдалы зыход асэнсавання. Мікола Арочка адолеў выдатны эпічны твор, які з'яўляецца вартасным завяршэннем трыпціху гістарычных паэм — «Крэва», «Судны дзень Скарыны», «Каранацыя Міндоўга».

Пасля «Міндаўгаса» Марцінкявічуса ў нашага літаратара ўзнікла неабходнасць палемічнай скіраванасці ягонай новай паэмы, тэматычна блізкай з «Міндаўгасам» Марцінкявічуса, якой у свой час ён захапляўся. Міндоўг у «Каранацыі» выглядае ўжо не як заваёўнік накшталт Аляксандра Македонскага з пустой далонню, якая ў дарозе расшчэмлена высунулася з труны. Гэта зусім не захопнік беларускіх земляў, а ўстурбаваны Гаспадар, які збіраў іх да купы, ратуючы ад загубення, вынішчэння, асіміляцыі. Ён нястрымна апантаны ў мэце. Ажно дзівіць, чаму ім так завалодала ідэя задзіночання не толькі этнічна блізкіх, але і разрозненых плямёнаў вакол Навагрудка, які дзякуючы волі фактычна аднаго чалавека, пакліканага сюды на княжанне, стаў урэшце яго рэзідэнцыяй, збройнай мышцай, кіпучым сэрцам новай дзяржавы. Перамяніўся вектар у гістарычным часе… Падупаў слынны Полацк пад націскам мечаносцаў на Дзвіне… Асіміляцыйнае патаптанне племя прусаў тэўтонцамі… Балтыйскія орды, наезды стэпавічоў… Ваяўнічыя прэтэнзіі на аднаўленне былога ўладарства Данілы Галіцкага… Усё гэта вядома. Але як можна бясконца адчуваць сябе пушчай, падпаленай з усіх бакоў? Дзеля ўласнай зверхнасці ўладарства? І, можа, найгорш і найбольш небяспечна, што драматызм і трагізм становішча наклікала і ўзмацняла далёкая і блізкая язычніцкая радня, што закаранела трымалася паганства, няўступна патрабуючы адрачэння ад выбару шляхоў і спосабаў утрывалення незалежнасці. Вымогі і не пустыя просьбы адрачэння ад Хрыстовай веры, ад каралеўскага вянца… Язычніцкіх князькоў і верхаводаў, зрэшты, можна было зразумець — сваёй сляпой няўступнасцю, веранязрушанасцю яны хацелі ўратавацца ад бураломнасці часу, пазбегнуць горкамыснага лёсу некаторых суседзяў патаптаных плямёнаў.

І вядома ж, не любоўна-інтымныя жарсці ўплывовых каралёў пускалі ўзаемазабойчыя стрэлы вынішчэння супраціўнікаў, а прычыны, пэўна, больш глыбокія, кроўна-жыццёвыя, спароджаныя няўмольнымі акалічнасцямі суравейшай хады гісторыі.

Дужа паказальна, што ў новай паэме «Каранацыя Міндоўга» ўсё гэта даводзіцца не публіцыстычна аголенымі сродкамі, а пераважна як бы апранута ў мастацкія шаты, увасоблена праз напругу супярэчлівых сутыкненняў, учынкі і злонамеры характараў, праз драматычны напор спрэчак, а то і вузлавата-крута паважнага дзейства.

Аўтару, падобна, сама важна было паказаць галоўнага героя як чалавека жывога, духоўна адоранага ў псіхалагічным багацці пачуццяў, не бяздумна-безагляднага ва ўчынках, любоўных сваіх жарсцях, а інтымна надзвычай чуйнага. Пра гэта сведчаць яго пранікнёныя маналогі, звернутыя да Марты, размовы з яе прывідам, дачыненні з Міртай. Уражлівую ролю спаўнялі сродкі прамаўлення на грані самазабыцця падчас сцішанай споведзі з высокімі носьбітамі боскага духу на жэглішчы. Такія моманты запамінальныя, яны сапраўды спрыяюць, так бы мовіць, жывому «ўчалавечанню» Міндоўга. Яго высокагоднасць не дэкларавана, а выяўлена чуйна, нібы на жывы дотык, на судакрананне з духова прыгожымі пачаткамі; таму герою і давяраешся, унутрана прымаеш яго нялёгкі свет.

Падкупляе як бы сама ментальнасць натуры галоўнага героя, менавіта вялікасць князя-караля з душой беларуса. Такім, відаць, і наканавана яму быць з няўмольнымі скарбамі на далоні, працягнутай да нас праз стагоддзі. Не скінуце неасцярожна з гэтай далоні ўзнятыя з народных глыбіняў перліны яго кароны і душы. Таму вельмі і вельмі шкода заўчаснага трагізму буйной дзяржаўнай асобы, да якой гэтак няшчасна і марнатраўна аднёсся акаянны свет — усе носьбіты наўмыснага загублення. А сабе ж на страту!..

«Каранацыя Міндоўга» Міколы Арочкі надрукавана на старонках «Новага Замку». Да слёз шкада толькі, што аўтар не зможа ніколі даслаць яе свайму сябру-літоўцу Юсцінасу Марцінкявічусу, а той у сваю чаргу ніколі не зможа выказаць свае ўласныя думкі наконт беларускай «Каранацыі Міндоўга». Але іх паэмы — гэта, бясспрэчна, агульны і магутны ўклад у гісторыю мастацкага даследавання Вялікага Княства Літоўскага.

## Юрый Кісялеўскі (1961–2008)

### Гародня

Сёння я паглядзеў на свой горад чужымі вачамі.
Колькі сонца і фарбаў у ім, колькі ласкі, цяпла!
Над натоўпам людскім, над узнятымі ўвысь купаламі,
Як прамень, непазбыўных вякоў чарада пацякла.

Закранулі цябе сваім крыллем свінец і пажары,
Ліхалецце, набат, гора, боль, немінучая смерць…
А цяпер над табой, над тваёю акрыленай фарай
Толькі ў вечным блакіце вясноваму грому грымець.

Там, дзе біліся з ворагам гордыя дужыя продкі,
Дзе жалезнай навале выносілі гнеўны прысуд,
Белы саван рамонкаў — бясконцы, пяшчотны, дрыготкі,
А над ім матылькі, як бязгучны іскрысты салют.

Палюбіў гэты горад, увесь, да апошняе рыскі,
І калі застаюся з Гародняй адзін на адзін,
Аж трымціць маё сэрца ад сустрэчы з нязнаным і блізкім,
З тым, што ўсё для мяне — і надзея, і лёс, і ўспамін…

### Гальшаны

Маўкліва ўзгоркі дыбяцца наўкол.
Зялёны ліст імкнецца стаць барвяным.
Гарой цаглянай высіцца касцёл.
Мястэчка старадаўняе Гальшаны.

Тут кожны ўзмежак, кожны касагор —
Мінуўшчыны палоннік і нашчадак.
Тут хмары ўдзень, як старыны дакор,
А сонца адвячоркам, як спагада…

Тут кожным ранкам — холад і туман.
Тут ціша наваколле паланіла.
Імшу іграе ветрык, як арган,
Пад нізкім спахмурнелым небасхілам.

Таемны смутак, тонкі боль душы
Вядзе мяне ў няведамым напрамку.

І апынаюся каля шашы,
Ля камянёў разбуранага замку.

Руіны спяць у мёртвым забыцці,
Ім, як і мне, маркотна і балюча.
І разам з дрэвамі ў гаротным пачуцці
Укленчу перад замкаваю кручай.

## Роднай Беларусі

Цябе малююць з прагнай асалодай —
Такой прыгожай, лялечнай падчас.
Табе й не трэба штучнай пазалоты
І грому, не патрэбна гучных фраз.

Ты не дзівосны кут, ты край звычайны.
Твой сціплы від не вабіць дзівакоў,
Твая гісторыя не рве і не злучае
Бязмер зямель і бурны ход вякоў.

Была не раз на ратным раздарожжы,
І процьма бед лунала над табой.
Ты заставалася непераможнай,
Маўклівай, працавітай і жывой.

Цябе такой уявяць мае слёзы
Праз безліч год, з любой далечыні.
О Беларусь! Палеткі ды бярозы,
Блакіт вачэй ды сонца ў вышыні.

## Спозненая электрычка

Паўстанак. Зоры. Шоргат. Летуценні.
Ліхтар. Спакой. Бязлюддзе. Цішыня.
Спыніліся ў чацвёртым вымярэнні
Нуда і боль знясіленага дня.

Няўжо няма апошняй электрычкі?
І раптам у кутку, у цемнаце
Пад сэрцам варухнуўся невялічкі
Спалох… І вось — нястрымана расце…

Няўжо адзін застаўся я на свеце?
Няўжо нідзе — ні смеху, ні святла?

Няўжо ніколі ачышчальны вецер
Не звее ноч, што зябка прылягла?

Якраз тады, пад безданню астральнай,
Калі мяне зусім адолеў змрок,
Глухую ціш прарваў выратавальна
Начнога цягніка прарэзлівы гудок!

## Зоркі лёсу

Калі зорка знікае з нябёс,
Што так доўга і ярка гарэла,
Пэўна, недзе скалечаны лёс
Або смерці крыло прашумела.

Пэўна, дзесьці на краі зямлі,
На акрайцы бязмежнага свету,
Казкі выбуху зноў зацвілі
І лятуць каршунамі ракеты.

З аксаміту начной цішыні
Ні адна з гэтых зорак-бурштынаў
Не пакіне сваёй вышыні,
Не пагасне сама без прычыны…

## Неба

Ў маім акне яго акраец.
Скнарлівы горад — што рабіць!
То воблак ткнецца, як той заяц,
Журботна лівень зацурчыць…

То снег заложыць белай ватай
Да неба выйсце — вось бяда!
А там імчацца апараты,
Таўчэцца зорак грамада.

Ў маім акне цямно і слепа.
Снег нават гукі прыглушыў.
А я блакіт малюю неба
Ў прасторы ўласнае душы.

## Зімовы вечар

Зыбкі вечар паплыў над палямі дрымотнымі,
Над бранёю азёр, над абрусам дарог.
Зазваніў на галінцы бразготкай самотнаю
Бледнатварага месяца глянцавы рог.

Распаўзлася наўкол сінява непарушная,
Залягла пад сумётамі скутая шыр.
А з галінкі густой, серабром запарушанай,
Палымянай слязінай сарваўся снягір.

## Кастрычнік

Кастрычнік радасна малюе краявіды:
Палеткі бурыя і рыжыя сады.
І дымам вогнішчаў далёкіх перавіты
Грабеньчык на гары — сасоннік малады.

Абмаквае мастак старанна і рупліва
Узлескі цэлыя ў блакітныя стаўкі.
Выводзіць пэндзлямі адценні, пералівы
І воблак залаціць бялюткі, трапяткі.

Аматар барваў, адчувальнік меры,
Карпее над палітрай з году ў год.
Не памяняе творчае манеры,
Не спыніць нізавошта творчы ўзлёт.

Такая цішыня на вернісажы!
І аж да той пары, як зробіцца цямно,
Хаду спыняюць і глядзяць уважна
На бессмяротнае жывое палатно.

## Нічога не вярнуць

Нічога не вярнуць і не паправіць.
Што зроблена, таго не адштурхнуць.
Не прымірыць каханне і нянавісць.
Не пахаваць бяду і каламуць.

Усё са мной: бяда, адчай, трывога…
Надыдзе час — раптоўна ажыве

Забыты боль, як бледны цень былога,
Мелодыяй шчымлівай праплыве.

Імгненне — і святло былога шчасця,
Нібыта спеў, пральецца з забыцця…
Ці ўдасца мне яго вясёлку ўпрасці
Ў суровы кужаль сумнага жыцця?

## Да закаханых

То ж вам належыць сёння чарадзейны свет!
Клянуся месяцам і небам не аднойчы!
Цвіркочуць конікі, і тае неўпрыкмет
Дыханне вашае ў дыханні зорнай ночы.

Таемна ззяе над ракою Млечны Шлях,
Стаіўся дзень у лазняку цікаўным гномам…
Імгліцца над зямлёй цягучы п'яны пах
Перастаялых траў і кветак невядомых.

Арган прыроды піянісіма гучыць.
Мелодыя пяшчоты ў цемры праплывае.
Дык кіньце кветку гэтай ночы, хай звініць!
Вам, закаханым, так яна спявае!

## Праўда

Калі мне крыўда раптам перапыніць смех,
І сумны выйду я на вёрткае шматлюддзе, —
Заўсёды знойдзецца вясёлы пустабрэх:
— Няма на свеце праўды і не будзе!

Здаецца, прымаўкі нявінная мана
Павінна б суцяшаць у роспачы ці ў скрусе,
Ды я не веру ёй, бо грош тады цана
Майму жыццю ў заганным чорным крузе.

Квітнеў бы луг, пяшчотны, як кілім,
Блакіт нябёс і плёскат белых крылаў?
Звінеў бы навакол жыццю ўрачысты гімн,
Каб праўда, нібы сонца, не свяціла б?

## Што немагчыма

Паспрабуй затрымаць вецер
У кватэры на пятым паверсе.
Лёгка?

Тады надрукуй ненапісаны верш
У пазаўчарашняй газеце!
І гэта можна?

Паспрабуй затрымаць зямны шар
Так, каб быў толькі золак…
Пераадолей вечны цяжар
Ды нарві на нябёсах прыгаршчы зорак.
А, дык і гэта магчыма?!

Паспрабуй прачытаць малітву з ліста,
Якога бура нясе на чужыну…
І гэта бярэшся зрабіць?
Калі так,
Тады зразумей жанчыну!

## У паэтычным агародзе

У маім паэтычным гародзе
Штосьці вершаў зямелька не родзіць:
Ці суглінак які занядбаны,
Ці капаю не надта старанна?
Ці насенне пасеяў не тое?
Ці не так паліваю вадою?
Ці то гною падкінуць шкадую,
Ці ад птушак гарод не вартую?

Пагляджу — у суседа ў садочку
Гэтых вершаў, што жаб у ставочку,
Нібы зор на шчыце паднябесным
Альбо блох на сабаку аблезлым!

Пагляджу — у другога за плотам
Мо з гектар пад яго агародам!
Ды і ў трэцяга — вершанашэсце,
Столькі іх, што калгасам не з’есці!

Што ж рабіць? Падкажыце мне, людзі!
Колькі ж можна дарэмна марудзіць?

Можа, трэба мне болей старацца,
Дзень і ноч у зямлі калупацца?
Можа, проста мне рукі адсекчы
Альбо кінуць гародчык ды збегчы?

## Белая чайка

*Алесю Міхальчуку, перакладчыку аповесці Рычарда Баха*
*«Чайка па імені Джонатан Лівінгстан»*

Калі Чорны горад, чорны міраж, чорны прадвеснік бяды,
Які адбіваецца ў люстры чорнай вады,
Пачынае прымаць занадта рэальнае аблічча
І робіцца свет ягонай рэальнай здабычай,
Невыразным стварэннем
Шэрай сіметрыі і геаметрыі,—
Перасіль сваё аняменне,
Прыгадай старадаўнюю байку
Пра белую чайку,
Што называецца Джонатан Лівінгстан…

Паднімі вышэй галаву —
Убачыш белую птушку,
Мае дзіўную гэту мянушку,
Падзівіся на яе хараство,
Як у промнях жывога святла
Малюе яна віражы…
Прыгадай, што гэтая чайка калісьці жыла
У клетцы тваёй душы…

Паламай гэту клетку,
Няхай пральюцца сюды
Фарбы, гукі і кветкі,
Палеткі, лясы і сады,
Водар вясны і жытнёвага хлеба!
Хай уварвецца блакітнае неба,
А чорны халодны горад
Знікне, як гора, як змора,
Хай схлынуць чорныя плямы вады
Як плямы жуды і бяды —
Назаўжды!
Хай свет засвецiцца, як кірмашовы лубок,
Хай разбурыцца шэрая геаметрыя,
Растане, як лёд, нерухомы і жудасны змрок

І знікне няветлы міраж небыцця…
Няхай шчаслівыя людзі спяваюць песні жыцця!

Ідзі да іх і з імі жыві,
Але памятай байку:
Прага палёту — у тваёй крыві.
Ты — белая чайка!

## Развітальнае павітанне

Жаўрук спяваў. І яблыня цвіла.
Ты дачакаўся красавання траў.
Ужо не першы раз вясновага цяпла
Па-над зямлёю хваля праплыла —
І ты адвечны атрымаў адказ
На ўсе свае адвечныя пытанні.
І колькі ты яшчэ разоў
Паўторыш прагна заклінанне,
Каб ён вяртаўся зноў і зноў:
І цёплы подых веснавых вятроў,
І жаўрука бясконцы спеў,
І пацалунак паміж дрэў,
І яблыневы сад парою адцвітання!

І ты дасі сваю нямую згоду
На лепшую з усіх узнагароду:
Падняцца ў неба, павітаць сусвет,
А потым легчы на зямлю, бы яблынь цвет,
І развітацца з ёю — назаўсёды…

**Н**арадзіўся ў 1961 г. у Гродне. Скончыў Гродзенскі медінстытут. Вершы друкаваліся ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Маладосць», у зборніку «І надзея, і лёс, і ўспамін» («Бібліятэка часопіса “Маладосць”», 1988 г.). Загінуў у аўтамабільнай катастрофе 10 ліпеня 2008 г.





# Батлейка

## Яўген Петрашэвіч

### Ермашовы прыгоды

**Дзейныя асобы**

Е р м а ш — гаспадар.

Е р м а ш ы х а — яго жонка.

Ц е с ц ь.

Ц е ш ч а.

Д з е ц і.

С в я т а р.

Д’я б а л.

Ж а н д а р.

І ц а к — карчмар.

С а р а — яго жонка.

З а в а д з і л а — местачковы разбойнік.

П я ц ь б р а т ц а ў.

Ц ы г а н ы — музыкі. Скрыпка, гармонік, барабан.

Ц ы г а н к і.

В я д у ч ы.

Гучыць уверцюра «Світанак». На сцэне – сялянская хатка, студня з жураўлём. На плоце – гліняныя збанкі і іншае прыладдзе. Выходзіць Е р м а ш.

Е р м а ш

– А надвор’е,
Нібы цуд.

(*Пазяхае, пацягваецца.)*

Дачакаліся свята,
Дзякуй Богу!
Буду збірацца ў дарогу.

Сонца!
Ты шлеш промні ва ўсе канцы
свету.
Са сваіх незлічоных промняў
Пашлі мне хоць адзін,
Каб я на імгненне
Быў падобны да цябе.

В я д у ч ы

Выкаціў воз старэнькі,
Запрагаць стаў памаленьку.
Папляскаў кабылку Сіўку
Па спіне і па загрыўку.
А яна чуе дарожку,
Дзяўбе спрытна правай ножкай.
З-пад капыта ляціць зямля…
Тут і збеглася радня.

Выходзяць ж о н к а, ц е ш ч а, ц е с ц ь, д з е ц і. Жонка падае Ермашу пасцілку ў зрэбнай торбачцы-вышыванцы.

І ніхто з іх не маўчыць.
Як мацней галосяць…

Хто каго перакрычыць:
Падарункаў просяць.

Д з е ц і

Ермаш!
Дзецям накупі цукерак.

Ж о н к а

Жонцы — боцікі, куфэрак.

Ц е с ц ь

Цешчы — крамную кашульку.

Ц е ш ч а

Цесцю — тытуню і люльку.

Р а д н я

Шчаслівай дарогі!

Чуецца цокат капытоў.

В я д у ч ы

Як сабраўся наш Ермаш
На кірмаш.
А ў дзядзькі Ермаша
За душою ні граша.
Кабылку сцебануў сівеньку.

Е р м а ш

Но!

В я д у ч ы

І едзе памаленьку.

Е р м а ш

Цішэй едзеш, далей будзеш.

В я д у ч ы

Сам сабе бармоча.
Аб'язджае калдобіны,
Мыляе ўзбочыны.

Е р м а ш

Каб пазычыў мне хто грошай
Для мяне, няўмельца,
Узяў бы Сівачцы харошай
Абнавіў сядзельца.

Думкі, як пчаліны рой,
У галаве раяцца.
Як знайсці ў душы спакой:
Жыццё вам — не цацка.

Е р м а ш
(*спявае*)

Як запрог кабылку Сіўку,
Еду ў мястэчка.
Я куплю табе абноўку —
Новую вуздэчку.

(*Разважае*.)

Ці кошт як у мінулым леце?
І што дзеецца на свеце?
Глянуць на людзей,
Сябе паказаць як-небудзь.
Падзівіцца, як чужыя дзеці
Цукеркі ядуць.

Каб меў грошай
Хоць бы крышку,
Вось купіў бы сабе кніжку.
Ці знайду я там адразу
На пытанні ўсе адказы?

Пэўным разам, Божым часам
І марыць не лішак.
Узяў бы кракаўскай каўбаскі,
Гарэлкі кілішак.

На душы так хмельна стала,
А каб раптам стаў царом?
Еў бы, пэўна, сала з салам,
Спаў на сене царскім сном.

В я д у ч ы

Як ачнуўся Ермаш
Ад дрымоты-спячкі,

Дык прыехаў на кірмаш
У сваё мястэчка.

Мястэчка: чуецца царкоўны звон, на кірмашы шмат народу. Карчма.

Узяў распрог кабылку — Сіўку,
Тут не спі у шапку.
Папляскаў ёй па загрыўку,
Даў сена ахапку.

На кірмашы ўсяго многа,
Як у казцы з таго рога.
Прыціх Ермаш, збоку сочыць,
Як цукеркі людзі смокчуць.

Мужыкі ўсім на дзіва
П’юць віно, гарэлку, піва.
Мучыла і яго, бедалагу,
Беларуская хвароба — смага.

Раптам ён без цырымоніі
Пра заначку тут успомніў.
У той дзень, як быў аванс,
Грошыкі клаў пад абцас.

Падышоў ён да гандэлка,
Тут чарга была нявелька.

Е р м а ш

Заказаў два кубкі піва,
Піва смачнае надзіва.
І адчуў сябе па-людску…
Даспадобы піва лідскае.

А як выпіў кубак трэці —
І праблему запрыкмеціў.
Завярнуў за вугалок,
Зірк —
Згубіў хтось кашалёк.
Як адкрыў, вачам не верыў:
Убачыў грошай да халеры —
Злотых, талераў, даляраў.

В я д у ч ы

Цешыўся Ермаш без меры,
Дзецям накупіў цукерак.
Жонцы боцікі, куфэрак.
Цешчы — модную кашульку,
Цесцю — тытуню і люльку.
Спатрэбіўся і бычок,
І гарэлачкі кручок.

І тут вырашыў Ермаш —
Паспавядацца, прыняць прычасце
І заадно ахвяру скласці.

Вось прыйшоў у царкву Ермаш,
Іконам кланяецца,
Хрысціцца наразмаш.
Кадзіла пах…
Палаюць свечы,
Стары святар чытае рэчы.
Ідзе малебен урачыста,
Хор славіць Госпада —
І на душы так хораша і чыста.

Раптам запрыкмеціў ён выяву
(А можа, так здалося),
Як назірае зверху д’ябал
І на казлінай шкуры
Запісвае,
Хто мае ненабожны від пануры.
Хто круціцца ці парушае цішу —
Сюд-туд запіша.
Так усю казліную спісаў ён шкуру,
Расцягваць стаў яе зубамі здуру,
Каб грэшнага калейнага ўпісаць.

І назірае Ермаш гэту сцэнку,
Шкура сарвалася з зубоў —
Нячысцік трэснуўся патыліцай
аб сценку.

Е р м а ш

Ха, ха, ха!

В я д у ч ы

Тут Ермаш на ўсю царкву зарагатаў,
А той на тым адцягнутым краі
шкуры
Яго і запісаў.

Пагана на душы так сталася яму,
Сказаць не лішне…
«Пайду, — падумаў ён, — у карчму
Кульнуць адзін, другі кілішак».
Прыйшла думка ў галоўку:
Пара замачыць абноўку.

Е р м а ш

Эх!
Пайду, гульну
Да Іцака ў карчму.

Карчма. За сталамі выпівохі, п я ц ь  б р а т ц а ў, ц ы г а н ы-м у з ы к і, дзеўкі непрыстойныя, шынкар І ц а к з С а р а й. Стаіць гоман.

В я д у ч ы

У карчме музыкі граюць,
Людзі неўпапад спяваюць.
Толькі дружна цыганы
Усе галосяць: «Нэ-нэ-нэ!»

Цыганы спяваюць «Ой, нэ-нэ-нэ». Аркестр падыгрывае.

У карчомцы смокчуць люлькі,
Дым стаіць тут карамыслам.
П’юць гарэлку — манапольку
Аж з прысвістам.
У кутку музыкі граюць,
На Ермаша не зважаюць.
Да музыкаў Ермаш крочыць,
Скрыпачу ўручае грошы.

Е р м а ш

Музыканты!
Тутэйшую грайце,
Або грошы аддайце.

Музыкі граюць «Вальчык Пагулянскі». Ермаш запрашае да танца дзяўчыну. Танцуюць.

В я д у ч ы

Скрыпач выцілінгвае
У п’яным стане:
«Чым бу-дзеш пла-ціць,
Чым бу-дзеш пла-ціць?»
«Ка-жу-ха-мі,
Ка-жу-ха-мі!» —
Чуецца ў барабане.
У тым тлуме за сталамі
Мужыкі сядзяць з панамі.
Барадатых тут і лысых
П’янчукоў аж цэла пройма,
Як і дзевак непрыстойных.

Іцак крычыць на ўсё горла:
«Музыканты, грайце “Шэрлэ”*!»

Музыканты граюць «Шэрлэ». Іцак з Сарай танцуюць.

Не паспеў Ермаш перахрысціцца,
Як падбег шынкарык Іцак.

І ц а к

Шалом вам!
І добры вечар!
Рады з вамі гэтай стрэчы.
Ты адкуль, з якога краю,
А імя якое маеш?

Е р м а ш

Ермаш я,
Што з Навасёлак.

І ц а к

Рад пазнацца.

Е р м а ш

Вось зайшоў падсілкавацца.

І ц а к

Спадар Ермаш,
Калі ласка,
Прашу тут уладкавацца.

---

* «Шэрлэ» ў перакладзе з яўрэйскай мовы азначае «нажніцы».

Сара!
Прынясі гарэлку і закуску зараз!
Ці ты чуеш, мая Сара?

Вядучы

Сара нясе на паўміску
Пітво, добрую закуску.
Ермаш дзівіцца ўжо зблізку,
Як тырчаць у Сары цыцкі.

Іцак

Сара!
Заспяваем ва ўнісон,
Як жыў стары Абрахамсон.

Іцак і Сара
(*спяваюць*)

Стары Абрахамсон
Меў сем сыночкаў,
Меў сем сыночкаў
Стары Абрахамсон.
За стол паселі
І ўсё паелі,
І ўсе спявалі сабе так.

Паўтараюць усё спачатку некалькі разоў. Заахвочваюць публіку, пляскаюць у ладкі.

Вядучы

Ермаш зноў кульнуў кілішак,
Іцак голас тут прыцішыў.

Іцак

Што прадаў
І што купіў, пытаю.
І які прыбытак маеш?

Вядучы

Кульнуў Ермаш зноў кілішак…
І язык з-пад кантролю выйшаў.

Ермаш

Іцак!
Ці ты мне паверыш?
Як знайшоў я кашалёк,
Цешыўся без меры…
Дзецям накупіў цукерак,
Жонцы — боцікі, куфэрак.
Цешчы — модную кашульку,
Цесцю — тытуню і люльку.
Прыглянуўся мне бычок
І гарэлачкі кручок.

Вядучы

Тут жандар заходзіць лысы.
Шабляю сталёвай бліснуў.
Галіфэ, у бляску боты,
І прысаджваецца збоку.

Ермаш анямеў парадкам,
Аж душа палезла ў пяткі.

Ермаш
(*сам сабе спалохана*)

Няўжо жандар за мною сочыць,
Што знайшоў кашэль і грошы?

Жандар

Powiedź mi, panie Jarmaszu,
Ile lat od rodu masz ty?

Ермаш

Я радзіўся на Пятра.

Жандар

Na Piotra urodziłem się i ja!

Ермаш

Значыць, мы равеснікі.
Дык кульнём па чарачцы,
Заспяваем песеньку.

(*Спявае*.)

Ой, арол, ты арол,
Ты лятаеш высока.
Ты лятаеш высока
І бываеш далёка.

Ці бываў ты, арол,
На маёй старане?
На маёй старане
Што гавораць пра мяне?

Люба жоначка
Красой славіцца.
Людзі кажуць з раніцы:
— Горкі п'яніца.

Дык кульнём па чарачцы
І закусім скварачкай.

Ж а н д а р
(*спявае*)

Potym, Kaśku, potym
Wyszyjemy złotem.
Żeby ojciec z matką
Nie wiedzieli o tym.
Gęsi za wodą, kaczki za wodą,
Uciekaj, dziewczyno, bo cię powiodą!
Ja ci buzi dam, ty mi buzi dasz,
Ja cię nie wydam, ty mnie nie wydasz!

В я д у ч ы

Раптам
На сярэбраным падносе
Цыганы чарку падносяць.

Ц ы г а н ы

Вось табе на аглаблёву,
Весяліць цябе гатовы.

(*Спяваюць.*)

Каму чарку піць
І здаровым быць.
А нашаму Ермашу
Сто гадоў пражыць.
Пі да дна,
Пі да дна!
Ты, Ермашка, закусі,
Ручку нам пазалаці.

В я д у ч ы

Тут Ермаш з вясёлым тварам
На паднос кладзе даляры.

Ц ы г а н ы Ермашу спяваюць і прытанцоўваюць.

Ц ы г а н ы

Дзядзьку Ермашу паклон,
Ой, нэ-нэ,
Нэ-нэ-нэ!
Каб пражыў ты многа дзён.
Ой, нэ-нэ,
Нэ-нэ-нэ!

З а в а д з і л а

Музыкі!
За кошт Ермаша
Грай «Драбніцу»!

П я ц ь б р а т ц а ў спяваюць, музыкі падыгрываюць.

П я ц ь б р а т ц а ў

Дробна драбніца,
Дробна драбніца,
Дробны дождж ідзе.
Як зноў сышлася бедна галота,
Гарэліцу п'е.

Прыйшоў у карчомку
Дзядзька багаты,
Насміхаецца:
— Ой, за што, за што бедна галота
Напіваецца?

Адзін за рукі,
Другі за ногі,
Трэці моцна б'е:

— Ой, не хадзі ты, дзядзька багаты,
Дзе галота п'е.

В я д у ч ы

Ермаш кульнуў яшчэ чарку
І сказаў скорагаворкай.

Е р м а ш

Першую гадзіну
Госць — золата.
Другую гадзіну
Госць — серабро.
А трэцюю — медзь,
Пара і шапку адзець.

Музыкі граюць туш, Ермаш іх перабівае.

Дзякуй, дзякуй
Вам, музыкі,
І дару калым вялікі,
Зайграйце, саколікі,
«Лявоніху»!

Гучыць «Лявоніха», п я ц ь б р а т ц а ў укліньваюцца, пяюць раздольна.

П я ц ь б р а т ц а ў

Чаму ж нам не пець,
Чаму ж не гудзець,
Калі ў нашай хатачцы
Парадак ідзець.

З а в а д з і л а

Чаму, чаму…
Чаму ж і нам не даў калым?

Е р м а ш

Нахабнікам не даём.

Б р а т ц ы

А мы з гэтага жывём.
Мы табе прыпомнім!

Іцак Завадзілу штось шэпча на вуха.

З а в а д з і л а

Хлопцы, на коні!

Б р а т ц ы

На коні!

Завадзіла з братцамі пакідаюць карчму.

В я д у ч ы

Ермаш у падпітым стане
Іцку задае пытанне.

Е р м а ш

Ці ўсё аплочана?

І ц а к

Аплочана, аплочана.
Госцік дарагі,
Пажадаю шчаслівай дарогі!

В я д у ч ы

Ермаш шапку нацягнуў на вушы
І на выхад сабе рушыў.

Ермаш выйшаў,
На вуліцы стрэў марозік.
Вось яго жаданы возік.
Папляскаў кабылку Сіўку,
Пачасаў бычку загрыўку.

Сеў на возік, узяўшы лейцы,
Кабылачка ледзь пляцецца.
А бычок той на прывязцы
Бяду чуе, хай вам трасца.
Раве моцна ў ельнічку,
Зроўні як вядуць на рэзнічку.

Дастаў Ермаш з сундучка
І гарэлку п'е з кручка.
Хмель пайшла гуляць па жылах —
Мае хмель над намі сілу.

Е р м а ш
(*хмельна спявае пад цоканне капытоў*)

Эй, гарэліца мая,
Што ты вычаўпляеш,
Ты над намі, мужыкамі,
Літасці не маеш.

Вось у вёсцы ў Навасёлках
Мужычок бадзяецца.
Гэта піва і гарэлка
Ў ім не спалучаюцца.

В я д у ч ы

Цок, цок, цок —
Кабылка крочыць,
У дрымоце ліпнуць вочы.
Ермаш упускае лейцы —
Стала млосна так на сэрцы.

Е р м а ш

Мац, мац —
А дзе лазіна
Паганяць кабылку Сіўку?
Раптам нехта як сцебане
І па карку, па спіне.
Тут я збіўся з панталыку:
Мо ўмяшаўся тут нячысцік
І лазінай мяне хрысціць?

Як пагнаў ускач я Сіўку,
Часцей стала біць лазінка.
Тп-ру-у!
Агляну́ўся — анямеў:
То ж лазінка б'е мяне.
Ну, а як спыніўся возік
На калдобістай дарозе,
Біць лазінка перастала,
Лазу ў кола заматала.

В я д у ч ы

Ехаў Ермаш полем, лесам.
Чуе —
Песня бойка льецца.

Здаля чуецца песня. Набліжаюцца п я ц ь б р а т ц а ў.

П я ц ь б р а т ц а ў

А нас братцаў пяць, пяць,
Будзем піць, гуляць.
А каго ў лесе стрэнем —
Будзем рабаваць!
Гэй!
Будзем рабаваць!

В я д у ч ы

Пяць малойцаў выйшлі з лесу,
Ломяць кій —
Арэшнік трэснуў.

Е р м а ш

Што рабіць?
Уцякаць…
Дагоняць,
Яшчэ косці пераломяць.

З а в а д з і л а

Тп-ру-у!

В я д у ч ы

Адзін спыніў кабылку,
А другі схапіў за грыўку.
Дзецюкі ў адну хвілю
Мігам возік абкружылі.

Завадзіла на від строгі,
Яшчэ шырэй ставіць ногі,
Спрытна дым пусціў кружочкам.

З а в а д з і л а

Вельмі рады я дружочкам,
Вельмі рады стрэчы, вер мне.

Е р м а ш
(*сам сабе між іншым*)

Ці не здрадзіць памяць, не —
Бачыў я яго ў карчме.

З а в а д з і л а

Як завуць цябе?

Е р м а ш

Ермаш.

З а в а д з і л а

Куды ездзіў?

Е р м а ш

На кірмаш.

З а в а д з і л а

Што вязеш, скажы, Ермаш?

Е р м а ш

Падрабязгі, не інакш.

З а в а д з і л а

Калі кінеш за сабой,
То знойдзеш перад сабой…

Е р м а ш

Вось вазьміце цыгарку.

В я д у ч ы

І працягвае руку.
Завадзіла стаў больш хмуры,
Спрытна выкінуў акурак.

З а в а д з і л а

Тытунём-цыгаркай не адкупіцца!
Хлопцы, будзем весяліцца!

В я д у ч ы

Ермаш кажа:

Е р м а ш

Не губіце…
А што хочаце — бярыце.

В я д у ч ы

Тут малойцы ўраз гатовы
Чысціць возік Ермашовы.

З а в а д з і л а

Бо ён сам сказаў нарэшце:
«Усё бярыце, а не рэжце».

В я д у ч ы

Банда бярэ накірунак,
Пачала чыніць рабунак.
Дабраліся да цукерак,
Узялі боцікі, куфэрак
І — кашульку,
Тытунь з люлькай.
Пашапталі з кандачка
І забралі ў лес бычка.

Ермаш са слязамі на вачах
Так застаўся на бабах.
Але рады ад душы,
Што цалюсенькі, жывы.

Едзе Ермаш далінаю,
Паганяе галінаю,
Лаецца да слоў апошніх.

Е р м а ш

Нашто здаўся кашэль з грошмі?

В я д у ч ы

І прыспеўвае паволі
Пра сваю гаротну долю.

Е р м а ш
(*спявае пад цокат капытоў*)

Ой, палын мой, палыночак,
Палын горкая трава.
І гарчэй за палыночак
Болей травачкі няма.

Ой, ты доля, мая доля,
Доля горкая мая.

І гарчэй за маю долю
У цэлым свецейку няма.

Ц е с ц ь

Пабяжыце дружна, дзеці,
Паглядзець, ці Ермаш едзе?

Д з е ц і

Едзе, едзе!
Чуем нават з-за пагорка,
Як пяе пра долю горку.

Радня сустракае.

В я д у ч ы

Вось і прыехаў.
Ермаш — у хатцы.
Сталі родныя пытацца.

Ж о н к а

Мо раскажаш нам, Ермаш,
Як ты з'ездзіў на кірмаш?
Ці прывёз нам падарункі,
Дзецям смачныя ласункі?

Р а д н я

Мы абмацалі ўвесь воз,
Ты ж нічога не прывёз!

Е р м а ш
(*апраўдваецца*)

Хлопцы ў лесе запынялі
І мяне абрабавалі.
Усё забралі, чуць не збілі.
Так шкада мне, аж да слёз,
Што прэзенты не прывёз:

Дзецям у мяху цукерак,
Жонцы — боцікі, куфэрак.
Цешчы крамную кашульку,
Цесцю тытуню і люльку.

Жаль да слёз таго бычка…
Толькі не знайшлі кручка.

У с я р а д н я

А кручок той дзе?

Е р м а ш

Ды ў мяне ў жываце!

(*З аптымізмам.*)

Дзякуй Богу, цэлы косці,
Жыць вам зычу ў весялосці!

В я д у ч ы

Ермаш папляскаў жывоцік.

Е р м а ш

Запрашаю ўсіх на скокі!

Музыка.

*31.05.2013*



Нарадзіўся ў 1930 г. у вёсцы Падбараны Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Настаўнік музыкі, закончыў Мінскую музычную вучэльню. З'яўляецца членам Гродзенскага клуба кампазітараў-аматараў. Аўтар скульптур для літаратурнага музея ў Гудзевічах. Узнагароджаны Дыпломам абласнога конкурсу кампазітараў-аматараў Гродзеншчыны за цыкл песень-балад на гістарычную тэматыку на вершы Я. Чачота. Выдаў зборнікі паэзіі «Пасынкі» (2012) і «Віншаванкі» (2013).





# ПЕРАКЛАДЫ

## АНАТОЛЬ БРУСЕВІЧ

## Сем кароткіх гісторый перакладу

Перш чым распавесці свае гісторыі, хачу звярнуць увагу на адну цікавую рэч, якая наўпрост нібыта і не звязаная з перакладам. Гэта хрысціянскае баччанне Бога. Некаторыя з нас, хто ў дзяцінстве вывучаў Катэхізіс, былі збянтэжаныя тым, што Бог адзін, але ў трох асобах — Бог Айцец, Бог Сын і Святы Дух. Мне, напрыклад, на той час вучню пятага класа, ніяк не ўкладвалася ў галаве такое трыадзінства. Заставалася адно цешыцца думкай, што, маўляў, малому не пад сілу разуменне «дарослых» ісцін. І вось я вырас, але Боскія таямніцы так і не адкрыліся. Канечне, я разумею логіку хрысціянскага вучэння, аднак вытлумачыць сутнасць Бога па-ранейшаму не здольны, як і кожны нармальны чалавек. Гэтаксама немагчыма вытлумачыць сутнасць паэзіі. Бясконцыя намаганні і захады, зробленыя ў гэтым кірунку, уяўляюцца мне бляклымі, бездапаможнымі, штучнымі фантомамі, якія толькі перашкаджаюць набліжэнню да згаданага феномену. Яны, бы тыя балотныя агеньчыкі, завабліваюць у багну рацыянальнасці, з якой няма вяртання. У паэзію ж трэба верыць, трэба адчуваць яе. Магчыма, хтосьці папракне мяне ў блюзнерстве, але дазволю сабе параўнаць паэзію з Богам — тым адзіным у трох постацях. У маім адчуванні ПАЭЗІІ яе маюць права прадстаўляць толькі тыя творцы, чыя біяграфія ўключае словы «паэт, перакладчык, літаратуразнавец». Бо кожны сапраўдны ПАЭТ не займаецца самалюбаваннем, не зацыкліваецца на ўласнай творчасці, але імкнецца пашырыць межы і магчымасці той літаратуры, у якой жыве. А гэтага можна дасягнуць шляхам даследавання, праз параўнанне аналагічных альбо цалкам супрацьлеглых з'яў, што існуюць тут і там, па-за нацыянальным літаратурным кантэкстам. І, канечне, пашырэнне межаў вербальнага мастацтва адбываецца праз пераклад.

**Гісторыя першая: Віслава Шымборска**

***Некаторыя любяць паэзію***

Некаторыя —
значыць, не ўсе.
Нават не большасць з усіх, але меншасць.
Не лічым школы, дзе трэба,
таксама паэтаў,
З тысячы, можа, знойдзем дзве асобы.

Любяць —
Праўда, гэтак сама любяць сёрбаць крупнік,
Любяць кампліменты і колер нябёсаў,
Любяць старыя рэчы,
Любяць лашчыць сабак.

Паэзію —
Але што, што такое паэзія?
Нямала хісткіх адказаў
Было на гэта пытанне.
Я не ведаю, і для мяне няведанне —
Быццам поручань-збаўца.

Я заўсёды належаў да той згаданай Віславай Шымборскай меншасці, якая любіць паэзію. Паэзія ніколі не ўяўлялася мне нечым штучным, нейкай чарговай выдумкай чалавечага розуму. Паэзія была для мяне і надалей застаецца самадастатковым светам, незалежным ад успрымання яго чалавекам. Паэзія — як дрэвы, як рака, як неба, альбо як нейкая нябачная энергія, што працінае сусвет, надае яму форму. А паэты проста могуць рабіць паэтычную энергію бачнай — гэта як пабудаваць млын і выкарыстоўваць сілу ракі альбо ветру. Інакш кажучы, паэзія можа існаваць і без паэта…

Упершыню такія думкі прыйшлі ў далёкім 1997 годзе, калі ў адной з польскіх кнігарняў натрапіў на зборнік Шымборскай «Koniec i początek» («Канец і пачатак»). Мне вельмі хацелася пазнаёміцца з творчасцю гэтай паэткі, бо на той момант яна з'яўлялася апошняй, каму прысудзілі Нобеля па літаратуры. Помню, як я цешыўся, што стаю вось тут і чытаю ў арыгінале лаўрэата самай вядомай прэміі. Чамусьці тады падалося, што нобелеўскія лаўры Шымборска атрымала менавіта за гэты зборнік. І я не змог яго не купіць, выдаткаваўшы на кнігу ледзь не апошнія злотыя, што сіратліва брынчэлі ў маіх амаль заўсёды пустых студэнцкіх кішэнях. Мне захацелася, каб пра вялікую, вядомую на ўвесь свет паэтку даведаліся і ў Беларусі, наіўна мяркуючы, што пра Шымборскую ніхто на маёй радзіме не ведае. Таму пастанавіў перакласці для пачатку куплены зборнік. У той жа вечар пераклаў верш «Niektórzy lubią poezję», які адкрываў кнігу.

Потым былі нейкія справы тэрміновыя, потым нешта яшчэ і яшчэ нешта. Карацей, да перакладу вершаў Віславы Шымборскай я не вярнуўся, а пазней увогуле расчараваўся ў гэтай аўтарцы. Асабліва расчаравала яе ранняя творчасць і вершы з апошніх гадоў жыцця. У вядомай польскай паэткі мелася залатая сярэдзіна. Але меўся і перыферыйны танны бляск.

**Гісторыя другая: Іван Франко**

***Прыпавесць пра радасць і смутак***

Два суседы жылі, хаты побач зусім:
Той вяселле спраўляў, а хаўтуры — другі.

Тут гаротныя слёзы ліюць над труной,
Спеў вясёлы даносіцца з хаты другой.

Тут праводзяць нябожчыка, млеюць, галосяць,
Там да шлюбу выправа, дарункі выносяць.

Шлях адзін: хто да шлюбу, а хто — на цвінтар,
Бо хавае, вянчае той самы святар.

І з усмешкай прыедуць з царквы і ў слязах,
Але ў тых і другіх будуць чаркі ў руках.

То не казка, браты: калі зблізку зірнуць,
Будзе бачна, як смутак і радасць ідуць
Побач, парай, і нас за сабою вядуць.

Не стамлюся паўтараць, што пераклад з'яўляецца адным з найбольш універсальных метадаў пашырэння межаў нацыянальнай літаратуры, а заадно і культуры. Асабліва важнае месца варта адвесці перакладу паэтычнаму — самаму складанаму і нават парадаксальнаму віду творчай дзейнасці. Складанасць такой дзейнасці хаваецца ў мове як спосабе адмысловага бачання знешняга і нутранога свету. У мове ж паэта (паэтычнай мове) згаданая адмысловасць памнажаецца на індывідуальнае адчуванне і ўсведамленне таго, што мы прывыклі называць сусветам альбо Богам. Так ці інакш, але, спрабуючы перакласці верш з адной мовы на іншую, перакладчык, хоча ён таго ці не, падмяняе чужое светабачанне на сваё. У гэтым парадокс паэтычнага перакладу. Таму найлепш перакладаць творцаў, так бы мовіць, блізкіх па духу. Тады непазбежная падмена хоць бы вачэй муляць не будзе. Інакш атрымаецца, як у радках Івана Франко: «Тут праводзяць нябожчыка, млеюць, галосяць, / Там да шлюбу выправа, дарункі выносяць».

Як і ў выпадку з Віславай Шымборскай, пераклад, пададзены вышэй, — мой адзіны вопыт перастварэння на беларускую мову ўкраінскага наміната на Нобелеўскую прэмію (кажуць, што толькі заўчасная смерць не дазволіла Франко атрымаць Нобеля). Зрэшты, і сам вопыт быў выпадковым. Прыкладна ў той час, калі я збіраўся пашыраць заходнія межы айчыннай літаратуры, мой даўні сябар Юрась Пацюпа спрабаваў пашыраць гэтыя межы ў паўднёвым напрамку — праз пераклады паэзіі Івана Франко. Паводле планаў Пацюпы, неўзабаве меўся паўстаць том ці нават два тамы гэтага аўтара па-беларуску. Мне Юрась таксама прапанаваў прыняць удзел у праекце. Я згадзіўся, бо і сам працэс перакладу мне заўсёды падабаўся, ды і на той час

Іван Франко здаваўся мне даволі блізкім па духу. Цяпер думаю, што ён для мяне занадта рацыянальны. Таму наўрад ці калі займуся падменай ягонага светасузірання.

**Гісторыя трэцяя: Юрась Пацюпа**

***В свете***

*По картине Алеся Овчинникова*

Когда закат израненный алеет,
а голос крови прячется во тьму,
уходит вечер. Мёртвые аллеи
и тени птиц препятствуют ему.

Лишь день зардел, окликнул хлеб угрюмо
меня, чтоб рассказать не о себе,
а о душе, свободной, но бездумной,
и слушал я, прикованный к судьбе:

пускай давно потеряна свобода,
вся суть её, есть кроме высоты
и глубина, как память эха, воды,
есть млечный путь сквозь вековые льды.

Не люблю рацыянальнае мастацтва. Ніколі не схіляўся ў багавейлівым паклоне перад эпохай Адраджэння, не натхняўся літаратурай Асветніцтва, не вабіў мяне ні класіцызм, ні рэалізм, а постмадэрнізм дык увогуле, шчыра кажучы, раздражняе. Затое даспадобы таямнічае Сярэднявечча, захапляе непрадказальнасць барочнай паэзіі, уражвае вышыня рамантызму і глыбіня мадэрнізму. Прычына такога стаўлення да згаданых з'яў — глыбокая вера ў трансцэндэнтнасць слова, асабліва паэтычнага. А ўсё тое, што можна назваць выключна плёнам чалавечага розуму, для мяне — іманентнае.

Праўда, калі рэч ідзе пра пераклад, то тут нельга задаволіцца адно толькі натхненнем ды творчай інтуіцыяй. Перакладчык мусіць дакладна ўзважыць многія рэчы, перш чым брацца за іншамоўны твор. Напрыклад, варта задумацца над узроўнем ведання асобы перакладаемага пісьменніка, яго творчасці, яго эпохі ўрэшце. Ужо не кажу пра ўзровень валодання мовай, з якой плануецца пераклад. Словам, тут патрэбны вельмі рацыянальны падыход, бо працэс перакладу — гэта сур'ёзная разумовая праца. Дарэчы, падчас любой працы, як вядома, шліфуюцца і ўдасканальваюцца прафесійныя ўменні і навыкі, набываецца і назапашваецца патрэбны вопыт. Таму і перакладчыку варта час ад часу проста папрактыкавацца, каб не «згубіць форму», а не толькі сядаць за пісьмовы стол дзеля здзяйснення высокіх, ідэальных мэтаў. Дарэчы, мой пераклад верша Юрася Пацюпы «У святле», прыведзены вышэй, усяго практыкаванне. Мне было цікава, ці змагу я «агучыць» Пацю-

пу па-расейску. Здаецца, атрымалася, ды і аўтар верша маё перастварэнне ўхваліў. Так у выніку звыклай трэніроўкі паўстаў амаль што аўтарызаваны пераклад.

**Гісторыя чацвёртая: Аляксандр Блок**

***Зайчык***

Зайчыку маленькаму
У сырой лагчынцы
Колісь вочкі цешылі
Белыя пялёсткі…

Восенню заплакалі
Тонкія травінкі,
Лапкі наступаюць
На лісточак шорсткі.

Хмарная, дажджлівая
Наступіла восень,
Выбралі капусту,
Красці што цяпер?

Бедны зайчык скача
Каля мокрых хвоек.
(Недзе воўк стаіўся —
Страшны шэры звер.)

Думае пра лета,
Прыціскае вушы,
Косіцца на неба —
Неба не відаць…

Толькі б пацяплела,
Толькі б зніклі лужы…
Вельмі непрыемна
Па вадзе скакаць.

Аднойчы, блукаючы па прасторы байнэту, выпадкова натрапіў на здымак напалоханага зайчыка з прыціснутымі вушамі. Пад здымкам інтэрнэтмінакі пакінулі розныя дасціпныя каментарыі, накшталт «не дэвальвіруйце» і г. д. А нехта размясціў верш Аляксандра Блока «Зайчик». Паколькі гэта была беларускамоўная старонка, твор класіка расейскай літаратуры падаўся мне неяк там недарэчы, і я вырашыў выправіць сітуацыю — пераклаў гэты файны дзіцячы верш на беларускую мову і змясціў побач. Адразу ж адазваўся аўтар каментара, не ўцяміўшы, навошта я зрабіў пераклад. У жартоўнай манеры давялося патлумачыць, што часам добра пад рукой мець «глобус

Беларусі», каб усё вакол было па-беларуску, а нават Блок размаўляў мовай Купалы і Коласа.

Згаданы выпадак прымусіў мяне задумацца над некаторымі момантамі, звязанымі з расейска-беларускім паэтычным перакладам. Ці варта, напрыклад, сучаснаму беларускаму перакладчыку ва ўмовах білінгвізму займацца перастварэннем паэзіі нашых усходніх суседзяў? Ці не будзе, скажам, больш мэтазгодным патраціць час і высілкі на пераклад вершаў з нейкай іншай мовы, невядомай для шырокай чытацкай аўдыторыі? Такія пытанні, зразумела, могуць паўстаць, аднак сапраўдны творца не мусіць над імі ламаць галаву — яны для літаратурных рамеснікаў і менеджараў. Сапраўдны творца не выбірае твор для перакладу, гэта твор выбірае яго. І калі Вас выбраў верш Аляксандра Блока, альбо Уладзіміра Маякоўскага, альбо Юрыя Кузняцова, з удзячнасцю перакладзіце яго на родную мову. Паверце, знойдзецца і ўдзячны чытач.

**Гісторыя пятая: Лейб Найдус**

* * *

Я сэрцам сонца п’ю нектар.
Мой зрок у небе тоне.
Я — малады, прыгожы цар,
Хоць голаў не ў кароне.

З цудоўных мараў мой палац,
Да зораў ён сягае.
Ягоны чарадзейны бляск
Не знішчыць сіла злая.

Мне словы — слугі і сыны,
А вершы — мая світа.
Пакуль астатнім сняцца сны,
Бяссоннем я спавіты,

Бо ў сэрцы — сонечны пажар,
А дух мой — небам поўны.
Я ад калыскі самай цар,
Няхай і без кароны.

Свет людзей напэўна не дасягнуў бы таго ўзроўню развіцця, які маецца сёння, каб прадстаўнікі розных груп не ішлі на рознага кшталту кантакты, а існавалі сабе паціху, зачыніўшыся ва ўласнай культуры. Дарэчы, наладжваннем стасункаў, якія спрыяюць агульнаму ўзбагачэнню, займаюцца не толькі палітыкі і дыпламаты. Больш за тое, калі задумацца ды ўявіць сабе гісторыю чалавецтва, то палітыка і дыпламатыя часцей адыгрывала адмоўную ролю ў развіцці тых міжнацыянальных сувязяў, якія б прыносілі, напрыклад, ка-

рысць у плане духоўным. Гэта і зразумела — палітыкі і дыпламаты слугуюць дзяржаве (уладзе), чые інтарэсы закручаны выключна на праблеме самазахавання. Развіццё ж духоўнасці, самасвядомасці і адукацыі людзей не дазваляе палітычным элітам цараваць, лежачы на баку, як гэта адбывалася ў вядомай казцы Аляксандра Пушкіна. Такім чынам, пісьменнікі, навукоўцы і ўвогуле прадстаўнікі інтэлігенцыі стымулююць развіццё дзяржавы, не даюць уладзе спачываць на лаўрах і забываць, што яна на службе народа, а не наадварот. Зразумела, не кожнай уладзе падабаецца такое штурханне пад бок. Таму і адбываліся ва ўсе часы пераслед ды запалохванне творчых людзей. Найбольш смелых магла чакаць нават фізічная расправа. Ужо не кажу пра забарону мастацкіх кніг альбо пра чыстку падручнікаў па гісторыі і літаратуры. У гэтым не заўсёды прыемным працэсе наладжвання дыялогу паміж уладай і народам удзельнічаюць, вядома, і перакладчыкі. І, дарэчы, менавіта іх найбольш павінны баяцца нядобрасумленныя дзяржаўныя функцыянеры, бо ў руках перакладчыка можа ў любы момант апынуцца магутная ідэалагічная зброя, зробленая паводле лепшых замежных аналагаў. Калі ж пакінуць у спакоі метафару вайны, то і так нельга пераацаніць ролю перакладчыка ў стымуляцыі развіцця культуры. Я ўжо згадваў пра пашырэнне літаратурных межаў за кошт мастацкага перакладу, але перакладчык служыць яшчэ і своеасаблівым адкрывальнікам «загубленых» скарбаў унутры самой нацыянальнай літаратуры. Возьмем хоць бы айчыннае вербальнае мастацтва. Яно не складаецца выключна з твораў, напісаных па-беларуску. Беларускія пісьменнікі пісалі на лаціне, на польскай мове, на ідыш ды іншых мовах, якія большасць беларусаў не разумее. І каб кожны змог адчуць усе колеры, гукі і пахі ўласнага нацыянальнага мастацтва, на дапамогу прыходзяць перакладчыкі.

Аднойчы і я прыйшоў на такую дапамогу — пераклаў з ідыш верш (прыведзены вышэй) беларускага паэта Лейба Найдуса, забытага і занядбанага суайчыннікамі, якія нават магілу пісьменніка не здолелі захаваць: ў 1962 годзе на габрэйскіх могілках, дзе быў пахаваны пісьменнік, гарадзенскія ўлады вырашылі пабудаваць стадыён. А гадоў пяць назад пад бульдозер трапіў і дом, у якім жыў і памёр Лейб Найдус.

**Гісторыя шостая: Максім Багдановіч**

***Pogoń***

Gdy w me serce zakradnie się mroczny
Strach, że stracę ojczysty swój kraj,
Ostrą Bramę przywołam przed oczy
I rycerze, co konno mkną w dal.

Lecą konie, gorące jak ogień,
Nawet wicher nie może tak nieść.

Starodawną Litewską tę Pogoń
Nic nie zdoła pokonać i zgnieść.

Pędzą w dal nieskończoną i srogą,
A za nimi, przed nimi — sto dróg.
Długie lata zmierzają te drogi,
Dokąd mierzą — wie tylko Pan Bóg.

Może gonią, Białoruś, twe dzieci,
Które z błotem zmieszały twój byt,
Porzuciły cię w nędzy i biedzie,
Tracąc wszelki szacunek i wstyd.

Bijcie w serce ich mieczem najmocniej,
Aby obcym nie został a nikt.
Niech odczują, jak w sercu co nocy
Boli kraj, oczekując na świt.

Matko moja, kochana Ojczyzno!
Ból ten ciężko znieczulić lub znieść.
Odpuść winy i tul swego syna,
Pozwól umrzeć mu, broniąc twą cześć.

Cały czas będą lecieć w dal konie,
Będzie uprząż ze srebra ich grzmieć.
Starodawną Litewską tę Pogoń
Nic nie zdoła pokonać i zgnieść.

Неяк мне спатрэбіўся польскамоўны варыянт «Пагоні» Максіма Багдановіча. Я ведаў, што верш гэты перакладаўся, але калі ўбачыў пераклад, дык проста жахнуўся — то не быў наш класік. Знакаміты твор перарабілі ў нейкую прымітыўную нескладуху. Давялося перакладаць самому…

Паэтычны пераклад аб'ядноўвае сваім існаваннем адразу дзве літаратуры — і тую, у якой ён паўстаў, і літаратуру, да якой належыць арыгінал. А гэта значыць, што праз пераклад кожная з дзвюх літаратур узбагачаецца, прычым у аднолькавай ступені. Бо адна літаратура атрымлівае новы твор, а другая — новы, іншамоўны варыянт існуючага твора. Аднак узаемаўзбагачэнне адбываецца толькі пры ўмове добрага перакладу. Калі ж за гэтую сур'ёзную і адказную працу возьмецца не творца, а літаратурны рамеснік, то ён хутчэй за ўсё прынясе шкоду, прычым адразу дзвюм літаратурам: адна атрымае дозу графаманства, другая — падарваны імідж. Дарэчы, такая менавіта сітуацыя назіраецца апошнім часам на прасторы польска-беларускага і часткова беларуска-польскага паэтычнага перакладу. Ад усёй душы спачуваю наіўнаму беларускаму чытачу, які думае, быццам мае кніжку польскага класіка. Бедны, ён нават не здагадваецца, што яго папросту паймелі людзі, якія на літаратуры зарабляюць грошы. Помню, падчас аднаго пераклад-

чыцкага семінару ў мяне на гэтую тэму зайшла гутарка з адным паэтам, які зрабіў некалькі перакладаў з польскай паэзіі. Я запытаўся, ці змог бы ён на такім самым узроўні перакласці беларускі верш на польскую мову, на што прагучаў наступны адказ: «Канешне, не змагу, бо ніхто не можа аднолькава добра перакладаць з адной мовы на другую і наадварот, ды і не абавязкова гэта ўмець». Што ж, на самай справе мала хто валодае некалькімі мовамі ў аднолькавай ступені, але калі так званы перакладчык і двух слоў не можа звязаць на той мове, з якой рэгулярна перакладае, у яго перакладчыцкіх магчымасцях варта засумнявацца. Сапраўдны ж паэт-перакладчык здольны не толькі далучаць да сваёй літаратуры іншамоўныя шэдэўры, але і трымаць навідавоку перакладчыцкую дзейнасць замежных калегаў. Скажам, нехта прафесійна перакладае з ангельскай мовы на беларускую. Такому творцу не будзе цяжка ўбачыць, а часам выправіць хібы і ў перакладах з беларускай мовы на ангельскую. Гэтым ён дапаможа перш за ўсё сваёй роднай літаратуры.

**Гісторыя сёмая: Агнешка Асецка**

***Віват, наш баль!***

Чуеш, каханы, жыццё — гэта танец,
Фанданга, балера, бібоп.
Манна, асанна, ружанец і танец,
І гонім, і стогнем, і стоп.
Гэта як баль самы доўгі на свеце.
Другога не будзе, на жаль.
Б’юцца шчэ сэрцы пакуль, дык хадземце
На баль, гэй, на баль!

Нуда і самота, ідзіце ў балота!
Мы гліну заменім на сталь!
Хай не пужае нячуласці слота,
Бо наша жыццё — гэта баль.
Свет як буфет, усяго там хапае,
Ды ўсё замаўляеш ты сам.
Жыць трэба файна! Пі за каханне,
За мілых пі дам!

Віват, наш баль!
Гэты баль нам падораны лёсам.
Віват, наш баль!
Зноў сюды нас ужо не запросяць.
Аркестр гучыць,
І таму яшчэ кружацца пары,
Хочацца жыць,
І кахаць, і смяяцца, і марыць.

Кожны аднойчы, расплюшчыўшы вочы,
З нябыту вынырвае хваль,
Бачыць матулю, і тату, і жонку
І крочыць, і крочыць на баль.
Смерць — баба злая, яна не пытае,
Каму з нас пашарпаць эмаль.
Глянь жа ёй смела ў вачніцы, як Байран,
Бо наш гэта баль!

Віват, наш баль!
Гэты баль нам падораны лёсам.
Віват, наш баль!
Зноў сюды нас ужо не запросяць.
Аркестр гучыць,
І таму яшчэ кружацца пары,
Хочацца жыць,
І кахаць, і смяяцца, і марыць.

Я ўжо гаварыў, што пераклад паэзіі — занятак даволі складаны. Гэты від дзейнасці патрабуе не толькі паэтычнага таленту ды творчай інтуіцыі, але і грунтоўных ведаў у самых розных галінах — у мовазнаўстве, культуралогіі, гісторыі і нават філасофіі. І чым большы багаж ведаў, тым большы шанс у перакладчыка наблізіцца да зместу твора і ўзнавіць на іншай мове той спектр уражанняў, які аўтар арыгіналу адрасаваў свайму чытачу. Але не трэба забывацца, што акрамя зместу існуе яшчэ і форма, якая мае не менш важнае значэнне. Акрамя таго, перакладу можа патрабаваць не проста верш, а, скажам, тэкст песні. У гэтай сітуацыі перакладчык мусіць мець добры музычны слых, а яго праца будзе нагадваць працу ювеліра — ён павінны здолець захаваць на сваім месцы кожную галосную літару, бо інакш пераклад немагчыма будзе праспяваць. Мне, дарэчы, даводзілася неаднойчы перакладаць тэксты песень, таму смела магу сказаць, што гэта даецца не лёгка. А вышэй я для прыкладу прывёў мой пераклад вядомай польскай песні «Niech żyje bal!» на словы Агнешкі Асецкай, спяванай Марыляй Радовіч і іншымі выканаўцамі.

Такім чынам, кожны добры верш у добрым перакладзе павінны захаваць той самы рытм, што меўся ў арыгінале, тую самую колькасць радкоў і тую самую рыфмоўку. Многія напэўна скажуць, што такія рэчы зрабіць вельмі складана, бо ў мове арыгіналу і мове перакладу можа быць, напрыклад, розная спецыфіка марфалогіі, сінтаксісу ды іншыя несупадзенні. Усё, канечне, бывае, але нельга забывацца, што мова, прынамсі беларуская, мае такі патэнцыял, які дазваляе на самым высокім узроўні перакласці любую заморскую паэтычную форму. Як і стварыць сваю арыгінальную.

Іншая справа — мала хто ў сучасным свеце літаратуры дбае пра форму. Тая ж еўрапейская паэзія, як старая паненка, ужо больш чым паўстагоддзя цалкам свабодная. Еўрапейцы развучыліся аздабляць вершы рыфмай: маўляў, рыфма знявольвае сэнс. На самай справе ўся гэтая барацьба за свабо-

ду — спроба апраўдаць альбо звыклае гультайства, альбо бяздарнасць, альбо і першае, і другое ў адначассе. Еўропа дэградуе, а яе літаратура і аморфная паэзія ў прыватнасці яскрава аб тым сведчаць. Разам з еўрапейскімі паэтамі здэградаваў паэтычны пераклад: перакладчыкі не ў стане перастварыць добрыя рыфмаваныя вершы, таму працуюць выключна з паўфабрыкатам. Як ні сумна гэта канстатаваць, але на айчынную мастацкую прастору згаданая тэндэнцыя таксама прасачылася і, як ракавая пухліна, вельмі хутка разрастаецца. Супрацьстаяць гэтым паталагічным працэсам можна толькі праз веру ў ПАЭЗІЮ, адзіную ў трох абліччах.






**П**аэт, перакладчык, літаратуразнавец. Нарадзіўся ў 1977 г. у Гродне. Закончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, а ў 2003 г. аспірантуру па спецыяльнасці «Літаратура народаў краін замежжа (польская літаратура)» пры кафедры польскай філалогіі. У 2004 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча віленска-ковенскага перыяду (1815–1823 гг.)», якая стала асновай для літаратуразнаўчай працы (Гродна, 2008). У 2008 г. прысвоена вучонае званне дацэнта. Жыве і працуе ў Гродне. Вершы перакладаліся на польскую, рускую, літоўскую, англійскую, грузінскую мовы. На беларускую мову пераклаў драму Георгія Каніскага «Уваскрасенне мёртвых» («Тэрмапілы» № 13, Беласток, 2009), «Трэны» Яна Каханоўскага («Тэрмапілы» № 14, Беласток, 2010), паасобныя вершы Лейба Найдуса (з ідыш), Рымантаса Ванагаса (з літоўскай), Іраклія Какабадзэ (з грузінскай) і некаторых іншых паэтаў. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль» (Гродна, 1992), «Падаю ў неба» (Гродна, 2006), «Апошні дзень» (Мінск, 2013).

МІРАСЛАЎ КАЧМАРЭК

# бледнатварыя веранікі

## I. не ў час

не ў час неспакой часовы
прыбраны ў шурпатасць словаў
вырываем з маўчання
на вечнае занядбанне

пастаўленыя пад шнур
не ў час чаргу пакідаем
ні той што наперадзе ні той што за намі
…плануючы сваю долю

не паяднаныя часам
руку падаем у няпэўных
рухах наша краса
conditio humana

не ў час
зямныя справы канчаем
але прамовілі амэн
адным крыжам запозна

## II. нп. бледнатварыя веранікі

на пятнаццатае пажоўклі ліпы
надта па-восеньску ў гэтым годзе
каб суцешыць Зельну — снапок застаўся

у бібліятэчцы — пасярод дрэваў
што ў метафізічнай лесапільні
знайшлі сваё існаванне

вялікія мысляры
залішне ў сябе паверылі
замяняючы іх цішыню ўласнай

пад закуранымі хрыбтамі
перахоўваюць любоў
дзікіх гусей Бадсворта

калышуць мяне ў сне
калі святочным пледам сагрэты
сню чатыры стараны свету

**III. на поўдзень ад сумнення**

як сцежкі быллём зарастаюць
нібы пах саду ўмірае
і ўсё што ў ім расцвітае

саджуся гуляць у покер

*запозна* набірае форму
голас *хрыстофера льва*
з фільмаў жахаў у класе *b*

за месца пры стале, якое пустуе, іграем
і за яшчэ большую пустку

чарга раздаваць

*каралеўская кобра*
неразведзеных зводзіць
як чарвяк уваходжу *так*

плён пурпурнай сяўбы

б’юць званы
ў кронах дрэваў сікстынскай капліцы
лаўлю руку

**IV. у анкалогіі бялейшае адценне**

калі ты ўжо над сонцам лямпаў
амарыліс аплятае знямоглыя ногі
дождж радыеактыўных слёз
прадаўжае цярнёвы шлях
з сорак чацвёркі ў будынку **a**

у цемры на антрэсолях
пах верасовы
прыступкі глухое дыханне
пейзаж адпаведны для развітання
калі цень за намі ўжо йсці перастане

нехта знаходзіць словы
якімі сшываюцца раны

бальзам на выпаленую скуру
фортка ля крэсу вандроўкі
сад і дрэва пазнання

ложак пасцель з архідэі
на белым лепш пераходзіць
у неістотнасць — ужо чутно
a whiter shode of pale
калі ты ёсць

**V. калі пазірую на фатаграфію…**

задуменнасць
заснула на палатне
закалыханая мелам

а тут сур'ёзныя справы
разветраныя валасы перамалоў вятрак
у галандскую дэпрэсію

чародкі чужых запоўнілі неба
пачынаюць інвазію
(маёвая засмуж)

палянка злілася
з касмічнай зеленню
можа гэта вясна сусвету

у канцы таго часу
які расцягнуўся ў бясконцасць
ніколі невядома нічога

**VI. здараецца між снягамі**

перш чым адлятаюць за мора
прысядуць
на касцельных вежах

некаторыя
на помніках прарокам
дэкламуюць нябесную паэзію

пасля знікаюць будынкі
прысады і людзі
ў серафітавых акіянах

той самы гадзіннік
адмярае расстанне
вяртанне і засынанне

рытмам прыліваў
паварочвае месяц
плячамі да зорак

як тады
калі твой пульс
запаў у зімовы сон

**VII. неадасланыя, пажоўклыя, чарговыя**

між снягамі двух адценняў золата
лісце заслала пляжы
ноччу вырашыла і ўсё

пасля сезону не перашкаджае нікому
шалясціць у пустых будах
пясочныя гадзіннікі з рассыпаных замкаў

марскія д'яблы грэшных канікул
танцуюць чардаш пры патухлых вогнішчах
душы рвуць на чатыры чвэрці

запозна запозна запозна
спрадвек нерашучыя хвалі
распырскваюць успамін пра цябе

у першы дзень восені
калі знайшоў неадасланую паштоўку
ў *Часе адшуканым Пруста*

**VIII. прагноз пагоды**

узышла першая зорка
магчыма чарговы падман
пойдзем за ім шукаючы норкі
кожны сваёй

ад *енісея* вятры сухія
двое мучацца разам
на сумненнях малых
крэйсер *аўрора*

ад захаду туманы
пустаслоўе шкляных дамоў
роўнасць — большая роўнасць —
і такое там без плоці трэцяе

слухаем не тую калядку
пастушкі пераапранутыя ў мудрацоў
выклікаюць змрок
ужо новы дзень апранаецца

**IX. якія паспелі гэта запісаць**

спакойна заснуць не ўдасца
за хвіліну горад пагубляе вулкі

у карчме на шырокай
у бары аж ззяюць паэты
прарокі і барды кілішкаў
п'юць за тых якія не бачаць
(адламанае крылле
аплятае тэатр і ратушу
дамы ў якіх снім
плюшчом бязраднасці і бязвер'я)

спакойна заснуць не ўдасца
вежа святыні ў смузе не суцішвае

адпачынак у *цэнтральнай*
каляровыя матылі над *мільчэўскім*
аднак — хвілінай кранутыя
расшпіляем штаны *whitmanowi*

строфы навеяныя змрокам
(гэта наш унутраны гнеў)
напісаныя над прорвай
нікуды не завядуць

не ўдасца заснуць спакойна
на тым і на іншым свеце

**X. укладаецца — укладаецца**

няпэўнасць што адчыняе дзверы

была адламанай галінкай
на ўзлеску *Быдгаскай пушчы*
ў палове васемдзясятых

ў маладосці шукалі таемныя сцежкі
непраходныя дарогі
і *наіўнае каханне*

у падарожжах далёкіх вогнішчаў
збіралі мы зоркі ў кронах дрэваў
(калі абрасту карою
перастану баяцца ночы
замяню словы на ціхі шум)

*Зялёнка* належала толькі нам —
дасюль не ведаю ці ўпадае ў *Віслу*

летам жніўны жнівень
якога ўжо і няма
яшчэ больш дакладна чым дзядулі *Станіслава*

заміраю ў тым самым
люблю

здымак *Пасвятоўскай* пры кубку на пер’е
*Стахура* на стадыёне
дзікія гусі (спатканне) — ключ да змяркання
з тэкстам *Бітлсаў* на адвароце
зайшло
выключна

апошнім часам прывожу анёлаў з *Бяшчадаў*
новыя томікі *Шацінскага*

і маю *Лісты гіпатэтычныя Марка*

## словы карой абрастаюць

### І. вызваліць нас

вызваліць нас
блізкая зіма
з ранкавых пяшчотаў

і яе марозны каханак
бязлітасны маляр
шкляр рамеснік

снег размаўляе
на мове снегу
свіст палёту

шэпча дзень
мова яго
сонца жар

страхі начы
мова начы
пацалунак-нягоднік

адкахаецца за нас
на адыходзе зіма
канчаткова

**II. бяшчадскія сняданкі**

прыехалі дзяўчаты з Вялікапольшчы
на самы польскі край паказваць свае капрызы
ці зарана ўстанеш ці апоўдні
усё роўна будзе запозна
каб сказаць нешта ўсміхнуцца заплакаць
тым часам трэск дзвярамі
можа выпадкова ці злосная атака
ну, бо такая чароўнасць нашага ўставання
калі дзяўчаты прыходзяць каб зрабіць нам сняданне

**III. барвовы смутак**

жыццё ўбывае
з кожным захадам сонца
ў лясным насціле
на барвовым схіле

згушчаецца змрок
ва ўспамінах
паламаных букамі
і шляхамі ў невядомае

ці пішам ці не
самота аднолькава
сцякае дажджом
у расхваляванае сэрца

восень за парогам
як маладзіца старая
завязвае на галаву
каляровую хустку

у прадгор'і шукаем
да палянкі сцяжыну
якая пераміnаннем
да вечнасці суправаджае

дзе простыя словы
гучаць натуральна
як мова вады
ў пратоку Валасаты

і хоць усё радзей
вітаемся па дарозе
але ўсё ж яшчэ
некалькі нас засталося

**IV. даўно за местам**

амаль заснулі пясчаныя ўзгоркі
час каб дрэвы шапталі
што некалі было паміж намі

іх голас як лёгкая засмуж
вяртае далёкі ўспамін
урослы ў кару старым мохам

стаю сярод іх стары пень
закляты ў чатыры пары года
што ўжо ніколі як назаўсёды

**V. e u**

з трэскам зачынена спадзяванне
на трох багоў

раз'ясніла неба
дыянізійскія памылкі

трэснулі перуны
элада тоне

**VI. хоць раз**

хоць раз
удыхнуць дзікі мак

да алебардавай вясёлкі
над распусным бяздоннем

што галасы схавала
пасля начной прыгоды

сустрэчы трэцяй ступені
з дрэвам прозы жыцця

хоць раз на дажджы
замоўкнуць празора

з кроплямі смутку
на вібруючым лёце

за неабазначанай зоркай
на шчаслівае заканчэнне

**VII. затрымаўшыся над Салінай**

(на плаціне ўдваіх або хоць камерна)
жніўная засмуж пераплялася з тваёй касой

белым ветразем замест істужак
калі толькі ў адказ усміхнешся

пакіну неба сонечнай імглою
гнаны ветрам ад Палянчыка

развеюся над залівам
каляровымі хрыбтамі рыбаў

замененых завірухай ваеннай
з лэмкаў гуцулаў

у вёсках залітых
дзе сады пагублялі стрэхі

напалохаю нямых бяшчаднікаў
расплыўшыхся між узгоркаў

**VIII. дрэвы апавядаюць**

дрэвы апавядаюць
пра тое
што адбылося
перад вякамі

словы карой абрастаюць
выклікаюць
пандэмічныя ўспаміны
на пні

перачакай гэту хвіліну

**IX. з векам**

глыбей задумваемся з часам
залатым срэбным асеннім
над сваім мізэрным лёсам
запоўненым шэра-бурымі днямі
да незразумелага шкадавання
блізка

з гадамі спакайнеем
не хвалюемся моцна
уваходзім
спакойным крокам
не ўспамінаем
на Cerro Torre ў сонцы

менш выглядаем з гадамі
на хрыбеціны пераворaныя цішэй
па-над гранню ўспамінаў
рэчы страшныя не такія страшныя
маладосць не маладая
перастала крычаць

углядаемся без хвалявання
але цікавіцца не перасталі
памяркоўныя без перабольшвання
няма ўжо яду ў злосці
прымірыліся і прыціхлі
на той амаль святы спакой

### X. лонданскія помнікі

яшчэ апісаць бы
твае вяртанні

заімглёны Tower Bridge
развіднее перад паўднёвым сонцам

што асляпляе кіроўцаў
мацней з левага боку

разгоніць хмары на небе ў стакротках
перавернецца на другі бок

лірычна шапне дажджом
post scriptum на развітанне

загрыміць калі палічыць патрэбным
ламаючы граматыку Створцы

твае вяртанні
пераплятанні сумненняў у вяртанні

можна іх апісаць
як асобныя апавяданні

## сінічка ўчыніла вясну

### I. вясновае ўпарадкаванне

сінічка ўчыніла вясну
адна — наперакор
пад туяй апошні снег

у альтанцы за домам
абудзіла плюшч
з зімовага сну

прадвесне
ў чырвані падснежнікаў
галубком маляваных

ястраб дадаткова
выдумляе час
кіпцюрамі стрэлак

вясна вясна
не толькі радасць
барваў букетаў

пані Данка не прынясе
малінавага печыва
і прыправы да агуркоў

у вёсцы не далічацца
*некалькі хлопцаў з тых гадоў*
(*магілы там дзе кветкі*)*

прыціхну ў часе бяды
упарадкую каляндар
свежай зелянінай вянкоў

**II. якія паспелі запісаць ч. II**

дзве падвойныя
п'яныя камянічкі
губляюць шарэнгу барваў

хісткія крокі
гэта не вандроўка
лаўка міласэрнасці на бульвары

з відам на мост і старыя фарты
зіма ўцякае рэшткамі крыг
да *Грудзёндза*

затока каля *Бруна*
плямы на лёдзе малююць неспакой
трэшчыны — вайну

з трэскам капітуляцыі
магчыма так перастаем жыць
залішне катэгарычна

не засну спакойна
ніхто не засне на прагулянцы
сумненнямі вершы тускнеюць

рассыпаюся і звальваюся ў *Віселку*
забіраючы мост на ўсяляк выпадак
калі прыйдзецца зноў вяртацца

---

* Словы Ванды Серадскай да песні Славы Пшыбыльскай.

**III. адсюль у антыкварыят**

пішу гэта а стары чыжык
тысячны раз адольвае трасу
агарод — будка над спальняй

замаўкаю з надворку
захапленне адвечнай дарогай
названай проста жыццём

запісваю на экране
спакой і самоту
мусіць так трэба

пошумам птахаў
рухнуць святыні
людскога гоману пыхі

нават ваяводская
што працінае палі
прызнаецца: вяду ў нікуды

сам бачыш
паслядоўна
сцелеш ходнік да антыкварыяту

тым хто чакае на першае каханне
пацалунак які раз'ясніць неба
няпэўнасць падзеленую на дваіх

калі пішу шнур дзікіх гусей
адчыняе забытыя дзверы
мудрасці

**IV. штораз карацейшыя жнівеньскія надвячоркі**

жнівень забраў свежасць яблынек
пасля паўдня (нават цвыркуны) сціхаюць
ў садзе выспелым да абыякавасці

залатая далонь бярэ недапітую каву
усміхаецца філіжанка
першы світар на ўсялякі выпадак

але гэтыя цвыркуны
што яшчэ гарыць
далягляд калі сціхнуць

малінаўка падае са шчодрасцю суму
над ёй над аблокамі
схавана жыццё

ніхто ім не валодае
гасне што адсвяціла
што адцвіло завяне

схаваны парадак рэчаў
у згубе формы
паўшэптам без шкадавання

зоркі заснулі
цвыркуны адчыняюць вароты
маўчаць дакуль невядома

сплю

**V. матылёк матылёк**

*Стварэнням якія пішуць*

*калі чытаю за поўнач*

затока сакрэтнай прысутнасці
крыклівага неспакою кірляў
што дадзены можа выбраным некаторым

зямля недагледжаная
запахам пасланцоў трапеча
крылле пазамінулага часу

апускаеш ногі ў халодную ваду
палошча памяць нанова дражніць
зіркаю тваім аб'ектывам

*калі чытаю на зорцы*

у пасцелі з ранняй імглы
( добрыя ўчынкі выклікаюць
вясковы настрой у Створцы)

знаходжу сны што заблудзілі
недаконченыя вершы
мары а чацвёртай трыццаць

сумую светлае свеціць
з-пад распешчаных ноччу аблокаў
матыльком здаешся на кветцы

на кветку схаваных словаў
вяртаюся ўцякаю супакоены
у абдымках тваіх натхненняў

*З польскай пераклала Данута Бічэль*




**П**аэт, тэолаг. Нарадзіўся ў 1968 г. у Польшчы на Куявах. Скончыў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гнезне, дзе працаваў вядучым праграмы і дырэктарам Радыё Плюс. Шматгадовы праваднік пешых пілігрымак на Ясную Гару ў Чанстахове. Вандроўнік. Палюбіў горы Бяшчады, куды ходзіць штогод. Паміж усёй працай і захапленнямі піша вершы.

ЭЛЬЖБЕТА МІХАЛЬСКА

## Псіхалагічнае

Не можаш уяўляць
дык усюды бачыш
толькі хмары
а я штораз натыкаюся
на ведзьмакоў, дэманаў, дэпрэсію
а калі б здольная была як ты
бачыць воблакі і далячынь
сказала б сабе —
я нармалёвая
адчапіцеся ад мяне!

## Навошта жыць

Калакоўскі напісаў
у нейкай з уласных кніг
што ЖЫЦЦЁ ПАЛЯГАЕ НА ТЫМ АБЫ ЖЫЦЬ.
Звычайны рабацяга на сканаванні ў прытулку
запытаны пра тое ж паўтарыў
ЖЫЦЦЁ ПАЛЯГАЕ НА ТЫМ АБЫ ЖЫЦЬ.

О вячыстая траса ўцёкаў ад пакут
хавай нас час ад часу
у канвертах
у пячорах
у мілаванні

## Норвід і я

— Калі будзеш чытаць на матэматыцы
пад партай вершыкі дык скончыш
як той дурань Норвід у прытулку для састарэлых. —
Звычайна агалошвае мая пані матэматычка,
выводзячы чарговую двойку.
Колькі праліла
я слёз з той пары
колькі камянёў разбілася
аб маю галаву?

Слёзы і камяні — і нічога іншага
не чакаю?

## Чырвоны клічнік

Маленькай дзяўчынкай
марыла каб
у будучым як вырасту
стацца дрэсіроўшчыцай львоў.
Ніколі — дрэсіроўшчыцай людзей.
Бр-р…
Тое прыдатна для адважных.
Такі звычайны чалавек
нібы прыхільна табе
пасміхаецца, ажно адразу
ні з таго ні з сяго
як не ашчэрыць зяпу,
як не рыкне,
і не паспееш змеціць,
як ужо адарваў табе галаву.
І не толькі слуп юхі
раптоўна ірвануў да аблокаў —
чырвоны клічнік.
Каркаломная кропка!

## Зайздрасць

Толькі цяпер, калі мне ўдалося
прасадзіць руку праз маленькую дзірку
у металічнай агароджы саду,
каб сарваць некалькі вішань,
зразумела,
якая марная я істота.

Ах, тая прыгажуня акторка з рэкламнага твэрагу almette,
тая да ўсяго мае кісць, жылістую, касцістую,
большую, чым коўш экскаватара.
Каб мела такі пекны твар
і такія вялікія далоні, як тая акторка,
не спатрэбіўся б у гаспадарцы конь.

## Слоік з крывёю

Учора ў бак са смеццем
кінула слоік, поўны крыві.
— Такога не рабі сваім людзям, —
штосьці мне шэпча. Няйнакш так нельга.
Праз колькі дзён смецяры прыедуць,
і калі будуць выкідаць смецце ў кантэйнер,
слоік лопне. Як так можна?
Калі б гэта былі якія камп’ютаршчыкі, банкіры, вучоныя,
але яны найперш, як і я, звычайныя смецяры.
Ды выбачайце, мелася быць крывянка,
і зноўку штось мне шэпча:
«Адклад не ідзе на лад».

## Лічыльнікі

Разбэрсала лічыльнікі
і змантавала каралі
пацерка зялёная
пацерка чырвоная
пацерка зялёная.
Малая прынцэса Дзі
з папсутымі зубамі
і нахіленая
над канапай
вешае таблічку множання.
Лічы, лічы!
Увесь час галава
над вырашэннем задання
што не мае аніякага сэнсу.

Разбэрсала лічыльнікі
і склала на сваёй магіле
з пацерак крыж.

## Дома як дома

Пяць гадоў у нашым склепе зімуе рапуха.
Імя ёй далі, а як жа іначай — Рапуха!
Сёлетняй восенню шматкроць заходжу ў склеп
сяджу пасярodку бетоннай падлогі і чакаю Гадота.
Ужо некалькі разоў заграбала яе ў лісце

і клала да сцяны, а яна як вылазіла, так і вылазіць.
Пачцівая, любая Рапушанька
выбрала наш бедны дамок без выгод,
ігнаруючы вілу суседзяў.

## Вясёлая ўдоўка

На магіле мужа садзіць туліпаны.
Абапёрты на крыж нарачоны падказвае:
— Не пхай па краях, садзі пасяродку —
зграбна будзе глядзецца,
толькі б мароз не сцяў.
— Ліха з імі, — абыякава адгукаецца. —
Будуць расці, дык будуць.
А не, дык не!..

## Містар свету

Мой хлопец найбрыдчэйшы на свеце,
усе з мяне пацяшаюцца і кажуць — звыкнешся.
Нават пані з сацыяльнай апекі абяцалі
сціплы грашовы паёк у выглядзе кампенсацый.
Лістаноша, калі спаткаў майго любага ў сенях,
дык мала што не званітаваў.
Каты фыркаюць, сабакі выюць, дзеці разяўляюць раты,
калі ён шпарка дэфілюе па вуліцы, несучы сваю брыдоту.
Заўжды паўтараю: як для мяне, дык ён і так дужа ладны,
бо як знервуюся, застануся ў адзіноце.
А ўчора ў газеце знайшла аб'яву
пра выбары найбрыдкага мужчыны свету.
Адбор адбудзецца ў Парыжы, паўфінал у Нью-Ёрку,
фінал — чорт ведае дзе.
Кажу свайму хлопцу:
— Стасек, стартуй, павер у сябе!
Чалавеча, ты сапраўды маеш вялікі шанц.
Калі атрымаеш першую ўзнагароду,
дык нарэшце купім буду для трактара
і паедзем у шлюбнае падарожжа.
Мой хлопец нічога не адказвае,
толькі чысціць шкарпэткай шчыліны
між пальцамі ў ступнях.

## Святы Антоні

Святы Антоні,
прашу, дапамажы мне
знайсці мужа.
Можа быць нават такі, як ты,
лысы, салодкі, разгублены, нясмелы,
у півоневых пялёстках.
Нават калі не з крыві і касці,
дык няхай будзе з адпушчэнскай аплаткі.
Як кірмашовы драўляны пеўнік,
што лопае крыламі,
а пакуль данясеш дахаты,
увесь рассыплецца.

## Успамін

У піўніцы апроч нас дваіх
і гурбы бульбы для гатавання
была дзвюхсотватавая жароўня,
кот Мурэлкін і любасць,
што як шчур пішчала
і несвядома аб чым несла бязглуздзіцу…
Божа мілы, з той пары
нідзе не знайшла ўжо столькі шчасця,
і ніхто не паклаў мне ў руку
бульбіну кшталту сэрца.

*З польскай пераклаў Юрка Голуб*




**Н**арадзілася ў 1971 г. Жыве і працуе ў Златарыі ў Польшчы. Аўтарка адметных паэтычных кніг «Тут гэта Тут, Там гэта Там», «Усё» і іншых, што ў розны час пабачылі свет у польскіх выдавецтвах. Э. Міхальска ў вершах пазбаўлена манерных падробак і гульні, а наадварот, яе радкам уласціва свядомая іронія і, што яшчэ прывабней, — шчымлівая адкрытасць чытацкаму сэрцу. Таму нездарма апошняя акалічнасць дае дазвол творцы на гранічнае прызнанне: «Добра хаця б аднойчы ў жыцці быць паэткай».

## Юлій Тувім

### Рэжысёр

Вас нельга адных пакінуць
Нават на паўгадзіны.
Што гэта? Хто паставіў? Да д'ябла штучкі свае.
Кажу вам: вышэй, направа. А гэта што, кпіны?
Пакіньце кпіць кпіны ў маім атэлье.
Дзе Дуглас? Ізноў сняданне?
Заўсёды і вечна сняданне.
Дуглас! Вось так. Бягом туды, дзе стаяў!
Цяпер паненка.
Ідуць і шэпчуць. Цяпер замяшанне.
Цішэй, цішэй! Ідзеш да адной з паненак, сюды.
Цяпер — маланкай — раптам — кінжал!
І лямант. Удар. Бліснуў метал!
Натоўп, мітусня, штурханіна, гром.
І выбух бомбы. І падае дом.
Увага, Білі, у цэнтр акурат.
Ну, што? Спазніўся? Вяртайся назад!
Ніхто нічога не разумее.
Дом разбіраем, ствараем абшар.
Вуліца цягнецца проста да мора.
Ферсен, увага! Жудасны месяца твар.
Цень навісае. Дуглас у кадры. Гора і змора.
У цемру плывуць чатыры сярэбраныя дамы.
І падае цень, як нож гільяціны! Вось так.
Не бомбу мы кідаем — месяц.
Ачысціць пляцоўку. Білі, чакаеш на знак?
Маўчыце — сцэнарый ім трэба. Сцэнарый тут — я!
Шукаю мастацкую праўду, такая работа мая.
Ствараем мы гіпертвор!
Шэдэўр і узор!
Уключайце юпітар!
Уключайце матор!

Увага! Новы сцэнарый
Будзе тым часам вельмі стары
І вельмі знаёмы.
Пан прадзюсар і іншыя гаспадары
Могуць не хваляваца за грошы.
Мой фільм прынясе мільёны.

Можна банальны сюжэт
Зрабіць не такім будзённым?
Паспрабуем сёння.

Першая сцэна: Адам і Ева.
Цень ад дрэва.
Жанчына не зводзіць з Адама вачэй.
Змей.
Усё так і пакінем нязменна.
Размова. Яблык. Спакуса…
Парыванне насустрач.

Сцэна другая.
Поле ў вясновай красе.
Сонечны ранак. Авель статак пасе.
Каін да Авеля йдзе.
Спрэчка. Сварка. Моцныя словы.
Аб прымірэнні няма і мовы.
Каіна твар суровы.
Каін сабраўся нанесці ўдар.
Ды раптам Авель гаворыць:
— Братка!
І тут перамена. Нянавісць знікае.
У новым сцэнары не адбываецца схватка…
Каін Авеля не забівае!
Каін руку падае на згоду.
Глядзіць на брата — спакойны, чысты.
Ён разумее, што Авель — брат!
А вы разумееце гэта, статысты?

Трэцяя сцэна.
Каін і Авель у кадры нязменна
Разам Богу прыносяць ахвяру,
Мараць…
Тут дуэт. Песня веры, любові, надзеі.
Спеў ляціць да нябёс і дужэе.

Стоп. Перашкода. Звініць тэлефон.
А, пан прадзюсар! Вітаю! Паклон.
Пан не пацерпіць ніякага свінства?
Пану па сэрцы сцэнар той, забыты?
Пан патрабуе ў кадры злачынства,
Бо іначай пан спыніць крэдыты?

Як там было? На чым мы спыніліся?
Жудасны месяца твар…

Цень на экране… Крыкі… Удар!
Так ці не так? Аб чым там гаворка?
З вас той карысці, што ломаны грош!
Успомніў нарэшце, пра што мы забыліся:
Бомба і нож!
Бомба і нож!
Бомба і нож!

*1937*

*З польскай пераклаў Юрый Кісялеўскі*

ЯН ПАВЕЛ II

# Рымскі трыпціх

## I. Плынь

RUACH Божы Дух ляцеў над вадой.

### *1. Збаўленне*

Затока лесу ступае
па схілах горных патокаў.
І Ты плывеш у тых схілах,
Ты, Спрадвечнае Слова,
Як жа дзіўна маўчыш Ты!
Там, дзе кругом гаворыць
Табою створаны свет…
разам з лясной затокай
ступае на дол па схілах…
…і ўсё нясе, як на хвалях,
у вадаспадах патоку,
з гор на дол гук за гукам,
напругай гнаны і моцай…
— Куды нясе ён, куды?

Што скажаш мне, плынь з-пад неба?
І дзе мяне зноў сустрэнеш?
Мяне, хто ступае светам —
гэтаксама, як ты…
Але — ці таксама, як ты?

(Дазволь мне пабыць з табою —
дазволь пабыць на парозе,
простая мая прага.)
Плынь не здзіўляецца долу,
куды спадае па схілах,
і лес наўздагон спадае —
здзіўляецца чалавек!
Свет ужо за парогам —
гэта парог здзіўлення.
(Імя здзіўлення Адам.)

Быў ён сам у здзіўленні —
навокал жылі, паміралі.

Чалавек сабе жыў з імі разам,
ступаў па хвалях здзіўлення.
І вырываўся з абдымкаў
той хвалі, якая цягнула
і абвяшчала навокал:
«спыніся, тут твая прыстань»
«дзе я — тут месца сустрэчы,
сустрэчы з Прадвечным Словам»
«спыніся — сутнасць у плыні»
«сутнасць… сутнасць… сутнасць!..»

### *2. Крыніца*

Затока лесу ступае
па схілах горных патокаў.
Калі хочаш мець крыніцу,
ідзі насуперак плыні.
Старайся, шукай, не стамляйся,
бо тут яна — бо чакае.
Крыніца, дзе ты? Крыніца?!

Ціша… Ціша навокал.
Плынь ручая ляснога,
адкрый сваю таямніцу,
свой выток прыхаваны!

(Ціша, чаму ты змоўкла?
Схавала ў сабе таямніцу
Свайго і майго пачатку.)

Дай ажывіць мне вусны
той крынічнай вадою,
дай пачуць тваю свежасць,
свежасць святла жывога.

## II. Медытацыі над «Кнігай жыцця» на парозе Сікстынскай капліцы

### *1. Першы, Хто Бачыў*

«У ім жывем, ідзем, у ім сутнасць», —
гаворыць Павел афінянам на Арэапагу.
А Ён — гэта Хто?
Ён — прастора, якая ўсё абдымае —
Ён Створца:
абдымае, падымае, кліча нешта з нічога

не ў адным пачатку, але без канца.
Бо што ўзнікае — заўжды трывае.
«Спачатку было Слова, і ўсё выйшла са Слова».
Таямніца пачатку
нараджаецца разам са Словам.
Слова — то вечны вобраз, вечнае вымаўленне.
Той, Хто стварaў — Той бачыў
і бачыў, «што было добра»,
але бачыў іначай, чым мы разглядаем.
Ён — Першы, Хто Бачыў —
бачыў, знаходзіў свой след Істоты,
поўны след бачыў —
голае, празрыстае,
сапраўднае, добрае, прыгожае —
але бачыў іначай, чым мы.

Адвечны вобраз, адвечнае вымаўленне:
«Спачатку было Слова, і сталася ўсё праз Слова» —
у чым жывем, за чым ідзем, і ў чым сутнасць —
Слова, цудоўнае Слова, спрадвечнае Слова,
як нябачны парог
усяго жывога, што жыве і жыць будзе.
Бо Слова — гэта парог.
За парогам — быў свет нябачны, адвечны, Боскі,
за парогам
пачалася Гісторыя!

Стаю на парозе — там Сікстына —
гэта было б лягчэй сказаць мовай
«Кнігі Жыцця» —
але Кніга чакала ўвасаблення ў жывое —
і ў тым была праўда. Чакала Міхала Анёла.
Бо Той, Хто стварaў — бачыў
«і бачыў, што было добра».
Значыць, Кніга чакала
плёну ўвасаблення ў жывое.
О, чалавек, хто бачыць, прыходзь на парог —
Клічу ўсіх, хто празоры, з усіх часоў,
Клічу цябе, Міхал Анёл!

У Ватыкане тая капліца —
чакае плёну
твайго ўяўлення!
Уяўленне чакае на вобраз.

На вобраз з таго часу, калі Слова сталася целам,
бо ўяўленне чакае заўсёды.

Стаім на парозе Кнігі.

Гэта Кніга Жыцця — Genesis.
Тут, у гэтай капліцы, стварыў яе Міхал Анёл,
не словам, але багаццем
самых высокіх колераў.

Пераступаем парог — ідзем спасцігаць,
ідзем ад здзіўлення да другога здзіўлення.
Тут, толькі тут глядзім —
і пазнаем пачатак,
які падняўся з нябыту,
калі паслухаў жыццядайнае Слова;
тут Слова гаворыць са сценаў.
І хіба яшчэ мацней Слова
тут чуеш Крэс, апошнюю рысу.
Бо мацней усіх чуваць Суд.
Суд! Той апошні Суд…
Вось дарога, якую мы ўсе праходзім —
Кожны жывы чалавек.

### *2. Вобраз і падабенства*

«Бог стварыў чалавека на свае вобраз і падабенства,
стварыў мужчынам і стварыў жанчынай —
І бачыў Бог, што зрабіў добра,
бо абодва голыя не чулі сораму».
Ці магло так быць?
Не пытай сучаснікаў — спытай Міхала Анёла
(а зрэшты, чаму і не сучаснікаў?!).
Найлепш спытай у Сікстыны.
Як шмат чуеш на гэтых сценах!

Пачатак нябачны.
У гэтым буйстве, вольным у геніі чалавека.
І крэс нябачны.
Хоць адкрываецца перад табой, падарожны,
карціна Апошняга Суда.
Але як гэта можа быць, як заглянуць
за межы дабра і зла?

Пачатак і крэс самі пранізваюць нас
з гэтых сценаў!

*Ён*

«У ім ідзем, жывем, у ім сутнасць».
Ці ж ён толькі прастора тым, хто жыве?

Ён — Створца.
Ён абдымае ўсё. Ён стварае і трымае ўсё існае.
Вось адкуль падабенства.
Калі апостал Павел гаварыў да афінянаў на Арэапагу,
у яго словах жыла ўся сутнасць Запавету.
І кожны дзень Павел завяршаў адным словам:
«І бачыў Бог, што зрабіў — і бачыў, што зрабіў добра».
Бо кругом бачыў след Істоты —
бачыў Сябе, як у люстэрку, куды б ні глянуў.
Справедчае Слова — гэта парог —
за словам ідзем, жывем, існуем.

*Чалавек (Я)*

Але чаму пра адзін-адзіны дзень сказана:
«Бог бачыў, што зрабіў добра»?
Ці ж гэтаму не пярэчыць Гісторыя?
Хоць наш век дваццаты!
І не толькі дваццаты!
Але аніводны век не схавае ўсяе праўды
пра вобраз і падабенства.

*Міхал Анёл*

Калісьці з гэтай вось праўдай ён зачыніўся ў Ватыкане,
а калі выйшаў — пакінуў Сікстынскую капліцу.
Бо —
«стварыў Бог чалавека на свой вобраз,
на Божы ўзор стварыў чалавека,
стварыў мужчынам і жанчынай,
бо голыя не саромеліся адно аднога!»
І сам Створца бачыў, што зрабіў добра.
Бо хто бачыць усё і ва ўсёй праўдзе,
калі не Ён?

*Яны*

І яны ўжо на парозе Гісторыі,
і яны бачаць сябе ва ўсёй праўдзе:
бо абое голыя…
І яны жывуць на гэтай карціне,
як жывыя жывуць,

бо так хацеў Стварца.
Ці не хочуць цяпер застацца навечна?
Ці ж не хочуць самі быць, як жывыя?
Быць сапраўднымі, празрыстымі —
адно для аднаго —
як створаныя Ім і дзеля Яго?
Калі так, то пяюць пахвалу і ўдзячнасць,
нейкі Magnifikat глыбіні чалавечай,
бо «ў Ім жывем, ідзем, існуем», —
у Ім Адным!
Гэта Ён падараваў прыгажосць
і ў абодвух наліў яе дапаўна!
Гэта Ён разбудзіў іх вочы.
Калі Міхал Анёл выходзіў з Ватыкана,
пакінуў паліхромны роспіс, а ключ яго —
«вобраз і падабенства».
Ключ, каб нябачнае было бачным.

### *3. Прасакрамант*

Хто ён? Ён Невымоўны Словам. Ён Само Існаванне.
Ён Адзіны. Ён Стварца.
І Ён — Супольнасць альбо Камунія Ўсіх Нас.
А Камунія гэта адоранне бліжніх бліжнімі,
а самы бясцэнны дар — гэта праўда, прыгажосць і дабро.
Але перш за ўсё Невымоўны.
Бо сам пра сябе ўсё нам сказаў.
Калі стварыў чалавека на свой вобраз і падабенства.
Бо аблічча Яго чалавечае ў паліхромнай Сікстыне.
Там Ён Усемагутны Старац. Ён Чалавек.
Сам падобны да створанага Адама.
А яны?
Каго «стварыў мужчынам і жанчынай»?
Бо ж ім абодвум быў гэты Божы дар.
І ён і яна — кожны ў сабе — прынялі той дар узаемны,
той дар, які ёсць толькі ў Ім.
І былі голыя…
І не чулі сораму, пакуль чулі дар,
сорам прыходзіць пазней, калі прыходзіць тлен,
а пакуль што верх шчасця. Пакуль жывуць,
абжываюць бясцэнны дар,
пакуль што нават не ўмеюць яго цаніць.
Але ж дарам адным жывуць. Чыстыя ён і яна.
Casta placent superis, pura cum veste venite

Et manibus puris sumite fontis aguam —
гэтыя словы чытаў я штодня восем гадоў
над брамай гімназіі ў Вадавіцах.

Прасакрамант — гэта само жыццё,
праяўленае ў адвечнай Любові.
Калі ж будуць ён і яна «адным целам» —
вось цудоўнае паяднанне! —
то абодвум адкрыюцца за небасхілам
іх бацькоўства і мацярынства.
— Так сягаюць да вытокаў жыцця, якое ў іх ужо ёсць.
— Так сягаюць да самых пачаткаў.
— Так Адам спазнаў сваю Эву,
так ён дасягнуў яе,
так у ёй пачалося жыццё,
так яна нарадзіла.
Так вось зведалі ён і яна, што пераступілі парог,
За якім адказваць за ўсё.

СПАЎНЕННЕ — Apokalipsis

Канец нябачны, як нябачны пачатак.
Сусвет выйшаў са Слова і вяртаецца ў Слова.
Пасярэдзіне Сікстыны нябачны крэс,
які ўбачыў майстар
у драме таго Суда —
Так нябачны канец стаў вяршыняй,
адкуль бачыш усё:
omnia nuda et aperta ante oculis Eius!
Словы апостала Мацея майстар замаляваў на сцяне:
«Ступайце, блаславёныя…» «Прэч! Праклятыя…»
Так ідзе пакаленне за пакаленнем —
Голымі прыходзяць на свет,
голымі кладуцца ў зямлю,
якая іх спарадзіла.
«З гною ты выйшаў і гноем будзеш».
Тое, што мела форму, цяпер нічога не мае.
Што было жывым — цяпер мёртвае.
Што было прыгожым — цяпер брыдота і жах;
усё як спустошана…
Але ж не ўвесь я ўміраю.
Тое жыве, што было ўва мне — і чаго не знішчыць.

***4. Пасляслоўе***

І вось тут, на падножжы цуду шматколернай Сікстыны,
збіраюцца кардыналы —
супольнасць, адказная за спадчыну
ключоў Валадарства.
Тут прыходзяць яны.
І Міхал Анёл іх атуляе тым, што бачыў сам
І замаляваў тут.
«У Ім жывем, ідзем, у Ім сутнасць».

Хто Ён?
Стваральная далонь Усемагутнага Старца
паказвае ў бок Адама…
«Спачатку стварыў Бог…»
Бог.
Той, Хто Ўсё Бачыць.

Шматлікія колеры Сікстыны паўтараюць словы Пана:
«Tu est Petrus»* —
чуе Сымон, сын Іёны…
«Ты Пётр, ты камень.
Табе аддам ключы Валадарства».

Людзі, каму даверана Спадчына,
збіраюцца тут,
атуленыя моцай Сікстыны,
якую пакінуў Міхал Анёл.
Так было ў жніўні, потым у кастрычніку таго ж года,
памятнага года двух канклаваў —
і так будзе ізноў,
ізноў збяруцца, калі будзе трэба,
гэта значыць, па маёй смерці.
Таму патрэбна, каб чулі яны так, як Міхал Анёл бачыў.
«Con-clave»** — супольны абавязак,
абавязак пра ключ Валадарства.
Так збіраюцца паміж канцом і пачаткам,
паміж Днём Стварэння і Днём Суду…
Бо чалавеку дадзена права
паміраць толькі адзін раз,
а потым Суд!
Альбо — празрыстая чысціня і святло.
Празрыстая Гісторыя —

---

* Ты — Пётр (лац.).
** З ключом (лац.), сход кардыналаў, які выбірае Папу.

Празрыстае Сумленне —
І патрэба, каб падчас усяго канклаву
Міхал Анёл нагадваў тым людзям:
Omnia nuda et aperta sunt
ante oculis Eius.
Ты, Хто Ўсё Бачыш — памажы нам!
І Ён пакажа…

## III. Пагорак у краіне Moria

### *1. Ур у Зямлі Халдэйскай*

Быў такі час,
людзі не сядзелі на месцы.
Гналі статкі там, дзе лепш было пасвіць,
дзе зямля, як плодная маці,
здольная пракарміць скаціну —
там і чалавек ставіў пастушыя шалашы
і збіраўся жыць.

Чаму сягоння шукаем
месца ў Зямлі Халдэйскай,
адкуль рушыў у свет Абрам, сын Тэраха,
з качавой навалай такіх, як сам?
Ці думаў ён: навошта адсюль ісці?
Для чаго кідаць Ур у Зямлі Халдэйскай?
Ці думаў так? Ці чуў смутак?
Ці азіраўся назад?
Не ведаем. Толькі ведаем, што чуў Голас.
І Голас казаў: — Ідзі.
І Абрам рушыў за Голасам.

А Голас грымеў: — Будзеш!
Будзеш бацькам многіх народаў,
а патомкаў тваіх
будзе, як у моры пяску!

Але ж калі і як гэта будзе? —
думаў Абрам.
Бо ж не прыроджаны мне дар бацькоўства.
І жонка, упадабаная мне ў маладосці,
не прынесла мне сына.
Адно цярпенне сабе і мне.
А Голас грымеў: — Будзеш!
Будзеш бацькам многіх народаў!

А патомства твайго
будзе, як у моры пяску!

*2. Tres vidit et unum adoravit**

Хто ж мог клікаць
і прарочыць далёка і блізка?
Хто Той Без Імені,
хто абярнуўся ў Голас?
Хто гаварыў да Абрама,
як Чалавек да простага чалавека?

Іншы і Непадобны.
Непадобны да ўсіх чалавечых думаў.
Калі ж гаварыў — значыць, чакаў, што далей…
Неяк прыйшоў да Абрама ў госці.
Трох прыйшлі, прынятыя з усёй пашанай.
Абрам ведаў, што гэта Ён.
Бо Ён быў Ён.
Бо Абрам пазнаў Голас. І словы прароцтва…
Праз год цешыліся Абрам і Сара.
Старыя Абрам і Сара.
Бо сын нарадзіўся.
Сын — бацькоўства і мацярынства.
Будзеш бацькам, Абрам,
будзеш бацькам многіх народаў!
Будзе імя тваё Абрагам.
У гэтым імені буду благаслаўляць і яму дабравесціць,
і буду множыць тваё патомства
да краёў Зямлі.
Бо імя Абрагам значыць:
Той, Хто Паверыў… насуперак надзеі.

Адзін навокал і ўсе народы
дагэтуль самі сабе стваралі багоў
(Элада, Рым і Эгіпет).
Адзін Абрагам паверыў Таму, Хто Ёсць.
З Кім гаварыў па дарозе за Голасам,
Каго пусціў да сябе ў шалаш,
прасіў быць госцем і з Кім гаварыў.

* Трох убачыў — аднога ўшанаваў (лац.).

Сягоння вяртаемся ў тыя мясціны,
куды Бог прыходзіў да Абрагама,
а той паверыў, што гэта Бог.

Пакуль народы і людзі самі сабе стваралі багоў,
прыйшоў Той, Які Ёсць.
Прыйшоў у Гісторыю чалавека
і адкрыў Таямніцу,
прыхаваную ад пачатку Свету.

Гэта Ён стрымае тваю руку
і не дасць падняць нож…
Гэта Ён не дасць, каб рука зрабіла тое,
што зрабілася ў сэрцы.
І завісне без сілы твая рука…
Гэта Ён удар спыніць.
З той хвіліны пагоркі ў краіне MORIA
будуць, як тое чаканне —
тут збудзецца таямніца.

### *3. Бог Запавету*

О, Абрагам! Хто ўвайшоў
у Гісторыю чалавека,
Той прагне праз цябе аднаго
адкрыць усю таямніцу,
прыхаваную ад пачатку Свету, раней за Свет!

Калі сягоння ідзем у тыя мясціны,
адкуль калісьці выйшаў Абрагам,
дзе пачуў Голас, дзе споўнілася абяцанне,
то ідзем для таго, каб стаць на парозе —
дасягнуць пачатку Запавету.
Таму што Бог абвясціў Абрагаму,
чым ёсць ахвяра адзінага сына —
не ахвяра, а проста смерць…
О, Абрагам! Так Бог палюбіў гэты свет,
бо свайго Сына аддаў,
каб кожны з нас, хто ў Яго паверыў,
меў сабе сваё вечнае жыццё.

— Спыніся! Ува мне тваё імя,
гэта імя — знак Запавету,
у табе той ключ і Спрадвечнае Слова,
якое было да стварэння Свету.

Запомні гэтае месца, бо адсюль пойдзеш,
а месца будзе чакаць свайго дня.

*З польскай пераклаў Алесь Чобат*

**Папа Рымскі Ян Павел II**, сапраўднае імя **Караль Вайтыла**, нарадзіўся ў 1920 г. у Польшчы ў Вадовіцах, памёр у 2005 г. у Ватыкане. Паэт, тэолаг.





# Дзённікі

## Сяргей Астравец

## Астравы. Замежны дзённік

### Вежы ўздоўж мора

*Дождж*

Калі ў Стакгольме падае дождж, у Вісбю свеціць сонца, ганарацца на Готландзе. Ён нібы паўднёвы курорт для паўночнай сталіцы, да якога няцяжка даплыць паромам, вастраносым, як самалёт звышгукавы, з вялізнай літарай G на борце.

Дажджы Готланд таксама не абмінаюць. Стаім у ядальні з акном на касцёл і мора, швед Фрэдрык не стрымлівае здзіўлення: дождж, што наляцеў зусім раптоўна, сячэ амаль што гарызантальна. Такога нават ён яшчэ не бачыў. Значыць, хмары цяжэюць зусім па-над дахамі, апусціліся амаль да вежаў, і моцны марскі вецер вытрасае з іх ваду. Амаль раўналежна бруку. Мы размаўляем з Фрэдрыкам пра класікаў.

Наш польскі калега піша кнігу «о едзэню», кулінарную. Заўжды мудруе пры кухоннай пліце над стравай для адной асобы, напэўна ж, каб напісаць лішні абзац. А мы па-хуткаму, каб не марнаваць час. Фрэдрык з засмучанай усмешкай кажа: сорамна перад ім, і высыпае на патэльню каляныя аснежаныя фрыкадэлькі. Штосьці ў гэтым ёсць, канечне, — выдумляць кнігу аб стравах, але табе не хапіла б фантазіі.

Калі ў старадаўнім з невысокімі дахамі горадзе за абарончымі мурамі дождж, здаецца настрой мінуўшчыны больш выразны: коміны курэюць, па падваконнях запалены настольныя лямпачкі. Нібы продкі гэтых людзей стараюцца ўтрымаць цяпло, утулак у прасоленых сіверамі сценах, духаў старога гандлёвага марскога места на сямі вятрах.

*Дом пісьменнікаў*

Калі ў Вісбю ціха, восеньскае сонца, здаецца, быццам наступіў перапынак паміж штормамі. Звычайна дом трасе суткамі, пад маім акном чатырма вяроўкамі прымацаваны сіні транспарант, які паведамляе: тут спыняюцца пісьменнікі. Яго ўвесь час торгае і пляскае па сцяне. Ці сцяг палошча наш літарацкі, ці ветразь, а мо адначасова — два ў адным.

Дом на пагорку сапраўды як карабель ва ўзнятым на дыбкі моры: шторм вось-вось сарве з якара, адарве ад берага, пачне кідаць хвалямі, зацягне ў мора — далей ад берага. Хвалі торгаюць, штурхаюць, сціскаюць у сваіх абдоймах, душаць, камячаць. Уначы пачынаюць гучаць сцены і столь, абуджаючы даўнія ўзгадкі пра вясковую хату. Але зноўку думкі пра драўляны карабель, які рыпіць раматусам, але не наракае, бо гэта — яго жыццё.

*Авечкі і бараны*

Авечкі, авечкі, бараны крутарогія. Яны паўсюль. Так, менавіта. Светлашэрыя стаяць у брамах вежаў, уздоўж тратуараў, цэлая чарада напаткалася перад рэзідэнцыяй мясцовага біскупа, на дзвярах якой мураваны герб.

Баран на каляровым сцягу места на флагштоках. Ускрылены баран вельмі сімпатычна асвойтаўся на экслібрысе — эмблеме дома пісьменнікаў. Тактак, нагадаўшы ўсім вядомага Пегаса.

Авечкі выглядаюць не так кідка, як бараны, яны менш заўважныя: сціплыя галоўкі, апушчаныя долу. Ці варта казаць, што бараноў вы спаткаеце часцей на брукаваных вулічках?

Авечкі і бараны ў вітрынах у сценах Старога горада: каменныя, парцалянавыя, плюшавыя, вязаныя. У крамах, перад дзвярыма на вуліцы мноства рэчаў з авечай воўны. І я бачыў іх саміх, бачыў жыўцом! На жаль, мы не спыніліся, каб сфатаграфаваць: яны стаялі ўздоўж дарогі — белыя, шэрыя, чорныя — і больш усё ж нагадвалі парцалянавых у адной вітрыне, уручную размаляваных. Мы праязджалі міма, яны жавалі сваю восеньскую траву. Яны былі дома, калі не гаспадарамі, дык амаль боствам мясцовага значэння, вартавымі на вуліцах і пры брамах, фетышам, рэкламнай прынадай.

Радуюся, што я тут, думаю пра жыхароў, іхніх продкаў, якія стварылі горад, збудавалі вакол яго сцяну з высокімі вежамі, да мяне прыходзіць усведамленне, што авечка з баранам — не выпадковасць у яго сценах у тым сэнсе, што яны не спынілі выбар канчаткова на кімсьці адным з іх, нібыта не здолеўшы прыйсці да адзінай думкі. Бо яны — два бакі аднаго медаля. Авечка — руплівая, непераборлівая, памяркоўная, на іх, дбайных, трымаўся дабрабыт, становішча гандлёвага места на марскім раздарожжы. А бараны — што тут доўга меркаваць, калі яны стаяць у брамах вежаў, — гэта ўпартыя абаронцы Вісбю. Ці варта падкрэсліваць, што іх у горадзе больш за авечак, і гэта кідаецца ў вочы.

Такі анімалізм горада паўночнага, скандынаўскага, марскога. Так, для любога вострава авечкі — выйсце, можа нават паратунак, абы трава расла. Небарачкі — яны і ежа, і цяпло: малако, мяса, лой, сыр, воўна, а таксама швэдры, хусціны, шапкі, лямцавы абутак, коўдры, кажухі. Так, для любога вострава, а тут, на Готландзе, у Вісбю, яны ўвогуле паўсюль.

*Келіх чырвонага*

У пакоі пад маім, на першым паверсе — грэк Тэа, ён перакладае з нямецкай і ў яго жонка з Гродна, дзе быў тройчы: раз летам і два — узімку, калі яму больш спадабалася — снег і ўсё з гэтым звязанае. Летам — горача. Так, цяжка дыхаць, бо вільготнасць. Нам гэта таксама занадта добра вядома.

Пахмурны дзень, але акно ў Тэа расчынена цэлы час: высокі вялікі келіх для чырвонага віна. Спачатку ён запоўнены каля паловы, потым было толькі на дне, яшчэ пазней след чырвонага віна ў сподзе толькі ўгадваўся. Увесь час побач стаяла бутэлька чырвонага віна, пакуль не сцямнела.

Акно глядзіць у вулічку, цераз якую турысты трапляюць звычайна да храма, на рынкавы пляц і далей — да мора, яны толькі што прайшлі скрозь вежу з брамай, каб перад акном Тэа збочыць. Усе, хто ідзе, не могуць не ўбачыць келіх з бутэлькай — маленькую выставу Тэа.

Ці варта дадаваць, што гэта амаль поўха мясцовым звычаям? Не, якраз выстаўляць на вокнах — на агляд — моцная традыцыя, амаль няма акна, якое б пуставала. Але бутэлек, віна вы не ўбачыце. Што праўда, зрэдку трапляюцца келіхі, але ў іх — сухая трава, букет ці не букет.

Цяпер у акне Тэа гарыць лямпачка, ён працуе. Калі іду міма, то паказваю пяцярню — вітаюся, ён адказвае. Яму дастаўляе відавочнае задавальненне быць на сваім цяперашнім месцы і каб яго бачылі за працай. Кучаравая чорная галава, круглыя акуляры. Часам з завулка выязджаюць машыны і асвятляюць яго фарамі.

*Wine House*

У Гродна з Вісбю існуе агульнае: у іх спыняліся каралі. «Вінны дом» і каралеўскі «Дом са шкуры цяляці» ў Вісбю — дзве назвы адной камяніцы. Спачатку пра віно. Гэта Балтыка, яно каштавала дорага, і можна было зарабіць. З караблёў яго ў бочках перавозілі ў вінны склеп, дзе дэгуставалі. Белыя, часам кіславатыя, дастаўлялі з нямецкіх земляў, салодкія — з грэцкіх, пікантныя — з Іспаніі і Партугаліі, нарэшце з Францыі — чырвоныя, якія каштавалі найдаражэй. Што да мяне, я сабе купіў апошнім саламянага колеру кіпрскае. На востраве сярод халоднага мора сапраўды мацней адчуваеш яго каштоўнасць.

З мясцовай легенды вынікае, што дом гэты збудаваў кароль Біргер Магнусан, ён папрасіў у гарадской рады сціплы кавалак зямлі, каб паменей плаціць, зямля за мурамі каштавала. Такога, які пакрые цялячая шкура, будзе досыць, паабяцаў кароль. Але загадаў нарабіць шнуроў са шкуры, звязаць і акрэсліць кола, пляц атрымаўся як мае быць. Аднак у Вісбю сёння сумняваюцца: ці не жарт гэта сярэднявечны?

Што да караля, ён сапраўды існаваў і спыняўся ў «Вінным доме», але тут версіі разыходзяцца: ці ён напаў на востраў у 1313 годзе, ці папросту хаваўся ў Вісбю? Вядома, аднак, што неўзабаве ён сапраўды ўцёк на Готланд: навокал вада. Але потым паплыў у Данію — у эміграцыю, і такое здаралася з каралямі.

*Кнігі*

Вокны горада за мурамі — музейныя вітрыны, кожны сам вырашае — што прапанаваць на агляд турыстам, мінакам. Але зазіраць у вокны ўсё ж няёмка, хіба што бакавым зрокам. Мінаеш чорны стары дом: квадратныя вокны невялікія, з аканіцамі на вышыні, над галавой у цябе. У левым гарыць святло — на сценах скрыні драўляныя, выглядаюць як старыя. Паварочваеш галаву: у правым стэлажы з кнігамі, драўляныя, дрэва цёплага колеру, сярэдне-карычневае. Утульна так, вулічка вузкая-вузкая, адразу трапляеш на пляц рынкавы.

Уздоўж абрыву сцяжына з дамамі, якія глядзяць на чарапічныя дахі ўнізе, разбураныя касцельныя сцены, а далей мора-мора! У адным дамку невялікім справа пакой: карціны на сцяне, падрамнікі, стол, злева куханька, паміж імі нешырокі стэлаж, у ім кнігі. Адчуваецца, што гаспадар прыязджае толькі часам, можа сталічны мастак.

Блізка ад батанічнага сада на рагу з вулічкай караля Олафа ў акне кнігі, кнігі, уся сцяна, цэлая бібліятэка. Але больш за ўсё іх у доме пісьменнікаў і перакладчыкаў.

*Мора*

Як гэта дзіўна ў такім месцы, калі няма ветру, мора амаль лагоднае зусім, толькі хваля нямоцная набягае, як заўжды рытмічна, на камяні ля набярэжнай.

Яно ўвесь час мяняецца, кожны раз спыняешся ля акна, ацэньваючы колер. Калі былі запар цёплыя дні, яно выглядала менш выразным і, што цікава, не праглядаўся асабліва гарызонт, ён не быў акрэслены, мора злівалася з небам. Цяпер сонечны, але вятрысты дзень, мора густа-сіняе, такога даўно не бачыў. А то здараецца як расплаўленае волава сапраўды.

Нярэдка мора бярэцца плямамі, выцягнутымі, цямнейшымі, святлейшымі, прычым зусім не абавязкова можна падумаць на цені ад хмараў. Розніца ў тэмпературы, адліў-прыліў? Не ведаю. Твар таксама розным бывае — ад марозу, хвосткага ветру, ад гарачыні, ад алкаголю, словам, не ведаю.

Ты бачыш, як плыве па моры доўгае белае судна — на самай мяжы далягляду. Першая думка — чалавеку заўсёды на борце хочацца хутчэй да берага, асабліва як шторм. Другая: а калі на беразе чакае штурм, высокія сцены, латнікі з запаленымі кнатамі пры гарматах? Лепей сядзець на бочках з віном, табе ўсе будуць радыя.

Рытуал: ацаніць з акна, калі мора неспакойнае, — што ў нас сёння? — ці бягуць да берага белыя баранчыкі, як далёка ўзнікаюць, ці частыя, якія па велічыні? Сфільмаваў хвалі, атрымалася нечакана: мора рыхтык чорнае.

*Готланд, верасень 2010 г.*

**Готланд, Фаро, Гродна…**

Люблю нашую гродзенскую восень. Замкавы пагорак, абсыпаны пажаўцелым лісцем, паміж каляровых восеньскіх дрэў сцены Каложы з некананічнай формы крыжамі, гэта стварае настрой мысліць на паперы, пісаць прозу. Нарэшце ў мяне атрымалася ўзяцца за большы памерам твор, спадзяюся, што атрымаецца раман. Пачаў яго пісаць на Готландзе, у Вісбю, у Балтыйскім доме пісьменнікаў і перакладчыкаў.

Мне рэдка даводзіцца дзесьці бываць, і я прызвычаены пісаць дома, Гродна сапраўды спрыяльнае месца. Калі збіраюся на вуліцу, гляджу ў акно на сцяг з зубрам і каралеўскай каронай, каб вызначыць — які сёння вецер. А ў Вісбю на флагштоку сцяг з авечкай і крыжам, з ягнём божым. Так адразу атрымалася, што я абуджаўся і чуў пяць udараў звона з касцельнай званіцы побач, храм — kyrka па-шведску. Уставаў, неўзабаве спускаўся ўніз, рабіў каву, вяртаўся, сядаў за стол, адразу ўцягнуўся ў такі добры рытм. Мне далі 11-ы пакой, а гэта мая лічба. Раман – доўгае падарожжа, не ведаю, на цягніку ці гэта нават караванны шлях, немагчыма прайсці яго хутка альбо паскорана. Ніякага параўнання з тым, што ты пераляцеў над морам і выйшаў у Вісбю, дзе нават пашпарт не спыталі. Прычым ты ніколі гэтага не рабіў, ты адкрываеш для сябе новы свет і не ведаеш, ці дойдзеш да канца, хаця табе вельмі хочацца абавязкова закончыць свой першы раман.

Стакгольм, дзе ўручаюць самую вядомую літаратурную прэмію, я ўбачыў з паветра… Калі прэмію даюць не вельмі шырока вядомаму аўтару, гэта выклікае расчараванасць. Наадварот, калі яе атрымаў цяпер Марыё Варгас Льёса, якога ведаюць паўсюль, думаеш — так і павінна было быць. Мне запомнілася фраза з аднаго яго рамана: персанаж «з павагаю і ласкава правёў рукой па “рабру” пераплёту, быццам лашчыў котку». Галоўны герой кіраваў інфармацыйнай службай на радыё, ён выразаў цікавыя паведамленні з газет, каб «прыхарашыць» і выкарыстаць, аб гэтай працы гаворыцца іранічна.

У маёй першай кніжцы ёсць апавяданне «Нобель», напісанае ад першай асобы. З краіны за жалезнай заслонай пасылаюць у Стакгольм атрымаць прэмію замест пісьменніка-дысідэнта іншага чалавека, ён павінен пераўвасобіцца. Яму нават хочацца выкрыць з трыбуны рэжым, але сканчае ён прыкрай істэрыкай, адмаўляючыся ад узнагароды, лямантуе: «Пралетарскія пісьменнікі не прадаюцца! Мы пішам паводле сэрца, а нашыя сэрцы належаць партыі!..»

У дом творчасці ў Вісбю прыязджаюць пісьменнікі з розных краін.

Сярод іншых была ісландская перакладчыца. Мы стаім ў сталовым пакоі з кубкамі кавы перад мапай, і я пераконваюся, што Гродна амаль побач з Готландам, калі параўноўваць з Рэйк’явікам… Найбліжэй мне былі палякі, я гляджу польскія навіны, тэлеперадачы, у нас хапае агульных тэмаў для размовы.

Усе разам мы ездзілі на суседні востраў Фаро, востраў Інгмара Бергмана. Апошнія гады ён там жыў, там пахаваны. Магіла — на касцельных могілках

з прыгожым відам на мора: на зямлі проста невялікі валун і два імя — Інгрыд і Інгмар Бергманы. І першая думка: хіба гэта не тая вядомая галівудская акторка — Інгрыд Бергман? Яна сапраўды здымалася ў адным з яго фільмаў. Але Інгрыд — яго апошняя жонка, пятая, між іншым. Ніколі не думаў, што траплю ў гэтае месца.

Памятаю: аднойчы мне захацелася перачытаць кінааповесці Бергмана, гэта было ў ліпені тры гады таму, а ў канцы месяца ён памёр. Я вярнуўся з Готланда і зноўку ўзяў кнігу. Асабліва файная рэч — «Змяінае яйка», гэта проза, але з такімі кінадыялогамі. Адбываецца дзея ў няўтульным Берліне ў канцы 1923 года: «Пачак цыгарэт каштуе трынаццаць мільёнаў марак, і простыя людзі амаль страцілі веру ў сённяшні дзень і ў будучыню».

У Бергмана сустракаюцца блізкія мне самому думкі, ён пісаў, што хоча здымаць фільмы «аб настроях, псіхалагічнай напрузе, вобразах, рытмах і персанажах, якія жывуць ува мне самім і якія так ці інакш мяне цікавяць».

Фаро быў яго домам, але мне востраў здаўся аднастайным. Я сфатаграфаваў ліхтарню, маяк, побач Таркоўскі здымаў сцэны апошняга свайго фільма. Усё ж, як на мяне, Фаро даволі суровы і няўтульны, мне там было б цяжка настроіцца, каб пісаць.

А вось Готланд не можа не падабацца, таму што там ёсць Вісбю — сярэднявечны горад за ўмацаванымі мурамі. Готланд — першы мой востраў, калі не лічыць Венецыю, куды калісьці заязджаў ненадоўга. Для творцы востраў — месца ідэальнае, ды яшчэ ў горадзе за сценамі даўжынёй тры з паловай кіламетры, як у Вісбю. У нас у Навагрудскім замку захаваліся руіны дзвюх вялікіх вежаў, і яны нас дагэтуль уражваюць. А ў Вісбю такіх вежаў 29, збольшага захаваных, плюс яшчэ «вежы-сёдлы», збудаваныя на сценах.

Мне падабалася ў сонечныя дні прайсці ўздоўж берага і пасядзець на лаве каля Парахавой вежы; яна блізка ад мора, і побач з ёю брама ў горад. Гэта чатырохкутная вежа, вышынёю 25 метраў. Яе збудавалі ў сярэдзіне XII стагоддзя, і яна была адной з самых старых мураваных пабудоў у Скандынавіі. Мяне заўжды грэла думка, што нашая царква Каложа на высокім нёманскім беразе таксама датуецца XII стагоддзем. І калі вярнуўся, я схадзіў да Каложы, зайшоў унутр, дакрануўся да ўмураваных у яе сцены вялікіх камянёў… Каложа, мой горад надаюць сілы пісаць далей.

*Готланд–Фаро–Гродна, восень 2010 г.*

**Сіеста, перапынак у жыцці**

Сі-ес-та. Гучыць пранізліва, светла. Сіеста — мы ведалі, што гэта такое, а пакаштаваць давялося ў тыя часы, калі замежнае віно з кіно апынулася ў нашым жыцці, калі ў нас быў Рыцар. Бутэлька іспанскага называлася «Сіестай» менавіта. Не памятаю: градусаў 12, скажам, альбо, магчыма, 11, нічога асаблівага, vino de mesa. Пад 40 градусаў у сапраўдную сіесту трапіў жа толькі вось цяпер. Яна, сіеста, пяром пакіравала так, што скварнае паветра ператварыла сябе ў рытм, спрасавала ў кароткія фразы, сціслыя думкі.

Сіеста — перапынак у жыцці
на некалькі гадзінаў,
і так штодня,
пакуль трываеш.

Асноўнае — ты пазычаеш
прахалоду, ратуючы ад спёкі
цела і мазгі.
Цень, прахалода,
сцюдзёнае вады глыток.
Як перапынак на абед
у краме, дзе не чакаюць,
не жадаюць меЦь
пакупнікоў.
Жалезна — апускайце жалюзі,
ралеты хвалістыя
хай грукочуць.
Перапынак на абед
у цэлага народа, у краіны.
Але і пакупнік, ён не жадае
нічога набываць,
таксама ён за барыкадай
дома, што выглядае
калі не мёртва,
то нежывым дакладна.

Ніякай працы, прэч з рухам,
ператрываць гарачыню —
вось сэнс, у якім
і соль, і цукар,
і мёд, і лыжка дзёгцю.
У цэлага народа
перапынак на абед,
калі кавал не лезе ў горла.
Вось што такое
гэтая сіеста.

З другога, зрэшты, боку,
ты можаш працаваць
як апантаны,
як смак жыцця
у працы той
трымаючы гарэхам у шкарлупіне.
Не працаваць, каб жыць,
а жыць, каб працаваць,

нібы адно і тое ж,
але два розныя жыцці.

Але стэрэатыпы —
вораг наш:
сіеста — так,
але яна гучыць інакш.
Сучасная сіеста —
пераходзіць з кавярні
да кавярні
(актыўны лад жыцця,
але актыўны напалову,
лянота, кава плюс
напоі gratis часам),
ступаючы за рухам сонца
з думкамі аб ценю
(як лапай ловіць кот
люстэркавы адбітак-«зайчык»).
Дзе ён — той
столік пад паветкай,
парасонам
ці проста ў засені зялёнай
дрэва,
якога ты не знаеш назвы?

Сквар робіць зброю
бескарыснай:
затуплены мячы,
зламаны дзіды,
вачам не радасна
святло.
Яшчэ хвіліна,
у летаргічны хіліць
стан,
табе ўсё роўна,
ператрываць —
адная думка.

Сіеста,
вібрацыя ў паветры
пчалінага крыла,
гук
ценькага струменя.
Але цыкады
у хмызах гвалтуюць

металічна твае вушы
амаль што ультрагукам.

Калі адны ў сіесту
зачыняюць аканіцы
шчытна
альбо турыстам
наліваюць у шклянкі,
гарачыня не перашкода
для запальнага кактэйлю,
з якім на вуліцы
выходзяць
нашчадкі
Эўрыпіда і Перыкла.
Пад зыркім сонцам
так — дзве тышчы
адзінаццатага
года.

Сіеста — перапынак у смерці, калі належала не забіваць. Стрэльбы адпачывалі, адкладзеныя ўбок. Цень у акопах — таксама важная патрэба. Схавацца, як у шчыліну яшчарка. Порах прыбраць з сонцапёку, кулі трымаць ахалоджанымі. Здранцвець, не варушыцца, напаўдрамаць, летуценіць. Напярэдадні палёту жалезнага джала.

***Мальёрка***

Міндальныя сады, аліўкі
і вінаграднікі наўсцяж.
З салёным смакам бухту
тут акаляюць горы,
невысокія, як трэба,
каб задаволіць прагу гор
і вымаганні краявіду,
але не абцяжарваць
лішне.

***Аканіцы***

Лагодзяць вочы аканіцы
густа-зялёным колерам сваім,
ад сініх грэцкіх у адрознасць.
Дзе зеляніна — там вада, жыццё,
дзе зыркая лазур — там спёка,

сонца, там вагаецца
знясілена паветра.

### *Патрэбны спрыт кашэчы*

Калі мора манатонна
гуляе ракавінамі,
патрэбны спрыт кашэчы,
маланкавая лапа,
каб паспяваць за хваляй.

### *Самая лепшая рыбіна*

Самая лепшая рыбіна
тая,
што не трапіла на патэльню,
якую ніхто не з'еў,
нават ты.
Табе прыемна,
што ёй дасталася
свабода.
Прынамсі на час.

### *Аліўкі, масліны*

Аліўкі, масліны —
існуе кідкая адрознасць,
што відавочна.
Няхай я зараз памылюся,
але, як на мяне,
зялёныя прыемна
першыя, аліўкі,
і чорныя,
як з глянцам баклажаны,
масліны, у маслічным
сваім слове
хаваючы цягучы
і глыбокі смак:
буйнейшыя нярэдка
ад алівак, што робіць іх
на галаву вышэй.

### *Хацелі піць*

Быццам спятрэлыя аліўкі.
Вады ім быццам не хапала
і не даспелі: хацелі піць,
а сонца не знікала.
Больш сціплыя яны,
і колер непаўднёвы,
як сёстры меншыя
яны маслін, якім зраўнацца
з фіялетавымі слівамі
не дазваляў адно памер…

### *Прэс для алівак*

Прэс для алівак
для выціскання сокаў,
ён дбае пра патрэбу гаспадыні,
аліўкавы алей, што колерам
падобны да віна
злаціста-сонечным,
празрыстым
з вострава на поўдні,
хваляў пасярод.

Прылада для алівак
выціскання,
дзе душаць, плюшчаць
мякаць
і год, і два, і вечнасць,
ад пакалення ў пакаленне,
збаны вялікія
напоўніць каб.
Гадзіны, месяцы
мазольнай працы,
але каторая
здаволенасць
дае і тое, што можна
радасцю назваць,
схаванай у душы,
някідкай, не футбольнай,
але жыццёвай сапраўды.

Алейны прэс — здабытак ён
культуры, што завуць

народнай, сымболь рамёства
і ураджайнай працы.

### *Рыбы касякі*

Плывеш у светлай бірузе
вады марской,
і перад носам
рыбы касякі,
як конікі, скачкамі
з мора вылятаюць,
каб птушкамі пабыць на хвілю
і зноўку апынуцца
дома.

Глыток паветра,
прага волі?
Але не дыхаюць
паветрам рыбы,
як людзі робяць
і звяры, таксама птушкі.
Што ж гэта
ў такім разе —
палёты рыбы над вадой?
Падспуднае жаданне
раптоўна скочыць
вышэй галавы, лунаць
у адрыве ад зямлі,
ад звыклай глебы,
што ўласціва нам?

Мы часам —
рыхтык рыбы над вадой,
а потым зноўку — хваля,
нас не відаць, нас з галавой
схавала нетра.
Нас няма,
але мы ёсць.

### *Марскія хвалі*

Марскія хвалі, як зірнуць, —
адзін падман: хаця сваволяць —
самавітае аблічча,
але працуюць і сваволяць разам.

Працуюць, як працуе
млын або жняярка,
альбо нястомна
лічыць час унутры
за цыферблатам
гадзіннікавы механізм,
вачам не бачны.

*Сляды на пяску*

Слядамі Пятніцы крэслю
лапік пляжнага пяску,
а хвалі набягаюць з двух бакоў,
сыходзячыся наўскасяк.
Інтэрферэнцыяй назваць
я мушу з’яву, вядомую
з фізічнага падручніка,
а бачаную відавочна
у прыродзе.

А ў небе бачым самалёты,
нават з пляжа вялізныя
памерам, яны крыжуюць
свае шляхі
у Пальма-дэль-Мальёрку
і назад, дахаты,
у роднае гняздо,
ікс-літару нябачную
накрэсліўшы ў паветры.

Так і мае сляды
існуюць
злепкавым адбіткам
адно імгненне,
марская хваля бо
не церпіць ніякіх
чужых малюнкаў
на сваёй дошцы
ці на палатне,
што ў нашым выпадку
адно і тое ж.

Ці можна
не зайздросціць
мору?

Калі яно раскручвае
так упарта і згортвае
скрутак хваляў —
вось вечны рухавік
як мара і ўвасабленне.
Пэрпетуум мабіле
зоркі ў цемры, планеты,
рух якіх няспынны,
рэкі, вада якіх плыве
таму, што вадкая, жывая,
а не таму, што хтосьці
рухае яе, штурхае ў карак,
сціскаючы ў руцэ бізун.

Мора зацятае,
хаця бывае і лагодным.
прагнае,
хаця
і абыякавасці
не пазбаўлена.
Санлівае і выбуховае.
Але ці помслівае?
Не ведаю, ці можа
помсту мець стыхія,
якой не уласціва
добрай быць ці дрэннай,
яна — жыццё,
а на жыццё
не наракаюць.

Я азірнуўся,
усё сказаўшы
пра мора, хвалі,
пра змытыя сляды свае,
што след алейны
ад віна.

Тут хістка, тут знікома,
але ў знікомасці такой
ёсць пастаянства,
надзея на вяртанне,
на паўтор,
на вечнасць.

***Сангрыя***

А гэта сангрыя:
шырокі келіх,
густы, чырвоны,
з клубнічным ураджаем,
з саломінай сагнутай,
сем градусаў усяго.

***Адліў, прыліў***

Адліў, прыліў,
брутальнасць хваляў,
ілюзія — што паміраюць
на пяску, не,
яшчэ мацнейшы
рух яе назад, у мора,
змагаючы зямлю,
не слабне, дужэе
адваротна.

Адліў, прыліў,
гайдае мора,
а ў чорным небе
абыякавае гала.
Звонку прыгожа
жоўты колер,
і нічога болей:
прыцягненне
не асязальным
застаецца.

Так-так,
у немым небе
прыцягненне,
а раптам бура,
шторм, на то
свая прычына,
тлумачэнне —
надвор'я кухня
па-над акіянам.

Адным жа словам,
не працуе мора
само сабой,

без дай прычыны.
Так, згода, сіла
ёсць, яна стварае
рух,
але нябачнай
застаецца.

Так у маім народзе,
быццам сціплым,
паслухмяным,
рахманасць у душы,
у сэрцы страх
ператвараюцца
пад вонкавым уплывам,
пад молатам, пад ціскам
у спалох, у жах
для цівуна.
Як бумеранг,
як хваля.
Пасееш вецер,
жнівом тваім
не замарудзіць
бура.

### *Гульня ў ракавіны*

Гульня ў ракавіны
з морам,
азартная гульня,
нагадвае кошкі-мышкі.
За мышку мора,
што здаецца
перабольшаннем,
прыблізнасцю,
як кожнае звычайна
параўнанне.
У хвалі ракавіны —
што манеткі ў сне,
якія то пад руку,
то скрозь пальцы.

### *Келіх віна*

Мы, прызвычаеныя
болей да кілішкаў,
памерам келіха
прыемна здзіўлены.
У руку возьмеш,
павагаеш: то мора
ліжа берагі
алейнай хвальнай
чырванню,
насычанай паветрам,
сонцам, сокамі
напаленай зямлі
у фарбах поўдня.

*Мальёрка, ліпень 2011 г.*

### **Міндальны востраў**

Падарожжы ў думках — яны штодзённы змест свету празаіка: кнігі, інтэрнэт, само сабой, тэлевізар таксама, успаміны і абавязкова часам — зазірнуць у свае зацемкі, зробленыя дзесь у кавярні каля мора. Але хочацца, хочацца калі-нікалі ўсё ж змяніць месца знаходжання фізічна. Убачыць на ўласныя вочы, дакрануцца да іншай рэчаіснасці, асабісты досвед важны. Без гэтага нельга. І вось яно нарэшце! Пачынаецца, пераводзь у галаве стрэлкі…

Навокал лацінскі шрыфт, які супакойвае. У інтэрнэт-кавярні паштавік пачынае цябе правяраць: ці гэта ты, з якога звычайна падлучаешся горада? Спрабуеш злучыць думкі з языком — гаварыць той моваю, якой іншыя карыстаюцца. Спачатку вузел атрымліваецца зусім не марскі. Размінай язык мулкі, размінай… Купляеш кнігу, бярэш кубак кавы. А, ледзь не забыўся, з’ядаеш кавалак ласося ў «North fish» (з думкай, ясна: колькі ж ён цяпер у нас каштуе?). І ўвесь час кантралюеш сябе, даеш каманды як машыне — язык агучвае словы, напісаныя на нябачнай дошцы спачатку ў галаве.

### *Арэхавы гай*

Вось яна ў смузе — зямля, якая купаецца ў моры і сонечных ваннах, з паветра яна выглядае зусім не зялёным, не райскім востравам, хай. Пяцьсот тысяч міндальных дрэў, арэхі на рынку: у шкарлупіне, без, аблупленыя ад шалупіння, толькі купляй. Што яны на цябе часам пазіраюць? Так-так, ты чакаў, што «кожны другі вусаты» будзе, як у вершы. Але наяўныя вусачы ў самалёце раз’ехаліся па востраву.

У гэтай краіне таксама была вайна, таксама бралі ў палон, дапытвалі, трыбунал, расстрэл. Думка: расстралялі маглі пад старым мурам, аплеценым

вінаградам, у апельсінавым гаі. Ці магло быць лягчэй, чым калі пад звычайнымі соснамі-бярозамі? Тут усё мае іншы смак, досвед гістарычны перш за ўсё. Пра тутэйшыя расстрэлы напісаў калісьці жорсткую навелу Сартр.

Джордж Оруэл падсумоўваў: «Цяжкае пытанне, ці правільна было падахвочваць іспанцаў, хаця перамагчы яны не маглі, біцца да апошняга, да чаго іх дружна заклікалі левыя ў іншых краінах. Асабіста я думаю, што правільна, таму што, на мой погляд, нават каб выжыць, лепей змагацца і пацярпець паразу, чым капітуляваць без барацьбы».

*Замежныя крылы*

Зразумела: палёт — гэта як з кнігай: адштурхнуцца, узняцца, пачаць — першая важнасць, пасадзіць удала — другая. Вялікае ўстойлівае тулава летака робіцца ненадзейным, нязграбным, торгаецца, калі з адчувальным трымценнем прытармožвае па-над вадою, абапал ветразі, не абрынуцца б на яхты. Самалёт завальваецца то ўлева, то наадварот, рыхтык гайданка. Часовая хісткасць, пра дрыжыкі мовы яшчэ няма. Цягнецца, пэўна, хвіліны, але зірнуць на гадзіннік? У большасці, пэўна ж, толькі тэлефончыкі, яны пагашаны. Ззаду якраз пытаюцца наконт стрэлак гадзінніка… З кнігай можа быць нават горш: нібыта ўсё сказаў, але зыбучыя пяскі пад нагамі. Хаця, калі шчыра, авіярэйс — хутчэй як выпуск газетнага нумара: здаць у друкарню, не спазняцца, нават калі не ўсе квіткі выкупленыя.

А раней: спадар у аэрадромным аўтобусе выказвае незадавальненне ўбачаным самалётам — паляцім малабарскімі авіялініямі? Што ў нас, сваіх няма?! Так, менавіта, цябе раптам пацягнула на а-ля грынуэеўскі лад. Табе самалёт падабаецца, вялікі і замежны, прычым ты не заўважаеш малабарскіх апазнаўчых знакаў. Унутры надпісы, у якіх таксама нічога малабарскага блізка. Пазней ты разумееш, што спадар, пэўна, заўсёднік цяперашняга рэйсу: сцюарды і пілоты робяць абвесткі па-сармацку, але з малабарскім менавіта акцэнтам. Адчуваецца, што чытаць з паперкі — гвалт над сабой, над сваім моўным апаратам. У канцы, махнуўшы рукой, сцюард пераходзіць на малабарскую, словы якой, мабыць, мала каму штосьці гавораць, але ты анігадкі, як ні дзіўна, ты малабарскай не шугаешся.

*Aeropuerto*

Доўгія самарушныя сцяжыны ў «аэрапуэрта», некаторыя па іх крочаць, узнікае думка пра школьную задачку. Чаканне змесціва самалётных вантробаў. Яго жывот распірала валізамі Magellano, твая сціплая месца шмат не вымагала… Шум, гвалт! Усе вочы на выгінасты пас для чамаданаў, які пустапарожне рухаўся, нібы доўгі марскі гад, пляскаючы на паваротках чорнай лускай. Чамаданны канвеер асядлалі швабы. Рыхтык каўбоі: пад капелюшамі, трымаюцца ланцугом і равуць песні. Самарушная футбольная трыбуна, але мне чуюцца якіясьці спевы парашутыстаў (памяць продкаў, пра якую нагадвае ў нядаўнім інтэрв'ю філосаф Ален Бадзье). Фінал: пас для чамаданаў спыняюць.

*Абарона*

Бюст, на чалавечы рост: бронзавая пазелянелая галава, плечы «надзетыя» на слупок пастамента. Ты стаіш насупраць і глядзіш яму у вочы, у яго кепка, якой нагадвае Тэльмана. Сквер няправільнай формы, пальмы трох гатункаў, ад невысокіх, як вялікія ананасы, да выносістых. Помнік яму паставілі нядаўна, пры каўдыльё ён быў у чорным спісе, нават мёртвы. Ён ладзіў абарону вострава, апошняй зямлі Рэспублікі. Шанцаў не было, але яны як маглі рыхтаваліся да абароны. Легіён «Кандор» адклікалі, люфтвафэ атрымала планшэткі з іншымі картамі. Але шанцаў усё роўна не было, адно магчымасць апошніх дзён свабоды.

Ацалелыя абарончыя бункеры ля самай вады прыцягваюць сёння ўвагу: іх склалі з пясочніку, з высечаных чатырохкутнікаў. На выпадак дэсанту — так, на выпадак гарматнага абстрэлу з мора, авіябомбаў — не, адназначна не. Вузкі ўваход з боку сушы, ён прыцягвае. У сцяне адразу на цябе зеўрае байніца: агонь сустрэне, калі хто наважыцца захапіць. Але такі крок выглядае самагубча непатрэбным. Асцярожна ўнутр: улева-ўправа зусім вузкія праходы, адчуваеш сябе сціснута, робіш крокі бокам. Чатыры цесныя каморы з агнявымі шчылінамі. На дзесяць–дванаццаць жаўнераў бадай. Роля іхняя выглядае незайздросна, дальбог.

А правая камора пачынае разбурацца, палову долу падмыла морам, у праломе пенны прыбой, у куце на кукішках немец, які робіць здымкі, пстрыкну і я разок.

*«Гаварыў Язэп Барэйка»*

Думкі пра тую вайну, думкі пра інтэрбрыгады. Так, уявіць сябе ў шэрагах шасцітысячнай калоны, якая цераз Барселону пакідае фронт, змаганне, Рэспубліку не з уласнага жадання, бадай, магчыма. А ці можна ўявіць сябе адным з тых пілотаў, якія прайшлі над Мадрыдам, трымаючы ў паветры літарамі імя каўдыльё, складзенае з самалётаў? Каму зоркі на пагоны, каму медаль, каму ўзнагародны гадзіннік.

Нярэдка рэчаіснасць выглядае чорна-белай, асабліва ў вострыя моманты, але жыццё ў любым разе зусім няпростае, не гэтулькі кантраснае, адназначнае, як можа здавацца часам…

Вольнае беларускае слова на іспанскім радыё, перадачы з Мадрыда, накіраваныя на Мінск, за жалезную заслону. Спыненыя на запатрабаванне СССР у 1965-м. Івонка Сурвіла ў сваіх мемуарах «Дарога» (бібліятэка «Свабоды») піша, што выйшлі 2383 штодзённыя выпускі. Стварылі пры канцы 1958-га радыёперадачу разам яе муж Янка Сурвіла і Віктар Сянькевіч. Апошняга мы ведалі потым па сюжэтах на «Свабодзе», якія нязменна заканчваў словамі «гаварыў Язэп Барэйка». Ён чытаў свае тэксты нейк дыдактычна-з'едліва. Памятаецца, у Мюнхене потым паказвалі асобны тэлефон для сувязі з Барэйкам, адметнага колеру, здаецца чырвонага.

А ці выйшла абвешчаная амаль дваццаць год таму кніжка з такой вось назвай — «Гаварыў Язэп Барэйка»? Штосьці я не чуў.

Спадарыня Сурвіла пісала, што хіба так і не даведалася, ці слухалі мадрыдскія радыёперадачы ў Беларусі. Што чутны былі ў Польшчы і Прыбалтыцы, ёй было вядома… Я гляджу на старыя стомленыя твары дзесь на рынку ці на аўтавакзале: ці слухалі, ці памятаюць, ці скажуць?

*Кан–Пікафорт–Гродна, 2011 г.*

**Мёртвае мора ў моры**

1

Мёртвае мора.
Іх два. Адно
вядома дзе,
другое бачыў я
ў Харватыі.
Каля Дуброўніка
ёсць востраў
з дзіўнай назвай
Локрум.
Наступны рэйс
туды па моры
праз кожную
гадзіну.
На невялікім
востраве
для вашага агляду
колькі прапаноў.
На ўказальніку
таксама:
«Mrtvo more».
Праваліна
ўсярэдзіне
з салёнаю
вадою, з пячорай.
Як быццам
не расце нічога,
адно купальня.
Сядзіш у ім,
а па прыступках
да вады
спускаецца
паўлін, другі —

вочы ўзняць
калі — па скраю
пахаджае
той праломіны
над галавой
тваёю.

2

Калісьці рыцар,
ваяўнік
за дамавіну
госпада ў Ерусаліме,
кароль англійскі
Рычард
з сэрцам льва,
паранены,
вяртаўся
з крыжовага паходу.
Спыніўшыся
на Локруме
каля Дуброўніка,
свае ён раны
баявыя лекаваў
у Мёртвым моры.
Аджыў кароль,
яго чакаў
англійскі замак,
улада, вайна
на хрысціянскія
мячы на землях
Францыі.
А дубраўчанам
ён ахвяру склаў,
каб збудавалі
храм на Локруме.
Паабяцалі выканаць,
але ў самім Дуброўніку
спынілася
касцельная
будоўля, яе
каб завяршыць,
пераджагнаўшыся,
паклалі райцы
грошы Рычарда,

ты выбачай, кароль.
Ды ён і не чакаў, бадай,
ніякай справаздачы,
у Францыі сканаў
кароль ад лучніка
стралы, у сваім
рамане рыцарскім,
але сучасным,
я ўспамінаю
Рычарда ваяўніка
і смерць яго.
А сёння — вось удача:
у салёным азярку
я ўспамінаў
пра караля у ранах,
які загойваў у купальні
сляды на целе
ад клінкоў дамаскай сталі.
Вада змянілася,
а дух застаўся...
Што праўда,
храм на востраве пазней
з'явіўся, кляштар,
сягоння ў занядбанні,
але муры стаяць.

3

Апошняе. У адным
апавяданні Павіч
напісаў: «Студэнтамі
другога курса
нас вазілі
ў Дуброўнік
дзеля знаёмства
са старым архівам.
Рыбацкае мы
судна нанялі
і паплылі ў Цаўтат».
Цаўтат — далей
за Локрумам,
другі прыпынак,
мураванае мястэчка,
а побач астравок.
Непадалёк Дуброўніка

мы праязджалі
той Цаўтат — дзесь
у прорве ён, над морам
рызыкоўная дарога
на вышыні не менш
як дзвесце метраў.
А там, унізе,
праплываў
па моры Павіч,
апавядач прынамсі,
твор напісаны
ад першае асобы.
У Цаўтаце захаваны
збор вялікі, які сабраў
Багішыч Балтазар:
інкунабулы,
манускрыпты,
архіў, манеты,
зброя. А ў наваколлі
рымскага амфітэатра
рэшткі, руіны
ілірыйскіх,
грэчаскіх часоў.
І як было такому
не з'явіцца аўтару,
як Павіч? Калі
мінуўшчына
у рэчаісным выглядзе
прасілася у кнігі,
каб стаць літаратурай
пад пяром,
пад літарамі
пішучай машынкі?
У памяці якой было
пазначана:
сербахарвацкай
мова называецца,
з якой цябе
стварылі на заводзе
пішучых машын
у Бугойна:
Боснія і Герцагавіна.

Я сам такою карыстаўся
некалі і цяжкасці меў
са шрыфтамі,
каб друкаваць
па-беларуску.

*Дуброўнік – востраў Локрум, жнівень 2012 г.*

■ *Статуя рыцара ў Дуброўніку. Фота аўтара*



Нарадзіўся ў 1959 г. у Мінску. Закончыў факультэт журналістыкі БДУ. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Кнігі: «Янычары», «Цэнзарскія нажніцы» (адзначаны «Гліняным Вялесам» у 2000 г.), «Лісты да хома саветыкуса», «Кактэйль Молатава», «Каты Ёзафа Ратцынгера». У Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы «Kamunikat.org» з’явіліся кнігі «Райскія яблычкі» і «Жалезная заслона з арнаментам». Жыве ў Гродне.





# Сучасныя мемуары

## Мечыслаў Курыловіч

### Ліцвінка

Маё першае знаёмства з абліччам гэтага свету адбылося ў вёсцы Плябанішкі каля Гожы, ад якой сёння засталося толькі найменне. Уздоўж вёскі, што расцягнулася на два кіламетры, тры штучныя вадаспады з пералівістымі жаўруковымі званочкамі. У люстэрку зарыбленых стаўкоў аернае неба з прысадзістымі дубамі і стройнымі, як плябанішскія дзяўчаты, бярозкамі. Вакол меданосныя лугі, дзялянкі бярозавага і хвойнага лесу, а паміж імі ворная зямля з сінявокімі валошкамі ў жыце і з роўнымі радамі акучанай бульбы. Цераз усю вёску ўздоўж дарогі — галінастыя ліпы, клёны і кашлатыя елкі. Паблукаўшы па свеце, анідзе я не бачыў такога хараства — маляўнічы куточак Прынёмання, на ўлонні крынічных вытокаў безназоўнай рачулкі, багатай стронгаю, шчупакамі, плоткай, падлешчыкамі і нават вуграмі. Пасля вайны на яе беразе запрацавала смалакурня. Сыравіны хапала — спляжаныя лясы, засталося многа хвойных пнёў. Гадоў дзесяць кіпела работа. Адкіды зліваліся ў рэчку. І гэтага хапіла, каб загубіць жыццё. Сёння гэта стэрыльная рачулка, на яе водную паверхню не сядае нават вадзяны павук.

Пякнейшым месцам, у параўнанні з Плябанішкамі, былі толькі Азяркі — вёска (дзесяць км ад Плябанішак) сярод сямнаццаці азёр і азёрцаў, у атачэнні дубоў, ліп, бяроз і чырвонага лесу, якую ў шасцідзясятых гадах мінулага стагоддзя выселілі. Цяпер там вучэбны ваенны палігон. Калі высеклі лес, азёры высахлі. Вакол жоўты пясок і рэдкія, прагныя да жыцця сасонкі, а ў нізінах дрыжачыя асінкі.



**Мой першы конік**

Здымак зроблены ў Гродне ў 1943 годзе.

Амаль нічога не помню. Немцаў бачыў толькі аднойчы: у вёску заблукаў нямецкі танк, і на ім сядзелі такія ж мужыкі, як і вясковыя дзядзькі, толькі ў форме. І яшчэ помню нямецкую «раму» — самалёт, які праляцеў, калі сцямнела, над нашай ямай, куды мы хадзілі нанач спаць, пасля таго як каля вёскі забілі кіраўніка Гожскай гміны — кульгавага немца. Вяскоўцы ў жаху — чакалі расправу. А той немец з Гожскай гміны (гэта ўжо пасля — з успамі-

наў мамы і вяскоўцаў) быў змагаром за здаровы лад жыцця. Аднойчы, падчас візіту ў вёску, убачыў, што мужыкі на памінках п’юць нейкую смярдзючамутнаватую з градусамі вадкасць, то за гэты не гатунковы напой кожнаму ўдзельніку застолля пры выхадзе цераз дзверы паставіў фірменны знак ад непадробнай нямецкай гумовай палкі. Запомніўся немец вяскоўцам і яшчэ адной нестатутнай разборкай, калі па яго загаду вывозілі лес на Гожскі тартак. Бацька спазніўся. Спрытнейшыя паразбіралі верхавіны, а бацьку нічога не заставалася, як закаціць на сані камель. На брычцы дагнаў той немец яго і запытаў: «Ты што, заўсёды так возіш?» «Так, так, заўсёды», — адказаў бацька. «І сам закаціў на сані?» — у здзіўленні запытаў немец. «Сам», — абыякава адказаў бацька. Пахваліў і паехаў паглядзець, што вязуць першыя. Цераз аднаго пачаставаў гумай і пагнаў на дазагрузку. Бацька на тартак прыехаў першым.

Чым спадабаўся бацька таму немцу, можна толькі здагадвацца, бо пасля той разборкі ён прыехаў паглядзець гаспадарку. Здзівіць немца гаспадарчымі прыладамі (манеж, жняярка, малацілка, бульбакапалка), прыгожым канём, каровай, якая давала за дваццаць літраў малака, авечкамі было немагчыма. У іншых гаспадароў — не горш. Але менавіта для бацькі ён выпісаў квіток на атрыманне чыстапароднага нямецкага кныра і на дошкі для адбудовы недагарэлай хаты ў 1938 годзе. Перспектыва займацца свінагадоўляй, каб карміць нямецкае войска, бацьку не радавала. І невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, каб таго немца не адправілі ў другое вымярэнне дужыя, маладыя хлопцы з радысткай, закінутыя ў Плябанішкі для барацьбы з нямецкімі захопнікамі. Пасля забойства вяскоўцы зразумелі, што дамоклаў меч — гэта не антычная выдумка.

Адзінае, што засвоіў бацька з нямецкай навукі, — удасканаліў вытворчасць вогненнай вады: чыстая, крыштальная, з водарам хлеба і за сорак градусаў. Наогул, у бацькі не было прагавітай цягі да земляробства. Гэтым займалася мама — гастарбайтары падчас жніва паспяхова спраўляліся з гаспадарчымі справамі. А бацька быў задаволены тым, што даваў на хлеб з маслам вогненны напой уласна-манапольнай якасці, які асабліва падабаўся кіраўнікам мясцовай улады першых і другіх саветаў. Яго вялікасць градус — не апошні фактар, калі ставілася пытанне, што рабіць з непрагрэсіўнымі элементамі савецкага грамадства, дзе сацыяльнае паходжанне бацькоў было ў першай чарзе на дэпартацыю.

**Мама**

У 1938 годзе яе ўпершыню пацягнула на салёненькае, і прычынай такіх смакавых метамарфоз быў я. Шчаслівая, хоць на руках постапёкавыя рубцы — памятка гарэўшай хаты ў Плябанішках у 1938 годзе. Яшчэ да смутнага часу з «чырвонай калясніцай антыхрыста» на небе адзінаццаць гадоў. Яшчэ не пахне вайной. На падворку апілаваныя бярвенні для адраджэння сядзібы. Можа і добра, што не паспелі адбудавацца і перапісаць на сябе бацькоўскі скарб.

Жыццё мамы, як канва шчаслівай казкі: пяшчотна-сонечнае ў ружовых марах дзяцінства, рознакаляровае, жыццярадаснае, непаўторнае і чароўнае юнацтва ў Гродзенскай польскай гімназіі. Таямнічае, нечаканае, як веснавое абуджэнне, каханне. І традыцыйна — белы вэлюм. Гаспадынька на ўласнай зямельцы з рэальнай надзеяй на шчасліва-заможную сямейную прышласць.

І жыццё мамы — крыніца болю: пасля прыходу першых саветаў з больш вядомай тэрміналогіяй, як аб'яднанне двух народаў з прагным імкненнем жыхароў Заходняй Беларусі, — з панскае цемры да лепшай долі. Крыніца болю і падчас Вялікай Айчыннай, калі забілі адзіную дачушку. І пасля прыходу другіх саветаў, пад афіцыйным найменнем вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў, калі аднойчы (за адну ноч) у вёсцы засталіся толькі бабы і дзеці, а там, дзе быў белы вэлюм, — сівыя валасы. А ў гожскім касцёле на вобразе Маткі Боскай паявіліся чырвоныя плямы і з вачэй капалі чырвоныя слёзы. І кожны вечар па небе хадзілі чырвоныя слупы, а ў чырвонай калясніцы сядзеў антыхрыст. Я і сам аднойчы бачыў, як з вушака хаты ўзняўся ў неба слуп агню ў вобразе Маткі Боскай з немаўлём на руках. І вяскоўцы канчаткова паверылі, што гожскі ксёндз кажа праўду пра канец свету ў адной паасобку ўзятай краіне.

У той вечар (1949 г.) я позна вяртаўся дамоў і, пачуўшы ў хаце аўтаматную страляніну, схаваўся ў зарасніках бэзу, які рос каля самага ганку. Як пазней высвятлілася, гэта нкусаўцы шукалі ў кладоўцы бандытаў і рашэцілі кавалак сала. Цераз нейкі час адзін нкусавец павёў бацьку на дарогу, а двое затрымаліся на сцежцы каля бэзу і курылі. «Товарищ капитан, а чего вы не забрали эту суку?» — пачуў я голас. «Ты что, совсем озверел? Она же беременная», — адказаў капітан. Відавочна, той капітан не раз глядзеў у вочы Боскай праўдзе — Вечнасці і не раз прыкрываў вочы на вечны сон сваім акопным сябрукам. І гэта я адчуў сёмым дзіцячым пачуццём, якое лепш, чым у дарослых, адрознівае дабро ад зла, калі ён, сплюнуўшы, сказаў: «Хватит, пошли». Але паўторнага хрышчэння я не пазбегнуў. Яны пакрапілі мяне цёплай, саланаватай вадкасцю і па ўсіх канонах хрышчэння пасыпалі галаву попелам з яшчэ гарачых цыгарак. Праўда, на такія дробязі падчас канца свету ў плябанішскім вымярэнні я не звярнуў увагі.

Жыццё мамы — гэта і бясконца доўгае чаканне светлай будучыні. І дачакалася, калі аднойчы рахунак яе ашчаднай кніжкі (30 000 рублёў) апусціўся да нулявой адзнакі, а чаканне ўвасобілася ў ідэю новай формы матэрыі з адным невядомым пасля нараджэння.

**Бацька**



На фатаграфіі першы злева. 1937 г. Яблык ад яблыні далёка не падае, і гэта пацвердзіў мой дзед Юзаф, калі гэты яблык у свае семдзесят гадоў з гакам шпурнуў на ўрадлівую глебу і з яго ў вёсцы Плябанішкі вырас мой бацька. Асілак нерэалізаваных магчымасцяў. Пра геркулесавы подзвігі бацькі хадзілі легенды — як падняў камель хвойкі, выпхнуў залезлую па восі ў балота грузавую машыну, як на ровары абганяў прафесійных гоншчыкаў. На жаль, яго здольнасці нікому не былі патрэбныя, можа толькі падчас вайны таму немцу з Гожскай гміны, які хацеў зрабіць яго гаспадаром свінафермы, каб карміць нямецкае войска. Пасля вызвалення Белай Русі ад нямецкіх захопнікаў плябанішскіх гаспадароў-аднаасобнікаў пачалі вучыць калектыўнаму падыходу для выкарыстання прыродных багаццяў зямелькі з найвышэйшым эканамічным поспехам. Абклалі падаткамі як безнадзейна не апраўдаўшых генеральную лінію партыі, адправілі на далейшую адукацыю да белых мядзведзяў. Бацьку на дваццаць пяць гадоў, а мама з чатырма малымі (старэйшаму дзесяць) засталася ў вёсцы падымаць на ногі калгас па рацыяналізатарскай тэзе стаханаўца Сізіфа. І чарга тубыльцаў на выпраўленчыя працы значна апярэджвала сямімільныя крокі пабудовы сацыялізму.

Пасля таго, як закацілася сонейка найвялікшага горца, я (як і ўсе вучні Пальніцкай школы) тры дні хадзіў на жалобныя мітынгі з памінальнымі галашэннямі і, гіпнатычна ўтаропіўшыся на партрэт нябожчыка, шчыра прасіў Бога, каб чэрці ў пекле на ім вазілі смалу і каб яго з таго пекла ніколі не перавялі ў рай. А перад новаспечанымі крамлёўскімі царадворцамі паўстала пытанне: што рабіць з велізарнай арміяй палітычных зэкаў, удосталь накормленых марксісцка-ленінскай навукаю на практыцы. Смелыя, кожны дзень глядзелі ў твар яе Вялікасці Вечнасці, рэжуць праўду-матку. Знойдзецца жа Спартак, і адначасова з крахам імперыі паляцяць і іх галовы. Адпусціць гуртам — нельга, трымаць на ланцугу — страшна. Мажліва, абмяркоўваўся і курапацкі варыянт. І прыйшлі да высновы, што трэба ўсё рабіць без гвалту, па плане, як цяпер кажуць — сістэмна. Каго на пасяленне, каго прытрымаць, а калі адпускаць па месцы жыхарства, то маленькімі порцыямі. Бацьку адпусцілі ў 1955 годзе, рэабілітавалі і нават далі пры Шушкевічу сто у. е. за пяцігадовую працу на Варкуцінскіх рудніках. Але гэта быў ужо іншы

чалавек. З жалезабетонным імунітэтам да прыватнай уласнасці, і не толькі на зямлю. Пайшоў працаваць на гродзенскі мясакамбінат грузчыкам. І, як сапраўдны савецкі чалавек, зразумеў, што ў новай краіне ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё.

**Бурусь**

У 1949 годзе, калі працаздольную частку вёскі рассунулі па ГУЛАГах, у вярхах заўважылі, што план па напаўненні дзяржаўнай скарбонкі хлебам, мясам, яйкамі, шэрсцю не выконваецца. Нестыкоўка, такога не магло быць. Відавочна, што ў раённым фінансавым аддзеле не знали аб праведзеных зачыстках, а нкусаўцам іх галаўны боль быў да лямпачкі. Яны свой план выканалі — і па загаду, і пад уласным ціскам на стоадсоткавы градус па Цэльсію. Калі кладоўку калгасніка можна было напоўніць працаднямі-палачкамі, то з папаўненнем дзяржаўнай такі фокус не праходзіў. Ціск на падаткаплацельшчыкаў узмацніўся. Мама павесіла на дзверы замок, які не здымаўся ні днём, ні ноччу, а ў хату мы лазілі праз лаз сабачай буды, якая ўпрытык стаяла каля сяней. І памагаў нам сабака Бурусь — першым паднімаў «алярм» аб набліжэнні да вёскі хапуноў прадразвёрсткі. У яго двойчы стралялі. Быў ранены. У 1956-м мы пераехалі ў Гродна на вуліцу Красная, дом № 4 (пасаг мамы). Забралі і Буруся, але новае жытло ён сваім домам не прызнаў — уцёк (25 км) у Плябанішкі. І колькі разоў мы яго адтуль ні забіралі, ён усё роўна вяртаўся назад.

Мама, акрамя сямі свабодных навук (рыторыка, музыка, дыялектыка, граматыка, астраномія, арыфметыка, геаметрыя), якія вывучала ў польскай гімназіі, на выдатна засвоіла і сталінскую навуку выжывання — з чатырма немаўлятамі, без мужа, без зямлі і каня. Сёння ў шоу-бізнесе рэжысёры ламаюць галовы, як прыдумаць для маладых, дасціпных герояў экстрэмальныя варункі для выжывання на неабжытых астравах ці ў джунглях… Мімаходзь, некалі і кіну позірк на тэлеэкран, калі мой дваццацігадовы ўнучак, глытаючы слінкі, ловіць кайф ад убачанага, і падумаю: вось бы ім нашу маму. На кінафэстах не хапіла б «Оскараў».

Мама ўмела ўсё: і з пераніцаванай вопраткі пашыць касцюмчыкі для дзяцей, і па выкрайках з былых польскіх часопісаў модную сукенку, пагаварыць з прафесарам, які быў падобны на конюха, і з конюхам, што быў падобны на прафесара, і за дзесяць гадоў зарабіць з агарода трыццаць тысяч рублёў, у сорак дзевяць нарадзіць сына, і выйсці на пенсію пры поўным працоўным стажу (працавала хлaратарам на водазаборнай станцыі), а ў танцах і ў спевах не адстаць ад маладых… Мама ўмела ўсё, акрамя аднаго — прасіць.

Мама часта паўтарала: калі Бог хоча пакараць чалавека, то забярэ ў яго розум, а калі ўсіх людзей у краіне, то аддасць іх у рукі правадыроў.

**Марыя**

Мая сястра Марыя прыйшла на гэтую зямлю, каб хутчэй яе пакінуць (5.08.1940–26.09.1943). Загінула ад нямецкай кулі падчас разборкі немцаў з савецкай дыверсійнай групай, закінутай у вёску Плябанішкі для барацьбы з нямецкімі захопнікамі, якая пусціла ў расход каля Плябанішак таго кульгавага немца — начальніка Гожскай гміны. Солтыс, каб уратаваць закладнікаў сяла ад «заглады», паказаў на ўскраі вёскі хату, дзе яны хаваліся. Пасля вайны арыштаваны. Лёс невядомы.

**Юзэфа**

Сястра бацькі Юзэфа ў 1912 годзе, ці то каб паблукаць, ці каб знайсці сябе за мяжой, з мужам выехала ў Штаты. Маладыя з тугім кашальком (яшчэ да 1939-га) вярнуліся да сваіх пенатаў на вотчыну мужа ў вёску Лесніца (каля Гожы). Адбудаваліся, прыкупілі зямелькі. Яшчэ далёка да 17 верасня 1939 года і яшчэ далей да вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў. Ім і ў чорным сне не снілася, што іх чакае. Калі пачалася барацьба з «бандформированиями», муж Юзэфы пасля «дыскусій» з кадэбэшнікамі хутка паяднаўся з Усявышнім. Пасля смерці мужа на першым месцы — пытанне: як і куды ўцячы з некалі такога мілага і роднага куточка, дзе цяпер кожны дзень стукаецца ў дзверы запрашэнне з таго свету. Падчас першай рэпатрыяцыі Юзэфа з дачкой Леакадзіяй апынулася на былых нямецкіх землях, якія адышлі пасля 1945 года да Польшчы, — Еленя Гура, вёска Камарно. Дзе кожны дзень прыслухоўвалася, ці не завітае былы гаспадар-немец на сваю вотчыну і скажа: «Глядзі, беражы, як сваё, і помні пра вяроўку, якую я табе астаўляю як напамін аб нашай сустрэчы». Калі гасціў у Камарно, я бачыў той падарунак немца і нат памацаў яго на трываласць, і ўпэўніўся — фірменная: бошаўская якасць не падвядзе.

**Антон**

Брат бацькі Антон з 1928 года быў арандатарам фермы ў Англіі. Вярнуўся ў Плябанішкі да 1939 года. Ажаніўся з плябанішскаю красуняй — Юляй Пятроўскай. Пабудаваў пякнейшую ва ўсёй вёсцы хату, адрыну і хлеў з механічнымі прыстасаваннямі для працы з жывёлай. Нестандартны пчаляр — гаварыў з пчолкамі на ангельскай мове. Мой першы настаўнік па шахматах, і не без яго навукі падчас службы ў войску я без асаблівых цяжкасцей адпраўляў у накдаўн нат першаразраднікаў. Заядлы паляўнічы. Дасканала знаў звычкі ваўкоў, дзікоў і лісіц, якія ў той час валадарылі не толькі на сваёй вотчыне, а і на гаспадарскіх сядзібах. У дзядзькі Антона з імі была нейкая дыпламатычна-кансэнсусная патаемная дамова — плябанішскім гаспадарам яны шкоду не рабілі.

У канцы дзевяностых мінулага стагоддзя, калі я захварэў пчалярствам, неяк зазірнуў у яго асірацелыя, нікому не патрэбныя вуллі і наткнуўся на ўнікальную кармушку-паілку для пчолак, з дапамогай якой іх можна кар-

міць і паіць непасрэдна ў гняздзе. Гэта вельмі важна ў канцы зімоўкі, калі рубам стаіць пытанне: а ці застаўся мёд на сотах і ці вытрымаюць нядзельку-другую да веснавога аблёту, а пагода не дае візітнай карткі на знаёмства з іх жытлом. Кампактная, маленькая кармушка, у якую вадкі харч падаецца цераз трубачку з герметычна закрытага ёмішча, якое не кантактуе з пчолкамі і даступнае пчаляру пры любой пагодзе. Узровень вадкага корму рэгламентуецца апетытам пчалінага царства. Калі кармушка пустая, у герметычную пасудзіну паступае паветра і кармушка ізноў напаўняецца сіропам.

За дваццаць гадоў пералапаціў мора літаратуры па пчалярстве, пастаянна адсочваю навінкі на форумах і ў гандлі, але нічога падобнага на ноў-хаў дзядзькі Антона не бачыў. Дарэчы, вельмі простае прыстасаванне, яго можа зрабіць і вучань чацвёртага класа.

За маю дваццацігадовую практыку не загінула ад галадамору ні адна пчаліная сямейка. Доктарская дысертацыя па пчалаводстве. На жаль, ёю карыстаецца толькі адзін пчалавод у маёй персоне. З дапамогай яго кармушкі можна не толькі паставіць дыягназ, падказаць пчолкам месца на сотах, дзе яны збяруцца на зімоўку, але правесці і лячэнне, не заглядваючы ў іх жытло.

З 1948 па 1955 год дзядзька Антон з дачкой Леакадзіяй — вязні ГУЛАГаў. Бацька ў Варкуце, дачка ў Казахстане. Дзядзька Антон не квапіўся на чужое і цаніў сваё. Нікому не залез за скуру. Пра такіх людзей былыя гулагаўцы гаварылі: «Цвёрда трымаўся юнак на дапросе». І на самай справе — мог жа застацца ў хаце, з сям'ёй. І патрабавалася зусім нямнога: супрацоўніцтва ў выяўленні «ворагаў народа». Дарэчы, ніхто з нашай вёскі, ды і з іншых, не прадаўся за трыццаць сярэбранікаў. Гінулі, а стаялі на сваім — за праўду, за чалавечую годнасць. Дзядзька Антон не смерці баяўся — баяўся загінуць бясследна. Я яшчэ і сёння добра помню спавядальна-балючы сум хворага дзядзькі Антона: «Самае страшнае — застацца без магілы. Пад шпаламі. Без крыжа». Дзядзька Антон аказаўся за мяжой гэтага свету цераз год пасля стаханаўскай вахты на варкуцінскіх шахтах.

**Лебедзі**

Пляменніца бацькі цётка Фэля ездзіла з мужам Лебедзем Уладзіславам на заробкі ў Францыю. Хата, адрына і хлеў, збудаваныя за заробленыя грошы, яшчэ захаваліся (цяпер гэта Гродна, вуліца Грандзічская), але на двух гектарах іх кроўнай зямелькі цяпер стаяць катэджы новых беларусаў (былыя знакавыя асобы савецкіх і партыйных органаў), якія пабудавалі іх за сваю больш чым сціплую зарплату падчас бурапеннага вэрхалу дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Трэці гектар (нядаўна прачытаў у «Вячорцы») гарадскія ўлады выставілі на аўкцыён па тысячу баксаў за сотку.

Як ні дапытваўся ў сваёй французскай цётачкі, за што яе і мужа пасадзілі (з 1948 г. — вязні ГУЛАГаў), — адказу не атрымаў. Толькі аднойчы іх сусед, дасціпны і вясёлы мужык Пётр Рапейка, які быў сведкам іх арышту, мне сказаў: «За тое, што Уладзіслаў не там паставіў патэльню». Магчыма, гэта была яго выдумка, але ж нешта было падобнае і на сапраўдную праўду. Сабраліся

гэтыя Лебедзі адзначыць дзень народзін цёткі Фэлі. Паклікалі і дасціпнага Пятра Рапейку. Сядзяць і кайфуюць. Заходзяць нкусаўцы і пытаюць: «Чаму не на працы?» Дык дзень народзін, — адказвае Уладзіслаў. «Чый дзень народзін?» — пытае нкусавец. А гэты «юдаш» Пятро — зырк на газету з партрэтам Сталіна, на якім стаяла патэльня з яечняй, і чытае пра юбіляра, які якраз нарадзіўся ў адзін дзень з цёткай Фэляй, і, падняўшы патэльню, пераможна заяўляе: «Як чый, вось самога Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна». «Гэта добра, што паважаеце Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, але не бачу яму падарунка, — з усмешкай адказаў нкусавец. — За тое, што не там паставілі патэльню, размова будзе асобна, а цяпер, калі ласка, адзявайцеся і паедзем з намі». Дахаты гэтыя Лебедзі вярнуліся цераз дзесяць гадоў.

**Ян Боціс**

Брат маёй бабці Ян Боціс за тое, што быў радавым Войска Польскага, быў інтэрніраваны. Паміраў з таварышамі па службе на бязлюдным, безназоўным востраве ў Каспійскім моры, дзе іх ледзь жывых падабраў замежны карабель. Ваяваў у арміі Андэрса. Пасля вайны — жыхар Канады, працаваў цырульнікам, сям'і не было. Пасля паяднання з Богам засталася незапатрабаваная спадчына — двухпавярховы асабняк на беразе возера, зямля, ашчадныя кніжкі, грошы ад медыцынскай страхоўкі. І канадскія ўлады дзесяць гадоў шукалі па ўсяму свету спадкаемцаў, у тым ліку і ў СССР майго бацьку Курыловіча Пятра Юзэфавіча, які на неаднаразовыя напамінкі юрыдычнай калегіі Міністэрства замежных спраў СССР забраць долары адказваў, што аніякіх родзічаў у яго за мяжой няма.

Як выклік для сучаснасці, — канадская канфігурацыя мадэлі развіцця соцыуму пяцідзесяцігадовай даўніны: без крызісаў (палітычных, эканамічных, ідэалагічных, маральных…), з запасам трываласці па Боскай запаведзі — не ўкрадзі, шануй спадчыну.



**Альбарутэны**

Бабуля Серафіма (злева) з дочкамі. Вёска Пярэсялка. 1929 год.

У 1904 годзе ва ўніяцкай святыні (цяпер манастыр базыльянак, ён жа раней — Рэспубліканскі музей гісторыі рэлігіі ў Гродне) мой праваслаўны дзед, стопрацэнтны альбарутэн — Аніська Уладзімір Сямёнавіч, ураджэнец вёскі Пярэсялка (сёння — Гродна, праспект Будаўнікоў), і стопрацэнтная альбарутэнка, каталічка — Ігнатовіч Серафіма са Скрынік узялі шлюб. Каб — і ні вашым, і ні

нашым… «Каб у галоўным — адзіныя, у спрэчным — свабодныя, і ва ўсім — любоў» (Святы Аўгусцін).

Разумны быў дзед з бабуляю! Эх, каб мая воля! Усе святыні на нашай пакутнай зямельцы зрабіў бы ўніяцкімі, каб у рэжыме online, і за адным сталом мой праваслаўны зяць і каталіцкага веравызнання дачушка падзяліліся і прычасціліся Каляднай куццёй і Велікодным яечкам. І каб мой самы дарагі і любімы ўнучак не казаў маме і бацьку, што ён іх вельмі любіць і абавязкова сходзіць з мамай у касцёл, а з татам у царкву. Беднае дзіцятка! Яму ж трэба будзе вызначыцца: кім быць — каталіком (беларускім палякам) ці праваслаўным (рускім беларусам). І так было і ёсць у гэтым Краі заўсёды. І на польскіх Kresach, і ў расійскім Северо-Западном. І, як заўсёды, — па жывому: і рэжуць, і рвуць… І кожны раз, калі я гляджу на святочны натоўп у царкве і ў касцёле, мяне не пакідае ўражанне, што недзе там, наверсе, у магнатэрыях Польшчы і Расіі ніхто і не думае аб дзесяці запаведзях Боскіх. Галоўнае для іх — гэта публічнае веравызнанне, каб на ўвесь свет заявіць: палякам — пра польскіх каталікоў, рускім — пра рускіх братоў праваслаўных, быццам ніколі і не было на гэтай зямлі тутэйшых тубыльцаў з Вялікага Княства Літоўскага. Прайшлі стагоддзі, а іх перакананні, як і звычкі, не мяняюцца. У Мар'яна Дуксы, які часта выступае ў хрысціянскім друку, ёсць такія радкі: «Яднайце ўсіх нас, сінагога, мячэць, касцёл альбо царква».

Неяк спытаў бабулю, ці яна чула што-небудзь пра вялікую польскую пісьменніцу Элізу Ажэшку. «Ды якая яна вялікая? — адказала бабуля. — Я ёй малако насіла, такая, як і ўсе. Вось Маня, яна насіла малако самому Сняжыцкаму. Доктару!» «Бабцю, а на якой мове вы з ёй размаўлялі?» — дапытваюся ў яе. «Як на якой? На нашай, польскай». Бабціну «польскую» я чуў не раз. Асабліва сакавіта бабця размаўляла са сваёй каляжанкай, якая насіла малако доктару Сняжыцкаму. Падчас копкі бульбы знойдзе пасля яе некалькі бульбін і крычыць: «Маня, з цябе работнік, як з г…на куля: як не забіла, дык заляпіла». Дарэчы, бабця ўпершыню задумалася аб сваёй нацыянальнасці пры савецкай уладзе, калі атрымлівала пашпарт. Пры Польшчы ў пашпарце такой графы не было. Былі каталікі і праваслаўныя. Саветы гэтую недарэчнасць выправілі, каб кожны знаў: хто ёсць хто. Для маіх прабацькоў: беларус — гэта той жа рускі, толькі, як цяпер кажуць, са знакам якасці. І мая мама ніколі не магла з гэтым пагадзіцца — яна была ліцвінкай. І для гэтага былі падставы: яе ўлюбёны паэт Адам Міцкевіч Літву называў сваёю Радзімаю. Не апошнюю кропку ў асэнсаванні яе нацыянальнай прыналежнасці паставіў і ксёндз Бернардынскага касцёла ў Гродне Курыловіч Антоній, стрыечны брат майго бацькі, які з гонарам падкрэсліваў, што ён ліцвін. З ксяндзом Курыловічам Антоніем у мяне была толькі адна сустрэча, калі пасля хрышчэння немаўляці з нашай радні сядзеў з ім за адным сталом. Спачатку размова вялася на польскай мове, але калі ксёндз Антоні адчуў, што гаспадыня імпрэзы на польскай мове знае добра толькі «Ойча наш»… перайшоў на тутэйшую. Асацыятыўныя параўнанні валодання матчынаю моваю ксяндза Антонія з сучаснымі каталіцкімі святарамі не на карысць апошнім. Ад яго

слоў зыходзіла жыццядайная энергетыка з нейкім унікальным лексічным і сінтаксічным зместам. Цікава, які доктар прышчапіў яму любоў да матчынага слоўца? Атачэнне, сям'я, духоўная семінарыя? На жаль, хуткаплынны час зрабіў сваю справу і маё пытанне знікае з парадку дня як непатрэбнае, як і сама любоў да матчынай мовы.

Мой дзед Уладзімір з 1914 па 1916 год ваяваў у царскай арміі. Выконваў абавязкі ветэрынарнага фельчара. Гаспадар неардынарнай працаздольнасці. І ўсё задуманае здзейсніў. Пяць дачок, і кожнай пасаг — па гектару зямлі, найбяднейшы для маёй мамы — шэсць сотак і хату на сто квадратных метраў у Гродне, па вуліцы Красная, дом № 4. Двум сынам завяшчаў усё апошняе — 15 гектараў зямлі, хату, адрыну, хлявы, свіронкі, сад і ўсе гаспадарчыя прылады (малатарня, бульбакапалка, манеж, жняярка).

Сёння за сотку зямлі ў Грандзічах даюць тысячу баксаў. Вось і атрымліваецца, што дзед (па сённяшніх мерках) для кожнай дачкі (акрамя маёй мамы) даў па сто тысяч даляраў, а двум сынам — паўтара мільёна. Дзеду і ў самым страшным сне ніколі не снілася, што гэты скарб (зямля), зароблены такой цяжкай працай, можа хтосьці забраць. Як малітву-закліnанне, паўтараў дзядуля аднавяскоўцам: «Зямля не гарыць, жыццё ў чалавека могуць адняць, зямлю — не, няма такога закону, і ніхто яго не прыдумае». І падстаў для сумнення не было. Бо і на самай справе, ніхто ў гаспадара зямлю не забіраў: ні цар, ні немцы, ні палякі… Было штосьці святое. Гэта ўжо пасля, калі пачалася барацьба за адзін народ з адной краінай, з адной верай і з адной касай, гаспадар стаў сацыяльна небяспечным элементам. І паявіўся новы homo sapiens, вымушаны вечна прасіць: дай (пенсію, кватэру, медыцынскую дапамогу і г. д.), над якім «намеснік Бога» на зямлі, які дае. І гэты homo sapiens жыве тут і сёння. Ва ўсякім разе, на першых прэзідэнцкіх выбарах 82,7 % беларусаў спадзяваліся, што ў гэтую руку яшчэ штосьці пакладуць. Прасіць — гэта не лёс, гэта прафесія.

**Франак**

Швагер маёй мамы Франак працаваў на гарбарным заводзе ў Гродне, «на рабочых прафесіях». Нетытулаваны чэмпіён у факстроце, танга, польцы. Першая скрыпка маладзёжных тусовак, з дасціпнымі, ва ўласнай аранжыроўцы, песнямі. Калі на радзінных імпрэзах нехта адсутнічаў, то гэтага ніхто не заўважаў, калі адсутнічаў Франак — заўважалі ўсе. У яго была своеасаблівая «чуйка» (Франкаў слэнг), каб зарабіць без асобага надрыву капейку, ці то ў жыдоў, якія займаліся гандлем, ці то ў палітычных функцыянераў з мяшкамі злотых і долараў ад бальшавікоў і галашэннямі пра рай у краіне Саветаў. У стоадсоткавы рай ён не верыў. Палітычную барацьбу розных партый, а іх было больш, чым у капе снапоў, успрымаў як шоу. Расказваў, як за польскім часам за пяць злотых (кожнаму ад важакоў «Грамады») ён хадзіў з хлопцамі і дзяўчатамі на антыпілсудскія дэманстрацыі ў Гродне. Халява несусветная — за пяць злотых можна было купіць літр «манапалёўкі» з закуссю. Даведка: «гарэлка rzeczypaspalitaj» была самая дарагая не толькі тут, а і ў Амерыцы,

але там зараблялі больш. І ўсе абарыгены, якія вярталіся на Радзіму, прывозілі яе цэлымі скрынкамі. Я помню яшчэ, як бацька хаваў пустыя, рознай формы і колеру закардонныя бутэлькі. Навідавоку, так бы мовіць, быў доказ аб супрацоўніцтве з *загран-службамі*. А гэта дваццаць пяць гадоў і не менш.

**Казімір**

Брат мамы. Кавалерыст войска Польскага. Яшчэ пры жывым маршалку Пілсудскім. Пасля службы вярнуўся дахаты на Сенатары — коніку, з якім не разлучаўся падчас службы. (Узнагарода за вайсковыя поспехі.) Да ваеннага процістаяння палякаў з немцамі і бальшавікамі з 1 па 17 верасня 1939 года аніякага дачынення не меў. Але пасля аб'яднання двух народаў ці то за мянушку каня, ці то за тое, што неаднойчы спяваў Пілсудскаму «sto lat», дзесяць гадоў мыў золата на Калыме. Адтрубіў ад званка да званка. Калі вярнуўся ў пярэсялскія пенаты, то зразумеў, што гэта можа быць не апошняя ходка на Калыму — за грахі ў біяграфічным звяне. Як тады казалі: быў бы чалавек, а артыкул знойдзецца. Падчас апошняй рэпатрыяцыі ўцёк у Польшчу.

**Школьныя гады**

Школьныя гады. Ніколі я не еў, як тады, такой смачнай бульбачкі з салёнымі агурочкамі і баравікамі. А дабра гэтага хапала, не так, як сёння. Насілі кошыкамі, сушылі, салілі і марынавалі. А якое было смачнае варэнне з чарніц! І ўсё натуральнае, без сучасных харчовых дабавак.

І я не скардзіўся на «вялікі пост», які па волі «бацькі народаў» доўжыўся аднойчы цэлых пяць гадоў, бо думаў, што так і трэба. Часам і грашыў, калі на Каляды ў час нерасту стронгі (пасля знікала да наступнага года) пападалася гэтая царская рыбка. А яшчэ — калі-нікалі даставаў з пятлі яшчэ цёплага зайца. Дзень ад ночы я адрозніваў па адзінай прыкмеце: калі святло дазваляла разгледзець у кожным равесніку брата, а ў цёцях і дзядзях — маму і тату.

Я ў нечым быў падобны на нашага сабаку Буруся, які ніколі не скардзіўся на холад і голад, бо думаў, што так і трэба. Але аднойчы на Сёмуху мама выправіла мяне з Вацлавам і Зянонам (браты) на пікнік. А сама засталася ў хаце з гадавалым Антонам. На беразе безназоўнай рачулкі, дзе вадзілася стронга, распалілі касцёр і падсмажылі на патэльні з кавалачкамі сала (адкуль яго ўзяла мама — аднаму Богу вядома) бульбачку, а зверху яшчэ тры курыныя яйкі. Мама зрабіла вялікую памылку, бо з той пары жыццё маё кардынальна памянялася. Калі я заставаўся ў хаце за галоўнага, а гэта было вельмі часта, Вацлаў даставаў мяне сваёй вар'яцкаю просьбай: «Падсмаж бульбу». «На чым?» — пытаў я. А ён, як дзяцел, дзяўбе адно і тое ж: «На патэльні». І як я ні стараўся яму вытлумачыць, што сала таго даўно няма, да яго гэта ніяк не даходзіла. Смачная яда — самы спакусны наркотык. Але гэта я зразумеў ужо пасля таго, як у 55 год нажыў склероз каранарных сасудаў з абшырным інфарктам і мне прыйшлося ўспомніць гаючую ежу майго дзяцінства, ад якой

не адмаўляюся ўжо дваццаць гадоў, толькі без фатальнага тагачаснага фанатызму.

З маіх школьных прыгод мне запомніўся толькі адзін настаўнік, які вёў гісторыю (не называю прозвішча — асоба знакавая, яго ўжо няма ў жывых, але людзі яго добра ведалі). Сам ён гісторыю выкладаў нудна, нецікава і фармальна, але псіхолаг быў ад Бога. Неяк падымае мяне і кажа: «Курыловіч, ты заўтра будзеш весці за мяне ўрок, ідзі рыхтуйся». За ноч перапапаціў увесь падручнік. Перад люстрам задаю прыгатаваныя пытанні. На наступны дзень (у прысутнасці, вядома ж, настаўніка) падымаю ўсіх і з садысцкім задавальненнем стаўлю двойкі. Ход дасканалы, бо на наступным уроку ўжо двоечнік лінчаваў мяне, і неўзабаве ўсе вучні па гісторыі атрымлівалі толькі пяцёркі. Прышчэпка засталася на ўсё жыццё. «Гістарычная памяць — самая непадуладная субстанцыя, нават часу»; але, на жаль, наш знакаміты пінчук Рышард Капусцінскі памыліўся. Няма яе ў нашых людзей, і, пэўна, таму, што ў школах не было і няма такога «настаўніка», якім быў я.

**Капітан**

Так бліскуча закончылася барацьба ў Плябанішках з «бандфарміраваннямі» — парэшткамі Арміі Краёвай, якія яшчэ блукалі па лясах у прынёманскім краі. Пасля, калі працаваў (1967 —1971) участковым урачом у Гожскім і Лойкаўскім сельскіх саветах Гродзенскага раёна, то даведаўся, што Плябанішкі не былі выключэннем і нат не на першым месцы па колькасці вязняў. Цераз трыццаць гадоў мне, як адказнаму за дыспансерызацыю інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, прыйшлося яшчэ не адзін раз сустрэцца з тымі зухаватымі некалі хлопцамі, якія распрацоўвалі план барацьбы з «парэшткамі бандытаў» Арміі Краёвай ( у тым ліку і ў Плябанішках). Паважаныя людзі, знакавыя асобы ў савецкіх і партыйных органах Гродна. Сустракаюся з імі яшчэ і сёння, калі хаджу па вуліцах, якія ўвекавечаны іх імёнамі, калі падчас «Дзядоў» хаджу памянуць родзічаў на гродзенскіх могілках. Яны першыя (не абмінеш), на высокім узгорку, з выбітымі партрэтамі на гранітных помніках.

Сустрэўся я і з капітанам, які, відавочна, не меў аніякага дачынення да тых плябанішскіх зачыстак. Інвалід Вялікай Айчыннай вайны, былы камандзір узвода матацыклістаў пад Прохараўкай. Жыве ў Гародні на вуліцы Савецкай, у кватэры без камунальных выгод, абівае парогі гарадзенскіх чыноўнікаў, каб палепшыць свае жыллёвыя ўмовы. Ён чымсьці быў падобны на мяне: не ўмеў прасіць. А дабівацца свайго любою цаною яму не дазваляў яго Бог, які яго аднаго з усяго ўзводу выратаваў пад той Прохараўкай. Праўда, ён не знаў, які менавіта — ці мамін праваслаўны, ці бацькаў ісламскі. І я тады зразумеў, што і мой каталіцкі Бог і яго праваслаўна-ісламскі з адной буслянкі, і ўпершыню не паверыў, што на гэтым свеце ёсць толькі адзін сапраўдны Бог. І вырашыў яму памагчы, як брату, цудам не загінуламу пад Прохараўкай, бо мая Прохараўка была ў былых Плябанішках.

Тады я ўжо добра ведаў слабыя і моцныя схільнасці гродзенскіх «аўтарытэтаў». Сакратар абкама партыі ваяваў разам з Леанідам (з дынастыі Ільічоў), а старшыня абласнога выканаўчага камітэту сярод уплывовых «аўтарытэтаў» Гародні быў яшчэ «зеленаваты», рогам капаў зямельку, каб узняцца па службовай лесвіцы. Таптаў слабых і з баязлівасцю вылузваўся перад моцнымі.

Прынёс я таму капітану дзядоўскую кульбачку і кажу: на табе сапраўдную, выкінь сваю. Надзень хоць раз свой парадны мундзір з узнагародамі, якіх у цябе больш, чым у самога Жукава, і пакажы ім «кузькіну маць». Цябе ўжо не пасадзяць. Не ведаю, што там было, але чуткі пра гвалт, які ўсчыніў «нейкі ненармальны інвалід вайны» ў аблвыканкаме, дайшлі і да мяне. Паводзіны інваліда Вялікай Айчыннай вайны, якога з кабінета старшыні аблвыканкама машынай «хуткай дапамогі» адвезлі ў кардыялогію, атрымалі шырокі грамадскі рэзананс.

Цераз пару месяцаў прыходзіць і сам віноўнік той «урачыстасці»: вясёлы, памаладзелы, з дзядоўскай кульбачкай і з бутэлькай армянскага каньяку. Кульнулі. Першы кілішак за тых, хто не вярнуўся, але іх было так многа, што за іх выпілі і другі. Ён плакаў, узяўшыся за галаву. Разам з ім — і я. Трэці быў весялейшы — за яго добраўпарадкаванае жытло. Хацелі выпіць і за нахабства — другое шчасце, але бутэлька ўжо была пустая.

Сягоння, як і раней, тыя падзеі расцэньваюцца як рэпрэсіі (у перакладзе з лацінскай мовы — падаўленне), накіраваныя супраць бандытаў, якія забівалі міліцыянераў і кіраўнікоў мясцовай улады. І так было. Чалавек, які доўгі час не з'яўляецца часткай соцыуму і не мае над сабой улады, звярэе. Гэта хвароба. І я магу калі не зразумець, то хаця б паставіць такому бандыту дыягназ. І нават магу зразумець спрыт таго безгаловага хлопца, які рашэціў з аўтамата ў кладоўцы апошні кавалак сала, калі з капітанам (не думаю, што той капітан гэта рабіў па сваёй волі) забіраў у малалетніх дзяцей адзінага карміцеля і іх сродкі на існаванне. Але я не магу асэнсаваць сённяшнюю маральную ацэнку тых пагромаў грамадствам.

Гэта былі не рэпрэсіі ў існым сэнсе — падаўленне супраціву, гэта было нараджэнне нейкага новага заразнага захворвання, з двайной трактоўкай адных і тых жа клінічных сімптомаў, а адтуль і з двайнымі стандартамі ў ацэнках маралі. Немцы за аднаго забітага забівалі дзесяць ні ў чым не павінных, пераважна маладых, маглі спаліць і вёску. Бальшавікі дзейнічалі больш гуманна: працаздольных, як рабоў, — у руднікі, а пакінутым на волі без сродкаў на існаванне — натуральны адбор. За адныя і тыя ж ўчынкі немцы — каты, бальшавікі — нацыянальныя героі, пры ўзнагародах, заслужаныя людзі. Пасля сталасці прыходзіць сентыментальнасць. Можа, таму я і не магу глядзець фільмы пра дзікіх звяроў, дзе львіца, напаткаўшы галоднае дзіцятка (бацькоў якога з'ела), корміць яго сваім малаком.

**Тарзан**

У каўбасным цэху гродзенскага мясакамбіната ў 1956 годзе працаваў абвальшчыкам. Каб атрымаць 800–900 рублёў у месяц на абвалцы мяса, трэба было кожны дзень аддзяляць ад касцей 1000–1200 кг мяса. На давальніцкай сыравіне (закупленая ў гаспадароў) — норма невялікая. Горш, калі сыравіна паступала з калгасаў — мяса мала, а касцей многа. На шчасце, калгасныя свінкі і каровы нам трапляліся рэдка. Там, наверсе, напэўна, зразумелі: калгас — справа затратная, а падсобная гаспадарка — «клондайк», толькі не бунтуй народ, які ўжо прызвычаіўся, што ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё. Бедныя калгасныя парсючкі. Бадай, кожнае свінчо дзялілася адпушчаным яму па норме кормам з дзесяццю гаспадарскімі, і ўсім хапала. Купіць? Няма, дастаць (тады не гаварылі ўкрасці) — калі ласка, толькі не лянуйся.

Па тагачаснай завядзёнцы нешта падобнае адбывалася і на мясакамбінаце. Вартаўнікі — тыя ж людзі і не за Богу дзякуй прапускалі без кантролю работнікаў і паасобку, і цэлым гуртам. І без мабільнай сувязі папярэджвалі пра з’яўленне непрадбачаных памочнікаў з аддзела па барацьбе з крадзяжом. І яшчэ быў варыянт — цераз двухметровую цагляную агароджу. Але на такія фокусы ў нашым каўбасным цэху быў здольны толькі Мішка Тарзан (мянушка), на два гады старэйшы за мяне. Яго нават не маглі дагнаць мясакамбінацкія сабакі. Неяк паспрачаліся, хто спрытнейшы. Я Тарзана абагнаў і, пераскочыўшы двухметровы плот, прызямліўся акурат на плечы нашаму ўчастковаму міліцыянеру. Ад такой нечаканасці ён аслупянеў. Мечыслаў! Ён добра знаў майго бацьку, да якога часценька заходзіў пасля працы прычасціцца жытняю. Цераз імгненне я ўжо рэзаў стометроўку ў напрамку, які паказаў мне наш участковы. А ён, былы франтавік-дэсантнік, добра ведаў, што дэсантнікі па аднаму з неба не валяцца, і перспектыва адчуць на сваім гарбе яшчэ аднаго «лася» з торбай мяса яго не радавала. Дастаў пісталет і пачаў бабахаць уверх. І не дарэмна, бо ў гэты момант Тарзан, узяўшы двухметровы бар’ер, убачыў… не, не міліцэйскую шапку, а сноп агню. Развярнуўся на 180 градусаў і пад уздзеяннем рэактыўнага выхлапу бадай што на той нашай спрынтарскай дыстанцыі пабіў і мой рэкорд, толькі ўжо без мяне.

Вечарам у прысутнасці бацькі і ўчастковага — хатняя разборка. Пасля трэцяй (я яшчэ не піў) прыйшлі да высновы, што мне вельмі пашанцавала — прызямліўся ў патрэбным месцы і ў патрэбнай кропцы часу, а магло быць і іначай, мог загрымець у месцы не вельмі аддаленыя. Я добра ўсведамляў, што гэта такое. Але самае галоўнае, чаму мне не хацелася за краты, — я напісаў паэму, кшталту «Яўгеній Анегін», прысвечаную бялявай дзяўчынцы. Сшытак з маім «шэдэўрам» знік падчас рамонту хаты. На пекнае пісьменства не хапала часу — жыццё патрабавала прозы.

У 1956 годзе была праблема не ў самім вынасе мясной прадукцыі з тэрыторыі мясакамбіната, а — дзе і як яе ўзяць. Вядома, можна было ўкрасці ў начальніка цэха, якога за недахоп мясной прадукцыі пасадзяць. Але ж была адказнасць і сумленне, і ніхто сабе дазволіць такое не мог. Калі нехта і пра-

баваў, яго тут жа ставілі на месца, і не таму, што ў побач працуючых сумлення было больш. Бралі толькі тады, калі пасля кантрольнай інвентарызацыі, якую праводзілі для сябе, быў лішак. Бывала і па 100 і па 150 кг на брыгаду. Але такая радасць была даволі рэдкай. Часцей, доўга чакаючы начальніка, які ў сваёй канторцы сам-насам размаўляў з лічыльнікам, а пасля прыгорблена вылазіў адтуль з апануранымі выглядам, здагадваліся, што наступіў Вялікі пост. У той час не было сучасных тэхналогій, каб карміць пакупніка замест мяса перацёртымі да стану пытляванкі шкуркамі, жыламі ды костачкамі. Не было соі, харчовых дабавак: для смаку, для атрымання патрэбнай кансістэнцыі пасля дабаўкі вады, для захоўвання вартасці, патрэбнага колеру і г. д. Хутчэй за ўсё, што гэтыя дабаўкі і з'яўляюцца прычынай таго, што ў людзей знікае храстковая паверхня каленных і тазасцёгнавых суставаў, а ў траўматолагаў паявілася чарга на іх пратэзаванне — тэхналогія з пяцідзесяцігадовым стажам з цывілізаванага свету, скуль гэтыя дабаўкі прыйшлі і да нас.

**Камсорг**

Служыў у Мурманскай вобласці ў пасёлку Грэміха. За першародны ГУЛАГаўскі грэх бацькі, а не па стане здароўя, у будаўнічым батальёне, дзе, як і ва ўсіх хлопцаў, было напісана на лбе: будаўнік найсучаснага жытла з ганаровым найменнем «хрушчоўка», і не ты выбіраеш прафесію, а прафесія выбірае цябе. Мечыслаў — свідравальшчык скалістага грунту ў вечнай мерзлаце, і за год службы ні разу пад мухай, не вылазіць з бібліятэкі, якая побач з кабінетам намесніка начальніка воінскай часці па палітычнай рабоце. І, з яго ж дазволу, часта да адбою замяняе сімпатычную, маладую з немаўлём маму-адзіночку. Чэмпіён па шахматах у батальённым вымярэнні. І да таго ж мае мэту — лячыць людзей. Ну чым не кандыдатура на камсамольскага важака? Але ізноў жа — першародны грэх. Біяграфічная стрэмка. А ў паветры яшчэ ні слова пра культ, яшчэ «трасуць грывамі» ідэолагі сталінскай маральнасці. Але ж, відавочна, у пампаліта не было выбару. І да таго ж ён сам быў з Заходняй Украіны. Пасля кароткай размовы так і сказаў: «Мечыслаў, калі ты хочаш вучыцца ў інстытуце, ідзі ў партыю, я табе памагу». Цераз тыдзень я ўжо быў кандыдатам у чальцы генеральнай лініі вялікага Ільіча і да таго ж у ролі камсорга будбатальёна. Памяняў кірзавыя боты на хромавыя, інструмент бурыльшчыка на пяро. Рэдактар насценгазеты, баявых лісткоў, арганізатар мастацкай самадзейнасці, святочных імпрэз. Барацьбіт за здаровы лад жыцця. Хаджу ў дзясяты клас грэміхскай вячэрняй школы вольным слухачом. (Атэстат аб заканчэнні сярэдняй адукацыі ў гродзенскай вячэрняй школе ў мяне ўжо быў.) Дарэчы, па маёй просьбе мне дазволілі здаць экзамен і атрымаць яшчэ адзін атэстат. За выключэннем рускай мовы (3), усе апошнія прадметы здаў на 5. Беларус ёсць беларусам, і гэта было бачна нават за палярным кругам.

1961 год. Пачатак эры касманаўтыкі. Яшчэ падзея: збіты на недасяжнай вышыні шпіёнскі самалёт. «Мы моцныя, мы лепшыя…»

**Маё «пажыццёвае зняволенне»**

З 1972 па 1988 год працую анколагам і па сумяшчэнні хірургам першай гарадской клінічнай бальніцы Гродна. У нагу з рапартамі аб уздыме ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы і наша клінічная ўстанова салютавала вялікімі дасягненнямі. Наш прафесар па хірургіі вылучаўся сярод іншых — увішны, вынаходлівы, дасціпны, без комплексаў у дасягненні мэты, дасканала валодаў тэарэтычнымі ведамі, і рукі яго раслі з адпаведна прызначанага для іх месца, і заўсёды падкрэсліваў, што існасць нараджаецца ў спрэчках. І партрэт яго красаваўся на дошцы гонару сярод лепшых людзей горада. Лідар па апублікаванні навуковых прац у часопісах і па адпраўцы ў самастойнае плаванне кандыдатаў і дактароў медыцынскіх навук. Амаль па кожнай хірургічнай хваробе ў яго быў свой, своеасаблівы метад лячэння. І аніводны працуючы ў клініцы хірург ні на ёту не мог адысці ад прапанаванай методыкі. Але самае цікавае: на другі дзень пасля атрымання вучонай ступені не толькі яе вышукальнік, а і прафесар цалкам забывалі аб сваім своеасаблівым метадзе лячэння.

Аднойчы на заводзе, дзе рабілі прасы, я чытаў лекцыю па раку малочнай залозы. Сабралася каля пяцідзесяці жанчын, але адна ніяк не адходзіць ад свайго станка. «Броня, — крычыць майстар, — канчай, ідзі на лекцыю». «Зараз іду, вось даштампую да тысячы і прыйду», — адказвае Броня. «Ды што ты там даштампоўваеш, гэта ж брак», — зноў крычыць майстар. У здзіўленні пытаю ў яго: «А навошта брак даштампоўваць да тысячы і што гэта за брак?» «Падэшвы для прасаў, — адказвае ён, — норма 1000 у дзень, і за брак плацім, але крыху менш». На другі дзень на рабоце, падчас перакуру, расказваю сябрам пра Бронін брак і задаю пытанне: а можа, і мы так штампуем навуку? «А ты схадзі да прафесара і папытайся, толькі не забудзь узяць сваю працоўную кніжку». У маёй працоўнай кніжцы ўжо быў штамп першай гарадской клінічнай бальніцы аб прыёме мяне на работу, а другі я вырашыў пачакаць.

Як усе прагрэсіўныя савецкія ўрачы, і я займаўся навукай. Матэрыял для кандыдацкай набраў падчас праходжання клінічнай ардынатуры ў хірургічным аддзяленні абласной бальніцы. Але калі пасля размеркавання трапіў у першую клінічную, то зразумеў, што да ўвасаблення свайго партрэта на гарадской дошцы гонару не дацягнуся, бо генераламі могуць быць толькі дзеці генералаў, а любой цаной дабіцца свайго — гэта не маё. Адзінае, што заставалася, — прэтэндаваць на «Шнобелеўскую» прэмію па анкалогіі. Але лёсавызначальную кропку ў кар'ерным росце паставіў яго вялікасць выпадак. Адзін разумны чалавек, паглядзеўшы панскім вокам на мае «жыгулі», запытаў: «А што яны табе могуць даць?» «Як што, — адказаў я, — прыемнасць і сабе, і дзецям, і жонцы». «Паехалі, — кажа, — на заробак». Загрузілі машыну купленымі на вёсцы яблыкамі і адвезлі ў рэстаран. Навар — 150 рублёў на дваіх. Божа мой, за пару гадзін, і гэта пры маёй зарплаце — 120 рублёў у месяц! Праўда, здзівіць мяне заробкам было цяжка. Яшчэ будучы студэнтам, гадаваў андатры, шашкі і нутрыі і шыў вушанкі-фармоўкі (у якіх вушы не

адкладваюцца) і модныя (фасоны браў са старых польскіх часопісаў) дамскія капелюшы. Грошы ў мяне былі заўсёды.

Пасля той паспяховай навукі «купі-прадай» заняўся вырошчваннем ранніх агуркоў. За трохмесячны сезон 2000–2500 рублёў, і на свежым паветры, і без бяссонных начных дзяжурстваў.

Былі і паспяховыя свае напрацоўкі ў лячэнні запушчанага раку, калі чалавеку Бог адпускаў два-тры месяцы. Неспецыфічная імунатэрапія ў спалучэнні з вітамінамі А, Е, С (цяпер выпускаецца пад назваю антыаксідантны комплекс) дазваляла гэты тэрмін прадоўжыць да двух і да трох гадоў пры дастаковай якасці жыцця. Пару гадоў назад прачытаў у «Медицинском вестнике» пра доктарскую дысертацыю з навукова-даследчага інстытута па анкалогіі ў Мінску пра лячэнне анкалагічных хворых антыаксідантамі і неспецыфічнай імунатэрапіяй…

Васьмідзясятыя мінулага стагоддзя. Відавочнае — неверагоднае: у крамах нічога няма, а як мы весяліліся! Аніводная больш ці менш значная падзея ў нас не абыходзілася без калектыўнага застолля. І кожны віноўнік урачыстасці, вылузваючыся са скуры, стараўся ўразіць гасцей сваёй заможнасцю — каньяком, кумпяком ды чорнай ікрой. А мне, ці то ад той саракаградуснай божай слязы, ці ад галавакружэння на агурочным бізнесе, напомніла аб сабе даўняя хвароба — рэцыдывам паэтычнага натхнення. Пішу вершаванкі кшталту баявых лісткоў і чытаю сябрам, і не здагадваюся, якая страшная кара чакае мяне за маё вальнадумства. Калі вучоны люд прыняў мае опусы з усмешкай, то галоўны ўрач з парторгам пакаралі мяне «пажыццёвым зняволеннем». На чарговым партбюро аднагалосна выбралі мяне на грамадзянскіх пачатках старшынёй прафкама першай гарадской клінічнай бальніцы, ды яшчэ (для поўнага шчасця) па сумяшчэнні і старшынёй народнага кантролю, каб і я, як горкаўскі буравеснік, нёс людзям святло генеральнай лініі дынастыі Ільічоў і высякаў пад корань выдумкі зласліўцаў: што пры капіталізме існуе эксплуатацыя чалавека чалавекам, а пры сацыялізме — наадварот.

У 1988 годзе загарэўся жаданнем зазірнуць за небакрай Сінявокай (юнацкая мара). І зазірнуў — суднавым хірургам мурманскага рыбалавецкага флоту. Быў у Галіфаксе, Бостане, Сэнт-Джонсе, Лас-Пальмасе, у Антарктыдзе, шэсць разоў перасякаў экватар. І зразумеў, што самая цяжкая праца — нічога не рабіць. Дзве, тры сотні здаровых мужыкоў і некалькі жанчын. За шэсць месяцаў (рэйс) зацыруеш пару ран, калі пашанцуе — зробіш апендыцыт ці выхадзіш з алкагольным панкрэатытам начальніка (не ніжэй памочніка капітана, апошнім — сухі закон), дый пры зарплаце 1000 рублёў у месяц. Ад дармавых грошай можна было здурнець. І здурнеў. Па прыходзе ў Мурманск пачаў хадзіць на мітынгі і разам з натоўпам дзёр глотку: «Далоў камуністаў!»

Калі падчас развалу былой ГУЛАГаўскай імперыі вярнуўся ў Гродна, то мае зробленыя грошы ўжо нікому не былі патрэбныя. І не было аніякага сэнсу папаўняць працаю на рабоце мой сямейна-спажывецкі кошык палачкамі-працаднямі. Прыйшлося ўспомніць напрацоўкі яшчэ студэнцкіх гадоў

у шапачным бізнесе. Але, паспяхова-бясхмарны ў першыя гады, ён хутка закончыўся, і не з-за канкурэнтаў, а з-за сутыкнення з падатковым заканадаўствам. А каб яго чэсна абысці, патрэбна было закончыць яшчэ адзін універ, у які пасля шасцідзесяці і не бралі. Можа і добра, бо зухаватыя хлопцы (канкурэнты падатковай) за пару соцень долараў пажадалі б мяне ашчаслівіць заўчаснай дарогай у рай, як таго немца з Гожскай гміны. Можа і добра, бо неўзабаве пачалася барацьба і з карупцыяй. Нейк чытаю ў «Гродзенскай праўдзе»: галоўнаму ўрачу ўчастковай бальніцы (жанчына) уляпілі за хабар 6,5 гадоў турмы. За што? Дзяўчыне, якая зрабіла аборт, выдала левы бальнічны ліст з дыягназам: вострае рэспіраторнае захворванне. І за бутэльку. Знайшліся і сведкі. Выпісала на анкалагічна хворага наркотык і перадала яго васьмідзесяцігадовай бабулі, якой ужо аніякія ненаркатычныя абязбольваючыя сродкі не дапамагалі, і зноў жа не за кветкі…

Сітуацыя — адзін да аднаго, як было і ў наш застойны час. «Грэшнай» жанчыне, у якую і сам Хрыстос не кінуў бы камень і для якой нат сам грыф гінекалагічнай установы быў доказам яе грэшнасці, мы выдавалі левы бальнічны ліст. І левыя наркотыкі выпісвалі на амбулаторных анкалагічных хворых, каб аблегчыць іншаму хвораму (без анкалагічнага дыягназу) яго апошнія дні. Справа ў тым, што адпаведна ўказу міністра аховы здароўя СССР наркотыкі амбулаторна можна было выпісаць толькі абмежаванаму кантынгенту хворых, сярод якіх на першым месцы была анкалогія. І да мяне, як анколага, з такой просьбай звярталіся ўсе ўрачы — і шараговыя, і начальнікі, дзе боль міністэрскай інструкцыяй не ўтаймоўваўся.

На мой розум, пагроза распаўсюджвання наркатычных сродкаў праз медыцынскія каналы вельмі перабольшана, і ўсе гэтыя міністэрскія інструкцыі напісаны для таго, каб адцягнуць увагу грамадства ад сапраўдных наркотыкаў. А сярод іх на першым месцы, які выклікае невылечную залежнасць, — гэта ўлада, і ад гэтай хваробы няма лекаў. На другім — афіцыйныя, узаконеныя манаполіяй дзяржавы нікацін і $C_2H_5OH$. І апошні, скажу я вам, — гэта смачная яда...

На «выклікі сучаснасці» адгукнулася аднойчы і маё сэрца: дай, думаю, зраблю ЭКГ, мала ці што — калі Бог спіць, антыхрыст весяліцца. Іду да каляжанкі па працы ў бальніцу, а там рамонт, мяняюць сантэхніку. «Нашто гэта, — пытаю ў медыцынскай сястры, — яшчэ ж у добрым стане?» «Вядома ж, у добрым, — адказвае яна, — але ў галоўнага ўрача на катэджы ідуць сантэхнічныя работы. Па рамонту нашай бальніцы мы ўжо здагадваемся, калі ў яго будзе і наваселле…»

Ізноў пачалося аднойчы сардэчнае скавытанне, бы ў таго сабакі, які жаласна павісквае. Далася мне тая жанчына, якую я ніколі не ведаў і не бачыў, — галоўны ўрач участковай бальніцы, якой уляпілі 6,5 гадоў за хабар. Напісаў з той нагоды артыкул і прынёс у «Гродзенскую праўду». Карэспандэнтка пры мне чытае і смяецца. І я зразумеў, і таксама пачаў смяяцца. Папрасіў прабачэння за маю наіўнасць і запэўніў яе, што больш нічога ў газету пісаць не буду.

**Пушкін**

Што мяне падштурхнула ўзяцца за пяро? Няпростае пытанне. І я яго задаю ўсім гурманам творчай кухні. Цікавы феномен. Што гэта такое? Хвароба, наркотык, амбіцыёзнасць, жаданне «выпендрыцца» перад дзяўчынай, фізіялагічная патрэбнасць, адказ на боль, радасць, адкрыццё сэнсарнай кропкі ў мазгавых звілінах? Ні пад адну катэгорыю мае версіфікатарскія здольнасці не падыходзяць. Я да сённяшняга дня не магу да канца прачытаць і (не пачуццём, а халоднай галавою) асэнсаваць *некаторыя* вершы Анны Ахматавай, Сяргея Ясеніна, Яўгеніі Янішчыц, Іосіфа Бродскага, Аркадзя Куляшова, Адама Міцкевіча. Вельмі часта пасля другой, а то і першай страфы чытаю ўжо радкі не аўтара, а свае, і на роднай мове. І самае паршывае, што гэта доўжыцца і ў аўтобусе, і на прыпынках, і ў час ранішняга пяцікіламетровага мацыёну. І нічога не магу з гэтым зрабіць. Аднойчы ў касцёле на імшы сусед, які сядзеў ззаду, агрэў мяне кулаком па спіне: «Не мармычы, ты што, псіх?» Такая сэнсарная медытацыя перадаецца мне і ад Святога Пісання.

Неяк задаўся пытаннем: у чым сакрэт вершаў з тэлепатыйнай харызмай, творцы якіх даўно ў «лепшым свеце»? І ў мяне склалася ўражанне, што ў маёй Музы непераборлівы густ — мяне натхняюць вершы прыземленыя, з рытмічна-эмацыянальным малюнкам, калі адчуваеш асалоду ад спалучэння музыкі са словам. Пра такія творы гавораць: напісаў так, як лягло на душу. А калі чытаю вершы (*тых жа аўтараў*), якія ўражваюць навізной паэтычных тропаў — багатыя на метафарычныя рэфлексіі, жывапісныя параўнанні, нечаканыя выслоўі, непаўторныя эпітэты і г. д., якія патрабуюць удумлівага засяроджвання для асэнсавання вобразаў, у мяне ўзнікае думка, што я знаходжуся ў пекным, унікальна-велічным храме ці палацы, дзе ніколі не быў, і я там такі маленькі, незаўважны і голы, як на споведзі ў апошні дзень перад Богам. І прыйшоў да высновы, што мая Муза не сапраўдная, гэта толькі спакусніца версіфікатарскага натхнення, з якой упершыню пазнаёміўся ў шаснаццацігадовым узросце і нат прысвяціў ёй паэму. (Праўда, у той спакусніцы былі вельмі салодкія пацалункі.) Гэта адзіны твор, які чытаў толькі адзін (акрамя мяне) чалавек — прафесійны паэт Міхась Васілёк. З той сустрэчы засталася ў памяці толькі адна фраза: «Табе трэба вучыцца, талент — гэта найперш праца». Прарочыя словы, якія я зразумеў значна пазней.

Шчыра кажучы, я не лічу сябе пісьменнікам. Хутчэй за ўсё гэта маё хобі. Я выдаў тры зборнікі вершаў — «Тутэйшы», «Прыдарожная вярба» і «Вчерашние святыни». Яшчэ два на сайтах у электронным варыянце. Друкаваўся ў «Гродзенскай праўдзе» і калектыўных зборніках. Але лічу, што маім вершам не хапае грунтоўнай агранкі паэтычнымі тропамі, збольшага пагабляваныя, нат пашліфаваныя наждачнай паперай, але бацька іх сякеркай не паправіў. І да гэтага бацькі не дакараскацца, як бы мне гэтага ні хацелася. Можна задаць пытанне: навошта аддаваў грошы на публікацыю, калі загадзя ведаў, што на Алімп не трапіш? На гэтае пытанне ў мяне няма адказу. Адрэналін, псіхалагічны тэст на ўнікальныя здольнасці, амбіцыі ў добрым сэнсе гэтага

слова, нетрадыцыйны метад лячэння склерозу і г. д. Не ведаю, як каму, але мне ўсе творчыя людзі сімпатычныя — і вялікія, і малыя. Галоўнае ў гэтым спаборніцтве — каб сам творца цвяроза ацэньваў свае дасягненні.

Лічу, што ўсе людзі — творчыя, толькі не ўсе аб гэтым ведаюць, і я не выключэнне. Я заўсёды штосьці пісаў, толькі не на паперы. І мне здавалася, што атрымліваецца вельмі цікава. На жаль, у той час у маім кампутары не было функцыі: «Захаваць». А пісаў я пра тое, што стрэмкай сядзела ў пячонцы. На заказ, прымусова — нічога не атрымоўвалася. Так і хочацца выгукнуць: педагогі, шукайце і знойдзеце. Асабліва мне запомніўся з шармам гарманіста, музыкант — дасціпны і вясёлы Пушкін (мянушка). На вяселлях ён не гаварыў, а сыпаў, як са скарбонкі, вершаванымі прыказкамі, прымаўкамі, загадкамі, выслоўямі. Экспромтам, молада, весела і, як кажуць, у самае цемечка. Госці надрывалі жываты. Калі вёў імпрэзу Пушкін, усе былі цвярозыя. Можа, таму і запрашалі яго. Няма ўжо Пушкіна. Адвінакурыў, адпетрасяніў. Калі я працаваў доктарам, ён часценька карыстаўся маёй слабасцю да яго таленту. Вядома ж, прыходзіў за левым бальнічным лістом. Качагар гарбарнага завода, музыкант-самавучка, які аніводнага верша не напісаў на паперы, які і знаў сапраўднага Пушкіна толькі за тое, што насіў ганаровую мянушку паэта. Дарэчы, ён сыпаў вершаванкамі на трох мовах — матчынай, польскай і рускай. На жаль, у маіх прысвячэннях паэтам няма яго імя, ды і забыў я яго сапраўднае імя і прозвішча. І дасціпныя вершы яго. Аказваецца, што ў майго кампутара ёсць і яшчэ адна паганая функцыя: «Delete».

І, вядома ж, я не магу не сказаць пра паэта, які працаваў літкансультантам «Гродзенскай праўды» і знайшоў нейкае зерне ў маіх опусах. Гэта Юрка Голуб. Я лічу яго творцам з адметным, індывідуальна-пазнавальным стылем. Яго вершы не патрабуюць аўтарскага прозвішча — з першых радкоў распазнаеш, хто іх напісаў.

Я часта задаю сабе пытанне: чаму мяне так цягне да роднага слова? Магчыма, гэта генная роднасць з прабацькамі? Ці вечнае: хто ты і навошта на гэтым свеце? Ці галоўнае: а дзе твае вытокі, карані, да якіх ты абавязкова вернешся, каб застацца ў повязі часоў хоць маленькай кропкай народа з яго тысячагадоваю гісторыяй? А гісторыя народа — гэта найперш роднае слова: вечнае, неўміручае, якое ў мяне асацыіруецца з прабацькамі, з роднымі мясцінамі — натоптанымі сцежкамі, іміджам жаўруковага жыта, прывітальным клёкатам буслянкі, дзіцячай радасцю першай сустрэчы з чорнагаловікам і, вядома ж, з першым вобразам, калі ўпершыню адкрыў вочы і адчуў мяккае, цёплае святло мамы з яе ласкавым, пушыстым родным слоўцам. Гэтыя вобразы застаюцца на ўсё жыццё, і да іх, калі ты не бязродны сын, цябе заўсёды цягне.

Роднае слова натхняе, гэта допінг для эмацыянальнага стану душы з яе пакутамі, тугой, болем і вечным памкненнем надзеі да незаменнага — любові.






**Н**арадзіўся ў 1939 г. у Гродне. Па прафесіі ўрач. Працаваў участковым урачом у прынёманскіх вёсках, пасля анколагам і хірургам у Гродне. Апошнія гады — хірургам у рыбалавецкім флоце Мурманска. Аўтар кніг паэзіі: «Тутэйшы», «Прыдарожная вярба», «Вчерашние святыни», «Матыў прынёманскіх вятроў». Кнігі апублікаваны ў інтэрнэт-бібліятэцы kamunikat.org. Жыве ў Горадні.



# IN MEMORIAM

## СЯРГЕЙ АСТРАВЕЦ

### Вершаў больш не будзе

2013 год. У Гродне не стала паэта. Юры Гумянюк, Юрка, самагубча пакінуў горад, які любіў. Год назад ён прывёз мне з Беластока пераклад кнігі Арнольда Макміліна «Пісьменства ў халодным клімаце». Ездзілі ў друкарню яны з Мірай Лукшай, з якой сябравалі. Ганарыўся, што разбору яго паэзіі прысвечана больш за шэсць старонак. Заканчваўся артыкул словамі: «Юры Гумянюк сапраўды прыроджаны паэт, надзелены надзвычай арыгінальным паэтычным голасам, і ягоная творчасць абяцае ў будучыні шмат цікавага».

Закранаючы самагубства, Артур Шапэнгаўэр, каб быць пераканаўчым, параўноўваў жыццё з гульнёй. Ёсць такія, хто, атрымаўшы «ў гульні дрэнныя карты», «не хоча гуляць далей, кідае карты і парушае гульню». Пярэчачы магчымым самагубцам, філосаф казаў: «Чалавек павінен паставіць сябе вышэй за жыццё», не даваць здарэнням перамагчы сябе.

У траўні ў Беластоку адбылася вечарына памяці Гуменюка, але зусім не беластоцкія літаратары яе рабілі. Не быў чамусьці запрошаны Алесь Аркуш, які падрыхтаваў сёлета кнігі твораў Юркі. Не кажу пра сябе, хаця напісаў некалькі матэрыялаў, прысвечаных яго смерці, прачытаных сотнямі людзей, апошні — з дапамогай Андрэя Пачобута, які прызнаецца, што яму вельмі падабалася паэзія Юркі, з якім яны прыязніліся. На наступны дзень я трапіў у Беласток і зрабіў здымак афішкі вечарыны.

У канцы чэрвеня ў рэдакцыі «Нівы» мы размаўлялі пра Гуменюка з Мірай Лукшай і Ганнай Кандрацюк, абедзве добра ведалі яго. Ён часта бываў у Беластоку, пастаянна друкаваўся ў «Часопісе». Пасля «Нівы» я зайшоў у карчму на суседняй вуліцы паабедаць. Неўзабаве бачу: уваходзіць Яўген Вапа. Пра Гуменюка ўзгадалі ў размове. Даўней у гэтай карчме нас карміў Алік Максімюк. У мяне цяпер тая ж страва: «свяжынка». Нас з Юркам запрасілі на «Бязмежжа», але Гайнаўка чакала заўтра, а ў той дзень мы з ім яшчэ трапілі на размову ў жывым эфіры беларускай праграмы Беластоцкага радыё. А затым была людная паэтычная вечарына ў арт-кавярні, дзе Гумянюк чытаў свае вершы.

Аб яго смерці я даведаўся раніцай наступнага дня, а неўзабаве на сайце Радыё Свабода стаяў вось гэты мой тэкст, напісаны па гарачых слядах.

**«На аднаго паэта менш»**

Юры Гумянюк быў самым маладым у абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў, хоць меў сорак тры гады. У гэтыя выходныя я вычытваў перад подпісам у друк наш альманах «Новы Замак». Апошні раз пры сустрэчы мы гаварылі з Юркам аб тым, што ён дасць у наступны нумар. Нельга было дапусціць, што ён не ўбачыць першага.

Кароткае эсэ «Цені Бруна Шульца ў Гродне» будзе яго першай пасмяротнай публікацыяй. Пад ёю — адзін з апошніх здымкаў паэта. Здымак зроблены мною ў мастацкай галерэі «Крыга», што ў старым гродзенскім дворыку, якіх засталося мала і якія ён вельмі любіў. Юрка сказаў, што на здымку выглядае занадта пагладчэлым і што дашле які-небудзь іншы, але не даслаў. Гляджу цяпер на гэты здымак: акуратна падстрыжаны, вусы з бародкай, чаго даўней у яго не было.

Юры Гумянюк прызнаецца ў сваім эсэ, што яму блізкая творчасць Бруна Шульца, міжваеннага польскага літаратара. Што яго герояў няцяжка ўявіць на даваенных гродзенскіх вуліцах, якія захаваліся дагэтуль. Можна пазнаць і «Вуліцу кракадзілаў», і «Цынамонавыя крамы», і «крыху дэманічна пажадлівых кабет-манекенаў». На гэтым здымку якраз з-за спіны самога Гуменюка выглядае незнаёмка.

Для Юркі шмат значыла эстэтыка Бруна Шульца і гродзенскай пісьменніцы Зоф'і Налкоўскай, якая заўважыла Бруна і дапамагла яму. Ён адчуў у іхняй творчасці значную энергетыку, якая, магчыма, адлюстравалася ў яго, Гуменюковых, вершах, прызнаецца ў сваім апошнім эсэ сёння мёртвы паэт.

У верасні на тых вуліцах Гродна, якія захавалі даваенны выгляд, здымалася кіно пра радзівілаўскіх апосталаў, якія зніклі нібыта падчас вайны. Горад стаў на пару дзён ажно Берлінам. Гуменюка запрасілі здымацца ў масоўцы. Казаў мне, што праз сацыяльныя сеткі знайшлі, падышоў як тыпаж. Яму спадабаўся антураж, касцюмы, зброя. Усё выглядала эфектна, а гродзенскім жанчынам, па яго назіраннях, было даспадобы ў ролі берлінак.

Сам ён адчуваў сябе нібы ў сваім часе: у паліто, пад капелюшом — класічны выгляд яму вельмі падабаўся. Нездарма любіў здымацца пад матылём, з капелюшом на галаве. Артыстычны выгляд яго цешыў, паэт павінен выглядаць менавіта так, лічыў ён: крыху старамодна, па-рэтраўску, у даваенным стылі.

Летась у галерэі «Крыга» адбылася цікавая падзея: была прадстаўлена ў фотаздымках гісторыя некалькіх гродзенскіх сем'яў, пачынаючы з царскіх часоў. На вуліцы пад яблыняй сядзелі тыя, хто дапамог стварыць выставу, і сярод іх быў Юры Гуменюк, які распавёў пра ўкаранёнасць Гуменюкоў у Гродне. Ён гэтым ганарыўся. Тэкст аб сваёй сям'і ён паспеў напісаць і апублікаваць раней.

Трэцяга студзеня ў галерэі «Крыга» было каляднае спатканне паэтаў, мастакоў, музыкаў. Паэты чыталі вершы, музыкі гралі, мастакі слухалі і пілі віно. Добрае віно, між іншым, было тым разам. Я пайшоў раней, Юрка запы-

ніў і нечакана папрасіў грошай «на кілішак» пасля галерэі. Ніколі раней не чуў ад яго такіх просьбаў і не змог адмовіць. Больш яго не бачыў.

Ён быў эстэтам, яму падабалася некалі называць сябе «лагодным дэндзі», сімвалісты, мадэрністы былых часоў былі яго ўлюбёнымі героямі. Але жыццё не мела нічога агульнага з былымі часамі. Гумянюк мусіў трымаць сваю музу, як салаўя, у пакаёвай клетцы, а сам набіраў, вычытваў тэксты ў «Пагоні», пісаў сцэнары для дзіцячай навагодняй яліны ў лялечным тэатры, затым бегаў з мікрафонам, рыхтуючы перадачы для радыё.

Першы раз я заўважыў Юрку ў гарадскім аўтобусе, з аднакурснікам абмяркоўвалі паэзію Гумілёва. Гумянюк пайшоў на польскую філалогію ва ўніверсітэце, як толькі яна адкрылася. Стваральніца польскай філалогіі была знаўцам Зоф'і Налкоўскай. Нездарма Гумянюк таксама добра ведаў яе творчасць, балазе яны жыла ў яго любімыя даваенныя часы.

Для тых, хто ведаў Юрыя Гуменюка, быў знаёмы з яго творчасцю, цяпер будуць нагадваць аб ім цені паэта: у былым тэатры Тызенгаўза, дзе ён працаваў, у камяніцы 1795 года на Дамініканскай, дзе была рэдакцыя «Пагоні», у купалаўскім універсітэце, у музейным пакоі Зоф'і Налкоўскай.

**Notabe**

У апошнім, падрыхтаваным да друку аўтарам, «Лапідарыі» Рышард Капусцінскі занатаваў, што выпадкова ўзяў дзённік Браніслава Маліноўскага і адразу натрапіў на важную для сябе рэч: «Віткацы меў самабойчыя думкі ўжо ў 1914 годзе на Цэйлоне», прызнаўшыся сябру — «Я хацеў сябе забіць, сядзеў з браўнінгам пры скроні». Капусцінскі зрабіў выснову: гэта «пацвярджае тэзу, што самагубчыя схільнасці з'яўляюцца пэўнай прыроджанай уласцівасцю, нейкая частка людзей пастаянна схіляецца да такога заканчэння».

Як вядома, Віткацы, скандальна вядомы драматург-абсурдыст, скончыў самагубствам напярэдадні прыходу Чырвонай Арміі пасля 17 верасня 1939 года. У сваёй творчасці Юры Гумянюк быў непадалёк ад тых садоў, дзе зрываў свае творчыя плады Віткацы. Некаторыя з сяброў Гуменюка ўспамінаюць, што яго прываблівалі сваім зместам лёсы паэтаў-дэкадэнтаў былых часоў, таксама тых, хто скончыў самагубствам. Нельга меркаваць, што ён конча прымерваў такое жыццё да асабістага, аднак выснова Капусцінскага, магчыма, не пазбаўлена рацыі. На жаль. На вялікі жаль.



■ *Аб'вестка вечарыны памяці Гуменюка ў Беластоку*

АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ

# Пра паэта Едруся Мазько

## Пралетарскі перыяд

Мы сышліся на вуліцы Пралетарскай з розных месцаў: Едрусь і Генадзь Васюк са сваёй сямейкай пасля заканчэння гістфаку, Юрась Пацюпа, пабраўшыся з Анэляй Дабравольскай, і Янка Трацця к пасля філфаку, я пасля аспірантуры з Мінску. Гэта быў пралетарскі перыяд нашага жыцця ў многіх сэнсах. Ніхто не меў нічога, апроч пакоя ў студэнцкім інтэрнаце, адно крыло якога адвялі для выкладчыкаў. Душ адзіны, агульны для ўсіх. Не вельмі камфортна пачувалася там побач са студэнткамі, якім заўтра трэба было чытаць лекцыю. Кухня, праўда, толькі для нашага крыла. Там сустракаліся штодня. І не толькі там. Было прынята хадзіць у госці. Праўда, мне з маёй хутаранскай сістэмай каштоўнасцяў хадзіць да кагосьці не выпадала. Прыходзілі да мяне. Найчасцей завітваў Едрусь. Гадзінамі проста размаўлялі, ён расказваў пра тутэйшых, уводзіў мяне ў гарадзенскую навукова-літаратурную сябрыну.

## Па Едрусевых мерках

Лаўлю сябе на думцы, што на працягу ўсяго майго другога гарадзенскага жыцця згадваю, як Едрусь ацэньваў гарадзенцаў. Заўсёды толькі хораша, са шчырай павагай гаварыў ён пра Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча (мяне нават адна наша прафесарка папракнула: «Што Вы ідэалізуеце свайго Пяткевіча! Няма ідэальных людзей!» — «Мо дзе і няма, а ў Гародні ёсць!»). З павагай і крыху з гумарам пра нашых шаноўных прафесараў-антыподаў Івана Якаўлевіча Лепешава і Паўла Уладзіміравіча Сцяцко, з непрыхаванай ироніяй пра сённяшнюю ўжо прафесарку і яе памкненні «тварыць», пра Дануту Бічэль, з якою адносіны заўсёды былі няроўнымі (і пра гэтыя «няроўнасці» расказвалася). «Нягледзячы ні на што, я яе паважаю, бо яна — вялікая паэтка і жанчына»,— гэтая выснова была нязменнаю. А пра аднаго паэта: «Павітацца з ім за руку — тое ж, што пакупацца ў грамадскай прыбіральні». Ніколі не загаварыла з гэтым чалавекам, памятаючы Едрусеву перасцярогу. Захавалася і даволі едкая ягоная эпіграма на аднаго нашага калегу.

Заўважаю: і сёння, праз столькі гадоў, даўнія ацэнкі не састарэлі, кіруюся тымі Едрусевымі меркамі…

## Едрусь, Эдуард, Эдзік

Пры знаёмстве (а пазнаёміў нас сябар Зміцер Санюк) ён назваўся Едрусем. Так заўсёды і звярталася.

Аднойчы расказаў, як яго выклікалі на размову асобы ў штацкім пасля паездкі ў Вільню да Зоські Верас, пасля сустрэч з тамтэйшымі беларусамі,

з Лявонам Луцкевічам. Паказалі фотаздымкі, дзе ён з гаспадарамі каля знакамітай лясной хаткі. (Во дзе нашы архівы! Але ці калі адкрыюцца?) І як жа «старанна» яны «працавалі», калі фіксавалі кожную сустрэчу.

Вось жа, той, у штацкім, між іншага запытаў у Едруся:

— Як Вас называць? Адны завуць Едрусем, іншыя Эдуардам, як і ў пашпарце.

— Едрусь я для сяброў, для Вас — Эдуард, — адрэзаў мой сябра.

І тады я сказала:

— Заўсёды буду называць Вас Едрусем.

Не запярэчыў. З гэтым імем ён і застаўся для мяне.

Новыя ягоныя сябры, каханая жонка называюць яго Эдзікам. Такая форма імені і на кнізе ягоных вершаў.Так ён ім сябе назваў. І мне гэта зразумела. Гульня са сваім імем уласцівая многім з нас.

**Вершы**

У чым вінавата перад Едрусем, то ў тым, што не цаніла, як тое належыць, ягоныя вершы. Наогул, як да паэта ставілася да яго даволі крытычна. Зразумела, не падкрэсліваючы гэта. Напачатку ён часта прыносіў свае творы, чытаў. Слухала ўважліва. Але выказваць нейкія ацэнкі не спяшалася. Безумоўна, ён адчуваў, што не ў захапленні ад ягонай творчасці. Не ўмела гэтага хаваць. Ды і навошта? Мы былі шчырымі ў сваіх адносінах. Праўда, чытаў ён файна. Умеў чытаць. Зрэшты, аўтарскае чытанне, калі нават паэт не мае акторскіх здольнасцяў, заўсёды выйграе, ніколі не пакідае абыякавым. Доўга шукала адказу, чаму. Сёння, падаецца, яго маю. Бо паэт, як ніхто, адчувае той глыбінны ўнутраны рытм сваіх вершаў, тую пульсацыю паэтычнага радка, якую іншыя, нават вельмі добрыя чытальнікі, перадаць не ў стане. Зрэшты, у такіх выпадках на ўспрыняцце заўсёды ўздзейнічае і незвычайны шарм: паэт чытае свой твор…

Часам Едрусь пытаўся: «А можа, гэта не паэзія, можа, графаманія?» Падавалася, не столькі ў мяне, колькі ў самога сябе. Яму было гэта вельмі важна. Колькі актыўна пішучых графаманаў давялося сустрэць, але ніколі ніхто з іх не задаваў такіх пытанняў. Тут ужо з усёй дакладнасцю запэўнівала яго: гэта паэзія. І гэта таксама было шчыра. Проста гэта былі не тыя вершы, якія тут жа хацелася вывучыць на памяць, зрабіць іх сваімі, чытаць студэнтам.

Шкада, што Едрусь не выдаў свае кнігі. Зразумела, жыццё змушала яго выжываць, вельмі шмат працаваць. А выдаць кнігу — гэта вялікая раскоша. Гэта вельмі няпроста. Ягоныя вершы якраз і праявіліся ва ўсёй сваёй вартасці менавіта ў кнізе, якую падрыхтаваў да выдання, але так і не пабачыў.

**Сродак змагання з дэпрэсіяй**

А вось паэтам у жыцці, у шырокім сэнсе гэтага слова Едрусь і тады бачыўся мне надзвычай цікавым. Ён ствараў, сённяшняй моваю кажучы, арыгінальныя перформансы, якія вылучаліся эмацыйнай крэатыўнасцю. Умеў

прыдумаць, як змагацца з дэпрэсіяй.У нашай бясконцай слотнай гарадзенскай восені яна згубна ўплывае на здольную да рэфлексіі натуру.

Вось жа, Едрусь купляў кветкі, ішоў па вуліцы. (Мой вобраз — мужчына з кветкамі.) Выбіраў між мінакоў жанчыну (я ўстаўляла: маладую і прыгожую — у адказ: безумоўна) і дарыў ёй кветкі, кажучы толькі: «Гэта Вам…»

Ён расказваў пра гэта з захапленнем, яшчэ раз перажываючы той момант, з асалодай «смакуючы» яго. «Вы б бачылі яе рэакцыю! Вочы, у якіх столькі ўсяго засвеціцца. І здзівіцца, і спалохаецца, і ні слова прамовіць не можа. Але галоўнае — вытрымаць ролю да канца, не прыпыніцца, прайсці і — не аглянуцца».

Зрэшты, навошта яму было аглядвацца? Ён і так ведаў, што ўражаная кабета будзе доўга паглядаць яму ўслед і яе дэпрэсію, калі такую мела, як рукою здыме. А пасля будзе расказваць сяброўкам пра прыгожага маладога чалавека, які падарыў ёй на вуліцы кветкі. Неверагодны выпадак у нашым шэрым жыцці!

Цудадзейны лек ад дэпрэсіі. І для аўтара гэтага перформансу ў першую чаргу.

**«Мы б баранілі!..»**

Ясны зялёны дзень на зыходзе. Пачатак лета 1993 года. З Едрусем і Янкам Трацьяком ідзем у сквер Жылібера. Там на сцэнічнай пляцоўцы адбудзецца адна з тых імпрэзаў, якіх тады праводзілася даволі шмат: крыху палітыкі, крыху гісторыі, літаратуры, музыкі. На пачатку — «Магутны Божа», што гучыць са сцэны і знаходзіць водгук то тут, то там між слухачоў. Спяваючы звонкім прыемным голасам, да нас падыходзіць Данута Янаўна. Пасля апошняй ноты гэтак жа звонка, прыцiскаючы кожнае слова, звяртаецца да Едруся: «Перадай гэтай Петрушкевіч, калі яна не перастане пісаць пра мяне ўсялякую лухту, то я ёй усе валасы павыдзіраю». А валасы ў мяне ў тым часе шыкоўныя: па пояс, хвалістыя (з заплеценых косаў). Зняменне. Ніхто з нас ні слова. Думаю: «Калі і сапраўды гэтая пагроза пачне здзяйсняцца, проста закрыю твар рукамі». Але ж не баюся: з абодвух бакоў двое мужчынаў!

Крыху яшчэ пастаяўшы, Данута Янаўна з годна ўзнятаю галавою адыходзіць.

Настрой сапсаваны. Так моўчкі і прастаялі. Імпрэза закончылася. Пытаюся па дарозе дахаты ў сваіх мілых калегаў:

— І што б вы рабілі, калі б і сапраўды ў мае валасы ўчапілася?

— Мы б баранілі!.. — рашуча адказвае Едрусь.

Шчыра веру. Хлопцы яны надзейныя.

Пакуль вярталіся да свае Пралетарскай, размаўлялі, жартавалі, як звычайна. Як і не было таго прыкрага інцыдэнту. Але той выпадак стрэмкаю засеў у маім сэрцы і заўсёды нагадваў-папярэджваў: ад вялікіх паэтаў трэба быць на вялікай адлегласці.

Што да «лухты», то гэта мой артыкул у «Родным слове» (№ 1, 1993 г.), замоўлены Міхасём Скоблам. Мяркую, і яму дасталося. І сёння нічога дрэнна-

га ў напісаным не бачу. Крыху апрацаваўшы, уключыла ў свой дапаможнік «Літаратурная Гарадзеншчына ў постацях і лёсах»…

Праз нейкі час Едрусь прызнаўся, што хадзіў да Дануты Янаўны на разборкі. Абараняў Петрушкевіч і яе артыкул, даказваючы іх (аўтаркі і працы) вартасць. На што атрымаў: «А я таго артыкула і не чытала!» Мой сябар не мог даўмецца: «Дык што яна да Вас мае?»

Мне было сорамна, бо ні яму і нікому ніколі, мяркуючы, што ведаю пра гэта, я б не адказала.

**«Фара белаю птушкай…»**

Майскі надвячорак. 1994 год. Гуляючы з Едрусем па вуліцы Ажэшкі (а каштаны цвітуць!), даходзім да Савецкага пляца. Да таго, які застаўся толькі ў памяці. Праходзім першы сквер, і нам адкрываецца белая Фара. Як заўсёды ў тым часе, калі была ў засені дрэваў, велічна і нечакана. Едрусь цытуе нейкі верш, які ніколі не чула. Запомніўся толькі матыў: Фара белаю птушкай выплывае з-за дрэваў…

— Чый гэта верш?

— Пацюпы…

Усё збіралася спытаць у Юрася, што гэта за верш і ці быў надрукаваны. І ўсё забывалася. Аж пакуль усе мы не разляцеліся з Пралетарскай. А Юрась найдалей — у Мінск. Пры сустрэчы згадала той верш, запытала. «Няма ў мяне такога верша!» — адказ быў упэўнена-катэгарычным.

Колькі выплывала перад маімі вачыма Фара, столькі выплываў і той матыў. Усё збіралася спытаць у Едруся, дык што ж гэта за верш і чый. І ўсё забывалася пры не такіх ужо і частых постпралетарскіх сустрэчах.

Звычайны вечар, звычайная размова. А не забудзецца ніколі, бо колькі буду бачыць Фару (хай яна ўжо аголеная з усіх бакоў і ніадкуль не выплывае), мне гучаць тыя няпэўныя радкі, якія чытае Едрусь. А мо гэта быў ягоны верш?

**Як я злякаўся!**

Цягнік Гародня–Гомель адыходзіць з нашага гораду а 23.20. Гэта вельмі позна. Мне ж даводзілася ездзіць ім да Мінску што два тыдні. Асабліва нязручна зімою, калі цемра і глыбокая ноч ідуць следам па амаль вясковай вулцы Мендзялеева, якая вядзе ад інтэрната да чыгуначнага вакзала. Едрусь заўсёды праводзіў мяне. Аднойчы, вярнуўшыся ў Гародню, даведваюся: на зваротным шляху яго перастрэў сабака. Нямецкая аўчарка, гаспадар двара на той вуліцы, а на ноч яе чамусьці злачынна выпускалі на волю. Сабака напаў ззаду, бязгучна, і ўгрызся зубамі ў футра, якое аблямоўвала капюшон курткі. Як Едрусь ні вырываўся, ваўкарэзіна моцна трымаў зубамі за тую поўсць і пускаў сліну. Пачаў крычаць, выбегла гаспадыня, ледзьве адарвала свайго выхаванца ад здабычы.

«Як я злякаўся!» — паўтараў Едрусь. Казаў, што адзенне тое насіць не можа, бо застаўся невыносны сабачы пах (у нас кажуць — сівер), які не вы-

мываецца і не выветрываецца. Сварыўся з гаспадыняю, пагражаў падаць у суд. Тая абяцала, што болей на вуліцу сабаку не выпусціць. На тым усё і скончылася.

Я прасіла ў Едруся прабачэння, пачувалася вінаватай, на што чула ягоныя пярэчанні. А калі чарговым разам мне давялося ехаць гэтым цягнікам, ізноў пайшоў праводзіць. Толькі вяртаўся назад ужо не па Мендзялеева.

Колькі іду па той вуліцы, столькі ўспамінаю тую прыгоду. І чую Едрусева: «Як я злякаўся!»

**Салата з лістоў малачаю**

Перад Вялікаднем мы вырашылі трымаць пост. Гэта было няпроста. Бо каб лёгка вытрымаць яго па праваслаўных канонах, патрэбна дазваляць сабе рыбныя стравы, садавіну, што каштавала нятанна. А я не памятаю нават, ці калі купляла ў тым часе рыбу, апельсіны, бананы. І мець магчымасць адпачываць, засяродзіцца на вечным. А жыць даводзілася ў імклівым тэмпе: лекцыі, семінары, іспыты, імпрэзы.... Як, зрэшты, заўсёды.

Ніколі не была залежнай ад ежы. Таму пераносіўся пост даволі лёгка. Мяркую, Едрусю было цяжэй. Ён, да таго ж, увесь час сумняваўся: ці не ўтрымліваюць прадукты чагосьці недазволенага ў часе посту. Прыходзіць да мяне і пытае: «Як Вы думаеце, у гэтай булцы няма малака?» Гадаем разам, ці можна яе з'есці, каб нашы намаганні вытрымаць пост не пайшлі намарна.

Едрусь увесь час вынаходзіў нейкія незвычайныя стравы, якія дакладна былі поснымі. Аднойчы ён прыйшоў з рэцэптам салаты з лістоў малачаю і запрасіў пайсці па яго. Уявіла, якая гэта гаркота, і адмовілася ісці збіраць тое лісце. Не ведаю нават, ці паспрабаваў Едрусь тае экзатычнае салаты…

**Як я кахаю гэтую жанчыну!**

Гэта быў час, калі Едрусь сустрэў сваё Вялікае Каханне.

Павага да жанчын была выхавана ў яго з дзяцінства. З асаблівай пяшчотай ставіўся ён да сваёй бабулі, са скрухай і шкадаваннем расказваў пра нешчаслівы жаночы лёс мамы. З кабетамі заўсёды быў гжэчным, умеў падтрымаць нязмушаную цікавую размову. Не быў катэгарычным. Ніколі не расказваў пра свае сімпатыі, якія ў яго, безумоўна, былі. Быў скрытным. Але пасля знаёмства з Галінай яго як падмянілі. Едрусю, відаць, хацелася гаварыць пра яе. А я, пэўна, была ўдзячным слухачом. Гаварыў пра яе захоплена, гэта была жанчына яго мары.

Аднойчы прыбег шчаслівы: «Ала Мікалаеўна! Яна назначыла мне спатканне! Як я кахаю гэтую жанчыну!» Перад спатканнем відавочна хваляваўся, выбіраў, што апрануць, пытаўся, ці пасуе яму. Мне было міла і радасна бачыць Едруся такім шчаслівым. Больш ніколі я яго такім не бачыла…

**Апошняя сустрэча**

Яркі сонечны дзень. Канец вясны. Іду пасля заняткаў па сцяжыне ад свайго корпуса да вуліцы Тэлеграфнай. Бачу, што нехта заступае мне дарогу. Незадаволена: хто ж гэта пасмеў. Бо з сваім прымружаным зрокам праз такую адлегласць не пазнаю. Падыходжу бліжэй — Едрусь! З ягонага адзення кінуўся ў вочы грацыясты шалік, нібы хустка, элеганцкі павязаны вакол шыі. Пагаварылі, як звычайна, пра нейкія паездкі, канферэнцыі, пра студэнтаў, пра вясну. Нічога незвычайнага. Апроч таго, што гэтая сустрэча была апошняй. Але тады нават думка такая не магла з'явіцца. Бо так многа яшчэ, здавалася, наперадзе.

Развітаўшыся з Едрусем, ішла ў добрым настроі, як было заўсёды пасля мілай размовы з чалавекам, які ніколі нічым не засмуціў. Зараз пра тое думаю: ніколі між нас не прабегла не толькі чорная, але і ніякая котка. Напэўна, Едрусь валодаў рэдкім сёння між людзей дарам — сябраваць.

**P. S. З трыпціху**

***Па адляцелых птахах***

*II. Па Едрусю Мазько*

Рана памерці —
застацца
прыгожым,
каханым,
жаданым
у блізкай сябрыне.
Рана памерці —
не выпіць
атруту да дна,
што ў келіх
штодня наліваюць
шчодрай рукою.
Рана памерці —
файна.
Але
рана памерці —
недакахаць,
недапісаць
свой радок
у жыццёвы меланж.
Рана памерці —
раніць балюча
самых каханых.
Рана памерці —
скрушна.



# ХРОНІКА

## Прэмія ПЭН-цэнтра

Сёлета ў Мінску адбыўся сход удзельнікаў Беларускага ПЭН-цэнтра, які збіраецца раз на два гады. Была ўручана прэмія імя Францішка Багушэвіча. Яе атрымалі адразу два гісторыкі — Алесь Краўцэвіч (за кнігу «Гедымін (1316–1341). Каралеўства Літвы і Русі») і Уладзімір Ляхоўскі. Сход пераабраў старшынёй ПЭН-цэнтра паэта Андрэя Хадановіча.

■ *Алесь Краўцэвіч, злева — Андрэй Хадановіч*

## Сход у «Крызе»

У артгалерэі «Крыга» адбыўся сход абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Са сталіцы прыехалі старшыня СБП Барыс Пятровіч і яго намеснік Алесь Пашкевіч. Пра бягучыя пісьменніцкія справы гаварылі Барыс Пятровіч і Юрка Голуб, старшыня абласной філіі СБП.

Затым Алесь Пашкевіч прадставіў сваю новую кнігу «Сімъ побѣдиши», якую складаюць аднайменны раман і эсэ.



■ *Барыс Пятровіч і Юрка Голуб*

## Спаборніцтва паэтаў

У Гродне ўпершыню адбылося вулічнае спаборніцтва паэтаў — «слэм» — «Вясна. Кахай па-гарадзенску!» Канец красавіка. Незвычайны час: яшчэ няма лістоты на дрэвах, але сям-там асвяжыла паветра першая квецень.

Утульны ўнутраны дворык каля арт-галерэі «Крыга», адзін з апошніх у Старым горадзе. Нібы дзве дружыны: па чатыры паэткі і паэты. Хаця кожны выступаў толькі сам за сябе. Удзельнікі атрымалі труфелі, разам з цукеркай быў нумарок. Некаторыя адразу паклалі цукерку за шчаку.

Першым выпала выступаць Антону Янкоўскаму, стваральніку і выдаўцу настольнай гульні «Паўстанцы». За ім свае вершы чыталі Святлана Куль і Ганна Аўчыннікава. А за імі Ала Петрушкевіч, Святлана Якімава, Валеры Руселік, Анатоль Брусевіч, Артур Камароўскі.

Кожны ўдзельнік меў для дэкламацыі сваіх вершаў пяць хвілін. Слухачы атрымалі карткі, якімі маглі прагаласаваць за аўтара, які спадабаўся. «Слэм» — цалкам дэмакратычная з'ява, якая вяртае паэзію «масам» і дазваляе ім вырашаць — хто найлепшы паэт, сказаў адзін з вядучых Аляксей Шота. Таму пераможцу можна будзе назваць сапраўды «народным паэтам», бо яго «выбіраў народ». Паэзія не спорт, ацэньвае майстэрства паэтаў не журы, а публіка, дадала другая вядучая «слэму» Хрысціна Марчук. Ацэньваць можна ўсё: артыстызм, змест, ідэю. Задача першага «слэму» ў Гродне — таксама разварушыць гарадскую літаратурную плынь і, можа быць, даць пачатак новаму руху ў горадзе, падсумаваў Аляксей Шота.

Прызнаюся, было над чым задумацца: прагаласаваць за маладую паэтку з чырвонай ружай у руцэ ці за паэтку-прафесара? Магчыма, нехта яшчэ разважаў падобна. Але варта было зірнуць у бок публікі, каб даўмецца, што якраз паэткі шанцаў на першым слэме, бадай, не маюць. Жанчыны будуць галасаваць заўжды за паэтаў! Так і здарылася. Пераможцам быў прызнаны Валеры Руселік.

Нельга сказаць, што астатнія не звярнулі ўвагі на тое, што «слэм» — менавіта спаборніцтва: хто больш кідкі, хто гучнейшы? А не проста чытанне вершаў пад дрэвам. Міміка, жэстыкуляцыя — усё гэта было, былі эмоцыі. Але чамусь першым стаў наш Руселік, які ў Гродне не жыве, а толькі наведваецца сюды. Першае: жаночая публіка выбірала сапраўды толькі з паэтаў, і Валера ёй здаўся найбольш цікавым. Другое: як выглядае, адыграў ролю ўнутраны стан паэта, які дазваляе яму разняволіцца, адчуць сябе «з шабляй на кані»…

Руселік жыве цяпер у вольным горадзе ў вольнай краіне, дзе ніхто не абражае мову паэтаў, не пазбаўляе іх чытачоў, закрыўшы нацыянальныя школы. Праўда, мова беларуская там замежная, але без ланцугоў. Жыць у суседняй краіне азначае мець «свабодную руку», каб падарожнічаць. Ён так і кажа, што любіць падарожжы. І не толькі. Ён ужо можа пахваліцца, што аднойчы «босым пілігрымам дайшоў з Гродна да Вострай Брамы ў Вільні. Плаваў у пяці морах і двух акіянах, таптаў зямлю шаснаццаці краін». А такі досвед для творцы значыць нямала.

Першы «слэм» атрымаўся! «Каханне па-гарадзенску» таксама! Давайце будзем даваць слова нашым паэтам у наступныя разы! — прагучала прапанова працягнуць спаборніцтва надалей. Вядома ж, публіка яе падтрымала. Паэты пагадзіліся пагатоў. Сёння твае спадзяванні на славу не спраўдзіліся, затое ты будзеш мець шанц у наступным «слэме».

Ганаровымі гасцямі на спаборніцтве паэтаў былі старэйшыя літаратары Данута Бічэль і Аляксей Пяткевіч.

# Змест

Юрка Голуб



Мікола Кананові́ч



Сяргей Чыгрын

# Спадчына

## Мікола Арочка (1930—2013)



## Сяргей Чыгрын



## Юрый Кісялеўскі (1961–2008)



# Батлейка

## Яўген Петрашэвіч



# Пераклады

## Анатоль Брусевіч



## Міраслаў Качмарэк

## Дзённікі



## Сучасныя мемуары



## In memoriam

Альманах выходзіць на беларускай мове.

Як даслаць тэкст у «Новы Замак»?

У альманах прымаюцца адпаведна падрыхтаваныя тэксты. Загалоўкі і абзацы павінны быць набраны праз адзін інтэрвал і выраўнаны па левым краю: у праграме Microsoft word у пашырэнне doc альбо docx. Шрыфт: Times new roman. Не трэба рабіць водступ, каб пазначыць абзац, і самастойна размячаць у тэксце шрыфты. Нявычытаныя і створаныя ў іншых праграмах тэксты абцяжарваюць укладальніка чарнавой працай. Памятайце: нядбайнасць аўтараў ускладняе тэхнічную падрыхтоўку альманаха, яго вёрстку.

Ахвотныя надрукавацца абавязаны даслаць свой здымак у пашырэнні JPEG памерам не менш за 1000 кб (1 мгб). Неабходна таксама сціслая біяграфічная даведка са звесткамі, якія датычаць літаратурнай творчасці. Узор даведкі — у альманаху.

Матэрыялы трэба дасылаць у электронным выглядзе на адрас:
**novyzamak@gmail.com**


*Літаратурна-мастацкае выданне*

# НОВЫ ЗАМАК

*Літаратурны альманах. Гродна. MMXIII. № 2*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Юрка Голуб*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Наталля Кучмель*

Падпісана да друку 12.11.2013. Фармат 70х100 $^{1}/_{16}$.
Рызаграфія. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 14,69. Ум. друк. арк. 20,8.
Наклад 200 асобнікаў. Зак. 589.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.